# Крыніца

7(67)
2001
Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

Крыніца

№ 7 (67)
2001

Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

Выдаецца са студзеня 1988 года

**Заснавальнік:**
Саюз беларускіх пісьменнікаў

Рэгістрацыйны нумар 630 ад 31 ліпеня 1996 года



Выдаецца на беларускай мове
Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца

**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП,**
**вул. Кісялёва,11**

**e-mail:krynitsa@open.by**

**Званіце:**
**2-366-113, 2-366-142**

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 09.07.2001. Фармат 60x84 1/16.
Папера афсетная № 1. Гарнітура «Peterburg». Афсетны друк.
Ум.друк.арк. 11,16. Тыраж 752 экз. Зак. 1852.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва "Беларускі Дом друку"».
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.



# Леанід Дранько-Майсюк

*Я хацеў бы прайграць Інзе,*
*бо я той, хто жанчынам прайграе;*
*я наогул люблю, калі жанчыны*
*мяне перамагаюць...*

*З Табой:*

# з Леанідам ДРАНЬКО-МАЙСЮКОМ
***гутарыць***
# Леанід ГАЛУБОВІЧ

**Леанід ГАЛУБОВІЧ:** Шаноўны Леанід, ніхто, апроч нас з табой, у сучаснай беларускай паэзіі адкрыта не абвяшчаў пра свой сыход з паэтычнага Алімпа... Я тут маю на ўвазе нашы публічныя заявы.

І калі я сваю спраўдзіў у 49 гадоў і вось ужо больш за два гады не пішу вершаў, то ты ўсё ж пераступіў за акрэсленую самім "саракагадовую мяжу"...

Безумоўна, тут гаворка вядзецца не пра адрачэнне ад Яе святасці Паэзіі, а толькі пра непісанне вершаваных тэкстаў...

Мабыць, Паэзія цябе яшчэ "не выхаласціла" дарэшты, калі ты да гэтай пары паўнакроўна ёю жывеш?

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК:** У снежні 1995 года, выступаючы ў педагагічным універсітэце імя Максіма Танка, я сказаў (думаючы, вядома, перш за ўсё пра сваю творчую практыку), што пасля сарака вершы складаць сорамна. Журналістка Таццяна Падаляк вынесла гэтыя словы ў загаловак інтэрв'ю. Вось так яна ўзнікла – мая заява, надрукаваная ў "Звяздзе". "Заяву" заўважылі. Максім Лужанін, напрыклад, выступіў у "ЛіМе" і слушна паўшчуваў мяне за літаратурную неабачлівасць... Аднак жа, як вядома, нічога выпадковага не бывае. І нават тое, што вымаўляецца неабачліва, амаль заўсёды мае свой "абачлівы" падмурак. Мая звяздоўская "заява" –

вынік маёй неадольнай ніякаватасці: складаю вершы, а не займаюся нечым больш трывалым. Цяслярствам ці шавецтвам... Суцяшаюся тым, што мала пішу.

**Л.Г.:** Ёсць у мяне, прабач, такая "зацемка":"Я пішу рэдка, а трэба было б гусцей..." Апроч таго, што цябе непакоіць "ніякаватасць", ці маеш ты ўласную ўнутраную задаволенасць "зробленым" табой у беларускай літаратуры, і ў паэзіі ў прыватнасці?

**Л.Д.-М.:** Мяне задавальняе працэс, а не вынік. Мне падабаецца, калі на паперы з'яўляюцца літары, словы. І мне часам няўцям, якія сказы складуцца з гэтых слоў, якія думкі паўстануць на даляглядзе старонкі. Я проста люблю пісаць па-беларуску. А пры маім даволі эмацыянальным характары рабіць халодную выснову пра "зробленае" – ці добра яно, ці кепска выйшла – занятак амаль немагчымы. Увогуле ж мой асноўны клопат – ісці далей і далей у мову. Беларуская мова – гэта і ёсць мая філасофія.

**Л.Г.:** Ну й добра. Ты любіш мову і пісьмо, а я – роздум над ужо напісаным... Чым не нагода "жыўцом" зачапіцца за самую сутнасць паэзіі?

Дык ці ёсць філалогія і яе парастак – лінгвістыка – тым, на чым можна выбудаваць паэтычную самасць? Мне здаецца, што першаасноваё паэта і яго паэзіі ёсць характар пішучага чалавека – самасвядомасць.

Ці памятаеш ты, дарэчы, свой першы паэтычны ўсплёск, што выпырхнуў з тваіх вуснаў, а мо нават і на паперы занатаваўся?

**Л.Д.-М.:** Першаасноваё паэзіі можа быць амаль усё. Для мяне асабіста паэзія – слова і хараство. Ці, больш праўдзівей,– хараство беларускага слова. Гучыць мой адказ крыху па-школьнаму, але банальным быць ужо не баюся... Хараство слова – гэта зусім не значыць толькі "прыгожанькая" лексіка: світанне, каханне, зоркі, кветкі і г.д. А гэта ўсё разам – "прыгожыя" і "непрыгожыя" словы, якія не замінаюць майму дыханню...

Свой першы вершаваны "ўсплёск" згадваць не хачу. Успомню іншае – мне, чатырохгадоваму, маці аднойчы прачытала такі народны вершык:

*Есці, есці –*
*Пірагі на месці,*

*А сабакі ў хаце –*
*Няма каму даваці!*

Цяпер здаецца, што гэта я сам склаў. А можа, сапраўды, гэта й ёсць мой літаратурны пачатак?!

**Л.Г.:** Ці мог бы ты патлумачыць мне і нашым чытачам такую акалічнасць, што на гістарычнай, амаль міфалагічнай Гарыні і ў не менш старажытным Давыд-Гарадку ў Васіля Дранько-Майсюка і яго жонкі Любы сын нарадзіўся беларускім паэтам, а ў іх суседзяў, скажам,– слесарам, бухгалтарам ці інжынерам? Не задумваўся, у чым тут справа?

**Л.Д.-М.:** Мабыць, усходні чалавек адказаў бы: кветка вырастае кветкай... А кажучы па-давыд-гарадоцку: таўкач муку паказаў...

**Л.Г.:** Ну вось, дайшлі і мы з табой да мудрай афарыстычнасці. А чытачам, нябось, хочацца тое-сёе ўведаць і з прыватнага жыцця паэта, і зазірнуць на яго творчую кухню...

Вось на днях я меў гонар паспрачацца наконт сутнасці паэзіі з адным маладым беларускім аўтарам, студэнтам-біёлагам... На мой погляд, новае літаратурнае пакаленне занадта прагматычнае: яно мысліць вершы замест таго, каб лавіць сонечны зайчык паэзіі... У лепшым выпадку, вершаванай строфікай яны занатоўваюць сваё экспрэсіўнае думанне, у горшым – проста практыкуюцца ў інтэлектуальным “пісьмовым рытарстве”...

Сучасны паэт і мысляр Алесь Разанаў уразумеў гэта адразу і нездарма пачаў даваць фармальныя азначэнні сваім творам: пункціры, версэты, квантэмы, вершаказы...

**Л.Д.-М.:** Наконт чытачоў, якім “хочацца нешта ўведаць”... Мяркую, ты маеш на ўвазе семнаццацігадовых гімназістаў і студэнтаў (будучых філолагаў, гісторыкаў, журналістаў, бібліятэкараў, мастакоў, акцёраў), а таксама іхніх выкладчыкаў. Такіх чытачоў я вельмі люблю. Яны жывуць купалаўскай надзеяй, што Беларусь – краіна вечная. Сваёй увагай да паэзіі, сваёй шчырай дапытлівасцю яны дапамагаюць і майму літаратурнаму існаванню. І калі, сярод іншага, іх цікавіць якая-небудзь старонка з майго прыватнага жыцця, то я заўсёды кажу:”Калі ласка, вось яна... Чытайце...”

Летась у якасці "пасажыра" даволі вядомага ўжо "Літаратурнага экспрэса Еўропа-2000" я праехаў ад Партугаліі да Расіі і назад, праз Беларусь, у Берлін... Было шмат выступленняў у ветліва-маўклівую паветраную прастору, у густую класічную пустату, у плафоннае звонкае водгулле. Не чытачы,— пераважна паэты слухалі паэтаў. А калі паэты слухаюць паэтаў – гэта значыць, асабліва ніхто нікога не чуе. Мяне цешыць тое, што дома (ці гэта Маладзечна, ці Чэрыкаў, ці вёска Рочавічы) я выступаю перад чытачамі, а не паэтамі...

Калі казаць пра новае літаратурнае пакаленне, то яно сапраўды досыць прагматычнае. Але гэта, вядома, не значыць, што яно благое. Новы час любіць не далікатных рамантыкаў, а цвёрдых прагматыкаў.

Што ж датычыцца жанрава-багатага ці фармальна-багатага Алеся Разанава, то варта памятаць: на ягонай ліры — не ільняныя і не канапляныя, а пластмасавыя струны...

**Л.Г.:** Прабач, але наконт паэзіі Разанава я з табою, шаноўны Леанідзе, не згодзен...

Мне падаецца, што тут у цябе міжволі "прагаварылася" не зусім творчае стаўленне да згаданага паэта, а нейкім чынам – побытавае ці нават чыноўна-рэдактарскае. Безумоўна, людзям, звыклым да нашага традыцыйнага вершавання, часамі цяжка дапяць "здаровага сэнсу" ў філасофскіх і асацыятыўных напластаваннях Алеся Разанава, але ўжо тое, што ён стварыў і што высока ацэнена як у нас, так і за межамі Беларусі, падказвае нам, што здаровы сэнс адносна напісанага ім палягае не ў полі "лірычных струн", а ў полі філасофскага, гістарычнага, культуралагічнага і мастацкага досведу... Ці памятаеш ты яго выбітнае лімаўскае эсэ "Жыта і васілёк", напісанае адносна творчасці М.Багдановіча і нашага "бягучага зямнога часу"? Зрэшты, не маю на мэце цябе пераконваць. А найперш хачу давесці да чытачоў сваё стаўленне да творчасці аднаго з лепшых паэтаў...

Але пойдзем далей... Сучасны літаратурны працэс... І не толькі творчы, але і вытворчы, паколькі ты маеш непасрэднае дачыненне і да яго, як адзін з кіраўнікоў выдавецтва "Мастацкая літаратура"?

**Л.Д.-М.:** Ты "пакрыўдзіўся" за Разанава і ў яго абарону

выпусціў столькі слоў! Гэта прыемна – пісьменнік мусіць абараняць пісьменніка, а не рабіць наадварот. Як, скажам, зрабіў той жа Разанаў у дачыненні Уладзіміра Някляева ў сваім сяголетнім інтэрв'ю "Белорусской деловой газете".

Што датычыцца "філасофскіх напластаванняў..."(тваё, дарэчы, вызначэнне!) Разанава, то асабіста мне нецікава ў іх разбірацца, бо яны сапраўды – напластаванні, а не стройная сістэма. Значна цікавей, напрыклад, чытаць жывую і па-сапраўднаму філасофскую эсэістыку Валянціна Акудовіча ці Юрася Барысевіча.

Аднак жа, далібог, я не кажу, што "філасофскія напластаванні..." Разанава неперспектыўныя. Яны такія (зноў заўважу!) толькі для мяне. А для іншых – зусім наадварот. І ў гэтым сэнсе Разанаў — любімы паэт. І дзякуй Богу...

Цяпер пра маё дачыненне да вытворчага працэсу. Я выдавец, і мая мэта — каб выходзілі ў свет беларускія кнігі. Беларускія! Гэтаму спрыяе кіраўніцтва Дзяржаўнага камітэта па друку. Словам, ёсць людзі, якія на дзяржаўным узроўні клапоцяцца пра родную кнігу. Калі ёсць такія людзі – значыць, ёсць від не толькі ў творчую, але і ў вытворчую далячынь.

**Л.Г.:** Абараняючы кожны сваё: адзін – творчае, другі – вытворчае, парою застаёмся і без аднаго, і без другога...

Вось і ты крыху па свеце пабадзяўся, а таму скажы мне, колькі ўсё ж "тысяч лье" ад Гарыні да Сены? Хацелася б ведаць тваю думку наконт "адлегласці" паміж Давыд-Гарадком і Парыжам ва ўсіх вымярэннях, у тым ліку і ў культурных і літаратурных?

**Л.Д.-М.:** Ад Давыд-Гарадка да Парыжа гэтак жа далёка, як і ад Парыжа да Давыд-Гарадка... Парыж – вечна запалены ліхтар сусветнага славалюбства. На гэты ліхтар, як добра вядома, заўсёды накіроўвалі свае матыльковыя крыльцы правінцыялы з Кальвадоса і Гароны, Ардэнаў і Дардоні; паэты з Лацінскае Амерыкі і Польшчы, Расіі і Чэхіі. А пра мастакоў і казаць няма чаго... Усе ад Парыжа патрабавалі сабе славы. Гэта, мусіць, адзінае на зямлі места, ад якога да нядаўняга часу дабіваліся славы...

Я нічога не патрабаваў і не дабіваўся. Проста ля помніка Апалінэру пачаў натаваць сваю прозу – "Стомленасць Парыжам".

**Л.Г.:** Ці не страшыць цябе тэхнакратычная скіраванасць нашага часу? Бач, нават мы з табой, здавалася б, людзі

традыцыйнага складу быцця і мыслення, а “гутарым”, набіраючы адказы і пытанні адзін аднаму на камп’ютэрах... Яшчэ гадоў дзесяць таму ў мяне пра падобную форму “пісання” і ў далёкіх подумках не было...

**Л.Д.-М.:** Не, такая праблема мяне не хвалюе, бо літаратура для мяне існуе толькі як літаратура. Гэта ўвесь свет ва ўсіх праявах. І ў тэхнакратычным выяўленні таксама. Тое, што пагражае свету, – тое пагражае і літаратуры. Страта нацыянальных асаблівасцяў.

**Л.Г.:** Ад першага свайго вершаванага зборніка “Вандроўнік” да апошняга – мініяцюрнага – вабна і гожа паліграфічна аздобленага “выбранага” ты як быў, так і застаўся “правaверным” эстэтам, спадкаемцам Багдановіча, Жылкі, Дубоўкі, Стральцова...

Адкуль гэтая характэрная для тваёй творчасці рыса – прыгажосць, хараство, любаванне? А іншым разам – і самалюбаванне, нарцысізм, прабач...

**Л.Д.-М.:** Тут усяго па каліву, як сказаў бы Вацлаў Ластоўскі. Усё склалася само па сабе. Знарок я нічога не рабіў. Зрэшты, нешта, магчыма, было й знарок... Памятаю, як не спадабалася мне “філасофія” тургенеўскага Базарава адносна таго, што не трэба “говорить красиво”. Ужо тады падумалася: а ты мусіш прыгожа размаўляць і ўсё прыгожа рабіць...

Наконт нарцысізму, самалюбавання скажу адно: гэта тая крыніца творчасці, якая беларускім мастацкім досведам наогул мала выкарыстоўваецца. Калі ж ува мне заўважана рыса нарцысізму, то рыса гэтая вельмі прымітыўная.

**Л.Г.:** Выдаўшы нямала сваіх кніжак і выступіўшы ад стольких мікрафонаў перад шматлікай аўдыторыяй прыхільнікаў паэзіі, скажы, калі ласка, якое ўражанне ў цябе склалася адносна жывучасці і патрэбнасці мастацкага слова ў сучасным грамадстве?

Ды і ўвогуле, сам паэт у якасці вершаскладальніка ці патрэбны ўсё яшчэ сучаснай культуры і грамадству?

**Л.Д.-М.:** У двары мяне сустракае адзін з работнікаў домакіраўніцтва і просіць, каб я склаў для яго жонкі нешта такое лірычнае...

Заходжу ў аптэку – тая ж просьба. У сяброўкі правізара дзень нараджэння. Патрэбен адпаведны твор...

Жанчына, якая працуе ў рэстаране, рыхтуецца да братавага

юбілею і кажа мне: "Добра было б, каб Вы мой тост напісалі ў рыфму..."

Нікому не адмаўляю. У нашай краіне ў такіх просьбах нікому адмаўляць нельга. У выніку – усе задаволеныя. Я таксама. Бо – работнік домакіраўніцтва прачытае сваёй жонцы беларускі верш; правізар павіншуе сяброўку, зноў жа, беларускім творам; і жанчына, якая працуе ў рэстаране, будзе вітаць свайго брата па-беларуску...

Так што лічу: "... паэт у якасці вершаскладальніка ўсё яшчэ патрэбны сучаснай культуры і грамадству".

**Л.Г.:** Але як выжыць паэту, тым больш мастаку тонкаму і дакліваму, які творыць у "прасторы хараства і прыгажосці", у нашым сённяшнім беларускім грамадстве, не адхіляючыся – ні цілом, ні сэрцам – у бок "хлеба штодзённага"? Ці творчы чалавек, жывучы ў нашым часе, павінен умець рабіць усё, каб не запрапасці ў гэтым свеце?

**Л.Д.-М.:** Паэт павінен умець адно ці, дакладней, імкнуцца да аднаго: увесь час быць адпаведным гучанню роднай мовы. Гэта асноўнае. Усё ж астатняе, што па-за межамі сям'і, мае другараднае значэнне.

**Л.Г.:** А ўласна пра самую будучыню паэзіі ты дбаеш? Якой яна табе бачыцца?

**Л.Д.-М.:** Усё будзе так, як і было дагэтуль. Будуць паэты і вершаскладальнікі, паэзія і вершаванне. Хіба што ўлада Лічбы ў свядомасці большасці канчаткова пераадолее ўладу Слова. Вось тады, мусіць, і з'явіцца таленавіты ерэтык, які ўдакладніць Пісанне. У прыватнасці, Евангелле паводле Яна: "Напачатку было Слова... але Яго перамагла Лічба..."

**Л.Г.:** Дзякуй за гутарку. Натхнення, плёну, дабра і здароўя!

# У МЕНСКУ

Як боб, рассыпаецца свіст начы –
На рэйкі, на дрот і на бляху.
Трамвай адлюструецца ў Свіслачы
Суквеццем чырвонага страху.

І з моста далей прапаўзае –
Стракаты, нібыта афіша:
"У памяшканні чыгуначнага вакзала
Выступаюць паэты "Узвышша".

О рэвалюцыйная паэзія...
З чаканнем атакі,
З люмпен-крылымі журавамі,
З лістамі да каханай і сабакі
І музычнымі вечарамі.

Сімфанічная стрункасць падкоў
І багатая срэбрам вуздэчка
Да трамвайных даносяць званкоў
Крамны водар мястэчка.

*1983*

# КОЛА

Цяжкое трамвайнае кола
З прасторы базарна-зялёнай
Паўз яткі, харчэўні і школы
Ляцела па Менску шалёна.

Забыліся дрогкія рэйкі
І ўпірлівы скрогат спынення.
Ляцела па лісці клейкім,
Па мармуры і каменні.

Палохала балаголаў
І нэпманаў каля крамак.



Па бруку, па гною кола
Сляпы вызначала напрамак.

Усё саступала дарогу.
Ад груку трымцела цырата,
Выплёхваліся на падлогу
Гарэлка, алей і гарбата.

Відэльцы і рэшткі вяндліны
Падскоквалі на цырацэ.
Збіваліся ў гурбу гадзіны
На зрушаным цыферблацэ.

Здавалася, пыльная ціша
Навек пакідала чытальні.
Часопісы, кнігі, афішы
Ад рук і вачэй адляталі.

На кола тэатры глядзелі
І гіпсавыя атланты.
За колам сачылі дзеці,
Студэнты і спекулянты.

З тэатраў знікалі заслоны,
З дамоў – аканіцы і дзверы...
Сачылі за колам шалёным
Рабфакаўцы і піянеры.

Паэт Уладзімір Дубоўка
З пакуль яшчэ доляй вясёлай
Таксама выглядваў з натоўпу
Цяжкое трамвайнае кола.

У таўкачэчы-задусе
Прыгожы, задумны такі,
Аб той, за мяжой, Беларусі
Складаў на хаду радкі...

...Свой вершык далей прамаўляю
Нібыта з Дубоўкавых слоў:

"Ты, пэўна, з таго трамваю,
Якога апеў Гумілёў.

Ты поўнае навіною,
Таму й не спыняеш раскат:
Паэтам за жоўтай сцяною
Галовы зразае кат!

Табе вандраваці няспынна,
Палохаці і чараваць,
Па золаце кожнай краіны,
Нібыта па смерці, імчаць.

Хто золата прыкішэніць,
Той згубіць каханне пасля.
Ёсць нешта ў тваім з'яўленні
Ад п'янага карабля.

Прамчыся па вуліцах Менска,
Здаволься магчымым, тады
Хай пойдзе твой грукат і трэскат
Да іншай зямлі і вады!"

Паслухала кола і ўроскат
За горад – па хмызу, па лузе –
Памчала ў мястэчкі і вёскі
Заходняе Беларусі.

Нібы на цяжкую адплату,
Глядзелі на рух перуновы
Ужэнднікі з магістратаў,
А з пастарункаў совы.

Паліцыянты беглі
За гэтай вар'яцкай праявай,
Каб можна – пад кола б леглі,
Баронячы крыж і Варшаву.

Ды клопат дарэмны – не войска,
Якога за дзень не злічыць, –

Па гарадах і па вёсках
Адно толькі кола ляціць!

І чуюцца гнеўныя словы,
Штораз набываючы сілы,
І разлапушваюць совы
На словы калючыя крылы:

"Краіна зруйнуе уціскі,
Захопнікаў знішчыць датла.
Світанне ўрачыстае блізка:
На ўсходзе зара узышла".

Кліч гэты — да Пінска, да Брэста,
Да рэчкі любой, раўчука,
Да самага дальшага места
Й мястэчка Давыд-Гарадка.
....................................
Вось дзед мой, ён шые боты
Сялянам і дробным панам.
Да дзеда заходзіць употай
З валізкаю крамнік Абрам.

Ён дзеду збывае скуры —
Выдатны варшаўскі хром.
З-пад печы вылётваюць куры,
Пачуўшы на вуліцы гром.

Груды заціхаюць і долы,
І вусцішна неяк барам.
І хрысціцца дзед мой на кола,
І моліцца ціха Абрам, —

І злоты свае забірае,
У спіну глядзіць яму дзед.
Паліцыянтаў зграя
За колам не здыхае ўслед.

Але аддаляецца трэскат,
І грукат, і зірк перуна.

Вяртаецца кола да Менска
Па купінах і валунах.

Чакае яго камсамолец
Вагонаважаты Максім,
Вясёлы, прываблівы хлопец,
Які падабаецца ўсім.

Здабыўшы рабфакаўскіх ведаў,
Ён вершыкі складвае сам,
Яму сваю кнігу "*Credo*"
Учора паэт падпісаў.

І кажа наш хлопец: "Пустое,
Што кола не пераняў,
З Дубоўкам сустрэўся затое
І вершы яму пачытаў".

*1983*

# ВІЦЕБСК. 1922

*Бяда выдзірае крыжы і цвікі*
*З магіл і платоў...*
**(Замест эпіграфа)**

Да бруку ляцелі крыжы і цвікі,
Сцягі караблёў і ўчарнелыя ванты.
Не чулі, не бачылі вартаўнікі,
Як сноўдалі злодзеі і спекулянты.

Якія там зданіліся караблі,
Якія там сны залацілі дакуку –
Як золата, рэчы патрэбны былі,
Што валам ляжалі на віцебскім бруку.

Нічыйныя рэчы – аполкі, цвікі,
Загуслы пакост і ўчарнелыя ванты.
Ля жорнаў пахропвалі вартаўнікі –
Па чысты памол беглі ў ноч спекулянты.

...І вось абступаюць дабро талакой,
Нішто не прапусцяць, усё падымуць,
І нават цацкі зламанай якой
Яны беспрытульнікам не пакінуць.

А ўранні, калі завіруе базар
І ў крамках жыдоўскіх запаляць аконцы,
Нагледзіцца гэты дармовы тавар
На золата царскае і чырвонцы.

Цыраты, сурвэткі, алоўкі, цвікі
І двойчы ўжо тут называныя ванты
Купляе вядома хто – вартаўнікі,
І хто прадае не сакрэт – спекулянты.

Якое ў іх вока, якая рука...
Да іх падыходзяць студэнты, мяшчане,
Чырвонаармейцы з агітцягніка
І з блізкіх да Віцебска вёсак сяляне.

Дахаты пасунуцца вартаўнікі,
А ў нейкім закутку базарнага раю
Купляе Шагал малаток і цвікі
І слоікі з фарбамі выбірае.

Яму прапануюць найлепшы пакост,
Алей не з канопляў якіх, а з алівы,
Мядзведзеву шкуру і мамантаў хвост –
Звычайныя і незвычайныя дзівы.

Здзіўляюцца сонныя вартаўнікі,
Што ён выбірае з дармовага мноства,
З фантазіі сноў – малаток і цвікі,
І фарбы, разведзеныя пакостам.

А нейкі марак пра сваё распавёў –
Пра ванты пытае, што складзены бантам,
З эпохі якой і з якіх караблёў?..
Але на яго не глядзяць спекулянты.

Смяецца марак: “Вас пад маўзерны зык
Скакаць я прымусіў бы, контра гнілая,
Ды часу не маю, чакае цягнік –
Да Петраграда дарога цяжкая”.

“Забудзьце чыгунку, — азваўся мастак, —
Усё нечаканае дзеецца ў высях.
Я шчыра вам раю, таварыш марак,
Да Петраграда па небу прайсціся.

З-пад воблакаў, з вечнай блакітнай гары
Убачацца вам, што не бачацца доле:
Чырвоныя віцебскія муры
І ўсё беларускае наваколле...”

У кожнай складанасці ёсць прастата,
Якая звычайнай работай завецца,
І хто зразумее хоць раз мастака –
Да сэрца свайго і душы дакранецца.

Марак зразумеў, хоць гара мараку
Не хвалі ці бераг – ды справа такая:
Пайшоў па блакітным густым цаліку –
Да Петраграда дарога цяжкая...

Падобны мастак да таго цесляра,
Які абуджае драўляныя струны
У аканіцах, у браме двара,
У кожным аполку, збіваючы труны.

У дужых руках малаток і цвікі,
І фарбы, разведзеныя пакостам.
У позірку – вуліцы, вартаўнікі
І Віцьба з канём, што ляціць па-над мостам.

Блакіт здабываецца з Віцьбы-ракі,
З аполкаў – пакуль што не труны, а рамы,
А з чырвані – сцяг бальшавіцкі, які
Крыло апускае на яткі і крамы...

Шчаслівы, мастак пакідае базар,
А ў небе – з тужліваю думкай лунае,
Што той нешчаслівы, хто вечны цясляр,
Бо еднасці з пекнай красою не мае.

Рамесніцтва – пошук таксама красы,
Ды гэтай красе не навек заставацца,
А той, што пазначана знакам мастацтва,
Праз лёсы людскія прайсці і часы.

Вярнуцца да Віцебска з клічам, які
Узвіхрыць будзённасці шэрыя транты:
"Не спіце, лянівыя вартаўнікі,
Бо сноўдаюць злодзеі і спекулянты!"

*1983*

# ПЛЯЦ ВОЛІ

(*Успамін былога рабфакаўца*)

Спаткацца ў цукерні прыдумалі Вы, —
Там шыльда з імбрычкам у місе,
Там крылы і мяккія лапы савы
З рагамі каровы спляліся.

А тут пра завод і плугі трактарам,
І дождж, нібы цемра на шыбы...
Аловак зламаны паперу араў,
Пасля забываўся на сшытак –

І нешта выводзіў сваё па сталу,
Па раме акна і па шыбе,
І шкрэбат за мной без галёш у слату
На ганак рабфакаўскі выбег.

І вось я ў цукерні... І змрок павуком
Снуе па забруджанай столі,

І шклянкі цукернік таўчэ кулаком,
Напэўна ж, не чуючы болю.

Відаць, што пацешыцца выпаў мне час
На свяце чужога адчаю,
Гляджу на цукерніка, але аб Вас
Маркоціцца не пакідаю.

На капялюшыку Вашым святло
І золь вераснёвай вуліцы.
Праз пальцы цукерніка крышыцца шкло,
І кроў на абрусе малюецца.

Набітыя шкліны ў крывавым віне
З абруса цякуць на масніцы...
Цукернік няўцямна глядзіць праз мяне
На дзверы, сталы і паліцы.

Па цені яго, па высозным гарбе,
Ці муха паўзе, ці хвароба.
Ён шкло на сваім расцірае ілбе
І не разумее, што робіць.

Не толькі мяне, нават муху трасе
І кідае ўніз ліхаманка.
Чакаю, а колы дажджу пакрысе
Штурхае ў рышток брукаванка.

Халоднае лісце сплывае туды,
Размоклы, абгрызены пернік.
Каштаны там нейкія ці жалуды
І словы, што кажа цукернік:

"Зусім не шкадую – хай бурыцца нэп,
Хай шыльдаў губляюцца крылы,
Хоць зараз аддам табе гэты мой склеп
З цукеркамі, дружа мой мілы.

А сам да людзей, як усе жабракі,
Ці дворнікам – смецця ж даволі,
Хоць заўтра павешу на дзверы замкі –
І выйду я месці пляц Волі!

Шкадую дачку, праз яе гэты боль...
Дзіця – а яно ж адзінае,
На што спадзяюцца жабрак і кароль,
Страчаючы дні дамавінныя.

Дзіця ў капялюшыку з дому сышло
На вуліцу красагуліцца.
На капялюшыку гэтым святло
І золь вераснёвай вуліцы".

Цукернік за пляшку хапаецца зноў,
І кварта віном набракае,
І ланцужок яго болесных слоў
У жмені рыштка заціхае.

А там, дзе дажджу ацяжэла крыло,
Ваш тварык уедліва хмуліцца.
На капялюшыку спее святло
І золь вераснёвай вуліцы.

І ў гэту цукерню не зойдзеце Вы,
Дзе шыльда з імбрычкам у місе,
Дзе крылы і мяккія лапы савы
З рагамі каровы спляліся.

Дзе з Вашай гульні калыхаюся я
На моцнай падманлівай вудзе.
Шкадую цукерніка, але ўдвая
Шкадую, што Вас тут не будзе.

Пра Ваша імя, можа, бацьку спытаць,
Прызнацца... ў каго закаханы,
Я гэты падман Вам хачу дараваць
І тыя, што будуць, падманы.

Убачу я Ваш капялюшык здаля,
Да Вас, абнадзеены, рушу –
Скажу пра каханне сваё, а пасля
Да бацькі вярнуцца прымушу.

Калі ж у цукерні маркотна зусім –
Да нас, на рабфак запрашаю,
Усё мы там зробім, каб фабрыкаў дым
Склаў гімны сялянскаму краю!

Абновіцца кожная вулка і пляц,
І шыі апусцяць анёлы,
І Менску хвалу не званы празвіняць –
Цяжкія трамваїныя колы!

Абломіцца змроку глухое крыло,
І сонцам пагодным атуліцца
На капялюшыку Вашым святло
І золь вераснёвай вуліцы.

І конаўка яркай, жывой сінявы
Напоўніць імбрычак у місе,
Каб з промнямі – крылы і лапы савы
І рогі каровы спляліся.

...Пляц Волі іграе факстрот на трубе,
Буяюць лірычныя церні.
Чакаю цябе... І чакае цябе
Твой бацька – няшчасны цукернік.

*1983*

# Постаць паэта

Першая кніга Л.Дранько-Майсюка неяк абышла, не запомнілася, затое засталася ў памяці другая – “Над пляцам” (1986). З тагачасных паэтычных зборнікаў яна вылучалася вельмі асабістым характарам, скіраванасцю аўтара ў сваё роднае, нават сямейнае. Тое, пра што гаварыла і чым дыхала кніга, у многім было звязана з Давыд-Гарадком, дзе нарадзіўся паэт, роднай вуліцай, “пляцам”, на якім стаяла і цяпер стаіць бацькоўская хата, і нарэшце, самімі бацькамі. Адзін з лепшых вершаў так і называўся – “Васіль і Люба”:

*Васіль, ідзі да Любы,*
*У Любы клопат спорны –*
*Дзярэ ў адрыне крупы*
*У берастовых жорнах...*

Ах, як добра напісана! – падумалася тады. Сітуацыя, пра якую ішла гаворка, выглядала як самая простая, бытавая, нават патрыярхальная, але ў ёй, адчувалася, змяшчаўся нейкі вялікі паэтычны свет, відаць быў і характар герояў, іх жыццёвы ўклад, рытміка штодзённага існавання.

Побач другі верш – “Проза радасці”. Ён таксама пра бацькоў, пра грушу ля бацькавай хаты, пра патаемную, але радасную сувязь, якая існуе паміж усімі імі. Лірычны герой пакінуў “пляц”, але не адарваўся ад яго – усе яго чалавечыя каштоўнасці засталіся з ім. “Проза радасці” абяцала працяг знаёмства з самабытным светам паэта.

А вось яшчэ надта сімпатычныя радкі:

*Мамачка,*
*Давай мы пагаворым*

*І пра тое, як раней было,*
*І пра тое, як глядзелі зоры*
*На акуты куфар і вясло...*

**("За ракою".)**

Не заставалася сумненняў, што гэта была сапраўдная паэзія, у якой выявіла сябе старажытная нацыянальная традыцыя з раўнавагай духоўнага і матэрыяльнага, унутранага і вонкавага, думкі і пластыкі. Душа паэта ўяўлялася жывой і ўражлівай.

Зборнік "Над пляцам" спадабаўся прарывам аўтара ў запаветнае, прыватнае, сваё. Ён рэзка пайшоў у тое, што мы называем асабістым, інтымным, таму, каб бліжэй яго зразумець, трэба браць пад увагу факты яго біяграфіі. Родам паэт, як ужо гаварылася, з Давыд-Гарадка, і гэтае цудоўнае палескае мястэчка з усім яго побытам і людзьмі, сімпатычным прыродным улоннем, сваёй, можна сказаць, цывілізацыяй неяк вельмі ж натуральна, як бы само сабой, перайшло ў вершы: "Касмея", "Матчын радок", "Над пляцам", "Бондар", "Два вершы", "Краявід" і многія інш.

Асноўная рыса Л.Дранько-Майсюка – шчырасць, нязмушанасць, ненатужлівасць інтанацыі. Адсюль і вытокі, і своеасаблівасць яго індывідуальнасці, бо яшчэ Леў Талстой сказаў: "Індывідуальнасць – гэта шчырасць. Калі будзеце шчырыя, дык заўсёды будзеце індывідуальныя". Наколькі помніцца, ён ніколі (у адрозненне ад некаторых з яго сяброў) не пісаў "прыдворных" ці камсамольска-заказных вершаў, не паэтызаваў рух калонаў з рыдлёўкамі, будаўнікоў БАМа. Але вока паэта дастаткова ўчэпістае, каб убачыць на гарадской вуліцы "натоўп юнакоў у магнітафонных навушніках":

*Цалкам занятыя кішэннай музыкай,*
*Юнакі не чулі ні пошуму дрэў,*
*Ні трамвайных званкоў,*
*Ніякага іншага вулічнага гоману.*

**("Я ўбачыў...")**

Ён шкадуе гэтых недарэк, што асудзілі сябе на адасобленасць ад свету, на некамунікабельнасць. Праўда, не адказвае на пытанне, адкуль яны такія з'явіліся, што іх такімі зрабіла.

Помню, як калісьці (гэта было гадоў 20 таму назад) ён сцвярджаў: у паэзіі важна не "што", а "як". Відавочна, гэта было палемічнае сцверджанне, бо ў самога Дранько-Майсюка "што" і "як" ураўнаважаныя. Яму ёсць што сказаць, і ён умее як сказаць. Гэта даказаў і зборнік "Тут" (1990), у якім ён дамогся большай паўнаты лірычнага самавыяўлення, шчырасці і філасафічнасці. Многія вершы ў ім напоўнены глыбокім і непадробным унутраным драматызмам і прамаўляюць да нас сілай заключанай у іх праўды:

*Сто англій і дзвесце францый*
*Ніякай сваёй сілай*
*Не зробяць з мяне эмігранта,*
*А наша жыццё зрабіла.*

**("Эмігрант".)**

За творам праглядваецца глыбокі і балючы падтэкст, блізкі сэрцу сучаснага беларуса.

Праз некалькі старонак чытаем:

*Што ні было – усё ж радзіма,*
*І што ні ёсць – усё ж свая,*
*Часцей з сабачымі вачыма,*
*Чым з вольным горлам салаўя.*

*Радней няма, бліжэй таксама.*
*Мой родны кут, мой мілы кут...*
*І застаецца лепшым храмам*
*Твой кожны дол, твой кожны груд.*

Гэта таксама сказана вельмі ж па-беларуску.

З нашых класікаў яму найбольш, відаць, блізкі М.Багдановіч – паэт "красы, гармоніі і кахання", для якога эстэтычнае было разнавіднасцю агульначалавечага. Да Багдановіча Дранько-Майсюк звяртаецца са словамі:

*Багдановіч, ратуй,*
*Ад знікнення ратуй, ад нямоты.*

*Пачуццём тым гаючым ратуй,*
*Праз якое ты быў не самотны.*
**(Зборнік “Тут”.)**

Як і М.Багдановіч, ён таксама адраджэнец, якому блізкія і будзённая рэальнасць, і высокія парыванні чалавечага духу. Аўтар “Слуцкіх ткачых” калісьці па-сапраўднаму адкрыў Беларусь, але з тых часоў яна, пры нашым убогім нігілізме, паспела забыцца ў многіх важнейшых сваіх праявах – мове, гісторыі, краявідах, помніках, тым, што можна назваць зместам і асаблівасцямі нацыянальнага духоўнага жыцця.

На Багдановіча ён падобны яшчэ і тым, што спалучае ў сваім паэтычным менталітэце адначасова гарадскія і вясковыя рысы. Гэта адно са сведчанняў цэласнасці паэтычнай натуры, і хацелася б, каб Л.Дранько-Майсюк, асвойваючы традыцыі вялікага класіка, глыбей пранікаўся Багдановічавым светаўспрыманнем, яго адчуваннем чалавечай супольнасці, таго, што ўсе мы “Разам ляцім да зор”.

М.Багдановічу ён наследуе яшчэ і ў тым сэнсе, што, як і ён, абапіраецца на тонкі аналіз душэўных перажыванняў свайго лірычнага героя:

*З гадамі раблюся люцей*
*У гэтай любові бязгрэшнай –*
*Люблю незнаёмых людзей,*
*Таму што ад іх незалежны.*

*Хаваюць і клопат, і страх*
*І мной не цікавяцца: “Хто ты?”*
*Ніхто з іх не зробіць замах*
*На радасць маёй адзіноты.*
**(“З гадамі раблюся люцей...”)**

Нямала вершаў звернута да жанчыны. Л.Дранько-Майсюк шмат піша пра каханне, захапляецца гэтай тэмай. З цягам часу яна стала ў яго як бы вядучай. Тут лірычны герой дэманструе, пры ўсёй сваёй “маскуліннасці”, душэўную мяккасць, унутраную

пластычнасць, лірычнасць, уражлівасць, здольнасць да суперажывання, нават сентыментальнасць. Пачуццям адпавядаюць вобразная мова, багаты і тонкі слоўнік. Нам здалося, аднак, што ў некаторых вершах ёсць прысмак і чагосьці штучнага, знарок прыдуманага...

У зборніку "Тут" змешчаны і першыя празаічныя спробы аўтара, яго эсэістыка. Яго проза ў значнай ступені рытмізаваная, падобная на вершы. Многае напісана ў сказавай манеры, якая нагадвае М.Зошчанку. Гэтага непаўторнага пісьменніка ўспамінаеш, чытаючы "З несур'ёзных апавяданняў", якія ў Дранько-Майсюка склалі асобную дасціпную кніжку "Пра тое, як я..." Сказ, як вядома, дазваляе знаходзіцца на некаторай адлегласці ад рэальнасці, ствараць свой, крыху адлучаны ад яе ўмоўны свет, які трымаецца на іранічных адносінах аўтара да таго, пра што ён расказвае.

Вельмі важна адзначыць: тое, пра што Л.Дранько-Майсюк расказвае ў сваіх апавяданнях, сапраўды мела месца ў нашым жыцці, сапраўды адбывалася. Так, напрыклад, у аснове апавядання "Пра тое, як я Маршала Кім Ір Сена сустракаў" ляжыць нявыдуманае здарэнне, звязанае з колішнім візітам карэйскага лідэра ў БССР. Візіт такога госця аказаўся даволі нечаканым для адпаведных саўмінаўскіх службаў. Адбыўся шэраг непамыснасцей, у тым ліку і з вывешваннем сцягоў.

Апавяданні населены каларытнымі персанажамі – гэта і сам герой-апавядальнік, і многія аб'ектывізаваныя персанажы (Карла Бернгардавіч, Ваенком, Лепшы беларускі кампазітар і інш.). Як літаратурныя героі ўсе яны, трэба сказаць, створаны ў формах смехавога мастацтва, смехавой культуры. Часам, мне здаецца, іроніі аж залішне (паглядзіце, маўляў, які я дасціпны). Іронія не павінна разбураць саму рэчаіснасць – рэчаіснасць як каштоўнасць.

У 1995 годзе з'явілася на свет кніга вершаў і эсэ "Стомленасць Парыжам". Аўтар прызнаецца:

*Парыж, у якім не быў,*
*Мне сніцца невыпадкова.*
*Падпаў пад ягоны ўплыў*
*Мой дух местачковы.*

**("Paris".)**

Любоўю да Парыжа не здзівіш нікога, а стомленасцю, відаць, можна здзівіць. Што ж стаміла нашага паэта ў Парыжы? Думаецца, не толькі турыстычная мітусня і лішак новых уражанняў. Магло разам з іншым здзівіць і параўнанне з Беларуссю – беднай і неўладкаванай. Тым не менш, сустрэча з Парыжам стала для паэта святам, якое запомніцца надоўга. Ён здолеў "прыватызаваць" і Парыж.

Што сказаць у заключэнне? Л.Дранько-Майсюк пачынаў у XX стагоддзі, але гэта паэт XXI стагоддзя. Яго ніхто ўжо не прымусіць пісаць пра тое, пра што ён не хацеў бы. Літаратура, паэзія бачацца яму як яго асабістая, прыватная справа. Такой уяўляецца нам гэтая постаць на ўзмежжы стагоддзяў...

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# Творчы партрэт як адбітак стылю: Леанід Дранько-Майсюк

Індывідуальнасць асобы і таленту стварае німб над галавой творчага чалавека, які часта ўздымае яго па-над часам і смерцю. Ніхто не будзе спрачацца наконт таго, што Леанід Дранько-Майсюк – паэт адметнага стылю і што яго вершы пазнавальныя па першых жа радках. У чым жа сакрэт стылёвай адметнасці гэтага паэта?

1. Уласная асоба, сям'я і малая радзіма як асноўныя вобразы яго паэзіі. Таму ў творах часта сустракаюцца "Леанід" або "Дранько-Майсюк", "Люба і Васіль", "Вольга і Васіль", "Давыд-Гарадок" і інш. Падобнае "рэкламаванне", у прыватнасці сваёй асобы, у тэорыі паэзіі называецца "сфрагіда" (паводле "Паэтычнага слоўніка" А.П. Кваткоўскага). Напрыклад:

*Ахвяруеш, вечна маладая,*
*Дні – дранько, а ночы – майсюку.*
*Мы не бачыліся цэлае каханне...*

2. Грэчаскія і французскія матывы ў яго паэзіі як сведчанне свядомай і мэтанакіраванай аўтаміфалагізацыі аўтара. Гэта пераважна выкарыстанне ў творах вобразаў-персанажаў грэчаскай міфалогіі, вобразаў выдатных мясцін Парыжа і французскіх паэтаў.

3. Донжуаністы тып літаратурнага героя, які ажыццяўляе свае амурныя прыгоды на фоне Давыд-Гарадка і Мінска або тых жа самых Афінаў ці Парыжа:

*Амываеш мой сумны пагляд*
*Хваляй рук- ручаінаў.*
*Тваё цела абвіў вінаград*
*Старажытных Афінаў.*

**(“Завушніцы”.)**

Пра месца, якое займае каханне ў жыцці і творчасці паэта, сведчыць яго выслоўе: “Прагну, каб ты высока ацаніла маё ідылічнае донжуанства, якое ці не самы надзейны доказ таго, што я – Жыву!” (“Ратаванне Грэцыяй”).

4. Імкненне да багдановічаўскай паэзіі “чыстай красы”, але з максімалісцкім прынцыпам “эстэцтва дзеля эстэцтва” і з асобнымі (не) свядомымі “зрывамі” ў неэстэтычнае, з аднаго боку, і да адлюстравання ў сваёй творчасці актуальных праблем сучаснасці – з другога. Адносна неэстэтычнага як выключэння з правіла паэзіі “чыстай красы” ў дранько-майсюкоўскай інтэрпрэтацыі — з апошняга:

*Вось так бракуе беларусу—*
*З чужое кварты піць віно,*
*Каб не ступіць за тую рысу,*
*Дзе ўжо суцэльнае г...но,*
*Застацца на парозе славы...*

**(“Крыніца”. 2000. №1.)**

А тое, што паэт у сваёй творчасці не абыходзіць праблемы сучаснасці — гэтак і павінна быць у сапраўднай паэзіі.

5. Імкненне да жанравай разнастайнасці ў паэзіі (адычная лірыка, элегіі, медытатыўна-выяўленчыя вершы, прысвячэнні, санеты, тэрцыны, раманс і інш.).

6. Л. Дранько-Майсюк – прыхільнік сімвалісцкага прынцыпу жыццятворчасці, паводле якога аўтар у будзённым жыцці максімальна прыпадабняецца да свайго лірычнага героя.

7. З тропаў асабліва пазнавальныя эпітэты гэтага паэта, пабарочнаму квяцістыя, вытанчана-элегантныя, але часам сэнсава нематываваныя, ужытыя выключна з эстэцкімі мэтамі (евангельская прахалода, лілейны страх, акварэльная скруха, шампанскі далягляд і інш.).

8. Індывідуалізацыя лексікі: адбываецца шляхам выкарыстання паэтам дыялектызмаў (манталь, сцёпка, анідгем і інш.) і некаторых варварызмаў (паланізмаў і галіцызмаў).

9. Індывідуалізацыя паэтычнага сінтаксісу гэтага аўтара адбываецца праз ужыванне паўтораў некалькіх радкоў або строф ("Пляц Волі", "Галубок", "Каханая, мне трыццаць пяць..." і інш.).

Пры стварэнні індывідуальнага стылю пісьменніка не бывае дробязей. Штрых за штрыхом – і ў вершах вымалёўваецца аўтапартрэт самога паэта. Так, Ю.Тынянаў сцвярджаў, што "...амаль заўсёды за паэзіяй міжволі падстаўляюць чалавечы твар...", а Л.Я. Гінзбург лічыла самымі выразнымі творамі рускай лірыкі Лермантава, Блока і Маякоўскага.

Такім чынам, можна сказаць, што творчы партрэт паэта малюе не толькі яго стыль, але і яго знешняе аблічча, падобнае на аблічча яго лірычнага героя, — так, як яго ўспрымаюць чытачы:

*Намалявана. Фарбы, пэндзлі ў стол.*
*Астральны одум на чале паэта*
*Змяняюць самалюбаванне і высокі боль*
*За недасканаласць свету.*

*"Дранько-Майсюк, – напісана, – Партрэт" –*
*У золаце пяшчотнай акварэлі,*
*А побач – хрызантэмы і лілеі,*
*А над партрэтам німб: "Паэт!"*

**Таццяна БАРКОЎСКАЯ (БАРЫСЮК)**

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

# Парыж не стаміўся Дранько-Майсюком!

Сучаснае літаратуразнаўства зазвычай цураецца метафізікі, але часам таго ці іншага паэта не пазбаўлены інтэлекту і пачуцця гумару крытык (часцей за ўсё ён належыць да прыгажэйшай паловы чалавечага роду) какетліва ўзнагародзіць тытулам мясцовага Арфея. Прычым не проста Арфея, а Арфея, укрыжаванага на струнах сваёй арфы, як гэта намаляваў Геранім Босх. Трапная метафара! Лёс паэта заўсёды быў акрэслены знакам неверагодных пакутаў, якія, зрэшты, ён сам для сябе прыдумаў. Бедны Дранько-Майсюк! Ён так стаміўся Парыжам!

У містычным прызначэнні паэта заўсёды было два палюсы, якія можна пазначыць легендарнымі фігурамі антычнасці: лірыка-міфічным героем Арфеем і спартанскім паэтам-грамадзянінам Тыртэем. Першы – сімвал паэзіі асабовай, інтымнай, звернутай да сябе, сваіх перажыванняў і пачуццяў, да іншасвету, недаступнага шэрым масам суайчыннікаў. Арфей пабываў у царстве змрочнага Аіда і крануў сваімі песнямі нават злога сабаку Цэрбера. Яго Эўрыдыка, вяртанне якой на зямлю скончылася катастрофай, назаўсёды засталася ў свядомасці паэта больш рэальнай, чым зямныя фурыі, якія, паводле легенды, разарвалі паэта, калі той адмовіўся спяваць на гулянках.

Тыртэй – больш гістарычная асоба, кульгавы настаўнік рыторыкі, якога афінцы з'едліва прыслалі ў дапамогу спартанцам, калі тыя ваявалі са значна мацнейшым ворагам, лакедэманійцамі. Тыртэй узяў сваю ліру, і яго песні так узнялі баявы дух спартанцаў, што яны лёгка дабіліся перамогі. Гэта сімвал лірыкі

грамадзянскай, трыумфу калектыўнай свядомасці, грамадскай салідарнасці, дзяржаўнасці як вышэйшай стадыі выяўлення агульнай волі.

У рэчаіснасці паэты злучаюць у сабе гэтыя дзве функцыі; так лірычны герой Адама Міцкевіча ў паэтычнай драме "Дзяды" праходзіць ад рамантычнага і няўдалага кахання да дзяўчыны – да патрыятычнай любові да Радзімы. У пэўным сэнсе шчасліва сумяшчае абодва палюсы паэтычнай свядомасці Леанід Дранько-Майсюк: ён вядомы ўсім і як тонкі лірык, і разам з тым — грамадскі дзеяч, работнік культуры, які часта сядзіць у прэзідыумах. Паколькі наша дзяржава не самая ваяўнічая, яго інвектыва нашым метафізічным ворагам лагодна-празрыстая: Парыж не трэба разбураць, туды ўвогуле не трэба ездзіць, бо там небяспечна, там можна *стаміцца*. А Бельгія — гэта краіна, якая не экзатычна здзіўляе, а проста *запамінаецца*[1]. Таксама няма там чаго рабіць беларусу, як жыхарам Грэцыі не было чаго сумаваць па трансцэндэнтных краявідах Аіда, бо за іх там пабываў Арфей.

Але не аб гэтым у першую чаргу павінен клапаціцца лірык, калі няма вайны, а ідэалагічныя цуглі і папругі дзяржавы абвіслі, нібы трапічныя ліяны.

*У вашым голасе квітнеюць астры*[2]...

Калі б Васіль Дзятлік умеў так прыгожа прызнавацца ў каханні, лёс "людзей на балоце", напэўна, склаўся б зусім інакш! Як не хапала вясковым жыхарам куртуазнай паэзіі, увогуле прыгожага ў жыцці!.. Яны сеялі бульбу і жыта, а зусім не астры, фрэзіі і іншыя кветкі. Ім быў невядомы "фліpт кветак", распаўсюджаны ў мяшчанскім, местачковым асяроддзі. Нішу, якую Дранько-Майсюк займае ў літаратурным свеце Беларусі, можна параўнаць з клумбай, усаджанай прыгожым пустазеллем. Бо што можа азначаць наступнае: *Калі паміж творчасцю і жыццём не існуе ніякай мяжы, калі элегантнасць паходкі супадае з элегантнасцю думкі, калі новы гальштук прыносіць тую ж асалоду, што і новы радок*[3], – як не паэтычны *нарцысізм*, з'яву, названую імем яшчэ аднаго героя старажытнай Грэцыі – Нарцыса, які закахаўся ў сваё адлюстраванне, а раўнівая багіня Артэміда ператварыла яго ў кветку. Здаецца, пераўтварэнне ў

расліну магло б пагражаць і Дранько-Майсюку, калі б знайшлася злая чарадзейка, здольная тварыць такія метамарфозы. Надта высокія эстэтычныя патрабаванні прад'яўляе ўвянчаны лаўровымі вянкамі прыхільнік прыгожай няпраўды[4]: *...непрыгожыя далоні не далі мне спазнаць тую поўную радасць, аб якой толькі і марыць васемнаццацігадовы цнатлівец*[5]. Дарэмна паэт баяўся, што расчаруе "апалагетаў імаралізму[6]" — падобным перлінам пазайздросціў бы і Луі-Фердынанд Селін...

**Дзмітрый СЕРАБРАКОЎ**

[1] Тут. Мн.: 1990. С.127.

[2] Тамсама. С.30.

[3] Дранько-Майсюк Л. Акропаль. Мн., 1994. С.170.

[4] Пар.: Прыхільнікі праўды ў літаратуры – вы ўздыхаеце, што мая паэзія нежыццёвая, бо занадта прыгожая. Тамсама. С.175.

[5] Тамсама. С.189.

[6] Апалагеты імаралізму – і вас я расчарую, таму не чытайце мяне, а спявайце свае любімыя "Песні Мальдарора". Тамсама. С.175.

# Трошкі сумная песня

Такімі словамі мне хацелася б ахарактарызаваць усю творчасць Л.Дранько-Майсюка, ды і яго самога. Адкуль бярэцца гэты загадкавы сум, я дакладна не ведаю. Менавіта ён, на маю думку, надае асобе Леаніда адметнасць, арыгінальнасць. Чысты дасканалы лірызм, адточаны, як вастрыё нажа, дзіўным чынам спалучаецца ў творчасці Л.Дранько-Майсюка з ціхім настальгічным смуткам – і ўражвае чытача, прымушае яго ставіцца да гэтага пісьменніка, шырока вядомага цяпер у Беларусі, як да куміра. О, у Леаніда ёсць для

гэтага велізарныя магчымасці! Ён можа быць (а па сутнасці, ужо ёсць) культавай фігурай, улюбёнцам Фартуны і фаварытам мас. Ці імкнуўся Л.Дранько-Майсюк зрабіцца падобным фетышам для паклонніц у свае раннія гады? Хутчэй за ўсё, гэта адбылося само сабой. Проста ён – багата адораны Богам (ці прыродай) чалавек. І адна з праяў ягонага выключнага мастацкага таленту – адчуванне лёгкасці, палёту, якое ўзнікае пасля стасункаў з паэтам. Убачыць Л.Дранько-Майсюка – быццам бы ўзняцца, як гераіня твораў М.Шагала, над горадам, над дахамі дамоў – забыўшыся на свае клопаты, распасцерці крылы... а іх мае кожны, трэба толькі развіваць іх штодня, даючы ім адпаведную нагрузку. "Час такі цяпер, досыць спаць!.." Гэтай фразай з паэтычнага тэксту Леаніда, на які напісана амаль што самая любімая мая песня, я падводжу рысу пад сумневамі тых, хто ўпарта не жадае бачыць у Дранько-Майсюку таго, кім ён даўно з'яўляецца, – першага з першых і лепшага з лепшых. А вось і разгадка феномена Л.Дранько-Майсюка: як гаворыць вядомы расійскі акцёр Гаркалін, "поспех не любіць прыходзіць да лянівых – і ён не прыходзіць да іх"...

У маім жыцці не так і шмат людзей, якія ставяцца да мяне няблага. Таму я цаню добрыя адносіны з гэтымі нямногімі прыяцелямі або адзінадумцамі. Мажліва, у нейкім плане да іх ліку належыць і Леанід Васільевіч – мой старэйшы літаратурны настаўнік, калега-пісьменнік і рэдактар, суровы бескампрамісны крытык. І вечны вандроўнік, які зведаў Парыж і Іерусалім, нават ад іх стаміўся. Вось пішу і думаю: а што сказаў бы на гэты конт Л.Дранько-Майсюк? Не з-за таго, што я несамастойная ці нечага баюся. А толькі не хацелася б выглядаць навукоўцам-энтамолагам, якія ловяць матылькоў, потым пракολваючы іх іголкай і выстаўляючы ў рамцы на сцяне. Хаця, можа быць, ва ўмельстве аналізаваць, дзяліць на састаўныя часткі, прэпараваць для некага і заключаецца сакрэт сапраўднага майстэрства. Але асабіста мяне больш прыцягвае, вабіць неразгаданае, таямнічае, нязведанае. Паэзія, уласна кажучы, і пачынаецца, з'яўляецца там, дзе ёсць гэтае патаемнае, нікому да цябе не адкрытае, недасяжнае. Разгарніце старонкі любой кнігі Л.Дранько-Майсюка (я, напрыклад, у ліку ягоных апошніх маю "Стомленасць Парыжам" з аўтографам Паэта) – і ў вас будзе больш пытанняў, чым адказаў. Асоба аўтара,

авеяная чарадзейнаю смугой, стане здавацца поўнай дзіўнай прыцягальнай сілы, аднак далёкай, самотнай, заключанай у палон свайго "Я", нібыта Рабінзон на выспе. Усё гэта вяртае табе, чытачу, тваю ж уласную індывідуальнасць, раней зніверляваную, зацёртую тымі абставінамі, падзеямі, якія не дазвалялі табе раскрыцца. Творчасць Л.Дранько-Майсюка дае людзям здароўе – таму што яна нясе ў сабе любоў. Вялікую любоў да жыцця і чалавецтва.

Гэта быў першы добра знаёмы Леанід у маім жыцці. Памятаю, як я прыходзіла да свайго бацькі ў выдавецтва "Мастацкая літаратура", дзе ён тады працаваў. Там я яшчэ дзяўчом сустрэлася з Л.Дранько-Майсюком. А рукапіс маёй так і не выдадзенай трэцяй кніжкі ён адрэдагаваў настолькі дасканала, што, калі гаварыць шчыра, яго цяпер цяжка пазнаць (праўда, і я тут пастаралася). Другім важным для мяне Леанідам з'явіўся чалавек, за якога некалі я нават згадзілася выйсці замуж. Не атрымалася. Але і дагэтуль імя *Лёня* я не магу чуць абыякава – сэрца захлынаецца пякуча-шчымлівым болем... Затое ж "кінутыя" дзяўчаты і хлопцы звычайна робяць лепшую кар'еру. Між іншым, Л.Дранько-Майсюк даўно, задоўга да журботнага завяршэння гэтай гісторыі, неаднойчы выказваўся на тэму нешчаслівага кахання ў друку. Маўляў, пры самым-самым моцным каханні да некага можна прадбачыць некалькі варыянтаў развіцця падзей: шпіталь, турма, жабрацтва (ад сябе дадам: і манастыр). І вось цяпер, калі я ледзьве не пастрыглася ў манахіні, я кажу ўсім: верце Л.Дранько-Майсюку! Ён мае рацыю!.. (Кахайце, але галавы не губляйце.)

А вось яшчэ адна песня, напісаная на словы Л.Дранько-Майсюка, – пра святую Еўфрасінню Полацкую. Пранізлівая, тужлівая і ў той жа час светлая, узнёсла-лірычная. "Сніла і той дзень балесны, калі брала шлюб нябесны". Калі я чую гэта, мне хочацца плакаць. Відаць, таму, што адмаўленне ад усяго зямнога ў імя Боскага служэння – для чалавека заўсёды трагедыя, якімі б прыгожымі словамі яна ні прыкрывалася. За гэтым высакародным учынкам вельмі часта хаваюцца адзінота, неразуменне з боку іншых, адчуванне безвыходнасці. Значыць, не створаны ты для звычайнага жыцця, такога, як ва ўсіх. Ты безабаронны перад светам граху – і ўцякаеш ад яго туды, дзе будзеш знаходзіцца пад Божай аховай.

Выходзіць, ты нейкі не такі, як трэба, — непрыстасаваны, ці што. І ты молішся аб тым, каб хаця б Госпад не адрынуў цябе. Л.Дранько-Майсюк тонка адчувае такі настрой і па-майстэрску перадае яго ў сваім вершы, пакладзеным у аснову песні пра святую Еўфрасінню. Прычым для Паэта, мяркуючы па ягоных творах, не ўяўляе асаблівай складанасці апісанне практычна любога настрою, які можа ўзнікаць у душы. А таму Леаніда я назвала б паэтам-імпрэсіяністам. Бо так, як бываюць імпрэсіяністамі мастакі, мусяць быць імі паэты (дарэчы, свайго сына Лёня выхаваў менавіта мастаком).

Шырыня эмацыйна-настраёвай палітры – гэта яшчэ адна рыса, якая выгадна вылучае Л.Дранько-Майсюка-творцу з асяроддзя яго калег па пяру. Творчасць Леаніда можна разглядаць як свайго кшталту Біблію, дзе прысутнічаюць адказы на самыя розныя пытанні, — паколькі ў ёй мы знойдзем адлюстраванне вельмі многіх праблем, што паўстаюць перад людзьмі на тых ці іншых этапах іх духоўнага развіцця, станаўлення. Да кніг Л.Дранько-Майсюка ёсць сэнс звяртацца тады, калі табе цяжка, калі ты не можаш знайсці нейкай раўнавагі, не маеш апірышча. Яно, гэтае апірышча, заўсёды вырастае на глебе мастацтва. Эстэт Л.Дранько-Майсюк выдатна разумее гэта: гоячы свае душэўныя раны прыгожым, цудоўным, ён дапамагае вылечвацца і свайму чытачу: "І зноў да флёксаў і да макаў//З гары Царкоўнае лячу, —//Тады не знаў журбы ніякай//І сёння ведаць не хачу". Леанід упэўнена гаворыць пра сябе: "Паэт сказаў: "Стамляецца метал...//Святло стамляецца, і Апалон стамляецца,//Арлы стамляюцца, вартуючы амфал,//А хараство ніколі не стамляецца".

Я настолькі добра ўяўляю жыццё Паэта з ягоных твораў... Ён блізкі мне, зразумелы (як і тысячам іншых ягоных чытачак і чытачоў). Кветкі, сярод якіх ён узгадаваўся, пяшчота, якой ён быў акружаны з самага маленства, нікуды не зніклі, а знайшлі свой працяг у ягоных вершах, эсэ і інш. Гэтак жа, як каханыя і некаханыя жанчыны паэта. Ужо не разумееш, рэальныя ці выдуманыя, фантастычныя падзеі ўвасобіліся ў творах Л.Дранько-Майсюка. Тут мудрагеліста сплецены факты біяграфіі з алегорыямі, уяўнымі падзеямі, метафарамі. О, зусім няма жадання вяртацца з

падарожжа па лабірынце таямніц Паэта! Наадварот, хочацца заглыбляцца і заглыбляцца больш і больш, аж пакуль не ўхопішся за Арыядніну ніць – каханне. Яно выводзіць з самага складанага лабірынту да выратавання, гармоніі, радасці стварэння, стасункаў з любімымі й каханымі. Толькі каханне дазваляе чалавеку атрымліваць асалоду ад жыцця. І вось ужо расквечваецца ўсё навокал, у вушах пачынае гучаць дзівосная музыка, ты не ідзеш, а ляціш: "Ласкавасцю тваёй не наталіцца,//І ў лебядзіным возеры тваім//Мне чуецца і мроіцца і сніцца//Расстання нашага ерусалім". І зноў здаецца, што гэта табе, а не каму-небудзь іншаму, былі сказаны словы: "Ты ўчора вінаградзінкай была//Апошняй над халоднаю альтанкай,//А сёння ты высокая маланка —// Ахоўніца нябеснага стала".

Наогул Л.Дранько-Майсюк – пісьменнік падкрэслена беларускі. Для яго няма, не можа быць іншай, лепшай краіны, чым тая, у якой ён нарадзіўся і жыве цяпер. Свет Беларусі для паэта – гэта яе цэрквы і касцёлы, арганная музыка, роднае ціхае мястэчка, рака Гарынь, давыд-гарадоцкія вуліцы, менскія пляцы й завулкі, крамы, сябры, знаёмыя, каханкі; гэта яе ўзнёслыя хвіліны і часіны смутку. Чулае сэрца пісьменніка адгукаецца на боль і журбу Айчыны. А тым часам аднекуль выплываюць і выплываюць кветкі. Мора хрызантэм, вяргінь, вербенаў, ляўконій, мелісы, астраў, настурак, календулы, лілеяў, незабудак, шольсій... (Нават і не ведаеш, як выглядаюць некаторыя з іх.) І калі адносіны да жанчыны ўплываюць на стаўленне да Бацькаўшчыны, дык з якой цеплынёй і наколькі натхнёна былі напісаны радкі: "Запамінаю голас Ваш прыязны...//Пакінь, пакінь, глыбокая струна,//Шум глыбіні і неспакой рамансны,//Каб у крыві маёй квітнелі астры...//Кроў – гэта ваза, што не мае дна".

Напрыканцы колькі слоў пра гарадскі характар творчасці Л.Дранько-Майсюка. У адрозненне ад многіх г.зв. "вясковых" паэтаў, Леанід – Паэт, поўнасцю аддадзены гораду. Ён паказвае горад велічным, рамантычным, шматаблічным. А што датычыць Менска, дык у вершах Л.Дранько-Майсюка нават названы канкрэтныя вуліцы – Старавіленская, Уманская і інш.: "Па вуліцы Сухой у змроку радасным//Мы дыхалі забытаю лавандай,// Лагчынаю прыйшлі у завулак Транспартны//І дом убачылі з

бярозай і верандай". Гэты горад для Леаніда поўны ўспамінаў і асацыяцый, з якімі ён, магчыма, і хацеў бы развітацца назаўжды: "Дык адыдзі, журба старая,//І, смутак новы, прападзі —// Пад колы мінскага трамвая//Мая нярадасць упадзі". Але яны не знікаюць, па-ранейшаму існуючы ў паэце, прымушаючы яго ў чарговы раз брацца за асадку і ствараць сваё несмяротнае: "Ды каб хоць як самоты адцурацца,//Каб не паверыць, што цябе няма, — //Як ля іконак, буду прыпыняцца//Ля кожнай літары твайго імя".

І гэта ён сказаў пра сябе: "Паслухайце, пані, вандроўная пані, — //Мой шлях патанае ў зялёны блакіт.//Паслухайце, пані, прарочыца пані, — //Саломка лімонная лёгкім дыханнем//Імя забірае маё – Леанід". У рэшце рэшт, менавіта Леанід (няважна, каторы) і прывёў мяне ў літаратуру. І навучыў пісаць пра *вечнае*.

**Святлана ЯВАР**

# Стамлёны вандроўнік

Сем гадоў таму адбылося другое прышэсце "Крыніцы". Лічба, з пункту гледжання нумаралогіі, магічная. І да таго ж – мая асабістая, злучаная з датай нараджэння. У той першай, адмыслова звярстанай, строгай часопіснай кніжцы колькі старонак (зусім няшмат, па цяперашніх мерках) займала і мая, як кажуць у "крынічанскай" рэдакцыі, постаць. І ў тым, што атрымалася яна не прывіднай, а ў дастатковай ступені матэрыялізаванай, выразна адчуваўся асабісты плён тагачаснага рэдактара аддзела паэзіі Леаніда Дранько-Майсюка.

Раз-пораз я перачытваю нашу гутарку пад рубрыкай "Ты". Леанід задаваў мне пытанні

выключна пра паэзію – нават тыя з іх, што здаваліся ўскоснымі, у працэсе размовы, нібы компасава стрэлка, паказвалі ў напрамку метафары ці прасодыі. Праз сем магічных гадоў мне падумалася: а як бы разважаў на той ці іншы конт сам Леанід? Адказы я паспрабавала знайсці ў ягоных творах.

Найперш я пажадала пазнаёміцца з яго, цытую, "думкай адносна банальна-няпростага пытання: што такое Паэзія?" Спачатку патрапілася меркаванне эстэта:

*Паэт сказаў: "Стамляецца метал...*
*Святло стамляецца і Апалон стамляецца,*
*Арлы стамляюцца, вартуючы амфал,*
*А хараство ніколі не стамляецца".*

Потым да яго дадалася замова, якай пазайздросціў бы і сам Чараўнік са Смарагдавага горада:

*Паэты любыя, вы ўсё маглі,*
*Агнём ласкавым налівалі шклянкі,*
*Якія прыгажуні ў вас былі*
*І вечары, яснейшыя за ранкі.*

І, нарэшце, меркаванне закаханага рамантыка:

*Залатою не постаці ломкай,*
*Той, якую Паэзія жне,*
*Я цябе называю саломкай,*
*Што кладзецца на вусны мае.*

Дыялог працягваецца: "Ці ёсць сэнс гаварыць пра дзве паэзіі – паэзію, якая існуе ў літаратурных формах, і паэзію нелітаратурную, "вышэйшую"? Ці ўсё ж паэзія адна?" А вось і адпаведныя радкі:

*І ўласны табе ўбачыцца партрэт –*
*Не ў золаце празрыстай акварэлі,*

*Намаляваны крэйдай на панэлі*
*І крэйдаю падпісаны* “Poete”.

Ёсць і пра месца паэта, так бы мовіць, у грамадстве:

*Хацеў не заўважаць сваёй віны,*
*Як і таго, што пад маім балконам*
*Паэты, жабракі і цыганы*
*Дзялілі попел спаленай заслоны.*

Наступнае пытанне нагадвала маленькае эсэ. “Я веру ў рамантычную метафару: паэт – гэта чалавек, пацалаваны Богам. Менавіта таму, якія б малыя ні былі тыражы вершаваных зборнікаў, як бы шырока ні разлягалася поле чытацкай абыякавасці да паэзіі, якія б глухата і пагарда ні існавалі ў дачыненні да парнаскае музыкі, – усё адно нават самае прагматычнае грамадства пакідае своеасаблівую недатыкальную нішу, у якой паэт адчувае сябе не толькі творцам, але і мае магчымасць ствараць умовы для творчасці. Вядома, ёсць такая ніша і ў цябе. Але якая яна? Ці ўтульна ты сябе ў ёй адчуваеш?"

І эга-адказ, што паядноўвае вандроўныя шляхі радзімы вялікай – Еўропы і радзімы малой – Давыд-Гарадка:

*Не ў цішыні палескага сяла,*
*А ў цішыні Заходняга Берліна*
*Над Хафелем чырвоная каліна*
*Зусім па-беларуску расцвіла.*

*Я не здзівіўся, што ў яе была*
*Кара гарынская, і вершаліна,*
*І ягады, і кожная галіна,*
*І тое ж лісце, поўнае святла.*

Далей ішлі канкрэтныя, прыцэльныя пытанні. Але і іх можна прачытаць “наадварот”. Варта толькі замяніць рацыянальныя, “цагляна-шкляна-ёдзістыя сцены маіх вершаў, у якіх не прыжываюцца жаночая пяшчота і гуллівасць” на арфічна-

каніфольна-эладныя акварэлі Леанідавых радкоў, у якіх гуллівасць мужчынская вельмі нават прыжываецца:

*Я тое прадчуваў каханне,*
*Ягоны вінаградны воск, –*
*Калі гарынскае змярканне*
*Святлу афінскаму прынёс.*

*Еўропа любая, з якой прычыны*
*Твая атлантыка каралі рве, –*
*Сукенку звонкую маёй жанчыны*
*Да самай раніцы не аддае!*

(Звярніце ўвагу, што еўропа і атлантыка ў творах майго “суразмоўцы” могуць быць з маленькай літары, але Паэзія – не!)

*Я ведаю цябе да хрызантэм*
*І да радзімкі, самай патаемнай,–*
*Ад чыстых ненапісаных паэм*
*І да заўсёднай музыкі багемнай.*

А побач з вечнай тэмай любові – не менш вечная тэма смерці:

*Слова ўночы прыходзіць, калі падступае да сэрца*
*Цень блакітны дзяцінства з качыным пяром у руцэ,*
*Калі думка аб старасці быццам у ступе таўчэцца,*
*Калі думка аб смерці як стрэл у густой асацэ.*

*Не ў пакоі сваім, а ў душы, дзе збіраюцца страты,*
*Калі нельга ліхтар, то хоць свечку хачу запаліць –*
*Хай гарыць, хай згарыць, абпаліўшы*
*на ўсіх маіх страхах*
*Пацучыную поўсць і змяінае слова “баліць”.*

Паэтычная батаніка, васковая музыка, слоўны жывапіс... Ідэальная прастора беларускай літаратуры і самой Беларусі.

Адрэстаўраваны метафарай Менск пачатку-канца мінулага стагоддзя... Біблейскі нябесны Ерусалім быў пабудаваны з каштоўных камянёў. Леанідавы сталіцы – з давыд-гарадоцкіх кветак. Нават жанчына яго паэзіі мае раслінная паходжанне. Нібы казачная Дзюймовачка, яна нараджаецца з кветак. "У Вашым голасе квітнеюць астры", "Яе лілейны цень на сэрца лёг", "Пакуль хаваў я галаву сваю // У жоўты куст тваёй сукенкі"...

І калі аднойчы мне напісаліся радкі пра восень, пра шал квецені і дарэмнасць пладанашэння, пра нябачную "шкляна-лёдавую" мяжу часападзелу, я прысвяціла яго Леаніду Дранько-Майсюку. А потым у ранняга Караткевіча знайшла сугучнае ўласнаму душэўнаму досведу назіранне, што асабліва плённа пішацца ўвосень, бо ў астатні час года болей хочацца жыць, чым пісаць. Леанідавы радкі таксама пацвердзілі маю здагадку:

*Ты гаворыш, белай флёксаю*
*Атуляючы няўзнак:*
*"Мы – шчаслівыя па-восеньску,*
*Гэта лепей, чым ніяк".*

Мне здаецца, што Леаніду заўсёды болей хацелася пісаць, чым жыць. Гэта лёгка адчуць, прачытаўшы яго кнігі супраць гадзіннікавай стрэлкі – ад крышталёвай "Стамлёнасці Парыжам" да стыхійнага, паганскага "Вандроўніка".

Апошняе пытанне, зададзенае мне "семігодку" таму, гучала так: "Мы жывём на самым схіле стагоддзя. Ёсць нейкая асаблівая таямніца ў часе, якім стагоддзі завяршаюцца. Якім паэтычным радком (сваім ці чужым) ты б вызначыла сутнасць гэтай таямніцы?"

Вось ён, адказ, "чужы" радок:

*Жанчына адыходзіць, як стагоддзе,*
*І я хачу стагоддзе затрымаць.*

Мне як жанчыне гэткае аблічча часу падабаецца.

**Галіна БУЛЫКА**

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

# Паміж “Дранько” і “Майсюком”, альбо Залаты злучок беларускай паэзіі

Кажуць, быццам некалі старэйшыя калегі па пяры раілі Леаніду Драньку-Майсюку: “Вазьмі псеўданім, ну куды паэту з такім грувасткім, немілагучным прозвішчам!” Дзякаваць Богу, у пісьменніка хапіла абачлівасці і паэтычнага густу, каб не прыслухацца да гэтай парады — і на сёння мы маем адно з найпаэтычных у беларускай літаратуры імёнаў.

Наогул ёсць нешта містычнае ў тым, што розныя імёны раптам аб’ядноўваюцца ў адно складанае, паміж часткамі якога пачынае пульсаваць энергія, утвараецца ледзь не поле электрычнага напружання, нібыта паміж словамі, удала і нечакана зрыфмаванымі паэтам.

Такія пáры (а зрэдчасу і большыя пабудовы) з’яўляюцца на свет рознымі шляхамі. Часам асоба дадае псеўданім да свайго праўдзівага прозвішча, але не так, як Ульянаў (Ленін), калі паміж імёнамі няма і не можа быць раўнапраўя, а так, каб складнікі гэтага наймення застылі, нібыта чашы шаляў, у гарманічнай раўнавазе. Наяўнасць такой псеўданімічнай часткі новага прозвішча шмат што можа сказаць пра яго носьбіта. Мамін-Сібірак, Сцяпняк-Краўчынскі, альбо нават так — Сямёнаў-Цян-Шанскі! Гучыць, як прызнанне ў любові таму ці іншаму фрагменту геаграфічнай мапы. А чаго вартыя featuresнага кшталту Пацёмкіны-Таўрычаскія альбо, прашу прабачэння ва ўсіх беларускіх патрыётаў, Суворавы-Рымніцкія? А вось вам праўдзівы парад каштоўнасцяў, перакананняў, сфераў дзейнасці: Новікаў-Прыбой... і Новікаў-Пяюн, Лебедзеў-Кумач... і Сокалаў-Воюш.

Але бывае і так, што чалавеку шанцуе, і ён атрымлівае такое шыкоўнае прозвішча ў гатовым выглядзе, як гэта, дарэчы, і адбылося з Леанідам Дранько-Майсюком, што атрымаў сваё прозвішча ў спадчыну ад бацькі. Такія людзі адно даюць сабе працу нарадзіцца, як сказаў бы адзін літаратурны персанаж, — і яны ўжо амаль далучаныя да гісторыі.

Часцяком гэтыя найменні шмат гавораць пра нацыянальнасць сваіх гаспадароў і цалкам замяняюць адпаведную графу. Якая кароткая і ёмістая інфармацыя: Тэр-Петрасян альбо Леві-Строс (габрэйскія карані відавочныя, будзь ты хоць філосафам-структуралістам, хоць надпісам на джынсах). Альбо мудрагелістыя іспанскія імёны: Гонгара-і-Арготэ, Артэга-і-Гасэт (зусім не чатыры розныя чалавекі). Альбо наскае, вялікалітоўскае: колькі паэзіі і непрыхаванага крывіцкага патрыятызму ў адным гучанні — ад Дуніна-Марцінкевіча... да Бонча-Бруевіча і ад Бялыніцкага-Бірулі... да Булак-Булаховіча. А гэтыя "святыя", што аздабляюць французскія прозвішчы прыстаўкаю "Сэнт", робячы іх неверагодна прыгожымі! Не кожны шараговы чытач ведае такіх паэтаў, як Сэнт-Бёў альбо Сэн-Жон Перс (імя апошняга, зрэшты, — псеўданім), але ўсім нам знаёмае прозвішча "Сэнт-Экзюперы", і шмат хто з нас, відаць, у дзяцінстве не раз трымаў на языку гэтае экзатычнае найменне-далікатэс, чароўнае і недарэчнае ў нашых лінгвістычных рэаліях, як малюнак баранчыка пасярод пустыні.

Але ж вернемся да нашых бараноў.

Здараецца так, што падвойныя, "дубальтовыя" найменні, як гэта ні парадаксальна, дапамагаюць асобе ўсвядоміць сваю унікальнасць, адзінкавасць. Часам (і наш паэт — найяскравейшы прыклад гэтага) яны спрыяюць асэнсаванню сябе як іншага, што, калі зойдзе досыць далёка, можа нават пагражаць падваеннем асобы, і літаратурная гульня пачынае межаваць з шызафрэніяй:

*За маўчаннем, горкімі садамі,*
*Што асляплі ў сонечным пяску,*
*Ахвяруеш, вечна маладая,*
*Дні — дранько, а ночы — майсюку.*

Такая вось гісторыя доктара Джэкіла і містэра Хайда па-беларуску, здольная збіць з тропу каго заўгодна.

Але ж загартаванага чытача Дранько-Майсюка ўжо нічым не саб'еш з тропу, бо менавіта на рознага кшталту тропах такая паэзія і "трымаецца". Вось, да прыкладу, нешта з яго першага зборніка "Вандроўнік" (1983):

*І лодкі рух такі павольны*
*І мяккі, нібы кот ідзе,*
*І камячкамі снежнай воўны*
*Аблокі мокнуць у вадзе.*

Альбо: "І ў кветку майго слыху//Залётвае пчала". Дарэчы, польская мова, як і дыялекты беларускай, ведае, што "троп" — гэта не толькі літаратурны прыём, паэтычны перанос сэнсу, але і "след". Трымайцеся следу, расчытвайце тропы і "тропікі", і вы не згубіцеся ў гушчэчы паэтычных сэнсаў. Але ж літаратурныя "тропікі" нашага аўтара населеныя

*Не толькі рыфмай ці радком,*
*Што неспадзеўна сэрца лашчаць,*
*А чым заўгодна,*
*Хоць ваўком*
*З метафарай у чорнай пашчы...*

*Ён зразумелы для мяне,*
*Як неба роднае і людзі,*
*Пакуль бяжыць, пакуль імкне,*
*Пакуль метафары не згубіць.*

Гэта вам не чарговы, "непатрэбны і воўчы", "след ваўкалака". Перад намі само слова-ваўкалак (менавіта так, праз злучок), ягамосць паэтычны троп, напаўпрывідная пачвара, якая вартуе мяжу, што падзяляе дзве дзяржавы, — звыклы свет, адкуль мы наіўна чэрпаем патрэбныя нам словы, і тую рэальнасць, чые абрысы толькі накрэсліваюцца ў словах, прамоўленых намі:

*Я азірнуўся —*
*Белы свет*
*Жыў у слядах маіх.*

Вось жа, не забывайцеся, якія вы пакідаеце тропы...

У творчасці Дранько-Майсюка напраўду вялікі след пакінуў ягоны Давыд-Гарадок. Любоў да роднага горада, цёплымі ўспамінамі пра яго, ягонымі рэаліямі прасякнутыя шматлікія творы паэта, ад пагрозліва-апакаліптычнага "Вернуцца князі Давыды / / спаляць свае гарадкі" да па-дзіцячы сентыментальнага:

*Я сніў, што ў Давыд-Гарадок,*
*Як вечнасці позірк ласкавы,*
*Цукровы ляцеў галубок,*
*Прапахлы аерам і кавай.*

Дарэчы, у гэтым вершы апавядаецца амаль неверагодная гісторыя. Калі лірычны герой твора дасягнуў прызыўнога веку і бацькам прыйшла пара праводзіць яго ў савецкае войска, да іх на падворак заляцеў голуб, ды там і застаўся — як суцяшэнне маці і верная запарука таго, што з сынам усё будзе добра. І толькі праз два гады, калі герой шчасліва вярнуўся дамоў, голуб паляцеў і больш не вяртаўся. Згадзіцеся, гэтая гісторыя не кранае хіба толькі таго, хто мае ці меў "валасатую руку" ў ваенкамаце.

У паэзіі Дранько-Майсюка можна адшукаць і іншыя сляды (ці тропы) Давыд-Гарадка. Так, аўтар смела ўключае ў свае вершы і прозу лакальную лексіку і тлумачыць яе ў спасылках, даючы прыпіску "давыд-гарадоцкае". "Што гэта? — запытаўся б тут злаславец. — Імкненне да так званага "мясцовага каларыту" свайго часу, дэкларaванае пісьменнікамі-рамантыкамі? Жаданне ўзбагаціць лексікон беларускай літаратурнай мовы за кошт асаблівага слоўнікавага запасу Дранько-Майсюка?" Прапаную зычліва ўгледзець тут адно даніну пашаны і падзякі ўсяму таму, без чаго не было б ані творцы, ані яго творчасці. Але не трэба думаць, што ўсё, напісанае Драньком пра Давыд-Гарадок, дэкларуе толькі аднабаковую сувязь паміж горадам і яго гадаваннем, што паэт адно ўдзячна чэрпае з давыд-гарадоцкай скарбніцы і апавядае пра гэтую ўдзячнасць.

У сваім "Уступе да паэтаграфіі" паэт разважае ў прозе пра тое, як месца нараджэння суадносіцца з *выдатнымі* асобамі, якія ў ім нарадзіліся. Маўляў, найчасцей месца дамінуе над народжанымі там. Хаця сам аўтар адразу ж прыводзіць і

супрацьлеглыя прыклады: Дантэ, роўны Фларэнцыі, Ісус Хрыстос і Янка Купала, большыя за Віфлеем і, адпаведна, Вязынку. Далей Дранько-Майсюк какетліва ўдае сціпласць і кажа, што ягоная асоба небагата значыць у параўнанні з Давыд-Гарадком. Але ж звярніце ўвагу на сам шэраг, у які паэт "сціслa" ўключае сябе й сваю малую радзіму.

Не, падказвае нам сам гэты шэраг, творца значны прынамсі не менеи ад месца свайго з'яўлення на свет. Гэта ён, паэт, раней ці пазней плоціць па рахунках памяці і ўдзячнасці, будуючы "трывалейшы за медзь" помнік мясцінам свайго дзяцінства і юнацтва. Ці ж мала сярод чытачоў Дантэ тых, што ніколі не бачылі Фларэнцыі на ўласныя вочы? А тых, што прагнуць яе ўбачыць насамперш як горад, які спачатку выгадаваў, а пасля назаўсёды выгнаў свайго "белага" гвельфа? Што ж тады казаць аб горадзе і асобе, чые імёны — як на тонкае паэтычнае вуха — гучаць так падобна, ужо тым, што абодва маюць у сваім складзе дзве часткі, шчасліва паяднаныя з дапамогаю злучка! Таму я ўпэўнены: калі Беларусь (кажу гэта ў будучым часе, а не ва ўмоўным ладзе) станецца напраўду беларускаю, а нашы будучыя Чайльд-Гарольды (таксама праз злучок) раней ці пазней пачнуць здзяйсняць свае паломніцтвы па месцах баявой славы айчыннай культуры, яны не абмінуць на сваім шляху і Давыд-Гарадок — у тым ліку і як родны горад Леаніда Дранько-Майсюка.

А пакуль... Пакуль, на жаль, маем тое, што маем, і пра гэта пераканаўча і самакрытычна выказаўся наш паэт (спадзяюся, што не памыляюся, цытуючы з памяці):

*Каштоўнасцяў, што пішам праз злучок,*
*Не зруйнаваць, не патапіць у багне.*
*Прамоўлю ўслых: "Давыд..." — і "...Гарадок"*
*Мой суайчыннік праз злучок працягне.*

*Але бываюць стрэлы "ў малако"*
*Й цудоўная ілюзія знікае.*
*Прамоўлю ўслых: "Дранько..." А што "Дранько"?*
*Я — ведаю, а мой сусед не знае.*

**Андрэй ХАДАНОВІЧ**

# Вечныя імгненні хараства, або Паэт, які кахае

У нас нямала сялянска-правінцыйных паэтаў. І не толькі ў плане тэматыкі, але і ў сэнсе адсутнасці высокай культуры думкі і творчасці. Сапраўднай хваробай зрабіліся традыцыйная банальна-сузіральная апісальнасць, аднастайнасць вершаваных структур, інертнасць інтэлекту і эмоцый, прыкутасць да збітай рыфмоўкі, звыклых хадоў і прыёмаў.

Пагроза вяскова-местачковага стэрэатыпу мыслення і светаўспрымання з купіны ў ідэалагічнай дрыгве існавала і для Леаніда Дранько-Майсюка. Бо ўваходзіў ён у беларускую літаратуру ў гады апагея грамадскага застою, крызісу мастацкай свядомасці, народжанага ідэалагічнай рэгламентацыяй, афіцыйнай савецкай прапагандай, што, як вядома, навязвала дагматычныя ўяўленні, аднатыпныя падыходы і прымітыўныя густы. Са школьнай пары маладому чалавеку прапаноўваліся створаныя паэтамі старэйшага пакалення ўзоры і гатункі грамадзянска-публіцыстычнай вершатворчасці, заставалася адно – заглынуць гэтыя схемы, гатовыя рэцэпты і жыць у палоне ілюзій. Палескі хлопец Леанід Дранько-Майсюк, які, між іншым, нарадзіўся ў Давыд-Гарадку, не прыняў у сваё сэрца гэтай псеўдапаэтычнасці, гучнай рыторыкі, усеагульнай партыйна-кірмашовай тарабаршчыны. Ён, у адрозненне ад асобных сваіх раўналеткаў, шчасліва пазбег спрашчэнства, сляпога канфармізму, прагматычнага слугавання ідэалогіі з яе мілітарысцкімі і утылітарнымі ўстаноўкамі. Л. Дранько-Майсюк, добра ўсвядоміўшы эстэтычнае прызначэнне мастацтва, імкнуўся тварыць прыгожае, падкрэслена паэтычна і ўзвышана выказваць

пачуцці. Пазбавіцца ад вульгарных штампаў, архаікі, інфантыльнай рэцэпцыі мог толькі паэт, які меў уласную канцэпцыю творчасці. Л. Дранько-Майсюк з упэўненасцю сцвярджаў, што "ў вершы можна свет змясціць" – свет небудзённы, надзвычай прывабны, дзівосны і поўны цудоўных імгненняў жыцця.

Леанід Дранько-Майсюк прыйшоў у беларускую літаратуру як пясняр красы, прыхільнік лірыкі тонкай пачуццёвасці, уражлівай эмоцыі і вобразатворчасці, мастацтва слоўнага гукапісу. Ён свядома падключыўся да традыцыі эстэтызму, закладзенай у нашай паэзіі Максімам Багдановічам і паспяхова развітай у творчасці Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі, Наталлі Арсенневай, Валеры Маракова, Тодара Кляшторнага, Алеся Салаўя і інш. Лірычны герой першай кніжкі Л. Дранько-Майсюка "Вандроўнік" (1983) – гэта адкрывальнік паэзіі ў прозе жыцця, які адчувае прагу ўнутранага ўзвышэння прыгажосцю: "...Спакоем наталяла душы // І разуменнем характва // Мая палеская ігруша" ("Ігруша"). Паэт узняўся над местачковым правінцыялізмам, стварыў прывабны партрэт беларускага "места" і найперш выявіў сапраўды еўрапейскі менталітэт, высокую эстэтычную культуру светаўспрымання. Вандроўка духу ў спазнанні шматаблічнасці красы, яе чароўнасці і загадкавай сілы ўрэшце прывядзе паэта ў Грэцыю і Парыж. Яшчэ больш, так бы мовіць, еўрапеізуецца свядомасць мастака слова, а за ім трывала замацуецца імідж эстэта.

Любы паэт пачынаецца з пачуцця радзімы. Местачковы побыт і звязаныя з ім звыклыя вобразы ў адлюстраванні Л. Дранько-Майсюка набылі па-мастацку адметнае і непаўторнае ўвасабленне. Калі ў так званай "вясковай" паэзіі часта агулам апяваліся лугі, палі, лясы і сенажаці, то замалёўкі роднага Палесся ў гэтага беларускага аўтара намаляваны інакш – з пачуццёвым эстэтызмам, пластычна, эмацыйна-раскавана, прычым з найвялікшай асалодай паэтызуюцца канкрэтна-вобразныя дэталі. Пад палескім небам паэт адчувае высокую паэзію, нейкі таямніча-чароўны першасэнс зямнога бытавання.

Паэтычны жывапіс Л. Дранько-Майсюка мяккі, ціхі, прасветлены аўрай унутранай лагоды і замілаванасці. Абуджальнікам настрою паэта з'яўляецца водная стыхія, якая магнетычна ўздзейнічае на яго. Акваматывы, безумоўна, выяўляюць

непаўторны воблік беларускага Палесся, дзе "ля ганка вада плюскоча", вабяць "світанак ракі і сонечныя краявіды" (вершы "Тут, у палескай глыбі...", "Цягне мяне сюды..." і інш.). Здаецца, гэта вада і рака спарадзілі ў светаўспрыманні паэта мадэль гарманічнага, ідылічна-першароднага свету, нейкага пракаветнага раю, у якім душа чалавека і душа прыроды яднаюцца ў адзінае цэлае, нараджаюць своеасаблівую атмасферу ўзвышанасці і свята. Л. Дранько-Майсюк выдатна ўвасобіў у сваёй творчасці эстэтыку звыклага і будзённага, побытавага і прыроднага. Пры гэтым ён прадэманстраваў арыгінальнасць, нават парадаксальнасць паэтычна-мастацкага ўяўлення, што выявілася ў вельмі самабытнай метафорыцы і іншых відах тропаў. Л. Дранько-Майсюк ужо ў ранняй творчасці паказаў сябе як сталы майстра малявання словам, аўтар цэлага суквецця бліскучых вобразных знаходак і эстэтычна яркіх асацыяцый: "У зрэнкі цьмяныя кату // Святло па ланцужках сыходзіць"; "А на знаёмай вадзе // Кубло незнаёмай зоркі"; "Я азірнуўся – // Белы свет // Жыў у слядах маіх" і шмат інш. Л. Дранько-Майсюк, імкнучыся да прыгажосці вобразнай выяўленчасці, інтанацыйна-пачуццёвай лёгкасці пісьма, тым самым абнаўляў стыль і мову нашай сучаснай паэзіі.

Прынцыпы красы, эстэтызму, паэтычнай гармоніі сталі вызначальнымі ў наступных зборніках Л. Дранько-Майсюка "Над пляцам" (1986), "Тут" (1990), "Акрополь" (1994), "Стомленасць Парыжам" (1995). Места (мястэчка, горад), вандроўныя ўражанні і каханне – асноўныя тэматычныя лініі яго творчасці, пра што, уласна кажучы, красамоўна сведчыць структура паэтычнага зборніка выбраных твораў "Места і Свет" (2000). Праўда, зрэдку пад пяром паэта нараджаліся і радкі грамадзянскага гучання – гэта найперш такія вершы, як "Эмігрант". Калі М. Багдановіч у "Эмігранцкай песні" гаворыць пра шуканне на чужыне хлеба надзённага, то наш сучасны аўтар занепакоена і са скрухай кажа пра эміграцыю беларускай душы, якая на радзіме пачувае сябе няўтульна, дыскамфортна:

*Сто англій і дзвесце францый*
*Ніякай сваёй сілай*
*Не зробяць з мяне эмігранта,*
*А наша жыццё зрабіла.*

Можна падумаць, што пафаснае прамаўленне грамадзянскага зместу – гэта даніна паэта адраджэнскай ідэі. Аднак Л. Дранько-Майсюк не менш за сучасных аўтараў – стваральнікаў палымянай публіцыстыкі – усхваляваны ўсім тым, што звязана з лёсам роднага слова, нашай Маці-Беларусі. І таму ён апелюе найперш да духоўнай моцы вялікай нацыянальнай класікі, спадзяецца на выратаванне прыгажосцю (гэтак, як і Дастаеўскі), на ачышчэнне і ўзвышэнне чалавечай асобы (вершы “Багдановіч, ратуй...”, “Прыгажосць” і інш.). Мусіць, невыпадкова на Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі “Маладзечна-2001” паэт Л. Дранько-Майсюк, калі ўзняўся на эстрадную сцэну, з пранікнёнай жыццесцвярджальнасцю ў голасе чытаў вядомыя шэдэўральныя радкі У. Дубоўкі:

*О Беларусь, мая шыпшына,*
*зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*чарнобылем не зарасцеш.*

Вуснамі славутага папярэдніка наш сучаснік імкнуўся данесці думку пра неўміручасць Беларусі і вечнасць яе красы. Л. Дранько-Майсюк, здавалася б, чыста эстэцкі паэт, і ўсё ж ён добра ведае, што “Не можа нацыя сысці, // Нібы вада ў пясок...” (верш “Не можа нацыя сысці...”). А тое, што ён не хоча быць трыбунам – дык не ў гэтым яго ўнутранае пакліканне. Сёння сёй-той называе Л. Дранько-Майсюка багемным ці салонным паэтам. Але, прабачце, дзе цяпер тая літаратурная багема тусуецца і дзе тыя літаратурныя салоны? Нехта паспяшае залічыць паэта да прыдворных вершатворцаў, ды мала каму чаго захочацца! Думаецца, Л. Дранько-Майсюк – індывідуаліст, для якога вышэй за ўсё свабода ўласнага творчага “я”, гранічная асабовасць і інтымнасць самавыяўлення. Хоць, зрэшты, кожнаму творцу прагнецца, каб яго заўважалі, разумелі тое, чым і як жыве-хвалюецца яго душа. І як тут не згадаць даўнейшыя радкі Анатоля Сыса з верша “Паэт”:

*Ніхто не мае права мець Паэта,*
*Рабіць яго паяцам пры двары,*
*Таму што гэта... ды таму што гэта –*
*Народу і паэзіі падрыў.*

Дык чым жыве і як пачувае сябе душа паэта? Поўняць яе рамантычнае пачуццё кахання і музыка святла, чысціні, арфейнай узнёсласці. Асабліва значны, выключна адметны ў мастацкіх адносінах вершаваны цыкл "Вершы для А.", які можна назваць лірычнай сімфаньетай закаханай душы. Як і рускі паэт А. Блок, Л. Дранько-Майсюк стварыў вобраз таямнічай незнаёмкі, цудоўнай "дамы сэрца", якая ўслаўляецца як сама музыка і само вышэйшае хараство:

*Мне зразумела ўсё і ўсё не ясна –*
*Ці варты музыкі такой?!*
*Ці варты я хвіліны гэтай шчаснай,*
*Калі гучаць арфічна Вашы астры*
*Па-над пустой канцэртнай асакой.*

**("У Вашым голасе квітнеюць астры...")**

У "Інтрадукцыі" да згаданай вершаванай нізкі паэт прызнаецца: "Я жыву поўным жыццём тады, калі з'яўляецца жанчына". І далей: "Неабходна было трапіць у Афіны і ўзысці на Акропаль, каб здагадацца, што Яна ё с ц ь..." З лірыкі кахання Л. Дранько-Майсюка паўстае культ пакланення і абагаўлення жаночай прыгажосці – і гэта культ сапраўды антычна-рэнесансавай пачуццёвасці. У творах паэта пануе эстэтыка вытанчанага музычна-вобразнага пісьма:

*Шчасцем забыты паэт –*
*З лёсам Рэмбо ці Верлена –*
*Піша класічны санет.*
*У рыфмах – крышталь.*

*На гіяцынтаў букет*
*Льецца святло іпакрэны.*
*Просіць кахання паэт,*
*І плача раяль.*

Гэта радкі з верша "Восень у Версалі", што, як вядома, загучаў песняй. Між тым Л. Дранько-Майсюк не спяшае ўключаць песенныя тэксты ў свае зборнікі паэзіі. На вершаваныя радкі гэтага аўтара напісаны проста цудоўныя песні, у якіх словы і

музыка знаходзяць арганічнае, непаўторнае спалучэнне ("Ружа белая", "Верасень хрызантэмны", "Полька беларуская", "Цыганка" і інш.). Паэт, відавочна, размяжоўвае мелодыю эстрадна-песенную і музыку як рух пачуцця, гучанне лірычнай танальнасці, гарманічны лад спеўнай гукатворчасці, які нязмушана надыктоўвае сэрца. І маюць рацыю тыя крытыкі, хто гаворыць пра Л. Дранько-Майсюка як імпрэсіяніста. Музыка ўражанняў, настрояў, мілагучнасць слова – вось асновасутнаснае ў яго стылёвай манеры. Гавораць, аднак, таксама, што Л. Дранько-Майсюк – філалагічны паэт (праўда, гэта спалучэнне гучыць лепш, чым, скажам, філалагічны празаік ці пісьменнік). Несумненна, Л. Дранько-Майсюк – творца з адмысловым густам і зайздроснай філалагічнай культурай. Але казаць пра гэтага беларускага аўтара як пра філалагічнага паэта – значыць абмяжоўваць разуменне яго творчай індывідуальнасці. Безумоўна, эстэтычная сістэма Л. Дранько-Майсюка склалася пад уплывам адукаванасці, засваення сакрэтаў вершаванага мастацтва. У той жа час ён – таленавіты паэт з Божай ласкі, чалавек тонкай унутранай арганізацыі, асоба глыбокага духоўнага складу. Паэт, які кахае, ахвяруе цяпло іншаму сэрцу, дорыць радасць навакольнаму свету, здольны, здаецца, не толькі палюбіць чалавецтва, але і сагрэць сваімі пачуццямі неабсяжны халодны Сусвет.

**Алесь БЕЛЬСКІ**

# Закаханая

Ён прыйшоў у краіну нашага прыгожага ці, як любіў казаць вялікі Уладзімір Караткевіч, прыўкраснага пісьменства, каб сказаць сваё ўсхваляванае слова з палескай падсветкай пра непаўторнасць імгнення й неспасціжную красу вячніны.

Прыйшоў, каб прашаптаць вынашаныя ўзрушэннем і сагрэтыя імпэтам радкі чароўнай пані паэзіі й небесна-зямной дзяўчыне. Вядома ж, не адной.

Прыйшоў, каб папоўніць эліту шанавальнікаў усяго беларускага, крэўнага, эліту беларускай еўрапейскасці.

Як ні знішчаюць эліту гэтую, як ні жнуць сярпом злосці й знявагі, як ні косяць касою featured рознарэшып'я, рунь рунее, атава атавіцца.

У нашай паэзіі ўпэўнена пачувае сябе няўрымслівы закаханец. Яго ведаюць, яму адказваюць узаемнасцю. І гэта ён — Леанід Дранько-Майсюк.

Яму й мой трыпціх.

*Леаніду Дранько-Майсюку*

**I**

Паэт, як бык...
Еўропу хоча зноў
Для еўрапейкі Беларусі выкрасці.
Ён самы панавіты між паноў
У гжэчнасці
Ды ў глухаглыбай прыкрасці
Да тых, хто ўздумаў
Лапцем разбарсаным
Валяцца пад паваленым парканам.

Паэт, як бык...
Трымае моцна мост
Нязломнасці,
Няўлоўнасці,
Галоўнасці.
За трапятлівак уздымае тост,
Звыкае
Да салоўкасці,
Салоннасці.
А застаецца
Сынам цесляровым,
Жыве красою ды
Адзіным словам.

Паэт, як бык...
На бойню сам не йдзе,

Бо без яго
Няма жыцця нідзе!

**II**

Паэт будуе сам сябе, як храм,
Ці як пахіленую халабуду.
У храме весялей адбыцца цуду,
У халабудзе
Сум ссівее сам.

На твары неба бліскавічны шрам
Заные, адчуваючы астуду.
Набожна ўкленчыўшы
Эцюду цуду,
Паэт будуе сам сябе, як храм.

І храм служыцьме долам і гарам,
Звон давярацьме гуду й перагуду.
У халабудзе,
Кут адвёўшы цуду,
Паэт будуе сам сябе,
Як храм...

**III**

Паэт, як вір,
Ад хвалявання стыне,
На дне хаваючы халодны клёк.
З гародчыка расчульвання
Юргіня
Юрыць паэтаў юр,
Як неўзнарок.

Паэт, як вір,
Віруе ды шчыруе,
Перамывае родных словаў
Жвір.
З Пегаса збрую

 





Скідвае старую,
Берэтку поўні
Збіўшы набакір.

Паэт, як вір,
Супернік супакою,
Капрызны хрэснік
Шчодрай Каляды.
З Сусвету,
Як з цяснюткага пакоя,
Іравецца вымкнуцца.
Але куды?..

**Рыгор БАРАДУЛІН**

# Альтанка для скразнякоў

*Леаніду Дранько-Майсюку*

Ты суцяшаеш аблокі,
я рамантую тралейбусы,
але,
здараецца,
на беразе Свіслачы,
ля альтанкі для скразнякоў,
мы п'ем з табой піва,
лушчым сухую воблу
і няўважліва сочым,
як верхаводкі
скачуць па небе,
упоперак якога плывуць
(на правым баку)
тралейбусы і аблокі.

**Валянцін АКУДОВІЧ**



 

 







# Павел Місько

***Т**ырчыць з нары, паварушвае вусікамі галава пацучкі. А ў зубах — жоўценькая манетка. Убачыла бабу, палажыла манетку і — шмыг! — схавалася ў нару.*

*“Золата?!" — здзівілася Адарка...*



 

Павел МІСЬКО

# АДАРКА І ПАЦУКІ

*Быліца*

Жыла-была ў адной вёсцы баба Адарка. Зірнеш — баба як баба, вёска як вёска. Ці мала такіх на Беларусі? Што ні паселішча, то амаль адны старыя — у вокны глядзяць-выглядаюць, дзяцей з унукамі ў госці чакаюць. То добра яшчэ, калі ўдваіх старыя засталіся, ёсць з кім словам перакінуцца. А калі адна, як Адарка? Дзядуля яе колькі гадоў ужо як спіць. Пайшоў у лепшы свет і нават ручкаю не памахаў. Як хавалі старога, плакала-галасіла Адарка: "А з кім жа мне цяпер скубціся-сварыцца, з кім мірыцца? А з кім жа мне будзе так соладка жыцца?"

Кукуе Адарка адна, агарод даглядае, паміраць не спяшаецца, яшчэ сякую-такую жыўнасць трымае, стараецца. І гэта здароўю ніяк не шкодзіць, а наадварот — малодзіць. Але сама сабою яшчэ і такая жыўнасць развялася, што спасу-ратунку ад яе няма: пацукі! У хаце папрагрызалі падлогу і столь, нарабілі ў сенцах хадоў-выхадаў, у хляве навыкопвалі пячор... Шастаюць, гарцуюць, як коні, не толькі ўночы, але і ўдзень, пішчаць-грызуцца, на Адарку ні кропелькі не зважаюць, нібы яны тут гаспадары, а яна — часовы госць. І нічога не ўхаваць ад іх, усюды ўсё знойдуць, зжаруць ці папсуюць, глуму наробяць. Спрабавала катоў заводзіць — усе паўцякалі, пасыходзілі з хаты. Каты паўцякалі-пасыходзілі, а не пацукі!

"Ах так? — узлавалася Адарка. — А ўсё ж

на маё выйдзе!" І купіла ў мястэчку, кірмаш вялікі якраз сабраўся, пастку-клетку. З дроту сплеценую, дно і дзверцы — з дошкі. Дзверцы на моцнай спружыне — так ляскаюць-страляюць, што Адарка кожны раз і хрысціцца, і плюе з перапалоху: "Тфу, тфу, тфу! А хай ты спрахні..."

У першы ж вечар і наставіла пастку, накалоўшы на кручочак хлебную скарынку. Сабралася спаць ужо, "Ойча наш" шаптала — "Хлеб наш насушаны даш нам на дне..." — як пастка бабахнула. Адарка з перапуду, не скончыўшы малітву, шапярнула хуценька "Амін!" і, на хаду хрысцячыся, патупала ў кухню. Зірнула за печ — ёсць!

Тахкаціць сэрца, але насмелілася, падняла пастку, панесла і паставіла на краечак стала.

— Папаўся, нячыстая сіла?! У-у, страшылішча! Чакай жа, я табе зараз... устрою... судны дзень!

Ступіла ў сенцы. Справа за дзвярыма - паліца з усялякімі жалязякамі. Намацала швайку... Даўно ўжо ёю свіней не калолі, заржавела лежачы.

— Ну во... Зараз я табе... — падступіла да стала, да клеткі, каб разлічыцца з пацуком і зноў пастку "настрапаліць", мо за ноч яшчэ што ўловіцца.

Пацук стаяў у клетцы на задніх лапах — вялізны, як рослае кацяня, амаль спрэс чорны. Перабіраў пярэднімі лапкамі драціны, цапаў за іх доўгімі жоўтымі зубамі, скіргатаў.

— Трасцу перагрызеш... Трасцу вылезеш! Трас... Авой... Дак ты не пацук, а пацучка?! — Адарка лепш угледзелася ў жывот палонніка. Ну але! У два радочкі малюсенькія, як усечаныя пшанічныя зярняткі, цыцачкі. І поўсць вакол гэтых сасочкаў ссусленая, рэдзенькая, як выскубленая. — То колькі ж у цябе малых?! Мо цэлая плойма! Аво-олелечкі-і... Сядзяць недзе ў гняздзечку, мамку чакаюць... А што ж мне з табою рабіць?

Пацучка ўжо сядзела слупком, паварушвала вусамі, нібы прынюхвалася, распазнавала — а хто ж гэта стаіць са швайкаю ў руцэ, што за чалавек? Паглядвала праз драцяныя краты сумна-сумна, чорныя вочкі блішчалі. Раз-пораз то

адною лапкаю, то дзвюма адразу працірала вочкі-пацерачкі, нібы трапілі ў іх пякучыя парушынкі.

— Плачаш?! Няўжо ты ўмееш плакаць? А я думала, Бог толькі людзей узнагародзіў такім шчасцем...

А што пацучка магла адказаць? Толькі глядзела на Адарку горка-жаласліва і выцірала то нос, то вочы.

— Нябось галодная, як сабака?.. — уздыхнула баба. — І што загадаеш з табою рабіць? Дагрызай сваю скарынку, не бойся... — а сама адчыніла шафаўку, дастала пярлоўкі. — На во яшчэ... — сыпнула жменьку круп, — пазабаўляйся, патачы зубы. — І пасядзі... Раніца мудрэй за вечар... Блінцы ранічкаю буду пячы, то і табе мякенькага дам.

Так і зрабіла, як казала. Выпусціла раніцаю пацучку, дала пульхную аладачку:

— Бяжы і больш не пападайся!

Сядзіць Адарка, снедае і раптам чуе з-за печы працяглы, прызыўны піск.

— От жа ліха няма на вас, паморку! — пайшла паглядзець, хоць ведала, што пастку зноў не ставіла.

Тырчыць з нары, паварушвае вусікамі галава пацучкі. А ў зубах — жоўценькая манетка. Убачыла бабу, палажыла манетку і — шмыг! — схавалася ў нару.

“Золата?! — здзівілася Адарка. — Што яна — уздурнела? І дзе яна ўзяла яго? — А потым і другая думка з’явілася: — Хоць перад смерцю пабачу, што гэта за яно такое...”

Абдзьмухала манетку, працерла фартухом — заззяла яна, зайграла. “Дальбог жа, падобна, што золата... І што з ёю цяпер рабіць? Куды падзець?” Ніякай радасці не чула, а толькі нейкую няёмкасць, сорам, нават нязручнасць. Быццам ускінула на сябе чужую, не па ёй апранаху. “Трэба схаваць золата, не трымаць напашэве, навідавоку. А прыхаваеш, то й не ўспомніш — дзе? Галава як рэшата стала... На храм аддам... Сцягаюся ў суботу ў цэркаў — і “на храм”.

Адразу палягчала на душы.

А на другую раніцу зноў пацучка высунулася, другую манетку палажыла. На трэцюю раніцу — трэцюю...

"Прасвятая Марыя, а гэтыя куды дзець? — зноў навaліліся думкі.

Але якраз ехаў сялом пагарэлец: твар вымурзаны, аглоблі абсмаленыя, калашыны ў штанах адгарэлі понізу, кашуля ў сажы, на плячы прапаліна, брыль пераломаны, а верху ў шапцы і палавіны няма, выгараў. "Людзечкі, усё полымем пайшло, ледзь самі з душою павыхопваліся..." — і прасіў-маліў, каб памаглі хто чым можа. І Адарка аддала яму другую залатоўку. Пагарэлец так дзякаваў ёй — усе рукі абцалаваў.

А Фінця, суседка, як убачыла тое золата, то ў яе не толькі бровы, а мо і вочы на лоб заскочылі. Толечкі ад'ехалі калёсы з пагарэльцам-папрашайкам, як яна зашаптала-зашыпела, быццам у роце ёй пякло:

— Ты звар'яцела, Адарка! Гэта фальшывы пагарэлец! Гультай нейкі! Ашуканец, цыганская натура! Твар вымурзаў, аглоблі абсмаліў — авось які дурань і паверыць... Дагані, адбяры золата назад!

— Не тарахці, Фінця... На лбу ж у яго не напісана, ёсць совесь ці няма. Ашукаў — не паможацца яму, не пойдзе на карысць, — адказала Адарка.

— Яно мо й так... І дзед мой калісь казаў: на крадзеным не пасыцееш, бокам усё вылезе. Ашуканствам свет пройдзеш, а назад не вернешся... Суседухна, дарагая, а скуль яно ў цябе, гэтае золата? Мо ад дзядоў-прашчураў засталося? Гэта ж трэба было ўхаваць-выхаваць дасюль — і аддаць чорту лысаму!

— Бядуеш, як за сваё... — і, слова за слова, расказала Адарка суседцы, як усё атрымалася. І пра купленую ў мястэчку пастку-клетку, і пра злоўленую пацучку. Як падкарміла яе і выпусціла, і як аддзячыла потым пацучка — тры манеткі вынесла.

— І ты не хлусіш? — вочы ў Фінці былі такія — ну як два ражны вострыя.

— Каб я так жыла! — пaклялася Адарка.

— А мо там дзе, у зямлі, у нары цэлы клад прыхаваны?

— І так можа быць.

— Не-не-не! Не дуры галавы! Я ж не дзіця малое, каб слухаць казачкі.

— Не верыш — не вер. Але магу і пабажыцца... — і вынесла Адарка, па прастаце душэўнай, трэцюю манетку, паказала суседцы.

А Фінці як мову заняло. І так, і гэтак круціла манетку, нават зубамі спрабавала яе пракусіць.

— Трэцюю пакіну, — сказала Адарка сцішана. — На чорны дзень будзе, на пахаванне.

— А чаму ты не раскапала нару? Мо дзе блізенька той клад ляжыць!

— Ха! Каб жа хоць трохі ведаць, дзе капаць. Усе сенцы ў праточынах, увесь хлеў на норах... А куды вядуць? І во, во! Бачыш, што ў хаце робіцца? — паказала Адарка на запечча, на куток у столі з цёмнаю пpaгрызенаю дзіркаю. — Дый сілы ў мяне нават з камаровую дзюбку няма.

— То я пабягу па рыдлёўку! Удзвюх лягчэй! Раскапаем! — загарэлася Фінця, аж не ўстоіць.

— Не смяшы людзей! — спыніла Адарка. — Мо цяпер усе пацукі такімі парабіліся? Лепш купі пастку, як я, і настаўнастрапалі... А мо ў цябе няма пацукоў, толькі ў мяне?

— Але! Скажаш! Самім скора пазагрызаюць... Пабягу, паганю свайго целяпна на базар.

Прайшло колькі дзён. Амаль усе сяльчане пакуплялі пасткі, панастаўлялі. І спачатку бегалі адны да адных: “Ну — што? Ну як? Колькі ўлавілі, колькі выпусцілі? Хоць адзін вярнуўся з золатам?”

Усіх папускалі... І хоць бы адзін вярнуўся з золатам! Хоць бы які крывенькі грош вынеслі!

Такім адказам верылі і не верылі: хто ж гэта, дурны, пахваліцца, скажа праўду?

Насіла Адарка ў мястэчка літр малака прадаць. Даілася яшчэ козачка. Вярнулася з буханкаю хлеба і батонам. Зайшла ў свой двор...

“О, сілы нябесныя!.. А што тут робіцца?!" — ажно валасы на галаве варухнуліся.

Сенцы насцеж, хлеў насцеж... І там, і там пагром.

Дзяды і бабы, дзеці і ўнукі з рыдлёўкамі завіхаюцца, капаюць-стараюцца, разварочваюць пацучыныя хады-выхады, гнёзды. Нешта шукаюць, зямлю рукамі перамацваюць-пераграбаюць...

Здагадалася Адарка.

— А ліха ж вашай мацеры!.. Золата захацелася?! То хоць бы якія чорныя панчохі на мазгаўні панацягвалі! Тады б ужо чыста за разбойнікаў-рабаўнікоў сышлі б!

— Маўчы, Адарка! — узялася рукі ў бокі Фінця, завадатарка. — Ты ж сама бедавала, што ні сілы, ні часу няма абгледзецца з гэтымі пацукамі. — То от я і склікала талаку ў помач!

— Украдня?! Як злодзеі?! Дзверы высадзіўшы?! — не магла супакоіцца Адарка.

— Не бойся... псіх... Мы чулі... псік, псіх... пра закон... — дзед Архіп, даўно немагушчы і вечна асіплы, улез у перапалку. Сіпеў-дыхаў часценька, як ад сябе толькі. — Нялюдства не будзе... псіх... Калі скарб хто знойдзе... псік... псіх... — дзед трымцеў, як лісток, трымаўся за рыдлёўку, каб не ўпасці. — Каб у казну занёс, псіх... псіх... А дзяржаве табе... хі-хі... чвэртку назад... Падзелім на ўсіх... усіх...

Не схацела далей працаваць талака: нічога не знаходзілася.

— У мяне яшчэ адна манетка ёсць, трэцяя, на чорны дзень схавала, — сказала Адарка. — То мо ў вас ужо настаў чорны дзень? Я зараз вынесу, аддам. Дзяліце, як хочаце.

А талака разышлася моўчкі. І ўсе чамусьці глядзелі сабе пад ногі, воч не падымалі. Мо баяліся, каб не спатыкнуцца?

“Добра, што з сянец у хату дзверы замкнула. А то б яшчэ і ў кухні ўсё перавярнулі дагары нагамі...” — суцешыла сябе Адарка.

А чуткі усё-такі пайшлі кругамі па ўсім наваколлі, па ўсім краі, нават да стольнага горада дакаціліся: пра дзіўных пацукоў і залаты скарб, які не даецца ў рукі. Дачуўся ад некага пра гэта і сынок Адарчын, прыкаціў на выхадныя з Мінска. Адзін, без нявесткі, без унукаў. Адарка і яму

расказала, як усё было, як пацучка тры манеткі за тры раніцы вынесла з нары, і куды дзеліся дзве з іх. Паказала яму трэцюю, што на чорны дзень пакінула. Расказала і пра талакоўцаў-бесталкоўцаў.

Падкінуў сын у руцэ манетку, спрытна злавіў яе.

— А чацвёртая дзе? А пятая? А...

— Не было больш — ні чацвёртых, ні пятых, ні якіх там яшчэ! — пакрыўдзілася Адарка на сына горш, чым на Фінціных талакоўцаў: "Не паверыў! Родненькі сын не паверыў!"

— А дзе ты стаўляла пастку?

Адарка паказала — дзе.

Сын доўга ўзіраўся за печ, нават запалкі паліў, усё ўзіраўся. Уздыхнуў:

— Тут не адна нара-выхад, не адзін капец нагрэбены. Але не дабярэшся, печ замінае, — і паўтарыў у роздуме: — Печ замінае-е... Ясна... Мне — ясна! Матулечка-красатулечка... Прыпомні: ні ў кога з блізкіх суседзяў няма кувалды?

— А што гэта такое? Молат?

— Ну. У вёсцы вырасла, састарылася, а не ведаеш... Такі вялізны і цяжкі-цяжкі молат. У дзве рукі трэба браць. Ім у кузні малатабоец б'е... Каваль малаточкам — цюк! Пакажа, па якім месцы біць. А малатабоец кувалдай, з-за вуха! Бух! Каваль — цюк! Малатабоец — гах! Так і куюць.

— У каго ж бы гэта... Не, не прыпомню. Цяпер жа і кавалі пераваліся. Хіба мо дзе на палявым стане, машынным двары пытаць трэба. А нашто ён табе?

— Ды так... Проста пацікавіўся.

А тут якраз Адарчынай казе прыспічыла да казла ў госці схадзіць. Ды так загарэлася, што бегла па крузе на аселіцы, ледзь калок, за які прыпята была, з зямлі не выварочвала. І так страхотліва мягегекала — нібы тая каза-дзераза з казкі, у якое было "палавіна боку луплена". Хоцькі не хоцькі, а трэба было шукаць "кавалера", бо не будзе казяняці, не будзе і малака.

А на казлоў-то згалела ў іх вёсцы. І летась, і залетась

вадзіла сваю Моцю ў суседнюю вёску — тры кіламетры. А калі ўлічыць, што і па сваёй яшчэ трэба весці-валачы яе, то і ўсе чатыры. Казёл рабіў сваю справу за паўлітэрку. Праўда, сам не піў — гаспадар яго выручаў.

Вось і вер пасля гэтага людзям, іх мудраслоўям: "Толку, як з казла малака". Даіўся казёл! Яшчэ ж як даіўся! Не толькі нядошлая — самая добрая каза таго не дакажа.

Вывела Моцю за вёску, на гравійку. На аўтобусным прыпынку было ўсяго тры з паловаю чалавекі. А тут і аўтобус сцішана падкатвае, і не вельмі запоўнены. Адарка з казою вобсас да кабіны шафёра:

— Сынок! Падкінь да Ламацічаў! Я і за казу заплачу, не бойся!

— Бабка, не магу з казою! От каб з кароваю — другое дзела! — скаліць зубы. — Або давайце прывяжам ззаду за аўтобус — хай бяжыць навыперадкі.

Яшчэ адно боўдзіла маладое высунула морду з аўтобуса:

— Праз дзесяць мінут самалёт будзе ў тым кірунку! Варта пачакаць! — і зарагатаў, аж закашляўся. Пасажыры падтрымалі яго.

"Хіхікаюць, хахакаюць, рэхчуць, як жабы ў сажалцы на дождж... — уздыхае Адарка. — Маладыя, ім што... А сама ж бачыла, як у горадзе ў трамваі дзядзька з сабакам ехаў. Дак што — каза гнюснейшая за таго брахалу?"

...Вярнулася з "гасцей" яна толькі пад вечар. Зноў прыпяла казу на аселіцы: да цёмнага яшчэ нагрызецца, напасвіцца.

Адчыніла сенцы, цешачы сябе, што вось — скінула з плячэй адзін клопат, улагодзіла казу. Спадзявалася, што і сын дома не сядзеў склаўшы рукі, параўнаваў лепш у сенцах тое, што натварылі талакоўцы, утрамбаваў-прыпляскаў гліняныя глыбы. А некалі ж такі добры ток быў у сенцах — хоць снапы раскладвай, малаці!

Не, у сенцах усё было так, як і да яе паходу з казою.

Затое ў хаце...

Пераступіла парог — і ледзь не асунулася.

Уся падлога ўзадрана, падгнілыя, а некаторыя і сточаныя

шашалем на рэшата дошкі, уломкі дошак, стаяць паўз сцены ці валяюцца. З некаторых тырчаць страшныя, скарэжаныя кантовыя цвікі. На месцы толькі палавіна печы з комінам, а задняя частка, каторая ад сцяны, раструшчана, валяюцца груды-глыбы цэглы, ссохлыя, учарнелыя ад копаці гліняныя глыжы. І тая самая кувалда-грамідла, пра якую гаварылі, валяецца зверху.

Мову заняло, ледзь вымучыла, выціснула хрыпла — “Сыночачка!..”, працягнула да яго трымцячыя рукі.

Маці зайшла, не абы-хто! А ён і вухам не павёў...

Сядзеў у майцы, вымурзаны, з бруднымі пацёкамі на твары, і марудна, адным пальцам распісваўся на пыльным стале. Адны і тыя ж рухі, адно і тое ж слова, а погляд утароплены ў нікуды. Перад носам у яго ляжыць пісталет, агрызак хлеба, гурок і стаіць пачатая бутэлька гарэлкі. Тая самая пляшка, што прыхавала, каб узараць на зіму агарод.

— Сыначка... Ты не захварэў? Галоўка не баліць?

— Збірайся, паедзем... — як прачнуўся. — Няма калі мне сюды лётаць. У мяне дзел па горла!

— Дак ты і не лётай... Такое бяды... А мне і тут добра. Я век тут звекавала, тут і памру. Папрашу людзей, печ пераробяць, падлогу.

— Якое добра?! Там добра, дзе нас няма! За акіянам!

— Ціха, супакойся... То ты за акіян сабраўся?! У Амерыку?!

— У Мінск! Збі!.. рай!..ся!.. — апошняе слова чаканіў па складах.

— Не. — Старалася, як магла, каб гаварыць спакойна, не верадзіць лішне скулячку. — Во хіба, як звяжаш мне рукі і ногі, сілком павалачэш грузіць... Але ж і тады буду крычаць-верашчаць на ўсё сяло: каб людзі чулі! Каб бачылі!

— Бос мяне толькі на паўдня адпусціў! Я й так забавіўся тут... Я ў яго целахраніцелем!

— Дак хіба ты ў таго босага адзін хараніцель цела?

— Не адзін. Але ў нас строга! Кароча гавара — збірайся і не рассусольвай! Хопіць табе тут душыцца! Хоць адпачнеш пад старасць!

— А як жа каза, куры? Агарод? Хата?!

— Хай яны пропадам прападуць! — "сыначка" бабахнуў з пісталета ўгору.

У Адаркі і вушы залажыла, і сэрца недзе праваліласся. Пачалі млець ногі. Патоўхала, пабіла кулаком пад грудзі, і сэрца знайшлося. Але застукала няроўна, нібы спатыкалася, прапускала часам, губляла адзін стук. І ў галаве як хто цеста змясіў, вэрхал нейкі. Толькі адно на паверхні круціцца: а чаму на стале ніякага знаку, ніякай дзіркі не зрабілася? Куды дзюбнула куля?

Апусцілася на парог, загаласіла, як па нябожчыку... Усё-ўсё стала ў хаце нябожчыкам — куды ні зірні, што ні ўспомні... А што не ўмёрла яшчэ, то канае ўвачавідкі, і толькі яна чуе балючы стогн-розгалас.

— Ты будзеш збірацца? Ці толькі нервы мне трапаць?! — вызверыўся раптам на яе "сыначка", пагрозліва, нібы ўзважваючы яго, замахаў на яе пісталетам.

— Я зараз, сыначка... вяроўку пашукаю... — зноў ледзь вымучыла з сябе. Затое "сыначка" застагнаў-зароў, як паранены звер:

— Ну-у, маць! Ты мяне даста-ала!..

Размашыстым жэстам падняў пісталет да свае галавы, наставіў у скронь: бах!!!

Адарка страціла прытомнасць.

І колькі часу была без памяці, не ведае. Як з'явіўся на трошкі нейкі пробліск, убачыла: сын ставіць на стол чарговы апарожнены паўшклянак. Хоп кавалак гурка — хрум, хрум! І дзелавіта пацёр далонь аб далонь, зашварыў па стале вачыма — чаго б гэта яшчэ куснуць?

А на шчацэ — ну ніякага ж знаку ад стрэлу!

Адарка яшчэ і на ногі добра не ўсцягласся, папаўзла ў сенцы — шукаць вяроўку.

Пакутліва прыпаміала: "А як гэта робяць пятлю?.."



# Анатоль Вярцінскі

*Яны, напэўна, значылі:* "Люблю".
*Яны, магчыма, значылі:* "Кахаю".
*І значылі яшчэ, быць можа:* "Шчасце".
"*Кэты – мэнэй...*"

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

# Замест прадмовы

*Амаль дэтэктыўная гісторыя. Напісаная трыццаць гадоў таму экспромтам, на адным, як кажуць, дыханні паэма (назва жанру ўмоўная) была пакладзена ў доўгую шуфляду. "Не для друку, не для чужых вачэй", – так, наколькі памятаю, вырашыў тады аўтар. І накіданая пад свежым уражаннем ад перажытага ўзрушэння рэч згубілася потым у паперах. І амаль забылася. А калі і ўзгадвалася зрэдку, дык толькі сваім назовам – рэфрэнам "Кэты – мэнэй". Прагаварыўся пра яе магчымае існаванне гады тры таму ў размове з рэдактарам аддзела паэзіі "Крыніцы" Леанідам Галубовічам. У адказ на яго запрашэнне даць вершы для часопіса. Размова падштурхнула да пошуку. Паэма праз нейкі час знайшлася. Але... Наколькі загадкава яна ў свой час узнікла, наколькі загадкава то забывалася, то зрэдку згадвалася гэтым вось неалагізмам-двухслоўем "Кэты – мэнэй", настолькі загадкава, незразумела для мяне самога супрацiўлялася яна падрыхтоўцы да друку. Некалькі спробаў давялося зрабіць мне, раней чым перадрукаваў на машынцы дванаццаць пажоўклых ад часу старонак рукапісу. З невялікай праўкай. І яшчэ з адчуваннем, што, можа, парушаю ўсё ж свой ранейшы запавет – "не для друку, не для чужых вачэй".*

# КЭТЫ – МЭНЭЙ

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

Я атрымаў паштовую адкрытку.
Мяне ў ёй віншавалі з Новым годам.
Ды віншавалі не зусім звычайна.
Замест "віншую" і замест "жадаю",
замест "дзень добры" і "бывай здаровы" –
два толькі іншых караценькіх словы:
"Кэты – мэнэй!.."
"Кэты – мэнэй!" – чытаю я ў пачатку.
"Кэты – мэнэй!" – чытаю я ў канцы.
"Кэты – мэнэй!" – шапчу я ціха.
"Кэты – мэнэй!" – шапчу гучней.
"Кэты – мэнэй"... "Кэты – мэнэй"...

Шапчу я і ўсміхаюся сабе,
сваім напаўзабытым успамінам...
"Кэты – мэнэй"... Якія гэта словы?
З якой яны узяты мовы?
Ці існавалі ўвогуле раней?
"Кэты – мэнэй... Кэты – мэнэй..."
Тут я павінен вас расчараваць:
яны ніякай мове не належаць,
ні самай дальняй і ні самай блізкай,
ні чэшскай, ні французскай, ці англійскай.
Зусім не існуе ў прыродзе мовы,
дзе б меліся два гэтых словы:
"Кэты – мэнэй".

Я сам іх вынайшаў,
я сам прыдумаў іх.

# У нас

А, можа быць, я іх і не прыдумваў.
А, можа быць, яны тады,
у момант азарэння, празарэння,
успомніліся, ажылі ўва мне
як спадчына далёкіх продкаў...
Ды лепей раскажу ўсё па парадку.
Я жыў у невялікім гарадку.
Быў маладзейшы я, чым зараз.
Па-маладому закахаўся я.
Не ў гарадок, вядома, хоць і ён
мне падабаўся – ціхі і зялёны.
Быў закаханы я, быў улюбёны
у дзеўчыну мясцовую адну.
Ну, а каханню, як вядома,
патрэбны які востраў неабжыты,
ці лес які глухі і першабытны.
Ну так, яму патрэбны дзікі лес,
А не выгоды тыя, не прагрэс.
Яно, каханне, застаецца ўсё ж
той птушкай непрыручанаю, дзікай,
якой патрэбны сонца і паветра,
паляна светлая, лясны паўзмрок...
І я пайшоў з сяброўкаю сваёй
за гарадок. Ішлі прасёлкам,
ішлі сцяжынкай мяккай, лугавой.
Прыйшлі да ўзлесся, увайшлі у лес,
ішлі тым лесам, які вабіў нас,
заманьваў нас сваёю гушчынёю,
бязлюднаю сваёю цішынёю
ды абяцаў палянкі ўтульнай дол.
І мы прыйшлі,
і мы яе знайшлі.
Знайшлі мы запаветную палянку.

Яна была святлейшая ад ранку.
І тут убачыў я сваю каханку
так блізка, так выразна, як раней
не бачыў я яе... Кэты – мэнэй!
Кэты – мэнэй!.. Кэты – мэнэй!..
Ураз загаварыў такой я мовай,
такія вырваліся раптам словы,
якіх не чуў, якіх не ведаў я.
"Кэты – мэнэй", – казаў я ціха.
"Кэты – мэнэй", – я паўтарыў мацней.
"Кэты – мэнэй", – сказаў яшчэ гучней.
"Кэты – мэнэй... Кэты – мэнэй..."
"Кэты – мэнэй..." Што гэта азначала?
Што значыла вось гэтае двухслоўе?
Чаму яно адно тут загучала,
замест шматлікіх іншых слоў?
Ці, можа, іншыя ўсе словы
паблякл і раптам, страцілі свой сэнс
перад чароўнай гэтаю красой
лясной палянкі і маёй каханкі,
і гэтай цішыні лясной?
Ці, можа, я знямеў, дар мовы страціў,
забыўся мовы ўсе і словы ўсе
ад пачуцця, што захліснула нас,
з'яднала нас з зялёнай гушчынёю.
"Кэты – мэнэй..." Што значылі яны,
два гэтых таямнічых словы,
якія вырваліся з глыбіні душы
(ці, лепей, з глыбіні падкоркі)?
Яны, напэўна, значылі: "Люблю".
Яны, магчыма, значылі: "Кахаю".
І значылі яшчэ, быць можа: "Шчасце".
"Кэты – мэнэй..." Тут, мабыць, быў зварот

да любай, да палянкі і да лесу,
да неба і да сонца, што так шчодра
лілося праз густыя кроны.
"Кэты – мэнэй", – сказаў я,
і яна
мяне на дзіва хутка зразумела,
бо шчыра засмяялася ў адказ.
"Кэты – мэнэй", – сказаў я,
і яна
прамовіла ў адказ: "Кэты – мэнэй!"
"Кэты – мэнэй!" – гукнулі разам мы.
"Кэты – мэнэй!" – зашапацела лісце.
"Кэты – мэнэй!" – зашчабяталі птушкі.
"Кэты – мэнэй!" – загаманілі дрэвы.
Выходзіла, што двое закаханых
знайшлі агульную з усімі імі мову,
усім ім болей блізкую, чым тая,
якой звычайна гаварылі мы
і страцілі на нейкі час якую...
Прайшлі гады. І вось я разглядаю
паштоўку, на якой рукой жанчыны
(ну так, той самай, з казкі той лясной)
напісана: "Кэты – мэнэй!" Замест...
"дзень добры" і замест "віншую".
Напісаны ўсяго два толькі словы.
Я моўчкі разглядаю іх,
як знак дзівосны моўчкі разглядаю.
А потым ціха па складах чытаю.
А потым паўтараю ўжо мацней:
"Кэты – мэнэй, кэты – мэнэй,
кэты – мэнэй..."

*1971*



# Ірвін Шоў

*Цела Парыжа, што ляжыць на іншым целе Парыжа. Мужчына і Жанчына, якіх стварыў Ён. У гэты самы момант, у незлічоных ложках горада, колькі іх ляжала ў абдымках, забыўшыся на ўвесь свет? Харысан, з комплексам палоннага, забыўшыся на Азію на цёплым вабным целе дзяўчыны з варшаўскага астрога? Кэрал з адной з прыгожых фотамадэляў, якіх ён фатаграфаваў, калі не рабіў здымкаў вайны? Бог быў з намі, але сышоў ён зарана і стаіць цяпер пры каміне, каб лепей бачыць тое, што робіцца?*

Ірвін Шоў

# Бог быў з намі, але сышоў ён зарана

“Будзь сумнай, даражэнькая”, прыгадала яна, калі званіла ў дзверы. Берт сказаў гэта, калі тэлефанаваў ёй з Лондана. “Яны шалёна любяць самоту. Намякні на самазабойства. Але далікатна, даражэнькая. Згадай мяне, калі хочаш. Усе ведаюць, нават у Жэневе, наколькі я непрадказальны, і табе паспачуваюць. Упэўнены, што ўсё будзе нармальна. Так рабілі тры мае сяброўкі, і цяпер яны жывуць шчасліва”.

Берт заўсёды казаў надта прыгожа, але ён змагаўся з непрыемнасцямі ў пятнаццаці краінах; ён быў сябрам тых, каго ставілі па-за законам; у некалькіх гарадах ім вельмі цікавілася паліцыя, ён ведаў імёны і адрасы ўсіх уплывовых людзей, а таксама і тое, на што яны маглі прыдацца. Думаючы пра Берта і яго любоў да складанасцяў, яна ўсміхнулася ў цёмным калідоры, стоячы перад зачыненымі дзвярыма. Пачуліся чыесьці крокі. Дзверы адчыніліся. Яна ўвайшла.

— Колькі Вам гадоў, пані Маклэйн?

— Трыццаць шэсць,— адказала Розмары.

— Вы, вядома ж, амерыканка.

— Так.

— Дзе Вы жывяце?

— У Нью-Йорку.

Яна вырашыла не казаць яму, што разумее па-французску. Гэта дазволіць ёй выглядаць больш бездапаможна. Адна, не здольная камунікаваць за мяжой.

— Вы замужам?

— У разводзе. Ужо пяць год.

— Дзеці?

— Дачка. Ёй адзінаццаць.

— Вы... э-э... у гэтым стане ўжо колькі?

— Шэсць тыдняў.

— Вы ўпэўнены?

Ён выдатна размаўляў па-англійску. Вучыўся ў Пенсільваніі. Невялікі, маладжавы, акуратны мужчына з акуратна зачэсанымі валасамі ў акуратным кабінеце. Яго твар адсвечваў нейкай бледнай керамічнай пустатой, быццам гэта была звычайная талерка. Ён быў адзін. Сам адчыніў ёй дзверы. На рудаватых, нейтральных сценах віселі дыпломы на некалькіх мовах. З вуліцы не даносілася ані гуку. Дзень быў сонечны. І яна не адчувала ніякага суму.

— Абсалютна, — сказала яна.

— Здароўе?

— Фізічна... — яна завагалася. Не было ніякага сэнсу маніць. — Фізічна, я мяркую, можна сказаць нармальнае.

— А бацька?

— Я б не хацела казаць пра гэта.

— Баюся, што Вы мусіце.

Магчымыя варыянты. *Мы збіраліся пабрацца шлюбам, але ён загінуў у аўтакатастрофе. Яго завалiла лавінай. Я выявіла, што ў ягонай сям'і ёсць дрэнная псіхічная спадчыннасць. Ён каталік і італьянец, да таго ж жанаты, а, як вы ведаеце, у Італіі развод не даюць, дый я павінна жыць у Нью-Йорку. Ён быў індуістам. Ён паабяцаў ажаніцца са мной і знік. То быў шаснаццацігадовы хлопчык, якога я сустрэла ў спальным вагоне цягніка, і яму трэба было вяртацца ў школу.* Дурасці. Усё гэта дурасці.

Псіхіятр сядзеў у сваім рудым кабінеце, спакойны, быццам у засадзе, падрыхтаваны да маны.

— Ён жанаты. — Гэта праўда. — І шчаслівы ў шлюбе. — Магчыма, і гэта больш-менш праўда. — У яго двое маленькіх дзяцей. І ён нашмат маладзейшы за мяне. — Яўная праўда.

— Ён ведае?

— Не.

Дурасць таксама мае межы. Бессэнсоўны уікэнд у гарах з

чалавекам, якога ты да тае пары не ведала, дый не вельмі ён табе і спадабаўся, і якога ты абсалютна не хочаш больш бачыць. Яна заўсёды была пераборлівай жанчынай і ніколі да таго выпадку не мела падобных прыгод, дый у будучым таксама не збіралася мець. Аднак абсалютна без сэнсу скардзіцца на мужчыну на дзесяць гадоў маладзейшага за цябе, пастаянна чапляцца да яго ў прысутнасці ягонае вельмі прыстойнае сям'і і хныкаць, як школьніца, што цябе спакусілі за два пустыя дні падчас завірухі. Вось так. Яна задумалася, падбіраючы патрэбнае слова. Вульгарнасці тут не пазбегнеш. Яна не была нават упэўненая, што мае ягоны адрас. Ён запісаў яго, прыгадала яна, і сказаў, што калі будзе ў Парыжы... Але яна тады была сонная і нагэтулькі радая таму, што ён нарэшце сыходзіць, што не памятала, ці паклала той кавалачак паперы ў сумачку. То быў ягоны службовы адрас. Святасць сям'і. Француз, адно слова.

— Не, ён не ведае.

— Вы не лічыце, што Вам трэба яму пра ўсё расказаць?

— І якая будзе з гэтага карысць? Замест аднаго чалавека хваляваціца будуць двое, — хаця яна не магла ўявіць сабе, што ён хвалюецца. Пацісне плячыма. Амерыканка, што прыехала ў Еўропу, нават не ведаючы як... — Бачыце, гэта адбылося так проста. На лыжным курорце. Вы ж уяўляеце гэтыя лыжныя курорты...

— Я не катаюся на лыжах, — сказаў з гонарам. Ён быў сур'ёзны лекар. Не марнаваў час на фрывольнасці. Тым болей не плаціў вялікія грошы за такі адпачынак, у выніку якога можна зламаць нагу. Нянавісць да яго наплывала на яе хвалямі. Карычневая пара на ім была проста жахлівай.

— Я была п'яная, — няпраўда. — Ён дапамог мне дайсці да майго пакоя, — няпраўда. — Я нават не разумела, што адбывалася, — карычневая пара варухнулася. — Ён паводзіў сябе вельмі нешляхетна... — ці сапраўды гэта яе голас? — Калі б я расказала яму, то ён проста пасмяяўся б. Ён француз, — вось тут яна мела козыр. Швейцарцы і французы не любяць адно аднаго. Кальвін супраць мадам дэ Пампадур. Жэнева, абрабаваная войскам Напалеона. Адным французам менш у гэтым свеце. Або напаўфранцузам. — Па тым, як ён паставіўся да мяне, можна ўпэўнена сказаць, што ён зусім не мае пачуцця адказнасці.

Цяпер яе голас гучаў так, быццам яна рабіла прызнанне ў

паліцыі. Заставалася спадзявацца, што карычневая пара гэтага не заўважыць. Было вельмі важна падацца непасрэднай, моцна расхваляванай, каб прыкідвацца. Да таго ж тое, што яна сказала, было амаль праўдай. Жан-Жак не меў аніякіх падставаў адчуваць сваю адказнасць. Наколькі ён ведаў яе, яна магла лёгка пайсці ў ложак з трыма рознымі мужчынамі на працягу аднаго тыдня. Яна прывяла яго да сябе пасля аднаго дня знаёмства. *Pourquoi moi, Madame? Pourquoi pas quelqu'un d'autre?*[1] Яна ясна ўяўляла ветлівы абыякавы тон, спакойны выраз прыгожага твару тыповага Казановы, з рэшткамі горнага загару. Жан-Жак! Калі амерыканцы быў патрэбны французскі каханак, то яго імя не павінна быць настолькі французскім. Падвойнае імя. Гэта так банальна. Яна перасмыкнулася, прыгадаўшы тыя выхадныя. І сваё імя. Розмары. Жанчыны з імем Розмары не робяць аборты. Яны бяруць шлюб у белай сукні, прыслухоўваюцца да ўсіх парад цешчы і цярпліва чакаюць мужа, прыехаўшы на чыгуначны вакзал, каб сустрэць яго з працы.

— Якія ў Вас сродкі да існавання, мадам? — запытаў псіхіятр.

Ён сядзеў надзвычай спакойна, на фоне зялёнага абруса стала яго рукі былі белыя, як фарфор. Калі яна толькі ўвайшла, заўважыла, што ён адразу ацаніў тое, як яна была апранута. Каб выклікаць жаль, яна была занадта добра апранута. Жэнева — гэта элегантны горад. Касцюмы ад Дыора, Баленцьяга, Шанэль. Раскоша на фоне банкаў і рэкламы хранометраў.

— Ваш былы муж выплочвае аліменты?

— Толькі на дачку. На сябе я зарабляю сама.

— А, Вы працуеце, — калі б яго голасу дазволена было выяўляць пачуцці, то ў ім з'явілася б здзіўленне.

— Так.

— І чым Вы займаецеся?

— Я пакупнік.

— Пакупнік? — вядома ж, яна пакупнік. Усе мы штонебудзь купляем.

Яна павінна была патлумачыць.

— Я купляю рэчы для вялікае крамы. Замежныя тавары. Італьянскі ядваб, французскі антыкварыят, старое шкло, англійскае срэбра.

— Зразумела. Вы шмат падарожнічаеце.

Яшчэ адзін пункт супраць яе. Калі вы шмат падарожнічаеце, вы не павінны зацяжарыць падчас катання на лыжах. У яе гісторыі было нешта, што не пасавала да яе самой. Бледныя рукі, хаця і не зрушыліся, выказвалі недавер.

— Я ў Еўропе тры-чатыры месяцы на год.

— *Donc, Madame*,— сказаў ён,— *vous parlez français.*

— *Mal*,— адказала яна,— *très mal*[1].

Яна сказала *très* з наўмысна жахлівым амерыканскім акцэнтам.

— Вы вольная жанчына?

Яна адчула, што ён нападае на яе.

— Больш-менш.

Надта вольная. Калі б яна не была такая вольная, дык не апынулася б цяпер тут. Перад тым як паехаць у Еўропу, яна развіталася з чалавекам, з якім сустракалася тры гады. Зрэшты, менавіта праз гэта яна засталася ў Еўропе так надоўга, папрасіла адпачынак зімой, а не ў жніўні. Каб усё супакоілася. Калі той мужчына сказаў, што можа развесціся хоць цяпер і яны могуць пабрацца шлюбам, яна зразумела, што застацца з ім — смяротная нудота. Розмары напэўна аказалася для яе кепскім імем. Яе бацькі не прадумалі ўсяго да канца.

— Мне здаецца, што Вашае асяроддзе ліберальнае,— сказаў доктар,— з талерантнай атмасферай.

— У пэўнай ступені,— асцярожна пагадзілася яна. Ёй хацелася ўскочыць і выбегчы з пакоя.— Я магу запаліць?

— Прабачце, што не прапанаваў Вам цыгарэту. Я сам не палю, таму часам забываю пра іншых.

Ён не катаўся на лыжах і не паліў. Магчыма, ён яшчэ шмат чаго не рабіў. Ён нахіліўся да яе, узяў з яе рукі запальнічку і дапамог запаліць цыгарэту. Рукі ў яе дрыжэлі. Абсалютна натуральна.

Нос псіхіятра крыху зморшчыўся. Ён не любіў цыгарэтнага дыму.

— Калі Вы падарожнічаеце, мадам, хто апякуецца Вашай дачкой? Былы муж?

— Пакаёўка. Муж не мае права на дачку,— чыста па-амерыканску. Магчыма, гэта выкліча чарговы недавер тыповага еўрапейца.— Да таго ж ён жыве ў Дэнверы. Я раблю ўсё магчымае, каб мае паездкі не зацягваліся.

— Пакаёўка,— паўтарыў доктар.— З фінансавага пункту гледжання Вы можаце дазволіць сабе другое дзіця.

Яна пачала панікаваць, адчуваючы лёгкія, быццам электрычныя, уколы пад каленкамі і вузел, што завязаўся ў страўніку. Гэты чалавек быў яе ворагам. Не трэба было слухацца Берта. Што Берт ведае пра такія рэчы?

— Я баюся, што калі ўсе даведаюцца пра маю цяжарнасць, то я страчу працу. У маім узросце... А кпіны настолькі ж небяспечныя, як... — яна не магла знайсці адпаведнае параўнанне.— Дый Амерыка не такая ўжо вольная краіна, доктар. Мой былы муж адразу ж пачне судзіцца, каб атрымаць апеку над дачкой, і напэўна выйграе працэс. Мяне палічаць няздольнай выхоўваць двух дзяцей. Былы муж вельмі злосны на мяне. Мы не размаўляем адно з адным. Мы... — яна спынілася. Мужчына глядзеў на свае нерухомыя рукі. Яна ўявіла, як тлумачыць усё дачцы. *Фрэнсіс, дарагая, заўтра бусел прынясе табе падарунак...* — Я нават думаць пра гэта не магу. Маё жыццё будзе зруйнаванае,— о Божа. Яна і не думала, што будзе гаварыць такое. *Ён не дапаможа мне, ён не падпіша тую паперу. Не падпіша.*— Я нават цяпер знаходжуся ў глыбокай дэпрэсіі. Я баюся, што калі сплю, да мяне хтосьці прыйдзе. Я замыкаю дзверы і правяраю вокны, баюся пераходзіць вуліцу, часам раптоўна пачынаю плакаць, я...— Берт сказаў, што трэба быць сумнай. Як аказалася, гэта не вельмі цяжка.— Я не ведаю, што рабіць, сапраўды не ведаю, і гэта так сумна...

Яна хацела заплакаць, але ж не перад гэтым парцалянавым тварам.

— На мой погляд, гэта часовыя прыпадкі, мадам. Часовыя. Вы паправіцеся. Мне падаецца, што ані Вашае жыццё, ані разумовы стан не пагоршацца, калі Вы народзіце гэтае дзіця. І, як Вы напэўна ведаеце, я, згодна з швейцарскім законам, магу рэкамендаваць перарыванне цяжарнасці толькі тады, калі...

Яна ўстала, загасіўшы цыгарэту ў попельніцы.

— Дзякуй. Вы маеце мой адрас і ведаеце, куды даслаць рахунак.

Ён таксама ўстаў, каб правесці яе да дзвярэй.

— *Adieu, Madame*[3].

Ён пакланіўся.

***

На вуліцы яна хутка пайшла па брукаваным тратуары да возера. Тут, на вузкай чысцюткай вулачцы, яшчэ з васемнаццатага стагоддзя знаходзілася шмат антыкварных крамаў. Занадта прыгожа, як на такі дзень. Яна спынілася перад крамай, каб палюбавацца на выдатны стол з чырвонага дрэва са скураным верхам. Швейцарскі закон. Але ж гэта адбылося ў Швейцарыі. Яны не мелі права, гэта *несправядліва*. Калі яна падумала пра справядлівасць, то міжволі амаль засмяялася. Пакупнік, што выходзіў з крамы, са здзіўленнем паглядзеў на яе.

Яна прайшла да возера, паўзіралася на вялізны фантан, што біў з яго сярэдзіны, на экскурсійныя катэры, што пад яркім сонцам павольна рухаліся да Ушы, Веве і Мантро.

Неўзабаве яна адчула голад. Апошнім часам апетыт у яе быў выдатны. Яна зірнула на гадзіннік. Час на абед. Пайшла ў лепшы рэстаран, які ведала, і замовіла стронгу. Калі ты ў чужой краіне, дык есці трэба нацыянальныя стравы. Замовіла таксама бутэльку віна, што было зроблена на поўдні возера.

Рэклама ў часопісах заклікала падарожнічаць па Еўропе. А адпачываць – у Швейцарыі.

Бясконцы дзень хмарай навіс над ёй.

Яна магла сесці на адзін з параплаваў і кінуцца ў ваду. У сваім шыкоўным строі – проста ў блакітныя воды возера. Потым, калі яе выцягнуць, яна можа, уся мокрая, зноў пайсці да чалавека ў карычневым пакоі, каб пагаманіць пра свой разумовы стан.

***

— Варвары,— гаварыў Жан-Жак.— Варварская краіна. Хаця мы, у Францыі, яшчэ большыя варвары.

Яны сядзелі на тэрасе каралеўскага павільёна Буа-дэ-Булонь з відам на возера. Дрэвы мятна-зялёнага колеру, надзвычай гарачае сонца, цюльпаны, першыя ў сезоне аматары водных прагулак на арэндаваных лодках у брудна-рудой вадзе, малады амерыканец фатаграфуе дзяўчыну, каб паказаць дома, што сапраўды быў у Буа-дэ-Булонь. Дзяўчына апранутая ў ярка-аранжавае, адзін з трох модных колераў сезона, і смяецца, дэманструючы амерыканскія зубы.

Розмары пражыла ў Парыжы тры дні, перш чым

патэлефанавала Жан-Жаку. Знайшла кавалачак паперы ў валізцы. Адрас яго канторы. Добры почырк. Пяцёрка па арфаграфіі ў пачатковай школе. Разумны маленькі хлопчык за маленькай партай. Скручаны кавалак паперы навярнуў на ўспаміны пра акуратны гатэльны нумар у гарах. Старое дрэва, пах соснаў праз адчыненае акно, востры водар сексу паміж прасцінамі. Яна хацела выкінуць паперку. Цяпер была радая, што не зрабіла гэта. Жан-Жак аказаўся досыць прыстойным чалавекам. Не па-французску. Па тэлефоне яго голас гучаў насцярожана, але была ў ім і задаволенасць. Жан-Жак запрапанаваў паабедаць. У Парыжы яго імя не было такім... банальным. У Парыжы злучок нічога не значыў.

Тры дні яна не размаўляла ні з кім з парыжскіх знаёмых. Толькі аднойчы скарыстала тэлефон. Пазваніла Берту ў Лондан. Ён паспачуваў, але нічым дапамагчы не змог. Ад'язджаў у Афіны. Афіны тады былі проста клас. Калі ў натоўпе грэкаў да яго прыйдуць якія ідэі, ён дашле тэлеграму. Не палохайся, каханне маё, штосьці ды народзіцца. Шчаслівага табе ў Парыжы, каханне маё.

Яна жыла ў гатэлі на левым беразе, а не ў тым, дзе спынялася звычайна, на вуліцы Мон-Табор, і дзе яе добра ведалі. Яна не хацела бачыць нікога, хто ведаў яе. Яна збіралася абмеркаваць усё сама з сабой. Першы крок, другі крок, трэці крок, першы крок, другі крок, трэці крок... Урэшце ёй падалося, што яе мозг варочаецца ў галаве, як на карціне поп-арта. Варонкі і квадраты, стварэнне ілюзорных формаў, якія пачыналіся і заканчваліся ў адным і тым жа пункце. Потым яна раптам адчула патрэбу пагаварыць. Неістотна ,аб чым. Яна не збіралася нічога расказваць Жан-Жаку. Які ў гэтым сэнс? Але ў рэстаране побач з яе гатэлем (прыгожая адзінокая жанчына, бутэлька "Пулі-Фуме") ён быў такі клапатлівы, так хутка здагадаўся, што нешта здарылася, быў такі прыстойны ў цёмнай пары і вузкім гальштуку, такі *добры*, што ўсё само сабой раскрылася. Яна даволі шмат смяялася, апавядаючы сваю гісторыю, з чалавека ў карычневай пары зрабіла камедыйнага героя, была смелая, шматслоўная і рашучая. Жан-Жак не запытаў: *Pourquoi toi?*[4], а сказаў: "Гэта трэба сур'ёзна абмеркаваць", завёз яе ў Буа на сваім зялёным брытанскім спартыўным аўтамабілі, якія так любяць жанчыны, на каву і брэндзі. (У ягонай канторы, напэўна, маюць чатырохгадзінны абедзенны

перапынак, падумала яна.) Седзячы там і назіраючы за маладымі людзьмі, што плылі ў лодках паўз цюльпаны, яна ўжо не так шкадавала пра той уікэнд у гарах. Магчыма, не шкадавала ўвогуле. Яна прыгадала, што ёй было нават цікава звесці яго ад усіх маладых красуняў з пругкімі целамі, што чакалі яго. Яна памятала пачуццё трыумфу, з якім зрабіла гэта, яна, старэйшая за іх, недасведчаная лыжніца сярэдняга веку, якая не ўмела хутка з'язджаць па горных схілах, як гэтыя салодкія, апетытныя дзеці. Жан-Жак пяшчотна трымаў яе руку, і яна зноў адчула ранейшую асалоду. Хаця не такую моцную, каб зноў пайсці з ім у ложак, не. Ён зразумеў яе. Французскія мужчыны вялікія прытворшчыкі, падумала яна.

Калі ён выняў партманет, каб заплаціць рахунак, яна ўбачыла там фатаграфію маладой жанчыны. Настояла, каб паказаў яе. Гэта была ягоная жонка. Прыгожая дзяўчына з шырока пасаджанымі шэрымі вачыма і шчырай усмешкай. Ён казаў, што яна не любіла горы і ненавідзела лыжы. На уікэнд ён заўсёды выязджаў адзін. То іх справа. У кожнай сям'і свае правілы. Яна, Розмары, не будзе ў іх ублытвацца. Жан-Жак сядзеў побач, трымаючы яе руку не як каханак, але як сябра, якога яна папрасіла і што бескарысліва пагадзіўся дапамагчы ёй.

— Вядома ж,— гаварыў Жан-Жак,— чаго б гэта ні каштавала, я напэўна...

— *Гэткая* дапамога мне не патрэбная,— хутка сказала яна.

— Колькі ты маеш часу?— спытаўся ён.— Я маю на ўвазе, калі табе трэба вяртацца дадому?

— Я ўжо дома.

— А Амерыка?

Яна адняла руку. Прыгадала гісторыі, што расказвалі некаторыя з яе сяброўак. Цёмныя пакоі ў сумнеўных раёнах горада, дзверы, на якіх няма ніякіх надпісаў, гатоўка, што плаціцца наперад, грубыя медсёстры, падпольныя лекары, цяжкі шлях дадому праз дзве гадзіны.

— Што заўгодна, толькі не мая салодкая радзіма,— сказала яна.

— Я крыху чуў пра гэта, — адазваўся Жан-Жак і паківаў галавой.— У якіх краінах мы жывём,— паморшчыў нос, гледзячы скрозь цюльпаны на ідыятызм нацыі.

Яна адчула, што яе мозг зноў прыпадобіўся да малюнка ў стылі поп-арт.

— На выхадныя я еду ў Швейцарыю. Веснавое катанне на лыжах, — ён вінавата пацiснуў плячыма. — Я дамовіўся некалькі тыдняў таму. Спынюся ў Цюрыху. У мяне там сябры. Паспрабую знайсці больш спагадлівага доктара.

— Псіхіятра.

— Вядома. Вярнуся ў аўторак. Можаш пачакаць?

Зноў поп-арт.

— Так.

Яшчэ тыдзень.

— На жаль, заўтра я павінен ехаць у Страсбург. Па справе. У Швейцарыю паеду адразу адтуль. Так што не змагу пабыць з табой у Парыжы.

— Не пераймайся. Я знайду, чым заняцца. Ты і так шмат зрабіў.

Дзіўна, але яна хацела хоць неяк папрасіць прабачэння за тое, як думала пра яго раней. Хаця ён пра гэта не ведаў.

Ён паглядзеў на гадзіннік.

Заўсёды надыходзіць час, падумала яна, калі мужчына, нават самы лепшы, глядзіць на гадзіннік.

***

Калі яна адчыняла дзверы, зазваніў тэлефон у пакоі.

— Гэта Элдрэд Харысан, — пачула яна ў слухаўцы мяккі голас з брытанскім акцэнтам. — Я сябра Берта, — смех. — Ён сказаў, што Вы адна ў Парыжы і я павінен прыгледзець за вамі. Вы маеце час на вячэру?

— Ну... — яна пачала рыхтаваць адмову.

— Я вячэраю з сябрамі. Невялікі хаўрус. Мы можам забраць Вас па дарозе.

Яна агледзела свой гатэльны пакой. Брудныя шпалеры, надта цёмна, каб чытаць. Пакой такі самы, як яе поп-артавы мозг. Чакаць тыдзень. Яна не магла сядзець у сваім пакоі і чакаць сем дзён.

— Гэта цудоўна, пан Харысан.

— Чакаю сустрэчы, — ён прамовіў гэта мякка і асцярожна. — А восьмай, добра?

— Я буду гатовая.

# Яны

За пяць хвілінаў да восьмай Розмары сядзела ў холе гатэля. Валасы яна зачасала назад і апранула сваю самую кепскую сукенку. Не хацела, каб на гэтым тыдні на яе хоць нехта звярнуў увагу, нават англічанін.

Роўна а восьмай у гатэль увайшла пара. Дзяўчына была маладая, са светлымі валасамі і славянскімі рысамі твару. Яна была прыгожая, крыху нязграбная, як дзіця, і крыху зашмат усміхалася. Грошай на адзенне ў яе яўна было няшмат. Жан-Жаку яна б спадабалася, але ён павёў бы яе не ў самыя вядомыя рэстараны. Мужчына быў высокі, трохі сутулы, сціплы; сіваватыя, акуратна зачэсаныя валасы, добры крой ягонае шэрае пары цалкам адпавядалі голасу, які яна пачула ў слухаўцы. Розмары працягвала сядзець ля акна, чакаючы. Мужчына гаварыў да кансьержа па-французску, і той паказаў у яе бок. Пара падышла да яе. Яны абое ўсміхаліся.

— Спадзяюся, мы не прымусілі Вас чакаць, пані Маклейн. — сказаў Харысан.

Яна паднялася, працягнула руку, усміхаючыся ў адказ. Сённяшні вечар будзе добры.

***

Выпітае можна было не лічыць. Харысан трымаўся раскладу. Віскі праз пятнаццаць хвілінаў. Для кожнага, улучна з дзяўчынай. Яе звалі Ганна. Яна была полька. Чатыры месяцы таму прыехала з Варшавы. Дакументы яе былі падазроныя. Працавала сакратаркай, бо ведала пяць моваў. Хацела ўзяць шлюб з амерыканцам, выключна з-за пашпарту, каб яе не выслалі да Варшавы. Просты шлюб па разліку — яна хацела, каб гэта было зразумела ад самога пачатку, — пасля хуткі развод і пашпарт.

Харысан нешта рабіў у брытанскай амбасадзе. Ён добразычліва ўсміхаўся да Ганны, бо тая, як падумала Розмары, брытанскі пашпарт не хацела. Ён шукаў для яе прыдатнага амерыканца. Замовіў яшчэ віскі. Падобна было, што алкаголь на яго не дзейнічае. Сядзеў упэўнена, рукі не дрыжэлі, калі запальваў цыгарэту, голас заставаўся роўны і ветлівы. Брытанская імперыя выжыла дзякуючы такім, як ён.

Яны туліліся ў невялікім цёмным бары непадалёк гатэля Розмары. Выгодная мясцінка, як сказаў Харысан. Розмары была

ўпэўненая, што Харысан у Парыжы ведае некалькі тысяч такіх выгодных мясцінак. Ён знаўся з большасцю наведвальнікаў бара. Некаторыя з іх былі англічане прыблізна ўзросту Харысана, каля сарака гадоў, некаторыя — маладыя французы. Віскі прынеслі адпаведна раскладу. Бар быццам заслала лёгкім туманам, хаця Розмары была ўпэўненая, што вочы яе ў парадку. Вячэра чакала пазней. Яны збіраліся вячэраць з маладым амерыканцам. Але Розмары ніяк не магла зразумець, дзе яны павінны сустрэць яго.

Яны гаварылі пра Берта. Пра Афіны. Ваенныя толькі што прыйшлі ў Афінах да ўлады. Берту гэта не спадабаецца. Ён знаходзіўся ў небяспецы.

— Я непакоюся за яго,— сказаў Харысан.— Яго заўсёды білі. Упэўнены, што аднойчы яго цела знойдуць у адной з гаваняў Пірэя. Дзіўны ў яго густ.

Розмары кіўнула.

— Мне таксама так падаецца. Я з ім пра гэта аднойчы гаварыла.

*Каханне маё,* сказаў Берт, *хлопец павінен рабіць тое, што робяць хлопцы.*

Ганна ўсміхнулася, каштуючы пятую шклянку віскі. Яна нагадала Розмары яе дачку, якая, п'ючы малако перад сном, усміхалася нейкаму таямнічаму жарту адзінаццацігадовае дзяўчынкі.

— Я ведала аднаго такога чалавека,— сказала Розмары.— Мастак па інтэр'ерах. Невялікі, прыемны чалавек. За пяцьдзесят. Ціхі. Зусім не падобны на Берта. Амерыканец. Яго да смерці забілі тры маракі ў бары ў Ліворна. Ніхто не мог здагадацца, што ж ён рабіў у Ліворна.

Як жа яго звалі? Яна ж ведала. *Ведала*. Сустракала яго ледзь не штотыдзень, размаўляла з ім на шматлікіх вечарынах. Ён вынайшаў крэсла, прыгадала яна. Тое, што яна не магла прыгадаць яго імя, раздражняла яе. Гэта кепскі знак. Калі чалавека, што вынайшаў крэсла і з якім ты гутарыла гадзінамі, забілі, то найменшае, што ты можаш зрабіць дзеля яго, гэта помніць яго імя. Вельмі кепскі знак.

Яшчэ раз віскі для ўсіх. Ганна зноў усміхнулася. У бары зрабілася цёмна. Розмары вельмі хацела, каб Берт не быў цяпер у Афінах. Танкі на вуліцах, каменданцкая гадзіна, людзей трымаюць пад рулямі аўтаматаў, нервовыя салдаты, якія наўрад ці зразумеюць жарты англійскага педзіка. Будзь сумнай, даражэнькая.

# Яны

Яны ішлі па мосце. Рака плыла пасярод помнікаў. Парыж – гэта Біблія ў камені. Віктор Гюго. Таксіст ледзь не збіў іх, крыкнуў: "Прыдуркі!" Голас Лютэцыі.

– Заткні пашчу, – машынальна адказаў Харысан.

Ганна ўсміхнулася.

– Вуліцы небяспечныя, — Харысан узяў яе за локаць. — Мой знаёмы француз сутыкнуўся з машынай на невялікай вулачцы непадалёк Оперы. Шафёр, як маланка, выскачыў са свайго легкавіка, ударыў яго і забіў на месцы. На вачах у жонкі. Аказалася, што ён каратыст ці штосьці ў гэтым родзе.

Ганна ўсміхнулася.

– У Варшаве горш, – сказала яна.

У Варшаве яна сядзела ў астрогу. Толькі сорак восем гадзін, але ў астрогу. Яны ўжо былі ў рэстаране, аднак зноў сядзелі пры бары, п'ючы віскі. Амерыканца ўсё яшчэ не было. Рэстаран быў маленькі, збоку ад Элізейскіх Палёў, у ім сядзелі адзінокія мужчыны, чытаючы газеты. На першай старонцы аднае з газет быў вялікі фотаздымак двух тоўстых мужчынаў сярэдняга веку, якія скіравалі адзін на аднаго рапіры. Гэтым ранкам у садзе Нёі адбылася дуэль паміж дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў. Пралілося крыху крыві. Драпіна на руцэ. Гонар быў задаволены. Францыя.

– Я тады быць толькі шаснаццаць, – казала Ганна. – Я запрошаная на вечарыну. Дыпламат з Італіі. Мяне заўсёды запрашаюць на вечарыны з замежнікамі, бо я ведаю мовы.

Ганна была дзіцём новага часу.

– Я п'ю толькі натуральныя сокі. Усе палякі арыштаваныя.

– Яшчэ тры віскі, Жан, – звярнуўся Харысан да бармэна.

– Той дыпламат вывозіць мастацкія вырабы з Польшчы, — працягвала Ганна. – Ён любіць мастацтва. Паліцыя размаўляе са мной дзесяць гадзін у невялікім пакоі ў астрогу. Яны хочуць, каб я расказала, як я дапамагаю вывозіць мастацкія вырабы і колькі мне плоцяць. Яны кажуць, што ведаюць, што я да таго ж шпіёнка. Я магу толькі плакаць. Я нічога не ведаю. Калі мяне запрашаюць на вечарыну, то я іду на вечарыну. Дзяўчына заўсёды ідзе на вечарыну, калі яе запрашаюць. Я хачу ўбачыць сваю маці, але яны кажуць, што замкнуць мяне ў астрогу і будуць трымаць, пакуль я ім не распавяду пра ўсё. А пра тое, што я тут — ніхто не даведаецца. Ніколі. Яны садзяць мяне ў камеру з дзвюма іншымі

жанчынамі. Прастытуткамі. Яны брудна лаюцца. Смяюцца, бачачы, як я плачу, але я не магу спыніцца. Яны ў астрогу ўжо тры месяцы, яны не ведаюць, калі выйдуць. Яны шалёна хочуць мужчыну. Яны кажуць, што тры месяцы без мужчыны – гэта задоўга. Са скручанай анучы яны зрабілі, – яна завагалася, шукаючы слова, – рэч, – сціпла вымавіла, – у форме мужчынскага сексу.

– Пеніс, — па-брытанску шчыра падказаў Харысан.

– Яны ўжываюць гэта адна на адной, — працягвала Ган-на. – Яны хочуць ужыць гэта на мне. Я крычу, прыходзіць вартаўнік і яны рагочуць. Яны кажуць, што праз тры месяцы я буду на каленях маліць іх даць гэта мне, — яна ўсміхалася, пацягваючы свой напой. – Наступнай ноччу мяне адпускаюць. Я не павінна нікому казаць, дзе я была. І вось цяпер я ў Парыжы і хачу пашлюбіць амерыканца і жыць у Амерыцы.

У гэты самы час у рэстаран увайшоў амерыканец. З ім быў малады, ружовашчокі бландзін-англічанін. Амерыканца звалі Кэрал. Твар яго быў доўгі, сухі і загарэлы. На ім была скураная куртка, а пад ёй – чорны швэдар. Ён быў фотарэпарцёрам і працаваў для вялікага агенцтва. Хлопец толькі што вярнуўся з В’етнама і тлумачыў сваё спазненне тым, што чакаў у канторы, пакуль зробяць фатаграфіі. Але здымкаў пакуль не было. Англічанін меў нешта агульнае з Бі-Бі-Сі і выглядаў нясмелым. Амерыканец пацалаваў Ганну пацалункам брата. Гэта не быў чалавек, які бярэ шлюб па разліку.

Зноў з’явілася віскі. Розмары пачувалася выдатна. Англічанін чырванеў кожны раз, калі лавіў на сабе яе позірк. Гэта было нашмат лепш, чымсьці сядзенне сам-насам у пакоі гатэля, пры таршэры з адкрытай кнігай.

– Астрог – гэта вельмі важны досвед, — казаў Харысан, не забываючыся на віскі. Успаміны Ганны падштурхнулі да ўспамінаў яго самога. Ён тры гады быў вязнем у японскім лагеры ваеннапалонных. – Гэта вялікае выпрабаванне характару, нават больш цяжкае, чым сама вайна.

Яны селі за стол. Смакавалі закускі. Гэты рэстаран быў знакаміты сваімі закускамі. Ім прывезлі два вялікія вазкі, пазастаўленыя талеркамі з тунцом, сардзінамі, радыскай, яйкамі пад маянэзам, сырымі грыбамі, рататуем, тузінам розных каўбасаў

і паштэтаў. Армія бяздомных магла б пражыць некалькі дзён на гэтых парыжскіх прысмаках. Малады англічанін сядзеў побач з Розмары. Калі яго калена выпадкова кранапася яе каленца пад сталом, ён палахліва прымаў нагу, быццам яе каленца было штыком. Віскі замяніла віно. "Новае Бажалэ". Пурпуровыя бутэлькі з'яўляліся і знікалі.

– У вартавых была свая гульня, — казаў Харысан. – Яны марудна палілі цыгарэты ў нас на вачах. Сто чалавек, галодных, у лахманах, кожны з якіх мог аддаць жыццё за цыгарэту. Панавала абсалютная ціша. Ніхто не рухаўся. Нашыя вочы быццам прыклейваліся да маленькага чалавека з вінтоўкай, твар якога ахутваў дым цыгарэты. Потым, спаліўшы цыгарэту да паловы, ён кідаў яе на зямлю, таптаў нагой і адыходзіў на некалькі метраў. Сто чалавек пад рогат вартаўнікоў з лямантам кідаліся на зямлю, крычучы, адпіхваючы адзін аднаго, у надзеі знайсці хаця б рэшткі тытуню.

– Чароўны Усход, – сказаў Кэрал. – Я ў В'етнаме бачыў такое...

Розмары спадзявалася, што ён не будзе кранаць дэталі. Яна з задавальненнем ела закускі, піла віно і, каб не мора віскі, выпітае да гэтага, пачувалася б самай шчаслівай у Парыжы. Кэрал аказаўся чалавекам тактоўным і не стаў гаварыць далей. Ён толькі выняў з кішэні фотаздымак і паклаў яго перад Розмары. Гэта быў фотаздымак з тых, да якіх людзі цяпер ужо прызвычаіліся. Жанчына, што выглядала гадоў на восемдзесят, уся ў чорным, сядзела ля сцяны, працягнуўшы руку па міласціну, побач тулілася амаль голае дзіця, з вачыма, як у пабітага сабакі. Стройная дзяўчына з адмысловай прычоскай і глыбокім выразам на спадніцы, праз які было відаць стройную нагу, ішла паўз жанчыну, не звяртаючы на яе ўвагі. На сцяне, што запаўняла фон здымка, хтосьці напісаў крэйдай вялікімі літарамі: “Бог быў з намі, але сышоў ён зарана”.

– Я ўзяў гэты здымак у нашага рэдактара па справах рэлігіі, — сказаў Кэрал, падліваючы сабе віна.

Ганна ўзяла фотаздымак.

– Калі б я была мужчынам, ніколі нават не глядзела б на белых жанчын, — сказала Ганна.

Яна перадала фотаздымак маладому англічаніну, які доўга вывучаў яго.

– Наколькі я ведаю, — сказаў ён, — у Кітаі больш няма жабракоў.

Малады англічанін пачырванеў, быццам сказаў нешта бруднае, і хутка паклаў фотаздымак на стол.

Элдрэд Харысан па-птушынаму схіліў галаву, каб паглядзець на здымак.

– Новае мастацтва Амерыкі. Графіці. Насценныя камунікацыі.

Ён слаба ўсміхнуўся ўласнаму жарту.

Кэрал паклаў здымак у кішэню.

– Я не бачыў жанчыны два з паловай гады, — сказаў Харысан і падсунуў да сябе біфштэкс.

Парыж, падумала Розмары, сталіца дзіўных размоў. Флабэр і ягоныя сябры. Яна пачала шукаць прычыну, па якой ёй трэба пайсці ў гатэль, не чакаючы дэсэрту. Малады англічанін падліў ёй віна, амаль поўнасцю запоўніўшы высокі бакал.

– Дзякуй, — сказала яна.

Ён, чырванеючы, адвярнуўся. У яго быў прыгожы англійскі нос, белыя вейкі, ружовыя шчокі і поўныя, як у дзяўчыны, вусны. А ў кішэні, пэўна, ляжыць "Аліса ў Краіне цудаў", падумала Розмары. Цікава, што ён зробіць, калі яна ціха скажа: *Ці хто ведае добрага лекара, каб зрабіць аборт?*

– У нашым лагеры было шмат гуркаў[5], каля дзвюх соцень, – працягваў Харысан, не адрываючыся ад біфштэксу. Сёння ўвечары мы на Далёкім Усходзе, падумала Розмары. – Цудоўныя хлопцы. Выдатныя салдаты. Японцы ўвесь час спрабавалі перацягнуць іх на свой бок. Браты па колеры скуры, эксплуатаваныя белымі імперыялістамі, і гэтак далей. Давалі ім дадатковыя пайкі, цыгарэты. Гуркі акуратна дзялілі пайкі з іншымі вязнямі. Што да цыгарэт... — Харысан патрос галавой, быццам усё яшчэ не разумеючы, што ж адбывалася дваццаць пяць гадоў таму. – Яны моўчкі бралі цыгарэты. Потым, на вачах вартаўнікоў, раздзіралі іх на дробныя кавалкі. Вартавыя смяяліся і наступнага дня давалі ім больш цыгарэт, і рытуал паўтараўся. І так было на працягу шасці месяцаў. Нечалавечая дысцыпліна. Яны былі выдатнымі салдатамі. Вакол бруд і пыл, людзі паміраюць штодня, — Харысан адпіў віна. Усе гэтыя ўспаміны толькі распалялі ягоны апетыт, далёкія нягоды быццам узмацнялі сённяшнія асалоды. – Нарэшце палкоўнік гуркаў сабраў іх і сказаў, што некалі гэта павінна

скончыцца. Проста жахліва, што японцы лічаць, быццам гуркаў можна купіць. Ён сказаў, што патрэбны ўчынак, вельмі пераканаўчы ўчынак. Наступнага дня трэба забіць японца – публічна. Гуркаў вадзілі на працу, дзе яны капалі ямы рыдлёўкамі. Палкоўнік хацеў, каб адзін з яго падначаленых навастрыў рыдлёўку, і наступнага дня адсек галаву аднаму з вартавых, — Харысан скончыў біфштэкс, адсунуў талерку і працягнуў азіяцкія ўспаміны. – Палкоўнік папытаўся ахвотнікаў. Кожны з гуркаў выступіў наперад, быццам яны былі на парадзе. Палкоўнік не вагаўся. Ён выбраў салдата, што стаяў перад ім. Той цэлую ноч вастрыў рыдлёўку вялікім каменем. Раніцой ён падышоў да вартавога, які расказваў, што трэба рабіць, і секануў па шыі. Таго гурку адразу расстралялі, яшчэ пяцідзесяці салдатам адсеклі галовы. Але японцы не раздавалі больш цыгарэтаў гуркам.

– Я рады, што быў замалады для той вайны, — сказаў Кэрал.

– Прабачце, – сказала Розмары ўстаючы, — я зараз вярнуся.

Жаночая прыбіральня была наверсе. Яна ўважліва ішла па сходах, трымаючыся за парэнчу і спрабуючы не хістацца. У прыбіральні памыла вочы халоднай вадой, што крыху аслабіла дзеянне віскі, віна і пяцідзесяці абезгалоўленых салдат. Яна вельмі акуратна падфарбавала вусны. Яе твар у люстры выглядаў на дзіва свежа. Прыемная амерыканская турыстка, якая добра бавіць час у Парыжы з людзьмі, якіх можна знайсці менавіта ў Парыжы. Калі б тут былі іншыя дзверы і яна магла б незаўважна збегчы, то пайшла б дадому.

– Армстэд, — сказала яна. – Браян Армстэд.

Так звалі дэкаратара, якога яны знайшлі мёртвым у Ліворна. Ён штодня займаўся ёгай, і аднойчы, калі яна сустрэла яго на пляжы ў Саўтгемптане, заўважыла, што ён меў цвёрдае загарэлае цела са стройнымі нагамі, а пазногці на нагах былі старанна адпаліраваныя.

У калідоры святло адключылі, і на сходах было цёмна. Розмары вельмі асцярожна спусцілася ўніз да слабога святла, што ішло з рэстарана. Калі чыясьці рука дакранулася да яе, дык яна адступілася, ускрыкнуўшы.

– Пані Маклэйн, — пачула яна шэпт. – Не палохайцеся. Я

хацеў пагаварыць з Вамі сам-насам, — гэта быў малады англічанін. Ён гаварыў хутка і нервова. – Я заўважыў, што Вы расхваляваліся.

– Зусім не, — адказала яна. І чаму яна не памятае, як яго завуць? Роберт? Ральф? Не. Сёння ўвечары яна не магла прыгадаць ніводнага імя. – Я ўжо чула аповеды былых салдатаў.

– Элдрэд не павінен расказваць такія гісторыі, —сказаў малады чалавек (Родні, яго завуць Родні). – А расказвае таму, што Вы амерыканка. Вы і гэты фатограф. Ён проста шалее праз тое, што вы, амерыканцы, робіце ў В'етнаме, яго пакой пазавешаны надзвычай жахлівымі фотаздымкамі, ён іх збірае. Праз гэта ён пасябраваў з Кэралам. Элдрэд вельмі міралюбівы чалавек і не можа нават думаць пра вайну. Аднак ён надта выхаваны, каб дыскутаваць з Вамі адкрыта,да таго ж амерыканцы яму вельмі падабаюцца, таму ён і расказвае пра тыя кашмары, праз якія прайшоў сам. Так ён хоча сказаць: *Калі ласка, не трэба больш жахаў.*

– В'етнам? – здзіўлена спытала Розмары. Яна пачувалася ніякавата, размаўляючы пра такія рэчы ў цемры, побач з жаночай прыбіральняй, з нервовым маладым чалавекам. Які, здавалася, баяўся яе. – Я нічога не раблю ў В'етнаме.

– Вядома, не, — паспешліва згадзіўся Родні. – Усё праз тое, што Вы... амерыканка. Элдрэд на самай справе выдатны чалавек. Уведаць яго і зразумець – гэта проста цуд.

Педзікі, жорстка падумала яна. І раптам Родні сказаў:

– Магу я правесці Вас дадому, пані Маклэйн? Я хачу сказаць, калі Вы захочаце пайсці.

– Я не настолькі п'яная, — з гонарам адказала Розмары.

– Вядома, не, – пагадзіўся Родні. – Прашу прабачэння, калі я сказаў нешта не тое... Вы надзвычай прыгожая жанчына, пані Маклэйн.

Ён бы не здолеў сказаць гэта, калі б гарэла святло і яна магла бачыць яго твар. *Надзвычай прыгожая*. Проста, як з кнігі Тролапа.

– Гэта вельмі шляхетна з Вашага боку, — сказала яна. Ані так, ані не. – А цяпер я думаю, што нам трэба вяртацца да стала.

– Так, — пагадзіўся Родні. Ён узяў яе руку і павёў па сходах. Яго рука дрыжэла. Англійскае выхаванне, падумала яна.

– Быў там сяржант, якога мы звалі "Брат-клюшка", —

казаў Харысан, калі яны падышлі да стала. Ён прыўстаў, пакуль Розмары сядала. Кэрал зрабіў сімвалічны амерыканскі рух, тэарэтычна ўстаючы. – Як на японца ён быў высокі, з вялікімі рукамі, моцнымі плячыма, з вугла рота заўсёды звісала цыгарэта. Называлі мы яго "Брат-клюшка", бо ён недзе знайшоў клюшку для гольфа і заўсёды насіў яе з сабой. Калі ён быў незадаволены, а гэта здаралася часта, дык біў нас клюшкай, — Харысан гаварыў так, быццам тое было для яго прыемным успамінам. – Мною ён быў незадаволены больш, чым кім іншым у лагеры. Прынамсі так здавалася, хаця сваёй клюшкай ён забіў ужо некалькі чалавек. Але то было больш-менш выпадкова. Ён проста выконваў сваю працу. А вось што да мяне... дык гэта была нянавісць да майго існавання як асобы. Калі ён мяне бачыў, усміхаўся і казаў: "Ты ўсё яшчэ жывы?" Ён крыху размаўляў па-англійску, з уласцівым для ўсіх японцаў прыемным акцэнтам. Мне здаецца, што ён пачуў, як я калісьці сказаў пра яго нешта абразлівае, яшчэ не ведаючы, што ён разумее па-англійску. А магчыма, проста я не так усміхнуўся яму. Не памятаю ўжо, колькі разоў ён біў мяне да непрытомнасці. Толькі ён ніколі не біў мяне, каб забіць. Здаецца, ён чакаў, каб я сам скончыў жыццё самагубствам. Гэта б яго задаволіла. Аднак думка, што я не дам яму падставаў для радасці, падтрымлівала мяне. Хаця, калі б вайна цягнулася на месяц або два больш, дык я, магчыма, не вытрымаў бы. Яшчэ бутэльку віна?

Харысан паклікаў апошняга афіцыянта, што застаўся ў пустым рэстаране.

– Паліцэйскія, — сказала Ганна, — аднолькавыя ўсюды.

Яна падавалася больш маладой, чым на пачатку вечара, значна больш маладой. Яе вочы былі падобныя да вачэй той дзяўчынкі на фотаздымку.

– А што сталася з сукіным сынам? – спытаў Кэрал. Ён сядзеў, апусціўшы падбароддзе на цёмную воўну швэдара так, што падавалася, быццам гэта сядзеў ягоны бюст з тонкага масенжу. – Гэта вядома?

– Мне вядома, — абыякава сказаў Харысан. – Але гэта неістотна. Пані Маклэйн, Вы, напэўна, страшэнна знудзіліся гэтымі ўспамінамі. Я зашмат выпіў. Упэўнены, што Вы прыехалі ў Парыж не дзеля таго, каб пачуць пра вайну, якая адбывалася так даўно, што ў той час Вы былі яшчэ маленькай дзяўчынкай, якая вучылася

чытаць. Калі Берт даведаецца пра гэты вечар, ён разззлуецца на мяне.

*Калі б ты толькі ведаў, па што я прыехала ў Парыж, браце,* падумала Розмары. Яна адчувала, што Родні глядзеў на яе амаль з мальбой.

– Я б хацела ведаць, што з ім здарылася, — сказала яна.

Яна пачула, як Родні голасна выдыхнуў. З палёгкай, падумала яна. Я прайшла выпрабаванне.

– Японцы на дзіва спакойна ставяцца да смерці, — сказаў Харысан, разліваючы па бакалах апошнюю бутэльку віна. Яго голас гучаў абсалютна спакойна, без эмоцый. – Як толькі вайна скончылася, з нашае арміі прыбыла каманда, каб арыштаваць ваенных злачынцаў. Сярод вартавых была група людзей, вельмі падобная да нямецкага СС. Яны катавалі, дапытвалі і расстрэльвалі. Каля дваццаці з іх усё яшчэ былі ў лагеры, і калі брытанская каманда з'явілася, усе яны стаялі перад штабам у параднай форме. Ніхто не паспеў слова вымавіць, як яны ўкленчылі, схілілі галовы, і іх камандзір сказаў на кепскай англійскай мове брытанскаму маёру, які камандаваў спецкамандай: "Сэр, мы ваенныя злачынцы. Просім, каб нас неадкладна забілі".

Харысан паківаў галавой здзіўлена, але з павагай.

– А сяржанта Вы яшчэ бачылі? – спытаў Кэрал.

– "Брата-клюшку"? Так. Праз некалькі дзён пасля вызвалення лагера. Калі мяне выпісалі са шпіталя, я важыў усяго пяцьдзесят кілаграмаў. На пачатку вайны я важыў восемдзесят. Тады я быў малады. Мяне выклікалі ў офіс каменданта лагера. Там быў маёр, што ўзначальваў каманду па пошуку ваенных злачынцаў. Яго звалі Элсварт. Спакойны, разважлівы чалавек. Яго прыслалі з Паўночнай Афрыкі, калі там усё скончылася. Ён зведаў шмат баёў. Я ніколі не бачыў, каб ён усміхаўся. Перад ягоным сталом стаяў "Брат-клюшка". А за сталом Элсварта стаяла клюшка для гольфа.

Розмары заўважыла, што ёй становіцца горача. Яна адчувала, як на яе горле выступае пот.

– "Брат-клюшка" выглядаў звычайна. Вось толькі цыгарэты ў роце не было. І гэта зрабіла яго зусім іншым. Гэта пазбавіла яго ўлады. Мы зірнулі адзін на аднаго, і больш нашыя вочы не сустракаліся. Ён зрабіў выгляд, што не ведае мяне, а я... шчыра

кажучы, сам не магу гэтага зразумець, мне зрабілася... сорамна. Пасля некалькіх гадоў у стане палоннага... усё гэта выглядала для мяне неяк няправільна. Чалавек прызвычайваецца да пэўных нормаў, і калі правілы раптам мяняюцца... — Харысан пацiснуў плячыма. – Элсварт адразу перайшоў да справы. "Я чуў пра гэтага хлопца, – сказаў ён, — і пра тое, што ён рабіў з табой гэтай клюшкай". Ён узяў клюшку і паклаў на стол перад "Братам-клюшкай". "Брат-клюшка" паглядзеў на яе, і штосьці прамільгнула ў яго вачах, я і цяпер не магу зразумець, што? "Ну, – сказаў Элсварт, — клюшка твая". Ён пасунуў клюшку да мяне. "Ён твой". Але я не ўзяў клюшкі. "Нашто ты чакаеш?" – спытаў Элсварт. "Баюся, я не разумею, сэр", – адказаў я. І я гаварыў праўду. Я і сапраўды не разумеў. Тут Элсварт пачаў лаяцца. Я ніколі не бачыў, каб чалавек так злаваўся. "Прэч з маіх вачэй. Такіх, як ты, замнога. Ты скарыўся. Была б мая воля, ты ніколі б не змог вярнуцца ў Брытанію. Вы ўсе назаўсёды застанецеся палоннымі. У вас, сук, смеласць палонных". Прабачце, пані Маклейн, – Харысан звярнуўся да Розмары. – Раней я ніколі не расказваў пра гэты выпадак, і мой унутраны цэнзар не спрацаваў.

– І чым усё скончылася? – спытала Розмары, не звяртаючы ўвагі на прабачэнні.

– Элсварт мяне больш не бачыў. Я яго – таксама. На шчасце для мяне. Яго пагарда была нязносная. Думаю, што "Брата-клюшку" расстралялі, — ён зірнуў на гадзіннік. – Робіцца позна.

Харысан папрасіў рахунак.

Кэрал нахіліўся над залітым віном абрусам у бок Харысана:

– Хацеў бы я быць упэўнены, што ў падобнай сітуацыі паступіў бы гэтак жа, як Вы.

– Праўда? – Харысан быў крыху здзіўлены. – Я ўсё яшчэ думаю, ці не меў Элсварт рацыі. Я мог бы быць цяпер зусім іншым чалавекам.

– Я б не хацела, каб Вы былі іншым, — мякка сказала Ганна.

Харысан пяшчотна паляпаў яе па руцэ.

– Вы вельмі добрая дзяўчына, мая Ганна, — сказаў ён. – Магчыма, гэта не мела ніякага значэння. У тым стане мне спатрэбілася б некалькі тыдняў, каб яго забіць, — Харысан заплаціў, і яны пайшлі. – Магу я прапанаваць вам яшчэ па кілішку?

Я паабяцаў знаёмым, што сустрэну іх на вакзале Сэн-Жэрмэн-дэ-Прэ.

– Мне трэба вяртацца ў офіс, — сказаў Кэрал. – Мне паабяцалі зрабіць здымкі да паўночы.

– Для мяне ўжо позна, — адмовіла Розмары. – У мяне заўтра шалёны дзень.

Святло ў рэстаране згасла, як толькі яны выйшлі. Дзьмуў вецер, і на вуліцы было цёмна.

– Добра, — сказаў Харысан. – Тады мы праводзім пані Маклэйн дадому.

– У гэтым няма патрэбы, — адказала Розмары.

– Я ўжо прапанаваў пані Розмары сваю дапамогу, Элдрэд, — нясмела падаў голас Родні.

– А, тады Вы ў добрых руках. Родні ўжо не адзін год у Парыжы, — сказаў Харысан. Ён пацалаваў руку Розмары.– Мне вельмі спадабаўся сённяшні вечар, пані Маклэйн. Спадзяюся, што Вы дазволіце патэлефанаваць Вам зноў. Трэба напісаць ліст да Берта і падзякаваць яму.

Яны развіталіся. Розмары сказала, што хоча крыху прайсці пешкі, каб праветрыцца, а Кэрал, Харысан і Ганна разам узялі таксі, бо офіс Кэрала быў па дарозе на вакзал. Таксі ад'ехала па вуліцы ў цішыню. Розмары дазволіла Родні ўзяць яе за руку, і яны моўчкі пайшлі да Элізейскіх Палёў.

Халодны вецер сцебануў Розмары, і ад шыі пабеглі лёгкія дрыжыкі, якія асягнулі ўвесь Парыж. Яна мацней ухапілася за руку Родні.

– А чаму б нам, — пачаў ён, — не ўзяць таксі і...

– Ш-ш-ш, — перапыніла яна.

Розмары спынілася і пацалавала яго на апошніх дзесяці метрах цемры перад святлом бульвара. Каб дрыжыкі не пайшлі задалёка. Ягоны рот смакаваў, як свежы вінаград. Цалуючы яе, ён дрыжэў. Ягоны твар быў вельмі цёплы ў халодным веснавым, начным ветры.

Яна адхілілася, але марудна.

– Ш-ш-ш, — зноў сказала яна, хаця ён маўчаў.

Яны ішлі па Элізейскіх Палях. Людзі выходзілі з кінатэатра. На вялізным плакаце над уваходам гіганцкая дзяўчына ў начной кашулі скіравала пісталет памерам з гармату на пятнаццаціметровага мужчыну ў смокінгу. Шлюхі павольі ездзілі парамі ў спартыўных

аўтамабілях, шукаючы кліентаў. Калі б яна была мужчынам, дык пакаштавала б гэтае забавы. Хаця б раз. Цела Парыжа, што ляжыць на іншым целе Парыжа. Мужчына і Жанчына, якіх стварыў Ён. У гэты самы момант, у незлічоных ложках горада, колькі іх ляжала ў абдымках, забыўшыся на ўвесь свет? Харысан, з комплексам палоннага, забыўшыся на Азію на цёплым вабным целе дзяўчыны з варшаўскага астрога? Кэрал з адной з прыгожых фотамадэляў, якіх ён фатаграфаваў, калі не рабіў здымкаў вайны? Бог быў з намі, але сышоў ён зарана і стаіць цяпер пры каміне, каб лепей бачыць тое, што робіцца?

Жан-Жак, са сваім моцным целам трэнера, ляжыць у вялікім шлюбным ложку непадалёк Авеню-Фош з шыракавокай жонкай (якая не любіць лыжы), маючы ў рэзерве дзяўчыну ў Страсбургу і яшчэ адну – на выхадныя ў гарах, да якой ён едзе праз Цюрых, дзе шукае спагадлівага псіхіятра?

Розныя выкарыстанні цела. Для ласкі, катавання, абезгалоўлення, удару каратэ на гарадской вуліцы, для начыння з анучы, што задаволіць сексуальныя прагненні ў варшаўскім астрогу. Для кахання і агіды. Для пратэсту і знішчэння. Для сперматазоіда ў матцы, які зробіцца новым целам. (Хлопец робіць тое, што павінен, даражэнькая.) Ляжаць, як Амстэд, мёртвым у Ліворна з паліраванымі пазногцямі і стройнымі нагамі. Ператварыцца ў Берта з грэчаскім матросам у неспакойных Афінах, стаяць ля адчыненага агню з відам на Парфенон. Ці плысці тварам уніз у масляных водах Пірэйскай затокі. Свежы вінаградны пацалунак маладога англічаніна.

Два поўныя, вычварна апранутыя мужчыны сярэдняга веку выйшлі з кавярні. Яны абмяркоўвалі банкаўскія стаўкі. Магчыма, заўтра яны паўстануць адзін супраць аднаго з рапірамі ў руках, каб запатрабаваць крыві за абражаны гонар, а фатографы будуць з іх рабіць здымкі для газетаў.

Паўз іх прайшоў мужчына ў цюрбане. Гурка з рыдлёўкай, навостранай як нож, каб адпомсціць за знявагу. Насілле, схаванае пад дзіўнай вопраткай, ідзе за намі. Розмары здрыганулася.

– Ты замерзла, – сказаў Родні, і яны спынілі таксі. Яна прыціснулася да яго як мага мацней. Расшпіліла ягоную кашулю і паклала руку на грудзі. Скура была мяккая і без валасоў; цела без шнараў, якое ніколі не ведала ваеннай формы, астрогаў, блізкай смерці. Мяккая светлая англійская скура, мяккія добрыя рукі.

– Не хачу сёння ноччу быць адна, — прашаптала яна ў цемры таксоўкі.

Мяккі, няўпэўнены, незнаёмы, непатрабавальны пацалунак. Жарсці парыжскай ночы, пакуты мінулага, раскоша заўтрашняга дня – усё цяпер выглядала ўтульным і лагодным. Нават калі б яна і не прыгадала ягонае імя, дык і так усё было б добра.

Яны разам падняліся да яе пакоя. Начны парцье нават не падняў вачэй, падаючы ключ. Калі яны распраналіся, дык не запальвалі святла. А ў ложку выявілася, што ён зусім не хацеў з ёй кахацца. Ён проста жадаў адшлёпаць яе. Яна з цяжкасцю стрымала смех. Дазволіла яму зрабіць усё, што ён хацеў. Чаму яе трэба ашчаджаць?

Калі ён сыходзіў, бліжэй да ранку, дык пацалаваў яе, мякка, як і дагэтуль, і спытаў, ці могуць яны паабедаць разам. Як толькі ён выйшаў, яна запаліла святло і ў ваннай змыла касметыку. Гледзячы ў люстра, яна пачала хрыпла смяяцца і доўга не магла спыніцца.

**Пераклаў з англійскай**
**Алесь КУДРАЎЦАЎ.**

## Замест пасляслоўя

Вядомы амерыканскі пісьменнік Ірвін Шоў, сапраўднае імя якога Ірвін Шамфараў (1913–1984), нарадзіўся ў Нью-Ёрку ў сям'і габрэйскіх эмігрантаў з Расіі. Кар'еру пісьменніка Шоў пачаў ва ўзросце 21 года, калі пісаў сцэнарыі для радыё, адаптаваўшы, між іншым, знакамітыя коміксы аб Дзіку Трэйсі. Шоў заваяваў вядомасць сваімі п'есамі, апавяданнямі і раманамі. Галоўнымі праблемамі ягоных твораў з'яўляюцца ўплыў вайны на чалавека, кошты асабістых амбіцый і сацыяльных пераменаў. Разам з іншымі пісьменнікамі свайго пакалення ён пачаў пісьменніцкую кар'еру з аналізу маральных жахаў фашызму і фанатызму. Пазней ён ужо менш увагі надаваў сацыяльнай праблематыцы, а больш — барацьбе за грошы, уладу і ўласную кар'еру ў амерыканскім грамадстве.

Шоў нарадзіўся ў Нью-Йорку. У 1934 годзе скончыў Бруклінскі каледж. Першы ганарар ён зарабіў, пішучы радыё-серыялы. Вядомасць да Шоў прыйшла у 1936 годзе, пасля п'есы "Пахаваць мёртвых" *(Bury the Dead),* у якой забітыя салдаты

ўзнімаюцца з магілаў, каб звярнуцца да жывых з заклікам супраць вайны.

Нягледзячы на свае пацыфісцкія погляды, Шоў добраахвотна пайшоў у армію падчас Другой сусветнай вайны. Вайсковы досвед прыдаўся яму пры напісанні першага рамана "Маладыя львы" (*Young Lions*, 1948), які адразу зрабіўся бестсэлерам.

Наступны раман, у якім апісваліся часы макартызму, быў апошнім сацыяльным творам пісьменніка (*The Troubled Air*, 1951). Пасля гэтага Шоў напісаў "Вечар у Візантыі" *(Evening in Byzantium)*. Але найбольшую папулярнасць яму прынёс раман "Багач, жабрак" (*Rich Man, Poor Man, 1970*) – сямейная хроніка пасляваенных гадоў, якая апісвае амерыканскі нацыянальны характар на фоне палітычных падзеяў. Раман гэты, як і ягоны працяг "Жабрак, злодзей" (*Beggarman, Thief*, 1977) былі перакладзеныя на некалькі дзесяткаў моваў і экранізаваныя ў некалькіх краінах.

Шоў атрымаў некалькі прэстыжных узнагарод: двойчы прэмію О'Генры (1944 і 1945), грант Нацыянальнага літаратурнага інстытута (1946), прэмію "Плэйбоя" (1964, 1970, 1979). З 1951 па 1976 год Шоў жыў у Францыі, а з 1976 па 1984 – то ў Саутгемптане, то ў Клостэрсе, Швейцарыя. 16 мая 1984 года Шоў памёр у Швейцарыі, у Давосе.

Пра сябе Ірвін Шоў аднойчы сказаў: "Мне карціць, калі крытыкі называюць мяне майстрам папулярных раманаў. А што такое непапулярны раман?"

**Алесь КУДРАЎЦАЎ**

---

[1] **Pourquoi moi, Madame? Pourquoi pas quelqu'un d'autre?** *(фр.)* – Чаму я, мадам? Чаму не хто іншы? *(заўв. перакл.)*.

[2] **Donc, Madame, vous parlez français? — Mal, très mal** *(фр.)*. – Дык Вы, мадам, размаўляеце па-французску? – Трохі, зусім трохі *(заўв. перакл.)*.

[3] **Adieu, Madame** *(фр.)*. – Да пабачэння, мадам *(заўв. перакл.)*.

[4] **Pourquoi moi?** – Чаму я? *(фр., заўв. перакл.)*.

[5] **Гуркі** – невялікая народнасць Непала, прадстаўнікі якой традыцыйна служаць у якасці спецыяльнай каралеўскай гвардыі ў Вялікабрытаніі *(заўв. перакл.)*.



# Алена Анёла

Калі я адводжу позірк,
Калі апускаю вочы,
Калі не гляджу ўлюбёна,
Калі размаўляю з іншым –
Гэта нічога не значыць.
Ты ж не можаш убачыць,
Як дробна дрыжаць мае вусны,
Спакою не ведаюць рукі,
Пяшчотай заходзяцца вочы,
Як прагне цябе маё сэрца...

***

І самыя страшныя словы – не мой…
Душу раздзіраю, каб болю напіцца,
Каб сэрцам адчуць немагчымы спакой,
Пра гэтыя мройныя вочы забыцца,

Рвануцца ў блакіт з ціхім подыхам – жыць!
І вочы згубіць, каб нікога не снілі,
І проста ў цябе запытацца: скажы,
Табе не баліць гэтак, мілы?

***

О, пяшчоты халоднае дотык –
Ты, распешчаных вуснаў няволя.
Ды ўсё роўна шапчу сабе ўпотай:
Я тваёю не буду ніколі!

Утрымаць мяне – цяжкая справа –
Не для рук тваіх, не для вуснаў.
Я – мяжа паміж марай і явай –
Не ўпільнуеш, мой вораг спакусны.

Апякуць праз прыкрытыя вейкі
Мае вочы, без страху і болю…
Гэта ты маім будзеш навекі –
Я ж тваёю не буду ніколі!

***

Калі ж як-небудзь я стану тваёю
(Імгненне, не больш, я табе падарую),–
Я сон адпушчу, і зраблюся былою,
І кожную мару – табе ахвярую,

І сэрца ўспыхне ад дотыку толькі,
І ціха апусцяцца гордыя плечы…

Я ў гэта імгненне аддам табе столькі,
Чаго ў мяне іншы не возьме за ВЕЧНАСЦЬ.

# БАЛТЫКА

У пацалунку з морам зліліся нябёсы,
Ціха злуецца бурлівы, раўнівы прыбой...
Балтыка, мора! Дзяўчынкай,
натхнёнай і босай,
Я прыбягаю штовечар спаткацца з табой.

І, назбіраўшы паўнюткія прыгаршчы зорак,
Іх аддаю я тваёй цемнахвальнай красе,
Каб у глыбінях таемных бязмежнага мора
Сталі празрыстым бурштынам яны пакрысе.

Вецер кранае мне вусны марской прахалодай,
Ціха змываючы след пацалункаў былых...
Балтыка, казка! Дай мне крышталік свабоды,
Іх жа так многа – у цёмных далонях тваіх.

***

Мой светлы лёс! Чым ты мне свеціш?
І што за ніць жыццё снуе?
Блукаю, як прамень, па свеце,
І вецер твар цалуе мне.
Чакаю кожны дзень – імгненняў.
Хачу пражыць жыццё за раз.
І ў сінім віры летуценняў
Ляціць мой незабыўны час.
Аддаючы душу світанням,
Іду адна ў вялізны свет.
І як кахання прадказанне –
Між бровамі
Радзімкі след.



# Васіль Ткачоў

**ДРЭВА:** *Я, калі людзі паблізу, маўчу, бо можна выдаць сябе. Тады дакладна знішчаць. За язык. Хоць іншы раз, прызнаюся, ледзьве стрымліваюся... і тады хочацца вылузнуцца з зямлі ды так прытупнуць, каб усё ажно затрэслася наўкола, маць вашу!..*

Васіль ТКАЧОЎ

# ДРЭВА, альбо Жыццё ў адсутнасць дажджу

*(П'еса ў дзвюх дзеях)*

**ДЗЕЙНІЧАЮЦЬ:**

ДРЭВА.
БАРАДАТЫ.
ЖОНКА *(Барадатага).*
ЛЫСЫ.
ЛЯСНІК.
БОМЖ.
НАСЦЯ.
ШУГАЛЕЙ.

*Нашы дні. Каля Дрэва.*

ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

*Сонечны дзень. Лета. Крыху паводдаль вёскі стаіць магутнае Дрэва – дуб. Побач з ім – шмат пнёў. Да Дрэва падыходзяць Барадаты і Лысы. З пілой і торбачкай. Пахадзілі каля яго, падзівіліся, потым Барадаты, нечым узрушаны, роспачна ўдарыў па Дрэве нагой. Не разлічыў удар – баліць.*

БАРАДАТЫ *(схапіўся за нагу)*. Ні фіга сабе!

*Лысы зайшоў за Дрэва. Добра відаць, як ён спраўляе патрэбу.*

Ён што, Ляснік, зусім здурнеў? Ты паглядзі, паглядзі, Лысы!..

ЛЫСЫ (*падыходзіць*). Ну, бачу.

БАРАДАТЫ. Ды хіба ж гэтай пілой такі дуб спілуеш? Ухандохаешся. Яго і бензапілой не возьмеш так адразу... паўдня будзеш валтузіцца.

ЛЫСЫ. Ну, бачу.

БАРАДАТЫ (*злуецца*). Што ты бачыш?! Што ты бачыш?! Ды ні чарта ты не бачыш, акрамя!..

ЛЫСЫ (*ходзіць вакол Дрэва*). А колькі ж гэтаму дубу гадкоў? Няйначай, трыста?

БАРАДАТЫ. Гаварыў жа табе: не прапівай ланцуг ад пілы. Спатрэбіцца. У лесе ж працуем, не дзе-небудзь. А ты?!..

ЛЫСЫ. Ну што я магу парабіць, ну што? Шарабан расколваецца. На дзве часткі. Калі не на ўсе адразу... Нявыкрутка. Хоць здыхай. Сам жа ведаеш... Пачакай, а на якога д'ябла яго пілаваць, дрэва гэтае? Стаяла, стаіць і няхай стаіць. Тут калі і заваліцца, то бяды не наробіць. Ні людзей паблізу, ні хат... Вунь яны, хаты.

БАРАДАТЫ. А яно будзе падаць, як луста, намазаная маслам. І якраз нехта будзе стаяць пад ім... альбо праходзіць. Закон падлянкі.

ЛЫСЫ. Нас тады ўжо не будзе тут. Моцнае дрэва, між іншым. Моцнае-е! Доўга прастаіць.

БАРАДАТЫ. Як жа яно прастаіць, калі нам трэба яго спілаваць?! Загад у нас. Нарад.

ЛЫСЫ. Спярша трэба паабедаць. (*Паказаў на торбачку.*) Тут ланцуг ад пілы...

БАРАДАТЫ (*крыху павагаўшыся*). Угаварыў.

ЛЫСЫ. Паважаю разумных людзей. А то я падумаў спярша, што ты на дыбкі зараз станеш, яршыцца пачнеш, будзеш прымушаць мяне зноў ланцуг мяняць на бутэльку... ці наадварот. А ты – малайчына! Ты — свой у дошку! За што і паважаю.

БАРАДАТЫ. Ды што з табой ужо паробіш? Налівай!

ЛЫСЫ. Ага. Толькі трэба схавацца. Мы ж на рабоце. На рабочым месцы, сам распісаўся ў нейкай паперцы, не п'ём...

*Знікаюць.*

ДРЭВА (*незадаволена*). Фу-у! Набрундзіў – не прадыхнуць. Каб яму затлуміла. І кожны, і кожны, каму прыспіча, – лье, лье, лье... Цьфу! Задыхнуцца можна. Такім прытарным пахне, што

ажно млосна робіцца. Шапка кружыцца... Прытрымайце, харошыя мае, а то ўпаду... завалюся на бок... Фу-у! Усе карані мае сытыя ўжо гэтым напоем... Як малады быў, дык аблізваўся – дужа спадабалася... а цяпер і наеўся, і напіўся. І што яны такое ядуць, людзі? Што яны п'юць, бязбожнікі?! *(Здрыгануўся.)* Бр-р-р! Бач, зноў мяне пілаваць прыйшлі. Ды не, гэтыя не спілуюць. Я ж па іх бачу, што за работнічкі... Яшчэ пажыву. Дзякуй п'яніцам. Дзякуй нашым людзям, нашай краіне. Каб дзе ў Францыі жыў ці ў Амерыцы, то даўно б спілавалі, мусіць, і ў агні згарэў бы... а мо дзвярыма якімі стаў... і ўсе нагой мяне піхалі б, як пляшывага ката. Калі б яшчэ з мяне аконную раму зрабілі, то куды б было нішто.... хоць дзівіцца можна было б, што на вуліцы ці двары робіцца. Атрымалася б, як той казаў некалі каля мяне: ты з'яўляешся ўсюды, быццам гуляеш у некалькіх экземплярах. Э-ха-ха-ха-ха, жыццё маё драўлянае! Разгаварыўся. Стары я, гнілы... Нічога з мяне ўжо не зробіш... Гэта яны гарэлкай вочы пазалівалі, то нічога не бачаць далей свайго носа. Але добра, што і так жыву... далекавата ад людзей, праўда... Але прывык...

Бацькі мае ведалі, дзе жолуд кінуць. Дзякуй ім. Багата і жыву. Сустракаліся, праўда, і раней лаўкачы, якія на мяне зуб вастрылі. Шведы, помніцца, хацелі на дровы ссячы... Я тады, можна сказаць, хлапчанём быў, смаркачом... Як сякеру швед занёс, ажно здрыгануўся... І раптам недзе вухнула... ажно зямля застагнала... сякера вывалілася з рук супастата... і ён яшчэ доўга ляжаў тут, пакуль ваўкі яго не зжэрлі... А тады немцы... тых багата прыперлася, каля мяне расселіся і давай чымергес піць... Я ўжо пажыў на свеце, розных людзей пабачыў, то сказаць павінен: дужа страшныя былі яны... Як уратаваўся ад іх, якім цудам — і сам не ведаю... Ёсць, мусіць, Бог на свеце. Ёсць. *(Перахрысціўся.)* Пабачыў... І нацярпеўся, і нарадаваўся, усяго было... Цёплая зямля... мяккая... Ці не хмары гэта збіраюцца? Дождж, відаць, будзе. *(Пазяхае.)* Калі ён цярэбіць па маім лісці, тады мне спіцца хораша. *(Углядаецца.)* П'юць? П'юць. Тады спаць можна спакойна. І жыць... Пакімару трошкі. Прыкарну.

*Зацямненне.*

*Непадалёк ад Дрэва стаяць на пнях Барадаты і Лысы. Напоўнілі шклянкі.*

БАРАДАТЫ. За што?

# У нас

ЛЫСЫ. Каб было за што, я б мора выпіў... Пачакай! Давай за дрэва. Га?

БАРАДАТЫ. Не разумею. А яно прычым?

ЛЫСЫ. Каб яго хто іншы спілаваў.

БАРАДАТЫ. Прымаецца!

*Выпілі.*

ЛЫСЫ. Слухай, Барадаты...

БАРАДАТЫ. Барадаты слухае.

ЛЫСЫ. А навошта пнёў столькі? Адкуль?

БАРАДАТЫ. Дзе?

ЛЫСЫ. У нас. Вунь. Ты глянь, глянь толькі – куды вокам ні кінь, усюды – пні. І высокія, і маленькія...

БАРАДАТЫ. Так, так. І тоўсценькія, і худзенькія...

ЛЫСЫ. А... навошта?

БАРАДАТЫ. Тут нешта, Лысы, не так. (*Прыўзняўся.*) Дураць нас. Дурацы!

ЛЫСЫ. Нас? Дурацы? Дурацы... нас? Мяне? Цябе? Нас? Быць не можа! Хіба ж ёсць яшчэ людзі, якія могуць нават дурыць іншых? У якіх хапае на гэта?.. (*Пастукаў пальцам каля скроні.*) Калі так, то не ўсё і страчана. Будзе жыць нацыя. Будзе!

БАРАДАТЫ (*задумліва*). Адно дрэва сярод пнёў стаіць, і тое прымушаюць спілаваць. І, відаць, самае лепшае дрэва. Каб яно было дзярмом, на яго б ніхто не глянуў. Камусьці ж так трэба?

ЛЫСЫ. Каму?

БАРАДАТЫ. Лесніку нашаму? Прэзідэнту?

ЛЫСЫ (*боўтае галавой*). Нешта я нічога не разумею.

БАРАДАТЫ. Думай! Думай!

ЛЫСЫ. І так ужо валасоў на галаве няма. Футбольны мяч. Хай іншыя думаюць. Мая справа — пілаваць, для чаго, каму... гэта мяне мала, дарэчы, цікавіць.

БАРАДАТЫ. Значыць, валасы правільна ўцяклі. Няма чаго ім рабіць на дурной галаве.

ЛЫСЫ. Я табе зайздрошчу...

БАРАДАТЫ. Вунь яны, вунь... пні... усюды пні...

ЛЫСЫ. Бачу. Не сляпы.

БАРАДАТЫ. Пні і пні... як пяску ў Сахары...

ЛЫСЫ. Бачу... Навошта далёка хадзіць? Як у Каракумах...

БАРАДАТЫ. Пні і пні...

ЛЫСЫ (*гучна).* Ды бачу-у-у-у! Што я, у лесе жыву?

БАРАДАТЫ. А можа нам дваіцца, траіцца? (*Шукае вачыма падтрымкі ў Лысага, але той не рэагуе.)*

*Зацямненне.*

*З'яўляецца Ляснік.*

ЛЯСНІК. А дзе яны, мае барадатыя-лысыя? Вось і адпусці іх адных. (*Кліча.)* Лысы! Барадаты-ы! (*Вытрымаўшы паўзу.)* Нягоднікі! Мярзотнікі! Міраеды!.. Сарвуць адказнае заданне. Сарвуць, абібокі. Спляжаць дагавор. І не абы-які – міжнародны! Між-на-род-ны-ы! (*Паляпаў па Дрэве.)* Гэта не дрэва – жывая валюта! Ва-лю-та! Гучыць,а? Ха-ха-ха-ха-а! Ведай нашых! (*Успомніў.)* Ну дык дзе яны, алкаголікі-абібокі-трутні? Не відаць. Няма. Ох і дастукаюцца, дастукаюцца ў мяне!.. (*Знікае.)*

ДРЭВА. Ай-яй-яй-яй! Век, кажуць, расці, век вучыся, а дурнем памрэш. Ай-яй-яй-яй! Дык вось што яны задумалі, нехрысці? Ну, калі за даляры, то і спілуюць. Рана, выходзіць, я радаваўся. Паспяшаўся. Тады б лепш мяне там пасадзілі бацькі – за мяжой. Яны, капіталісты, не дурні: свае дрэвы берагуць, а нашы знішчаюць, аказваецца. Так што, стары дурань, трымай язык за зубамі, а то накаркаеш. Затаюся. Заціхну. Пагляджу, што далей будзе... Вунь, вунь яны ідуць... барадатыя-лысыя...

*З'яўляюцца Барадаты і Лысы.*

БАРАДАТЫ. Няхай, няхай пашукае нас Ляснік. Яму карысна.

ЛЫСЫ. Лес вялікі – хрэн знойдзе. Ён, канечне, будзе каля гэтага дрэва круціцца... нас пільнаваць.

БАРАДАТЫ. Прыдумаем, што сказаць. Не прывыкаць. Заводзь!

ЛЫСЫ. Ага. (*Заводзіць бензапілу, але яна не падае адзнак жыцця.*) Чорт, га!

БАРАДАТЫ. Не фурыча? Не жадае?

ЛЫСЫ. Нешта не хоча.

БАРАДАТЫ. Дай-тка я.

ЛЫСЫ. На ты.

БАРАДАТЫ (*спрабуе завесці,але і ў яго вынік той жа*). А бензін... Бензін — нармальны? У каго браў?

ЛЫСЫ. Я што, яго сам раблю?

БАРАДАТЫ. Мо і бензін прапіў, а вады напузырыў? Вада ж бясплатная.

ЛЫСЫ (*пакрыўджана*). Не, ну ты знай меру!

БАРАДАТЫ. Каб жа... Шморгнуць сто грамаў — не за стоп-кран ірвануць: не спынішся. Не фурыча.

ЛЫСЫ. Толькі дарэмна ланцуг куплялі, падла!

БАРАДАТЫ. Д... думай!

ЛЫСЫ. Сам думай. Дзе бутэльку ўзяць – я думай, як гэтае дрэва спілаваць – я! Усё я! Каб цешчу меў, то мне б, дакладна, на карак уссадзіў. (*Агрэсіўна.*) Ды надакучыла мне ўсё! Надакучыла! (*Знікае.*)

БАРАДАТЫ. А хто ж думаць павінен? Я? (*Бярэ бензапілу, знікае.*)

ДРЭВА. Не спіцца. Ды і хіба ж заснеш у наш век? Добра ўжо, што хоць паблізу не страляюць... з неба не падае нічога, акрамя дажджу і снегу. Але мітусяцца перад вачыма ў мяне адны і тыя ж морды. Адны і тыя ж... І перагарам прэ. Фу-у! Атрупянець можна. Нехта ўвесь час абавязкова хаваецца за мяне, а другі, як правіла, яго шукае... І, бывае, застае на месцы злачынства з прыладамі працы — бутэлькамі, шклянкамі, і абавязкова чамусьці з цыбулінай. Цяпер, праўда, парожнія бутэлькі не пакідаюць — з сабой забіраюць. А раней жа!.. Горы іх, горы!.. Падаражэлі, мусіць. Не чуў, казаць не буду. Колькі жыву, адна ў людзей праблема — выпіць... І чамусьці ўсе хочуць выпіць у рабочы час, удзень. Я думаў пра гэта... і дапяў сваёй старой кронай, што к таму часу, калі заканчваецца рабочы дзень, няма каму піць: усе п'яныя. (*Вытрымаўшы паўзу.*) Нехта ідзе... памаўчу. Я, калі людзі паблізу, маўчу, як рыба, бо можна выдаць сябе. Тады дакладна знішчаць. За язык. Хоць іншы раз, прызнаюся, ледзьве стрымліваюся... і тады хочацца вылузнуцца з зямлі ды так прытупнуць, каб усё ажно затрэслася наўкола, маць вашу!.. (*Спахапіўшыся.*) Цыц! (*Знікае.*)

*З'яўляецца Бомж.*

БОМЖ (*вытрасае з торбы ўсе свае рэчы: сандалет, парожнюю бутэльку, сарочку, кавалак хлеба. Злосна*). Маць іх так, людзей!.. Нічога не ахвяруюць,а красці не ўмею. Каб краў, даўно б на "мерседэсе" ездзіў і ў асабняку жыў. Як тады. (*Грызе хлеб.*) Леташні, ці што? Апошнія зубы паламаеш... Чаму мяне

матка, трэба было б спытаць, калі жыла... не нарадзіла якой жывёлай дзікай? Ці лепш свойскай? Спаў бы разам з гаспадаром на адным ложку. І з гаспадыняй таксама... Як тады! Эх! (*Паклаў пад галаву свае рэчы, лёг.*)

*Ноч. На небе мігцяць зоркі, спявае салавей.*

ДРЭВА (*свецяцца ў змроку, бы ліхтарыкі, вочы*). Спіць-спачывае зямелька. Спіць... Я, калі люд спачывае, прыслухоўваюся, чым жыве зямля, як дыхае... калі вецер дзьме, не чапай вецер: ён ведае, куды дзьмуць...

*Бомж храпе.*

Гэты небарака ў мяне спрасоння нагой варсануў. Храпе-е. Ну-ну. Няхай пасніць. Толькі каб на мне не надрапаў, што тут быў Вася. Хоць гэты без нажа ходзіць. У яго, як кажуць, ні шаша... адна душа. Няма ў яго, бачце вы, і даху над галавой. Каб быў, то не хроп бы... Лішні чалавек...

*На небе запаліўся месяц.*

Цяпер хоць жалуды збірай... Мне ноччу здалёк усё бачна... Стог сена з калгаснага лугу кудысьці паехаў... спераду трактар... Днём п'юць, ноччу працуюць... Загадкавы свет...

Тут паблізу некалі вайсковая часць стаяла. Пяхота-матухна. Генерал адзін у іх быў... Грузін. Мужык цікавы-ы. Балакае — усё голле растапырыш слухаючы, ага. З акцэнтам, з гумарам!.. Адзін раз сабраў ён усіх камандзіраў палкоў, па гарадку ходзяць, нешта глядзяць, пастаяць-пастаяць, ды і далей ідуць. А тут проста перад імі на дарозе куча ляжыць... не буду казаць, вы здагадаліся, чаго. І ўсе, як па камандзе, спыніліся, на кучу глядзяць. А генерал пытае: "Чый салдат нарабіў?" Палкоўнікі і падпалкоўнікі паціскаюць плячыма, пераглядаюцца: хто яго ведае чый, але не мой, здаецца. Тут камандзір палка, па тэрыторыі якога ідуць, дапяў нарэшце, што раз куча на ягонай тэрыторыі, то і салдат, значыць, яго. "Мой..." – сказаў разгублена, ціха. "Малайчына! Дай руку! – і генерал паціснуў разгубленаму камандзіру палка далонь. – Карашо сальдат корміш: глядзі, какой бальшой куча!"

*Бомж заварочаўся, узняўся.*

БОМЖ. Гаварыў хто? Ці падалося? Падалося, мабыць. Як тады. (*Прыклаў вуха да Дрэва.*) Гудзе, гудзе дрэва! Яно — жывое. А я — хадзячы труп. Хутка і кроў у жылах застыне. Тыдзень не еў. Макавай расінкі ў роце не было. (*Падняў з зямлі*

*жолуд, паклаў на зуб.*) Не, яго толькі свінні добра ядуць... і тое дзікі. Не чалавечая гэта жратва.

*З'яўляецца Барадаты. Бомж схаваўся за Дрэва, але яго заўважыў Барадаты.*

БАРАДАТЫ. Ты... ты куды, жабрацкая морда? (*Схапіў Бомжа за каўнер.*) Гавары, хто такі?

БОМЖ. Адпусці. Мне ўжо не баліць. Мяне ўсе б'юць — прывык. Як дрэва гэтае – дубовы стаў.

БАРАДАТЫ. Гавары!

БОМЖ. Што гаварыць? Бомж я. Валацуга. Увесь свет абсвістаў, і вось... і вось вярнуўся на радзіму, а тут — яшчэ горш: ніхто не падае́. Як тады.

БАРАДАТЫ. Зямляк?

БОМЖ. Зямляк. Адсюль... гэты дуб помню. У Журавічы хадзілі на базар, то адпачывалі каля яго. Цяпер няма базару. Прапалі жыды, прапаў і базар. І дарогі... няма. Сцежка толькі.

БАРАДАТЫ. Лысага не бачыў?

БОМЖ. Спаў. Толькі прачнуўся. А што... Лысы?

БАРАДАТЫ. Ён, падобна на тое, і звычайную пілу прапіў. Я што, грызці гэтае дрэва павінен?

БОМЖ. І ў мяне няма... Як тады.

БАРАДАТЫ. Гад! (*Счакаўшы.*) А ты, калі прыгледзецца, то яшчэ малады чалавек?

БОМЖ. Па пашпарце...

БАРАДАТЫ. Цябе памыць, прычасаць, нос высмаркаць... і на вясковы аўкцыён можна выстаўляць. Глядзіш, і якая-небудзь удава купіць за вядро бульбы. Слухай, зямляк! З'явіцца тут Лысы – залазь на дрэва і прывязвай вось гэты сцяг. (*Падае кавалак чырвонай тканіны.*) Трымай. І трымай Лысага да майго прыходу. Зразумеў?

БОМЖ. Ясненька.

БАРАДАТЫ. Трымай вяроўку! (*Кінуў Бомжу вяроўку.*)

БОМЖ. Навошта?

БАРАДАТЫ. Прывяжаш Лысага, калі што... А мне трэба быць дома – жонка цяжарная, не сёння, дык заўтра раджаць павінна. Сына чакаю. Тры семсот. Так што мне трэба пабыць дома, пакуль жонку ў радзільню не забяруць.

БОМЖ. Вязі. Раджай. А мне ўсё роўна няма куды клыпаць.

Я прыклыпаў. Нават адчуваю, што дрэва, як магнітам, мяне прыцягнула. І не адпускае. "Сядзі!" За каўнер трымае, бы матка і бацька. Як тады.

БАРАДАТЫ. Дрэва няхай цябе трымае... дамовіліся... а ты — Лысага... Я хутка! *(Знікае.)*

БОМЖ (*разматаў вяроўку, сеў каля Дрэва*). Ну, дзе той гіцаль лысы? Няхай толькі з'явіцца – будзе, як тады! (*Кашляе.*) Во ліха тваёй матары! Бранхіт. *(Перабірае рэчы, круціць перад носам сандалет.)* А дзе ж, цікава, другі? Ёсць жа недзе. Можа бедалага які носіць сандалет з левай нагі... мыкаецца. І не можам сустрэцца. Як тады. Эх, рабочая, сялянская!..

*З'яўляецца Ляснік. Нервовы, энергічны.*

ЛЯСНІК. Дзе... дзе яны?

БОМЖ. Хто?

ЛЯСНІК. І ўвогуле, з кім маю гонар размаўляць? (*Прыдзірліва і з агідай аглядае Бомжа.*) Та-а-ак. Драбнеюць, драбнеюць людзі... (*Успомніў, чаго прыйшоў.*) Як скрозь зямлю праваліліся! Дрэва, дрэва спілаваць не могуць! Р-работнічкі!

*Бомж падыходзіць да Лесніка, падымае ў таго фуражку і бачыць, што ў яго лысая, як таўкач, галава. Моўчкі бярэ вяроўку.*

Ужо, панімаш, не ведаю, якое слова падабраць, каб іх, лайдакоў і прайдзісветаў, гэты гегемон наш, ахарактарызаваць.

*Бомж прывязвае Лесніка да Дрэва.*

Што... што гэта ўсё значыць? Я на чыёй тэрыторыі? Я што, у замежжы? Тады ў якім – блізкім ці далёкім, ядрона вош?

*Бомж не звяртае ўвагі на Лесніка, а той асабліва і не ўпарціцца. Бы сонны.*

Я... я не разумею, што тут адбываецца. Хто вы такі? З-пад якога карча ўзяліся? С... самадурства! Дэспатызм! Я пры выкананні! Я ў сваім лесе! Развяжыце! Зараз жа! Каму сказаў, га?

*Бомж ускараскаўся на Дрэва і прымацаваў амаль на вяршыні сцяг. Саскочыў на зямлю, сеў і круціць перад носам сандалет.*

Адпусціце! Развяжыце! Апошні раз напамінаю! А то будзе... (*Трасе на Бомжа пагрозліва рукой.*)

БОМЖ. ...як тады.



ЛЯСНІК. Ты што, бязглуздае стварэнне, за краты захацеў? Як двойчы два, як двойчы два! За краты? У цябе пытаюся. Я пан лесу-у-у-у-у!

*Рэха паўтарыла: пан лесу, пан лесу, а потым — ву-у-у-у-у-у!*

БОМЖ. Адзін вось сандалет у мяне, таварыш пан. Босы тупаю, а ў вас, прабачце, два. І новыя. Нага ў вас, пан лесу, якая?

ЛЯСНІК. Табе народ нашай Ярылаўкі і іншых блізка прылягаючых населеных пунктаў ніколі не даруе. Га? Яны за мяне адпомсцяць любому. Абавязкова. Бо гэта я іх, а не ты, брыдота, забяспечваю драўнінай. Каб не я, усе б яны даўно пазамярзалі зімой. У старых хатах жылі б. У зямлю клаліся б без дамавін... як мусульмане.

БОМЖ (*зняў з ног Лесніка сандалеты*). Ты сабе яшчэ купіш.Не хачу жыць, як жыў. Баста. Упёрся галавой у столь, далей няма куды. Прадасі лес – купіш. Не крыўдуй, дзядзька.

ЛЯСНІК. Спыніся! Спыніся! Адпусціш, вернеш сандалеты – і я на цябе заяўляць не буду.

БОМЖ (*надзявае сандалеты*). Самы раз. Акурат на мяне. І трэба ж... мы адзін памер носім, аказваецца.

ЛЯСНІК (*гучна*). Вярні сандалеты, зладзюга!

БОМЖ (*ходзіць, захапляецца абуткам*). Як тады!

*З'яўляецца Лысы. Убачыўшы прывязанага Лесніка, спярша спалохаўся, шкрабнуў назад, але апамятаўся, пасмялеў і нават кінуў на яго зняважлівы позірк. І плюнуў.*

ЛЫСЫ. Я цяпер цябе не баюся... калі прывязаны. Магу і яшчэ плюнуць. Толькі лянуюся. (*Патрос Бомжу руку, паляпаў па плячы.*) Дзякуй. Твая работа, бачу.

БОМЖ. Давялося прывязаць. Папрасілі. Я заўсёды... Люблю прывязваць.

ЛЯСНІК. Ты ў мяне яшчэ паскачаш, Лысы! Паскачаш! Памянеш маё слова,гад!

ЛЫСЫ. Магу і зараз. (*Вытанцоўвае.*) Тралі-валі, цілі-дылі, гэтых нам не абяцалі, гэтых мы не закадрылі! Р-раз, два! Р-раз, два! Опа-опа, уся Еўропа!..

БОМЖ (*Лысаму*). Пачакай, і ты... Лысы?

ЛЫСЫ. Тут Лысы я адзін. Я Лысым нарадзіўся.

БОМЖ (*паказаў вачыма на Лесніка*). А ён?

ЛЫСЫ. Ён не такі лысы. Ён – шпана! Я магу сёння яго нават укусіць. За палец. За нос. Ён у клетцы, а тыграў, што ў клетках там розных, я не баюся. Пугу мне! Бізун!

БОМЖ. Няма. Чаго няма, таго няма. Не было каго пасвіць.

ЛЫСЫ. Добра. Тады мы яго паказычам. (*Казыча Лесніка, той спярша гневаецца, а потым давіцца ад смеху.*) Ты завёў нас у балота... ты!

ЛЯСНІК. Не заводзіў. Хлусня. А калі і так, то раз ёсць балота, там павінны быць і чэрці... прабач, людзі.

ЛЫСЫ. Дарую, што выправіўся своечасова...

ЛЯСНІК. Мая тэрыторыя праходзіць якраз па балоце...

ЛЫСЫ. А кажаш, не заводзіў.

ЛЯСНІК. Яны самі... як статак... і ўперліся...

ЛЫСЫ. Во-о! Гавары, гавары!

ЛЯСНІК. Лысенькі, адпусці.

ЛЫСЫ. Што дасі?

ЛЯСНІК. Усё, усё дарую табе! Усё... што трэба і не трэба! Усё! Цэлы тыдзень дазваляю піць.

*Лысы паморшчыўся: мала.*

Не, два, два!

ЛЫСЫ. Мала!

ЛЯСНІК. Пі, пакуль не вып'еш усю гарэлку.

ЛЫСЫ. Лесу не хопіць. А само балота ў чыстым выглядзе ніхто не купіць.

ЛЯСНІК. І пілу можаш не вяртаць. Ведаю, прапіў. Я табе дам яшчэ адну... шведку... толькі развяжы.

ЛЫСЫ. Мала!

ЛЯСНІК. Прасі яшчэ, чаго хочаш.

ЛЫСЫ. Апахмялі.

ЛЯСНІК. Бяры. Бяры. Рэшту не вяртай. У правай кішэні. Усе грошы твае. З кашальком.

ЛЫСЫ. Хто б адмовіўся? Які дурань? (*Бярэ грошы.*) Толькі сапраўдны ляснік павінен насіць не грошы, а гатовую прадукцыю... Ды нічога. Разбяромся. (*Бомжу.*) Збегай. Краму знойдзеш. Ты прапах ветрам – ведаеш, адчуваю, карту любой мясцовасці.

БОМЖ. Так. Так. Так!

ЛЫСЫ. Толькі не знікні. З-пад зямлі дастану.

БОМЖ. Збегаю, так... (*Хоча нешта сказаць, але не асмельваецца.*) Збегаю. Але спярша развяжы пана Лесніка. Я прывязаў яго памылкова... ён на тваім месцы...

ЛЫСЫ. На маім? Нават так?

БОМЖ (*часта ківае*). Так, так.

ЛЫСЫ. Што гэта ты за лухту вярзеш, валацуга?

ЛЯСНІК. Ён у кропку, у кропку... у цэль! Прыслухайся, Лысы!

ЛЫСЫ (*кінуў Бомжу кавалак хлеба, той прагна есць.*) Адробіш сумленнай працай. Служы добра — і будзе кавалак сала. Ён на маім месцы? А яго — на ягоным? Нешта тут, браточкі, не так... намудрылі... намудрылі!

ЛЯСНІК. Вы разабраліся ці не? П... падлы! (*Часта і нервова тупае нагамі – так, калі дужа хочацца па патрэбе.*) А то позна будзе... позна... позна... Лысы! Сука! Адвяжы! Я за Дрэва збегаю, тады зноў прывязвай, чорт бы цябе пабраў! (*Тупае нагамі яшчэ больш апантана.*) Я прашу... як друга... га-га-га-га-га-га... як падначаленага... га-га-га-га-га-га-га.... Няма, відаць, страшнейшага пакарання — быць прывязаным да дрэва ў самы крытычны момант... Змілуйцеся! Злітуйцеся! О, Госпадзі!.. Рукі заняты... прабач... не магу перахрысціцца...

ДРЭВА (*строга*). Прыбярыце яго ад мяне! Прыбярыце! Прыбярыце!

*Ад пачутага ўсе знерухомелі, здзіўлена лыпаюць вачыма.*

ЛЫСЫ. Хто... хто гаворыць? У каго голас прарэзаўся?

ДРЭВА. Дрэва гаворыць!

ЛЫСЫ. Я... якое?

ДРЭВА. Тое, што перад табой, асталоп. І хопіць да мяне прывязваць розных засранцаў!

БОМЖ. Гэта ў мяне ад пастаяннага недаядання...

ЛЫСЫ. Ты ўсё яшчэ тут?

БОМЖ (*не звяртае ўвагі*). Дажыўся-я! Каюк! Амба! (*Кружыць вакол Дрэва, а потым ніцма падае на зямлю.*)

ЛЫСЫ. І я дапіўся. Дрэвы пачалі размаўляць. Дрэвы-ы! (*Шалёна крычыць і бегае на адным месцы, высока падымаючы ногі.*) Вярніце Гарбачова! Хопіць піць! Затыкніце гэтым дрэвам раты! Кляпы ім! Калі і яны яшчэ языкі параспускаюць, то ачмурэе

ўся нацыя, якая паўвека назад нацёрла мырмалку самому Гітлеру! Ратуйцеся-я-я! (*Затуліў вушы рукамі, пляснуўся, як падкошаны, каля Бомжа.*) Ты ўсё яшчэ тут? (*Вытрымаўшы паўзачку.*) Амінь!..

ЛЯСНІК. А хто мяне ратаваць будзе? Хто-о-о-о-о? (*Раптам прыкусіў язык, вінавата-сарамліва.*) Ой! Навошта... навошта так моцна крыкнуў?

ДРЭВА. Ну вось... А мне тут нюхай... Загадзілі ўсё паветра вакол мяне. (*Гучна, злосна.*) Прыбярыце гэтага ў фуражцы! Лысы!

ЛЫСЫ (*усхапіўся*). Я... я... зараз... Будзе зроблена... чын па чыну... (*Развязвае Лесніка, той, бы спутаны, марудна пашоргаў падалей ад Дрэва.*)

БОМЖ (*падняў галаву*). Бегчы? У краму?

ЛЫСЫ (*азіраючыся на Дрэва*). Дай... дай падумаць. (*Ходзіць думае.*) Дрэва супраць нічога не мае... здаецца... Значыць, трэба, браце, трэба!

БОМЖ (*усхапіўся*). Зразумеў! Так-так... Я на адной назе! Як тады! (*Знікае.*)

ДРЭВА. Зноў на мяне, анціхрысты, сцяг павесілі. На гэты раз – чырвоны. А чаплялі за маё жыццё ўсіх колераў... якія толькі ёсць на свеце... і якіх нават няма. Адны прымацуюць, другія – сарвуць. Горш таго, па сцягу потым з вінтовак палошчуць... Кулю ў сцяг, дзесяць – у мяне... Стралкі. Цярплю. Што ж паробіш – такі лёс... драўляны. (*Да Лысага, які слухае Дрэва разявіўшы рот.*) Ты хто такі, шалапут?

ЛЫСЫ. Лысы!

ДРЭВА. Ды гэта я бачу. І што не анёл – таксама. А працуеш дзе? Ці толькі гарэлку п'еш?

ЛЫСЫ (*разгублена*). Пасля парторга ў мяне пра гэта ніхто больш не пытаўся... Ніколі. Пра... цую... ем... працуем. Выдаём! А гарэліцу... то гэта менш, чым працуем. Пачакай, Дрэва! Дрэва,значыць? Я правільна?..

ДРЭВА. Дрэва. Дрэва.

ЛЫСЫ. Дай падумаць. Думаю. Так, так, так, так... А, ты ведаеш,і затрудняюся я табе сказаць, што больш робім — працуем ці п'ём? Ага.

ДРЭВА. І мяне, значыць, спілаваць хочаце?

ЛЫСЫ (*спалохана*). Не я, не я! Барадаты не хоча таксама.

Гэта ўсё ён, Ляснік! Ён! Той, што толькі што каля цябе паветра сапсаваў.

ДРЭВА. Начальнік ваш?

ЛЫСЫ. Ды які начальнік! Але... баімся. Калі адвязаны... Для нас ён – Бог і цар. Захоча – пакарае, захоча – памілуе.

ДРЭВА. Тады яго слухацца трэба. Што ж, пілуйце і мяне, калі загадаў Ляснік.

ЛЫСЫ. Што, і ты не супраць?

ДРЭВА. Чаму быць, таму не мінаваць. Чым хутчэй, тым лепш.

ЛЫСЫ. І не баішся, што зрэжам? Чык-чырык – і цябе няма!

ДРЭВА. Гэтага вось якраз я і не баюся.

ЛЫСЫ. А вось у гэта не паверу. Не паверу. Не паверу, каб Дрэва само хацела спілавацца...

ДРЭВА. Само не буду. Вы спілуеце...

ЛЫСЫ. Мы? (*Паскроб за вухам.*) Ці... пачулася? Ага, правільна: мы. А... чым?

ДРЭВА. Чым пілуюць усе нармальныя людзі.

ЛЫСЫ. Дык то ж нармальныя! Пакуль жыві... Мы, скажу табе па сакрэце, пілу прапілі. З вантробамі. Як кажуць нашы бабы — прасцалі.

ДРЭВА. А вось гэтага рабіць няварта было б.

ЛЫСЫ. Не каб радавацца, а яно нам мараль чытае? Нічога не магу зразумець. Ні грама.

ДРЭВА. Бач, у цябе адна адзінка вымярэння – грам.

ЛЫСЫ. Ага. А лепш – сто... пяцьдзесят.

ДРЭВА. Дзякуй, я пажыў. Надакучыла. Нічога добрага ў гэтым жыцці. Снег, халодны вецер... І вы...

ЛЫСЫ. Прыкідваешся, так? А пачнеш пілаваць – як трэснеш з усяго размаху па цэбару, што апошні розум выб'еш. Знаю цябе. Па адным голасе няцяжка вызначыць – дуб. Волат. Асілак. Метал!

ДРЭВА. Мне нават цікава стала: ці спілуеце вы ўсё ж мяне? Ці агораеце?

ЛЫСЫ. Э, ведаю, ведаю... І ты, значыць, за мяжу захацела. Бач, куды лыжы настрыла. (*Ціха, бы выдае вялікую тайну.*) Цябе наш Ляснік ужо прадаў... Куды? Каму? А за мяжу... Спілуем,

палічы, колькі лісточкаў маеш, і за кожны лісточак – зялёненькая паперка. Смачна?

ДРЭВА. Не вельмі. Бо карысці мала. Толькі каля мяне яшчэ больш водару гэтага будзе... ( *Уявіўшы, здрыганулася.*)

*Прыбягае Бомж.*

БОМЖ (*расчаравана*). Як тады! Як тады!..

ЛЫСЫ (*гучна*). Дзе гарэлка?

БОМЖ. Я ж і кажу: як тады. Забраў Ляснік грошы. І ўпрыдачу выспятка даў. Каб шпарчэй бег.

ЛЫСЫ. Дзе ён?

БОМЖ. Каля рэчкі штаны сушыць.

ЛЫСЫ. І што б ты, шаноўнае Дрэва, зрабіла з тым гаспадаром усяго гэтага вось аб'екта... масіву, які, дарэчы, яшчэ і штаны сушыць у рабочы час?

*Дрэва маўчыць.*

Парай, калі разумнае!

*Дрэва маўчыць.*

(*Скрушліва.*) Усе вы такія, дамкраты! Толькі калі пад нос вам... пачынаеце губамі шавяліць... ( *Знікае.*)

БОМЖ (*услед*). А мне што ж? Чалавек! Лысы! (*Сядае пад Дрэва, сумуе.*)

*Зацямненне.*

*Сонечная раніца. Спяваюць птушкі. Пад Дрэвам спіць Бомж. З'яўляецца Барадаты са скруткам на руках, крыху адстала ад яго Жонка. Жонка ў Барадатага значна старэйшая за яго, калі ідзе – цягне нагу, і таму дапамагае хадзе кіёчкам.*

БАРАДАТЫ (*весела, урачыста, гучна*). У мяне сын нарадзіўся! Сын! Сын!

*Бомж падскочыў.*

Бачыш? Пратры вочы! Як і хацеў – тры семсот! Я цяпер багаты чалавек!

БОМЖ. Віншую, калі так.

БАРАДАТЫ. Так, так! А гэта яго маці, мая жонка.

ЖОНКА (*ківаючы і не гледзячы на Бомжа*). Э-ге, э-ге.

БОМЖ. З радзільнага дома, атрымліваецца, шлях трымаеце?

БАРАДАТЫ. Каб з радзільнага дома вяртацца, у яго спярша трэба было трапіць. А мы... скажы, каханая... (*Цалуе Жонку.*)

ЖОНКА. Э-ге, э-ге.

БАРАДАТЫ. Правільна: не даехалі. На паўдарозе скончыўся бензін. Давялося мне самому прымаць роды. А нічога, атрымалася. Цікавы занятак. Нам што лес пілаваць, што роды прымаць... Але аўчынка вырабу вартая. Дай я цябе, бусенька, яшчэ разочак чмокну. За сыночка. (*Перадаў скрутак Бомжу, цалуе Жонку з касмічнай хуткасцю.*) Гэта ў мяне першы сын, Бомж! І, спадзяюся, не апошні! Так, бусенька?

ЖОНКА. Э-ге, э-ге.

БАРАДАТЫ. А ў цябе, каханая?

ЖОНКА. Э-ге, э-ге.

БАРАДАТЫ. Ну вось!..

БОМЖ. Што яна сказала?

БАРАДАТЫ (*забраў скрутак у Бомжа*). Не звяртай увагі. Пайшлі, пайшлі, каханне маё. Нам галоўнае – дайсці!..

ЖОНКА. Э-ге, э-ге.

*Барадаты і Жонка знікаюць.*

БОМЖ (*з зайздрасцю*). Хоць і старая, хоць і салома замест вока тырчыць, але ж пасля яе застанецца Барадатаму дом. Мне б!

ДРЭВА. Чалавек павінен сам пабудаваць дом, пасадзіць дрэва, дачакацца ўнукаў.

БОМЖ. Гэта на мой адрас, Дрэва? Я цябе правільна зразумеў?

ДРЭВА. Як хочаш, так і разумей.

БОМЖ. Усё гэта я зрабіў. Павер мне. А начую каля цябе пад голым небам. Як белыя мухі паляцяць, трэба шкрабацць некуды. Раней у Сярэднюю Азію, у Ашхабад, на зімоўку... там цёпла... а на лета — сюды... там — невыносна горача... Цяпер перад маім выраем пастаўлены шлагбаум.

ДРЭВА. А чаму ж адзін? Ці не здольны да сямейнага жыцця?

БОМЖ (*з годнасцю*). Хто – я? Ты, Дрэва, гэта кінь! Паўнацэнны! Як тады!..

ДРЭВА. Я не хацеў цябе пакрыўдзіць, чалавеча.

БОМЖ. У турму трапіў. Пакуль бавіўся там, мая каструля замуж за дружка выскачыла. Мне — дулю пад нос ад абодвух. Во такую. (*Паказаў.*) Вярнуўся да разбітага карыта. Прапіскі няма, кватэры – таксама... Вось і бадзяюся з таго часу. А дом ёсць... Сам будаваў кватэру кааператыўную... І дрэва недзе расце...

Не адно... А больш спілаваў у тайзе... так што дзякуй нашай дзяржаве. За мудрыя законы. Дзякуй ёй. Як тады.

ДРЭВА. Туліся да мяне, братка, бліжэй. Паспі.

БОМЖ. Мне б да цяплейшага чаго прытуліцца. Ты – дрэва. А дрэва, яно і ёсць дрэва. У дождж пад табой добра.

ДРЭВА. Гэта так. Дрэва – ні мужык, ні баба. Сярэдняга роду яно.

*Прыбягае нечым усхваляваны Лысы.*

ЛЫСЫ. Чулі? Не, вы чулі? І праўда, іці іх за нагу, у Барадатага бабка сына нарадзіла. Сам бачыў. Сам! Во це хрэст! (*Перахрысціўся.*) Я думаў, што ў такім узросце не здольныя... а яна — іці іх за нагу! Усе ж гаварылі, што падушку падкладвае. Вось яна, падушка, – тры семсот! І не кірхай! Усё б гэта нічога, да лямпачкі, але ж я пабіўся з Барадатым аб заклад... на скрынку гарэлкі... белагаловай... што яго старая ніколі, ні за што не зможа зацяжарыць... у яе ж нічога ўжо, мусіць, няма...

ДРЭВА (*закашлялася*). Прабачце. Папярхнуўся.

ЛЫСЫ. Нічога. Я таксама ледзь не падавіўся, калі Барадаты дзіцё сваё мне пад нос тыцнуў. Гляджу на яго, а скрынку з гарэлкай бачу. Не, што ні кажыце, а ўсё залежыць не ад бабы – ад мужыка, ад жарабца-вытворніка... Іці іх за нагу! (*Знікае.*)

БОМЖ. А праўда, у тым скрутку сапраўды сын быў? Атрымліваецца, што так. Ды і не я ж спрачаўся на скрынку гарэлкі.

ДРЭВА. Бачыш, што робіцца. А ты на сабе крыж паставіў. Рана. Ачомайся, чалавеча.

*З'яўляецца Шугалей.*

ШУГАЛЕЙ (*энергічна, ваяўніча*). Які мерын сцяг успёр на самую макаўку? Гэты дуб – рэйхстаг? Ці сельсавет? Я ў вас пытаюся, грамадзянін! Ты што, Кантарыя ці Ягораў? На грузіна быццам бы не падобны?

БОМЖ. Дык... як тады... ага.

ШУГАЛЕЙ. Калі на кожнае дрэва па сцягу, колькі гэта матэрыі спатрэбіцца? Не будзе чым інтымныя рэчы прыкрываць. А ў нас народ такі: варта прыклад падаць, варта ўбачыць сцяг на дрэве ў суседа, і ўсе адсцягуюцца... паначапляюць сцягоў на яблыні, на грушы, на вішні, не кажучы ўжо пра бярозы ды сосны, партызанскія сёстры... і ім падобнае. А ў лесе колькі дрэў? Ці гэта,

можа, твая асобная дзяржава тут, пад дрэвам? Маўчыш. Не знаходзіш што сказаць. Так-так. Са сваімі атрыбутамі, так бы мовіць? Ад Хусейна якога даў лататы і заснаваў у нас сваю рэспубліку?

БОМЖ. Вы мне дзяржаўны пераварот не прыпісвайце. Як тады.

ШУГАЛЕЙ. Ад фактаў, шаноўны, нікуды не падзенешся.

ДРЭВА. Дарэмна ты так пра гэтага небараку...

*Пачуўшы голас Дрэва, Шугалей спалохаўся і не знайшоў нічога лепшага, як схавацца за само Дрэва.*

Не яго віна... Адразу пасля вайны каля мяне сапёры стаялі...

*Шугалей перахрысціўся.*

Праверка ў іх была. Пастроілі ўсіх пад шнурок, амуніцыю правяраюць. У аднаго салдата ўзялі лапатку, пачалі рабіць заўвагі: яна і брудная, і тупая, і чаранок, маўляў, трэснуў. Афіцэр налічыў такім чынам пятнаццаць недахопаў. Тады салдат не вытрымаў, узяў у правяраючага лапатку і закінуў за паркан. Пішыце, кажа, адзін недахоп: няма лапаткі!

ШУГАЛЕЙ. А сцяг трэба зняць. Байкамі мяне карміць не трэба. Я сам быў у войску зампалітам.

ДРЭВА. Дык і здымі, калі больш трэба, чым іншым. Мне сцяг не перашкаджае. Прывык.

ШУГАЛЕЙ (*здзіўлена, нахабна*). Я? Дрэва, ты пра мяне кажаш?

ДРЭВА. Як пачулася.

ШУГАЛЕЙ. Гэты сцяг ужо ўбачылі далёка. А калі мне давядзецца яго здымаць, то... вырву з зямлі разам з Дрэвам! Чый ён? Чый сцяг?!

ДРЭВА. Мой.

ШУГАЛЕЙ. Ты, старэча, багата на сябе бярэш. Надарвешся.

ДРЭВА. Не больш, чым некаторыя...

БОМЖ (*ускочыў на Дрэва, сарваў сцяг*). Пішы, дзядзька, адзін недахоп: няма сцяга. Што вісіць ён, што не, ад яго карысці не дужа багата. Карысці больш ад бохана хлеба. Павесь яго, я сарву без напамінанняў.

ШУГАЛЕЙ. Вось цяпер іншая справа. Я буду цікавіцца, як у вас тут жыццё ідзе. Для таго і шчупак у рэчцы, каб карась не драмаў. (*Знікае, важна задраўшы галаву і вайсковым крокам.*)

БОМЖ (*акуратна разаслаў сцяг пад Дрэвам*). Няхай будзе мне замест абруса. Паснедаю. Як тады.

ДРЭВА. Смачна есці.

БОМЖ (*грызе ўсё той жа чэрствы кавалак хлеба*). Як жа ты столькі жывеш?

ДРЭВА. Ты мне?

БОМЖ. Табе, Дрэва.

ДРЭВА. Жыву-у...

БОМЖ. Надакучыла?

ДРЭВА. Надакучыла. Анягож.

БОМЖ. Разумею. Ад усяго, што бачыла, мусіць, вальтануцца можна?

ДРЭВА. Можна. Але ўсё роўна карпець пад небам хочацца. Не вер, чалавеча, таму, хто кажа: хутчэй бы памерці. Памерці не цяжка – жыць карціць.

БОМЖ. Карціць. Нават мне, бяздомнаму. А яшчэ карціць добра жыць.

ДРЭВА. Жыві, хто ж не дае?

БОМЖ. Доля. Як тады.

*Паўза.*

ДРЭВА. Вунь, бачыш, пні... То мае бацькі, дзеці, унукі... суседзі... На маіх вачах іх парашылі... мала хто сам спарахнеў, ад таго і сканаў... Гэта ўсё, што ад дрэў засталося. На маіх вачах закончыўся іх жыццёвы шлях... Чалавеку хоць можна было б адвярнуцца ці вочы заплюшчыць, каб нічога не бачыць і не чуць... Мне ж – не... Я – Дрэва... Можна падумаць, што нам, дрэвам, не баліць. Баліць. І за вас, бяздомных, выкінутых на сметнік, пад карой ные... не думайце, што нутро ў нас усё наскрозь драўлянае. Калі піць і дыхаць хочацца, мы – жывыя. Так, як жывым, і баліць. З якога боку вецер дзьме, халодны ён ці не, – мне добра вядома... Калі цёплы вецер, і я за людзей радуюся: добра ім, калі цёплы вецер.

Здаецца мне, бачыцца, што ты, чалавеча, добры... то табе і пакажу, што ў мяне ёсць. На, беражы, схавай. (*Падае скрутак.*) Мяне могуць і сапраўды спілаваць. Гэта я харахоруся толькі, але ж ад такіх людзей, як Барадаты і Лысы, усяго чакаць можна. А там, у паперках, багата чаго добрага... цікавага. На мяне пачэпяць аб'яўку, павісіць-павісіць яна, сваю службу саслужыць, я тады і забіраю яе да сябе. Да мяне багата людзей падыходзіла – абвесткі гэтыя чытаць. Багата-а...

БОМЖ (*узяў скрутак*). Я не дам цябе, Дрэва, пагубіць! Не дазволю!

ДРЭВА. А хто ты такі? Ты хоць сябе абарані, чалавеча. Ды і не ты тут начальнік – Ляснік. Яго справа, жыць мне ці не жыць.

БОМЖ. Жыць! Жыць, Дрэва! Жыць!

ДРЭВА. Ты праглядзь, праглядзь гэтыя паперы.

БОМЖ (*чытае загалоўкі*). “Усе на вайну з французамі!”, “Усе на вайну з белапалякамі!”, “Усе на вайну з фашыстамі!”, “Запрашаем на канцэрт з...з..." (*Не можа разабраць, што напісана*). З Шаляпіным, ці што?

ДРЭВА. Я многіх чуў. Няхай у цябе будзе гэты скрутак. Беражы.

БОМЖ (*вяртае скрутак*). Не, я не вазьму. Я ненадзейны чалавек.

ДРЭВА (*узяло скрутак*). Першы раз сустракаю чалавека, які дае сабе аб’ектыўную ацэнку. Звычайна нават дурань лічыць сябе разумнай істотай.

БОМЖ. Дзе я буду заўтра, што рабіць – невядома. Мо такіх, як я, пачнуць адлоўліваць, як бяздомных сабак, і адпраўляць на мыла. А паперы – каштоўныя...

*З’ўляецца Барадаты.*

БАРАДАТЫ. Лысы быў?

БОМЖ. Не.

БАРАДАТЫ. Парсюк! Ніяк сустрэцца з ім не можам. І дома ўсё абшукаў. З яго ж – скрынка гарэлкі!

ДРЭВА. Толькі не піце каля мяне. Дзе хочаце, толькі не тут!

БАРАДАТЫ (*зморшчыўся*). Гэта ж і цябе яшчэ спілаваць трэба. Ляснік нам плеш перагрызе.

*З’яўляецца Лысы. На спіне нясе скрынку гарэлкі.*

ДРЭВА. Яны доўга адзін без аднаго не ходзяць.

БАРАДАТЫ (*засвяціўся твар усмешкай*). О-о-о! А мы тут цябе толькі што ўспаміналі.

ЛЫСЫ. Якім словам успаміналі, я чуў. Малайцы.

ДРЭВА (*строга*). Піць каля мяне не дазволю!

ЛЫСЫ ( *як трымаў на спіне скрынку, так і знерухомеў, марудна і важна паварочвае галаву на Дрэва*). Нехта штосьці сказаў? Ці пачулася?

БАРАДАТЫ. Дрэва супраць, каб мы тут пілі.

ЛЫСЫ (*паставіў нарэшце скрынку на зямлю*). Дома жонка пілуе... цьфу ты, пра пілу не ўспамінаць!... Дома жонка камандуе, на рабоце – Ляснік, на прыродзе – Дрэва. Ці не замнога камандзіраў для аднаго Лысага? Ад такой увагі ў мяне, адчуваю, могуць на галаве валасы з'явіцца.

БОМЖ. Праходзь, праходзь! Як тады!

ЛЫСЫ (*Бомжу*). Ты, шмакадзяўка, мне?

ДРЭВА. Я і то зразумеў, што табе.

ЛЫСЫ ( *Дрэву*). Памаўчы! А то заткну рот раз і назаўсёды! (*Бомжу.*) Ты што, паскуда, захацеў пастаяць там, дзе і Ляснік? Запасныя штаны ёсць?

ДРЭВА (*дало выспятка Лысаму, той распластаўся*). Прэч адсюль! Прэч, нягоднік!

ЛЫСЫ (*марудна ўстае*). Гэтае Дрэва, заўважу, зусім нахабнае стала, як толькі пілы прапілі. Намацала мяккае месца. Ці такое яно было раней? Хто мне скажа? Барада? Бомж? Маўчыце. Ну, дубяра, пачакай!

БАРАДАТЫ. Маўчу. Я маўчу. Калі раптам усе дрэвы аб'яднаюцца ў які-небудзь прафсаюз...

*Лысы рагоча.*

І пачнуць нас бамбіць, людзей, то месца яны змогуць знайсці толькі на небе. Узвальвай, Лысы, зноў скрынку на свой горб і хадзем, хадзем адсюль. Далей ад граху.

ЛЫСЫ. Прынцыпова не пайду.

ДРЭВА. Перамалачу ўсе бутэлькі. Да адной.

БАРАДАТЫ (*захінуў сабой скрынку з гарэлкай*). Дрэва зробіць! Хіба ж ты не бачыш, што гэта за фрукт? Зробіць! Уцякаем!

ЛЫСЫ (*сапучы і скрыгочучы зубамі, узваліў скрынку на спіну*). А ты, Бомж, смакчы лапу, калі такі разумнік.

БОМЖ. Давай, давай! Як тады!

ЛЫСЫ (*Барадатаму*). Яны тут спеліся. Два чобаты – пара. Адзін у зямлю ўрос, другі – зямлёю аброс. (*Дрэву.*) Ты глядзі, асцярожней. Калі пілу прапілі...

ДРЭВА (*папраўляе*). Дзве.

ЛЫСЫ. Хай дзве. Калі дзве пілы прапілі, то ў нас лапаты

ёсць – падкапаем карані, пастаіш... пакірхаеш-пакірхаеш, і адкінеш канькі... але памучышся, падла! (*Знікае.*)

БАРАДАТЫ (*ціха, каб не чуў Лысы*). Не звязвайся ты з ім, Дрэва. Памаўчы. Прайграў мне скрынку гарэлкі чалавек. Пастаў сябе на яго месца. Га? (*Знікае.*)

ДРЭВА. Можна жыць спакойна. А ты, чалавеча, можа б у лазню схадзіў. Сёння ў Ярылаўцы дзень чысціні. Скокні.

БОМЖ. Грошай няма. Як тады.

ДРЭВА. Тут я цябе не выручу.

БОМЖ (*рашуча*). Але пайду! Так і быць! Змыю бруд увесь з сябе. Некалі ж трэба. Свет не без добрых людзей – нехта знойдзецца і пусціць у сваю лазню. Не сумуй, дружа. Я не затрымаюся. Толькі адно кепска — у гэтай Ярылаўцы мяне сабакі не ведаюць.

ДРЭВА. Пазнаёмішся.

БОМЖ. Не хацелася б. Але давядзецца. Рэчы мае папільнуй. Як тады.

ДРЭВА. Ідзі, ідзі. Памыйся, чалавеча, памыйся. Мне ў гэтым плане лацвей – дажджы ідуць часта...

*Бомж знікае.*

На адным месцы жыву і жыву сабе памалу-паціху. Не лятун. І добра. І добра! Што я там, далей, не бачыў? Такі ж лес, такая зямля, такія людзі, мусіць. Вунь і камень каля мяне, колькі я помню, ляжыць і ляжыць на адным месцы... Мохам аброс... Стары-ы... Ляжыць і не варушыцца... Сапе, відаць, сабе пад нос, песні пра сваю гаротную долю напявае... А мо і пра шчаслівую? У чужую душу не зазірнеш...

Калі ўсхопіцца вецер з таго боку (*паказаў на захад*) і галіны мае ўстрывожацца, то навіны з усяго свету паступаюць да мяне... як па заказу... на любы манер... толькі хапаць іх паспявай... Па ўсіх каналах... з усіх Амерык... Цяпер не трашчыць, як раней... чыста паступае інфармацыя... Цікаўлюся жыццём планеты, а як жа... Я ж дрэва, не пень... З усіх людзей мне Настрадамус падабаецца. Разумнік. Гэтыя, апошнія, драбнейшыя. Што Ленін, што партыя... Дваіх гэтых я блытаю, нібыта братоў-блізнюкоў. Як і Энгельса з Марксам. Мне, калі шчыра, болей лётчыкі й касманаўты падабаюцца. Імпануюць. Яны высока. А хто ўвесь час на зямлі, таму там, за аблокамі, хочацца пабываць... Чкалаў,

Гагарын Юрка... У небе, у небе лятали. Шчаслівыя. Што там робіш – нічагусенькі не бачна... Рабі што хочаш. Гэтыя ж, на зямлі каторыя, каля мяне труцца ўвесь час, бы рыба ў нераст, ой і абрыдлі. Насланнё нейкае. Машкара надакучлівая. Гнюс. Хоць, бывае, калі настрой ёсць – і з імі добра. Я таксама капрызны. Нягож!

Вунь, вунь над Ярылаўкай лазні дымком неба дастаюць...

*З'яўляецца Шугалей.*

ШУГАЛЕЙ. Ну, як тут у вас? Ціха? Спакойна? (*Уважліва і прыдзірліва аглядае ўсё, што толькі можна.*) Сцяга больш няма? (*Задраў галаву.*)

ДРЭВА (*песімістычна*). Нічога ў нас няма.

ШУГАЛЕЙ (*насцярожана*). Ну-ну! Цішэй гавары, Дрэва, а то пачуюць варожыя элементы, разнясуць па ўсім белым свеце. (*Гучна, артыстычна.*) У нас усё ёсць! Усё! Нават даляры! Але на пярэднім плане – дэмакратыя! На другім – каўбасы! Калі б не было каўбас, не было б і дэмакратыі. А дзе ўсе твае?

ДРЭВА. Вунь... пні.

ШУГАЛЕЙ. Пні пнямі. Тут, наколькі мне помніцца, людзі ашываліся. І, між іншым, а хто той, мурзаты? І дзе ён? Варта ў яго б дакуменцік папытаць. Можа шпіён з Украіны. Ці з іншых краін блізкага замежжа. Замаскіраваўся сабе ў лахманы і ходзіць тут, разумееш, вынюхвае нафту, каляровыя металы... Ёсць у яго дакумент?

ДРЭВА. Не глядзеў.

ШУГАЛЕЙ. А дарэмна, дарэмна! Пільнасць! Толькі пільнасць! (*Заспяваў.*) "На границе тучи ходят хмуро, край суровый тишиной объят..." Так што, Дрэва, у сельсавет, у сельсавет усіх і кожнага, хто з'явіцца ў нашай зоне. Зразумела? (*Прыкалоў да Дрэва паперку.*) І нам плюс: няхай хто скажа, што не працуем! (*Знікае.*)

ДРЭВА. Абармот!

*З'яўляецца Лысы. "Пад мухаю", з торбачкай.*

ЛЫСЫ (*ваяўніча выкладвае з торбачкі бікфордаў шнур і дынаміт*). Рыба пачакае. Я пакажу гэтаму Дрэву, як мяне, абарыгена, зневажаць. Тут не пі, там не куры. А жыццё даецца чалавеку ўсяго адзін раз і яго трэба пражыць так, як сказаў Карчагін... каб потым не было пакутліва балюча за марна пражытыя гады. Падрыхтуйся, Дрэва! Лысага помніш? Гэта я, я!

Зараз ты нарэшце даведаешся, што такое смерць. Яна з касой ходзіць. З дзевяткай. У нас ёсць, акрамя пілы, іншы сродак, як прыдушыць цябе... за гэта не хвалюйся. (*Падклаў пад карані дынаміт, расцягнуў па паляне бікфордаў шнур.*) Хірасіма будзе. Нагасакі. Зараз. Пачакай трошкі. Дыхні апошні разок, дыхні. Развітвайся, Дрэва, з жыццём. Развітвайся. А чаго гэта ты маўчыш? Скажы што-небудзь. Умееш жа. А што табе сказаць, калі па праўдзе? І няма чаго. Ты ўсё сказала. Калі б у вайну, то крыкнула б: "Смерць акупантам!" Не крыкнеш. Не той час. Паехалі-і! (*Але запалкі, як адна, не загараюцца. Нервуецца. Злуецца.*) Ды, чорт!.. Бляха-муха!.. Калі ўжо навучацца?!.. Рукі б ім, гадам!.. Бракаробы!.. ( *Кінуў вобзем карабок з запалкамі, пахапкам згроб бікфордаў шнур, дынаміт і запіхнуў у торбу.*) Пачакай. Асабліва не весяліся. Будзе і на нашай вуліцы, будзе!..

ДРЭВА. Плакаць, плакаць хочацца, а не весяліцца!

ЛЫСЫ. Я вярнуся! Чакай і не фыркай! (*Знікае.*)

ДРЭВА. Прыходзь, прыходзь, Лысы. Без цябе сумна. Бог вас свядома размеркаваў па некалькі чалавек, Лысых і Барадатых, на кожную вёску... на горад сыпануў трохі паболей... (*Уздыхнуўшы.*) Эх, хлопцы, хлопцы! Бабу абняць вы хоць можаце ці не? Пустадомкі! Раней былі мужыкі — волаты, не параўнаць. На маіх вачах піць навучыўся народ, на маіх. Усе п'юць...

*Наплывае шчаслівы жаночы смех. Неўзабаве з'яўляюцца Бомж і Насця. Бомжа не пазнаць – ён у новенькай апранашцы. Насця коціць тачку.*

НАСЦЯ (*весела, шчаслiва* ). Ну, паказвай, дзе твае рэчы?

БОМЖ. Зараз. Зараз. Знойдзем... калі добра прыгледзімся. (*Узяў торбачку.*) Ага, вось яны. Як тады.

НАСЦЯ (*ад убачанага выпусціла з рук тачку*). І для ўсяго гэтага багацця я свой тарантас цягнула? Сказаць не мог?

БОМЖ. А я, дзівак, думаў, што тачка табе гэтая патрэбна для іншых мэт. Як тады.

НАСЦЯ. Пакажы, што ў цябе хоць там? (*Вытрасае з торбы сарочку, трусы, сандалет.*) Багата жывеш. Сандалет з якой нагі?

БОМЖ. Зараз скажу. (*Прымервае.*) З правай.

НАСЦЯ. Аддасі Нікану. Памер не важны — прыстасуецца. Ён асабліва не разбіраецца. Добры будзе Нікану падарунак... У

яго адна нага, а якая... я і сама не помню. Яму добра будзе. Добра. Астатняе ўсё няхай застаецца тут. Цябе хоць як зваць?

БОМЖ. Колька.

НАСЦЯ. Спаліць транты, Колька!

БОМЖ. Не-не! Я забяру. Не магу выкінуць – прывык. Яны са мной прайшлі паўсвету. Калі не больш.

НАСЦЯ. Не, і праўда: ты, Колька, стаў на чалавека падобны. (*Захапляецца ім.*) Налюбавацца табой не магу. А першы раз як убачыла цябе, ледзь не крыкнула: ратуйце, чэрці лезуць! А яшчэ каб памыць у тым парашку, што па тэлевізары рэкламуюць, ад баб адбою не было б. Ажно захацелася мне цябе...

БОМЖ. Я і ведаў, што гэтым скончыцца... мыццё тваё і часанне...

НАСЦЯ (*абняла Бомжа, лашчыць*). Ты яшчэ нічога... цёплы... як учарашні блін...

БОМЖ (*адбіваецца*). Не тут. Не трэба. Нас бачаць. Як тады.

НАСЦЯ. Хто нас тут бачыць, палахлівец?

БОМЖ. Цішэй, не будзі Дрэва.

НАСЦЯ (*прыклала руку да ілба Бомжа*). У лазні ты маёй, выпадкова, не перагрэўся?

БОМЖ (*ківае на Дрэва*). Чуеш, пасопвае?

*Калі прыслухацца, то Дрэва і сапраўды пасопвае.*

Цішэй.

НАСЦЯ. А ўсё роўна я цябе згвалтую. Не тут, дык там...

БОМЖ. Там. Там. Я згодны.

НАСЦЯ (*энергічна*). Загружай сандалет! (*Узяла тачку.*)

*Бомж кінуў у тачку сандалет і торбу.*

За мной!

БОМЖ (*ціха*). Ты едзь, я даганю. Як тады.

НАСЦЯ. Што, і ты драпануць уздумаў?

БОМЖ. Не-не.

НАСЦЯ. Ведаем такіх. Сустракалі. Вучаныя. На гэты раз я прывяжу цябе да сваёй рукі вяровачкай. Куды я, туды і ты... куды ты, туды і я. І так буду вадзіць, пакуль на гародзе ўсе работы не закончым. За мной!

БОМЖ. Іду, іду.

 





ДРЭВА (*ціха, каб не чула Насця*). Ідзі, ідзі. Потым пагамонім. Час будзе. Я рады за цябе, чалавеча... Рады... Бяжы, бяжы за сваёй Насцяй... Будзьце шчаслівыя!

*Бомж часта ківае і спяшаецца за Насцяй. Знікаюць.*

А то зусім галаву быў павесіў. Была б шыя – хамут заўсёды знойдзецца.

*П'янага Лысага цягне на вяроўцы Ляснік.*

ДРЭВА (*з іроніяй*). Лысы, як і абяцаў, вярнуўся...

ЛЯСНІК. Весялей, весялей! Амаль прытупалі. Ты ж раней надта вясёлы быў... храбры, як заяц.

ЛЫСЫ (*спявае*). "А я лягу-прылягу-у-у-у-у... край гасцінца старога-а-а-а-а..."

ЛЯСНІК. Ляжаш, ляжаш. Толькі спярша пастаіш. Як і я. Каля Дрэва.

*З'яўляецца Барадаты. Ён не ідзе – пляцецца.*

ЛЫСЫ (*п'яным голасам*). Пятровіч, ну прабач, прабач. Трохі павесяліліся. Сын нарадзіўся... у Барады. З кім не бывае? Ты ж нармальны мужык. Такіх свет не бачыў. Выходзіш нават з гэтым вось Дрэвам на міжнародную арэну. А Дрэва спілуем як двойчы два-а! І нашы ў дамках! І далі нашы гарадскім! Га? "А я лягу-прылягу-у-у-у..."

БАРАДАТЫ. Каго спілаваць трэба? Дзе? Паказвайце! А-а, усё Дрэва гэтае... Спілуем, Пятровіч! Не ўсё адразу. Адразу ўсё не атрымаецца. Не-е... Што спярша, разваж, як мужык: што важней – скрынка гарэлкі ці вось гэтае Дрэва? То... што важней? Га? (*Упаў. І замоўк.*)

ЛЯСНІК (*прывязаў Лысага да Дрэва*). Адзін угаманіўся. І ты не нашкодзіш. Так і стой. Да раніцы. Тады пагамонім. (*Знікае.*)

ЛЫСЫ. А што? І някепска. І пастаю. Чаму б і не? Дрэва, а ты чаму мяне, цікава, не сустракала? Дзе фанфары? Чаму ў ладкі не пляскала? Кепска, што ў мяне рукі прывязаныя, я б паказаў, як трэба... Адгані ад мяне гэтых зануд. Фу-у, загрызуць, адчуваю, камары. Загрызуць. Пачакай, а ўмовы, здаецца, неаднолькавыя: калі Ляснік быў прывязаны – камароў не было... Эй! Дзе справядлівасць? Барадаты, ратуй! Барадаты-ы! (*Дзьме вакол сябе, матляе галавой.*) Дрэва-а-а! Абарані! Хоць ты! Ай! Хто-небудзь ёсць тут, акрамя камароў, ці не? Пагібаю-ю-ю!

*Зацямненне.*



 

ДЗЕЯ ДРУГАЯ

*Раніца наступнага дня. Каля Дрэва. Усе спяць. Першы прачынаецца Лысы, які па-ранейшаму прывязаны да Дрэва.*

ЛЫСЫ (*істэрычна*). Барада, маць тваю-ю-ю! Паскуда-а-а-а!

БАРАДАТЫ (*пацягваецца, падняў галаву*). Дзе мы?

ЛЫСЫ. На тым свеце.

БАРАДАТЫ (*спалохана ўскоквае*). Не можа быць! Быць не можа! У мяне ж сын на тым!.. Нашчадак! Яго ж на ногі паставіць трэба!

ЛЫСЫ. Сам хоць стань.

БАРАДАТЫ. Бо-бо-бо-бо-бо... божа!

ЛЫСЫ. Ды не бойся — жывыя, жывыя... Ля Дрэва. Падмачылі толькі крыху... рэпутацыю... Пратры зіркачы. Але як мы сюды трапілі? Быццам бы ў мяне сядзелі за скрынкай гарэлкі?

БАРАДАТЫ. І мне так здаецца.

ЛЫСЫ. І чаму я прывязаны?

*Дрэва здзекліва смяецца.*

БАРАДАТЫ. Гэта я ў цябе першы хацеў пра тое ж спытацца. А галава-а-а! Ратуй, мама! (*Абхапіў галаву рукамі.*) Не мая — чужая! Фу-у! Мая так не баліць. Ці засталося там хоць трохі... гэй ты, асталоп... зелля?

ЛЫСЫ. А пра гэта я ў цябе першы хацеў спытаць. Што, паскуда, не бачыш?..

БАРАДАТЫ. Цябе што, адвязаць?

ЛЫСЫ. Ён яшчэ і пытае! Толькі асцярожна... У мяне адна мянушка толькі мая, усё астатняе прышыта рыбацкаю лёскай. Я нагадваю, пэўна, помнік каля сельсавета. Ці Бураціна.

БАРАДАТЫ (*развязвае вяроўку*). А што я буду мець з таго, што цябе развяжу?

ЛЫСЫ. Асцярожней!.. Баліць!.. Ой! Маць тваю!..

БАРАДАТЫ. Ты што, глухі?

ЛЫСЫ. За так і плюнуць палянуешся, гад!

*Барадаты адвязаў нарэшце Лысага, той, бы сноп, ляснуўся вобзем.*

БАРАДАТЫ. Ты што, яшчэ п'яны?

*Лысы стогне.*

Эй, братан, уставай! Уставай, кажу табе!..

ЛЫСЫ (*паўшэптам*). Не магу. Усё цела заклякла... зацэментавалася. Прывяжы назад. Выручай. Удружы. Стаяць лепш. Быў закамянеў – і добра... Прывяжы, паскуда-а-а!

БАРАДАТЫ. Не дуры. Давай, давай прыходзь у сябе і хадзем. Там павінна быць... Там павінна застацца. Калі мая баба не дапіла.

ЛЫСЫ. Яна што, яшчэ і п'е ?

БАРАДАТЫ. Скажы дзякуй, што хоць не курыць.

ЛЫСЫ. Я тады яе задушу. Сваімі рукамі.

БАРАДАТЫ. Паспееш. Не маглі мы з табой адны са скрынкай справіцца. Не маглі. Хоць і заслужаныя алкаголікі.

ЛЫСЫ. А памагатых... не было?

БАРАДАТЫ. Ты не помніш, а я што – лысы?

ЛЫСЫ. Тады амба. Крычы караул. Ой, пачакай, няхай кроў раўнамерна разальецца... (*Перавярнуўся на спіну, "бяжыць" у паветры нагамі.*) Скажы што-небудзь. Пакуль бягу.

БАРАДАТЫ. Яблык.

ЛЫСЫ. Мама мые раму...

БАРАДАТЫ. Ты ж прасіў... (*Моршчыцца.*) Галава-а! Лепш бы я таго сына не рабіў. І галава не балела б.

ЛЫСЫ. Не зрабіў бы ты – зрабілі б іншыя. Калі ж табе ўсё мала...

БАРАДАТЫ. А табе?

ЛЫСЫ. Ды пайшоў ты, крэцін! (*Устаў, асцярожна, як некалі Ляснік, патупаў ад Дрэва.*)

За Лысым, разганяючы перад сваім носам паветра рукой, патупаў і Барадаты.

ДРЭВА (*буркатліва*). Добра дзень пачаўся. Добра. (*Узнёсла.*) Добры дзень, лес! Добры дзень, поле! Добры дзень, людзі! Што ў сне бачылася? Якія цуды сніліся? А мо паскудства якое? Мо жыццё наша бачылася? За свой век я гэтых сноў наглядзеўся!.. Каго толькі ні бачыў. І пілавалі мяне часта. Часта-а. Прачнуся похапкам, ажно мокры ўвесь ад страху: жывы, жывы! Яны, дурні, думаюць, што на мне грошай багата заробяць. Як бы не так. Во што яны заробяць на мне! (*Паказаў дулю.*) Я ж увесь паранены... у асколках увесь... у кулях. Да мяне магніт прыліпне. Дрэнь я Дрэва, хоць і дуб. Дрэнь. Паламаюць, паламаюць на мне яны зубы. Спрабавалі ўжо не адны. Не атрымалася. Хто-гэта

там? (*Углядаецца.*) А-а, знаёмая, знаёмая постаць... адзін з пілавальшчыкаў. Можна сказаць, галоўны...

*З'яўляецца Ляснік.*

ЛЯСНІК (*энергічна*). Дзе?! Дзе?!

*Дрэва маўчыць.*

Ёсць тут хто жывы?

*Дрэва маўчыць.*

Ёсць хто жывы ці не ў гэтым ідыёцкім лесе, ядрона вош? Дуб! А ты што? Спіш? Дрыхнеш? Хопіць, хопіць спаць! Паспалі! І пры Хрушчове, і пры Брэжневе, і пры Андропаве, і пры... (*Успамінае.*) Падказвай.... А хто там яшчэ быў, якая б...? Няважна. Абы быў. Не гэта галоўнае. Галоўнае – пара зарабляць. Самім. Не пададуць. Нападаваліся. Нападдаваліся. А я лайдакоў гэтых, лысых-барадатых, не магу ніяк прысобіць да работы. Усё ім няма часу. На ўсё ёсць час, а на працу няма, не хапае часу. І хоць ты гвалтам крычы. То святы розныя... па календары што... то самі навыдумляюць гэтых святаў. Ты чуеш, Дрэва? Слухай, слухай! Я цябе дурасці не навучу. Павальныя святы. Усіх людзей валяюць. А цябе, разумееш, паваліць не могуць, асілкі-волаты!.. Я іх з-пад зямлі дастану! Пара! Пара-а!.. (*Знікае.*)

ДРЭВА. Калі бутэльку будзеш пад носам трымаць, то дастанеш, магчыма... вылезуць з-пад зямлі, як чэрві ў дождж.

*Насця вязе на тачцы Бомжа. Той сядзіць надзвычай важна.*

НАСЦЯ (*святочна*). Будзеш, будзеш, Калюнчык, царком у мяне. А чаму? Міколка ж быў. І ты Міколка. (*Спынілася.*) Цёзкі. Ён, праўда, Расею здаў. Але ты ў лепшым становішчы – у цябе няма Расеі. А я табе не дазволю мяне здаць каму-небудзь іншаму.

БОМЖ. Наперад! Наперад, Насця!

НАСЦЯ. А... а ў які бок?

БОМЖ. З табой – у любы! Хоць у левы, хоць у правы!

НАСЦЯ. Ага. Зразумела. Зразумела, мой родненькі! Тачка сама, сама коціцца, як калабок, на наш агарод. А рыдлёўкі ў мяне там схаваныя... Наперад, дык наперад!

*Знікаюць. З'яўляюцца Барадаты і Лысы з пілой і сякерай.*

БАРАДАТЫ. Я прасіў, здаецца, на дуб сцяг павесіць. Бомжа. Няма сцяга, не бачу.

ЛЫСЫ. Навошта сцяг?

БАРАДАТЫ. Знайшоў на сметніку. Нехта выкінуў. То няхай бы вісеў.

ЛЫСЫ. Здароў, дуб!

ДРЭВА. Ачухаліся?

ЛЫСЫ. Уяві сабе.

БАРАДАТЫ. Ачухаліся, ачухаліся. Даруй, Дрэва, але сёння мы цябе ўжо дакладна спілуем.

ЛЫСЫ. Нарэшце!

ДРЭВА. А што трэба зрабіць мне, каб уратавацца?

ЛЫСЫ. Магарыч!

БАРАДАТЫ. Шукай магарыч!

ЛЫСЫ. І будзеш жыць. ( *Сумна.)* Толькі дзе ж ты яго возьмеш?

БАРАДАТЫ. Жыць захоча – знойдзе! Думай. У цябе ж, акрамя пня, і яшчэ нешта ёсць.

ДРЭВА (*быццам забаўляючыся*). Колькі дзён даяце?

ЛЫСЫ. Дзён?!

БАРАДАТЫ. Д...дзён?!

ДРЭВА. Дзён, дзён.

ЛЫСЫ. Не, яно, Дрэва, зусім здурнела. Вальтанулася.

БАРАДАТЫ. А ты пастой на адным месцы трыста гадоў.

ЛЫСЫ (*Дрэву*). Нам, кораш, калі што трэба, то зараз, цяпер, яшчэ раней, чым сёння!

ДРЭВА. Тады пілуйце.

БАРАДАТЫ. І будзем. Будзем, капрыза.

ЛЫСЫ. Не адыходзячы ад касы. (*Вострыць напілкам пілу.*) Нацярпеліся ад цябе. Хопіць.

БАРАДАТЫ. Ты нам, як бяльмо на воку.

ДРЭВА. Дайце хоць апошняе слова. Можна?

ЛЫСЫ. Ды гэта калі ласка!

БАРАДАТЫ. Хоць два.

ДРЭВА. Спытаць карціць. Чым закусваць будзеце? Заўтра? Паслязаўтра?

ЛЫСЫ. Знойдзем. Было б што глынуць.

ДРЭВА (*строга).* Не перабіваць! Калі вы пілаваць мяне будзеце, я буду маўчаць.

ЛЫСЫ. Дамовіліся.

БАРАДАТЫ. Маўчым, як рыба. Гамані.

ДРЭВА. Не, не буду. Перадумаў. Перад вамі гаманіць – карысці мала.

ЛЫСЫ (*Барадатаму).* Чуў?

БАРАДАТЫ. Чуў, не глухі.

ЛЫСЫ. Яно, Дрэва, нас ужо і за людзей не лічыць.

ДРЭВА. Вы ж мае ворагі. І каб жа толькі мае? Дык чаму ж я перад вамі павінен шапку вобзем, га?

ЛЫСЫ. Думай што хочаш. Тваё дубовае дзела.

ДРЭВА. Маё, маё. Так, так. Шкада, што не ваша.

БАРАДАТЫ. І гаворы, што на язык узбрыдзе.

ЛЫСЫ. А мы сваю справу туга ведаем! Ха-а!

*Дрэва здзекліва рагоча, рогат вяртаецца рэхам. І стаіць такі лямант, што Лысы і Барадаты затуляюць вушы рукамі.*

БАРАДАТЫ. Піла... гатова?

ЛЫСЫ. Айн мамэнт, спадар. Айн мамэнт.

БАРАДАТЫ. Ух, рукі свярбяць!

*Зламаўся напілак.*

ЛЫСЫ. Ну, ну ты бачыў, Барада? (*Паказвае зломак.*) І пілу не навострыш.

БАРАДАТЫ. Давай тупой. Хоць падрапаем. Няхай паенчыць.

ЛЫСЫ. Можна і так.

ДРЭВА. А кажаце: спілуем, спілуем! Колькі абяцаць можна? У вас сумленне ў рэшце рэшт ёсць? Гонар?

*Лысы і Барадаты здзіўлена пераглядаюцца.*

За сябе? За работу? За зямлю, якую топчаце і засі...? За Радзіму?

*Паўзачка.*

ЛЫСЫ. Давай-давай, лектар! Гані хвалю!

БАРАДАТЫ. Дзе, дзе мая сякера? ( *Узяў сякеру.* ) Зараз я ў цябе зубы палічу, падла! (*Замахнуўся на Дрэва.* )

*З'яўляецца Бомж. Ён у тым жа адзенні,у якім і з'явіўся ўпершыню каля Дрэва. І з тою самай торбачкай. Убачыўшы яго, Лысы выпусціў з рук пілу, а Барадаты — сякеру. Разявілі раты...*

БОМЖ (*стаў перад Дрэвам*). Не дам! Не дазволю! Усе чулі? Матайце адсюль! Прэч! Вы, вы, спадары!

ЛЫСЫ. Ён здурнеў.

БАРАДАТЫ. Бачу. Зноў у сваім рыззі.

БОМЖ. Пакіньце Дрэва! Як тады.

ДРЭВА. Ты, чалавеча, дарэмна за мяне не хвалюйся: яны нічога і так не зробяць. Яны – вытворчыя імпатэнты.

ЛЫСЫ (*агрэсіўна, але баязліва*). Ты, дубовая морда, на каго бочку коціш, га?!

БАРАДАТЫ (*Бомжу).* Знікні, а то засяку. І пад гэтым Дрэвам сатлеюць твае сабачыя косці.

ЛЫСЫ (*напявае).* " И никто не узнает, где могилка твоя..."

БОМЖ. Зматвайцеся. Лічу да трох. Як тады.

ЛЫСЫ. Ён яшчэ... ты, Барада, паслухай... і лічыць умее. Да трох нават.

БОМЖ (*дастаў з торбачкі бутэльку з бензінам, лінуў на зямлю*). Раз!..

ЛЫСЫ (*аблізнуўся*). Не... не разлівай! Што там у цябе, браток? Каньяк... начны?

БОМЖ. Два!..

ЛЫСЫ. Гад!

БАРАДАТЫ. Лысы! Да трох мала засталося. Што рабіць будзем?

ЛЫСЫ. А што ён зробіць нам? На хвост солі насыпле? (*Нюхае.)* Бензін! Бензін! Семдзесят шосты! Ну, крэцін!

БОМЖ (*дастаў запалкі*). Тры!..

*Барадаты і Лысы адступаюць.*

БАРАДАТЫ. Нічога... нічога... куранят восенню лічаць. Лысы, драпаем. Але не здаёмся.

ЛЫСЫ. Гад!

*Знікаюць.*

БОМЖ (*усміхаецца*). А запалкі, між іншым, нашы былі... Як тады.

ДРЭВА. Але ўсё роўна ты іх напалохаў, х-ха-ха-ха-ха-ха-а-а-а!

БОМЖ (*прымацаваў на Дрэва сандалет*). На шчасце.

ДРЭВА. Усё гэта добра. Але ж дзе тваё, чалавеча, шчасце? Куды, у які бок паляцела?

БОМЖ. Маё шчасце, відаць, там, дзе вецер, холад, голад... не магу жыць у доме... Ды яшчэ калі побач такая дзябёлая баба, як Насця. Паветра мне там не хапае. Задыхаюся. (*Гучна, нервова*

 





*і шчыра.*) Не маё там! Не маё! Адвык! Я сваё ўсё згубіў, па свеце растрос!..

*Прыбягае Насця.*

НАСЦЯ. Колька! Колька, ты што – уцёк? Дэзерціраваў? І зноў свае лахманы нацягнуў? Спалю!

БОМЖ. Не.

НАСЦЯ. Што – не?

БОМЖ. Ты доўга чадзіць будзеш. Усё неба задыміш.

НАСЦЯ. Дык я, між іншым, у цябе пытаюся: уцёк? І канцы ў ваду? (*Уздыхнуўшы, роспачна.*) Хаця якія ў цябе канцы... (*Махнула рукой.*) Але рукі моцныя – плуг трымаюць. І касу таксама. Мне і гэта добра. З рукамі ў вёсцы — не інвалід. Давай, давай, збірайся! (*Зрывае сандалет.*)

БОМЖ (*нервова*). Кацiся адсюль! А сандалет – на месца! Як тады.

НАСЦЯ (*павесіла сандалет* ). Дык ты ж мужчына! Ура, ура! Табе цаны няма – голас, а? А я думала, ты і мухі не пакрыўдзіш. А ты – нармальны.

БОМЖ. Не падлабуньвайся. Не пайду да цябе. Не прывык на чужое... А тут усё – маё...

НАСЦЯ. Можна падумаць, то маё. Ды мужыкова, мужыкова ўсё, вечная яму памяць, п'яніцу.

БОМЖ. Я ўсё сказаў.

НАСЦЯ. Як тады?

БОМЖ. Як тады!

НАСЦЯ. Ну і цягніся, мясі зямлю, валацуга, калі нармальна табе жыць не хочацца. Цягайся-я!

*З'яўляецца Шугалей.*

ШУГАЛЕЙ. Хто клікаў?

НАСЦЯ. Каму ты трэба? Тут не зампаліты патрэбны, а работнікі.

ШУГАЛЕЙ. Хто, хто вам дазволіў павышаць на мяне голас?

НАСЦЯ. Дзед, адстань! Без цябе моташна.

ШУГАЛЕЙ (*здзіўлена*). Дзед? Гэта я – дзед? Усе чулі? Абразу ўсе чулі?

НАСЦЯ. А хто ты? Баба?

ШУГАЛЕЙ. Муж-чы-на-а!

НАСЦЯ. Хопіць раскідвацца гэтым словам. "Мужчына"!



 

ШУГАЛЕЙ. Мужчына.

НАСЦЯ. А маць тваю!.. (*Легла на спіну, задрала спадніцу.*) Давай паказвай, які ты мужчына! Давай, давай!

ШУГАЛЕЙ. У нас, між іншым, прастытуцыя забаронена.

НАСЦЯ. Я бясплатна.

ШУГАЛЕЙ. Законы ведаць трэба. І захоўваць.

НАСЦЯ. Дык ты што, не будзеш даказваць, законнік? Ці законы вучыць пойдзеш? (*Устала.*) Мужчына. Дзе ён, той мужчына? Пакажыце мне яго! Торкніце пальцам!..

*Бомж нетаропка знікае.*

Вунь і яшчэ адзін мужчына хвастом вільнуў. Дык той хоць не ерапеніцца. Не хваліцца. Пара сабе цану знаць. (*Плюнула ў бок Шугалея і знікла.*)

ШУГАЛЕЙ. Асцярожней, мадам. Асцярожней! (*Дрэву.*) Развёў тут... дом цярпімасці, разумееш!.. (*Знікае.*)

ДРЭВА. Ну вось... зноў я вінаваты. Яны адносіны высвятляюць, а мы, дрэвы, павінны гнуцца да зямлі, каб дагадзіць ім. (*Крычыць услед.*) Дурні вы, людзі, дурні! Вам жыццё дадзена, а вы жыць не хочаце!

*Зацямненне.*

*Да Дрэва падыходзіць Бомж. Узяў сандалет, павесіў назад.*

ДРЭВА. Вярнуўся?

БОМЖ. Вярнуўся. Як тады.

ДРЭВА. Ну і што там, дзе мяне няма?

БОМЖ. Так усё, як і там, дзе ты ёсць.

ДРЭВА. Прысядзь. Адпачні.

БОМЖ. Нават прылягу. (*Лёг.*)

ДРЭВА. Прыляж, прыляж.

БОМЖ. “Калыханку” можаш для мяне арганізаваць?

ДРЭВА. А ты што, за сваё жыццё хіба казак не наслухаўся?

БОМЖ. Прывык да іх, як да паветра. Без казкі не засну. На галодны страўнік атрымліваецца, а без казкі – ніяк...

ДРЭВА. Казак не ведаю. Легенды, паданні... гэта мне бліжэй.

БОМЖ. А для мяне розніцы няма. Мне абы локшыны на вушы. (*Храпе.*)

ДРЭВА. Заснуў і без казкі, небарака... Гэта даўно было, на зыходзе лета. Паехалі мужык з жонкаю на луг. Цэлы дзень касілі, сушылі, варочалі траву, а надвячоркам сталі нагружаць воз дадому

завезці. Пакуль нагрузілі, сцямнела. А дарога іх дамоў ляжала праз балота.

Вось праехалі яны трохі, ажно чуюць: недзе вяселле гуляюць. Спачатку падумалі, што ў суседняй вёсцы, але неўзабаве насустрач ім з'явіліся людзі: з гармонікамі ў руках, з вясельнаю песняй на вуснах. І сталі гэтыя людзі запрашаць іх з сабой. Тыя пачалі адмаўляцца, што стаміліся, у бруднай адзежы, што ногі іх мокрыя, але незнаёмыя гэтак ветліва запрашалі, што яны згадзіліся й паехалі з імі. Ехалі нядоўга, незнаёмыя частавалі іх гарэлкай, рознымі стравамі. Прыбыўшы на месца, як ім падалося — у вялікае сяло, у якім яны ні разу не былі, незнаёмыя лагодна звярталіся да іх, паздымалі мокрыя боты, павесілі анучы сушыцца.

І так ім было хораша, што не заўважылі, як паснулі. Прахапіліся тады, як сонейка было ўжо высока. Расплюшчылі вочы і жахнуліся: яны былі ў такой багне, што нават не ведалі, як выбрацца. Зірнулі па баках, шукаючы боты з анучамі, а тыя воддаль вісяць на страшэнна высокім карчэўі, што і дастаць немагчыма. Выбраліся гэтыя людзі з балота ці не, ніхто не ведае.

Глядзіце, каб і вы, ласыя на чужыя пачастункі, леснікі розныя, у балота не трапілі... зацягне дрыгва... зацягне... асабліва духам слабых... што без гонару за свой куток родны жывуць... (*Вытрымаўшы паўзу.*) Спіш?

БОМЖ. Не. Прачнуўся.

ДРЭВА. Пара.

БОМЖ. Заўтра паеду... Чаму не пытаеш, куды?

ДРЭВА. А навошта? Навошта мне пытацца? Едзь. Ідзі. Ляці. Плыві. Ты – вольны птах.

БОМЖ. Не крыўдуй, Дрэва. Я б узяў цябе з сабой. Але ж ты –Дрэва. Тут тваё месца.

ДРЭВА. Дрэва на цябе, чалавеча, не крыўдуе. І не думае крыўдаваць. І браць мяне нікуды не трэба. Я не лятун. Чым і ганаруся. Кожнае дрэва моцнае сваім карэннем. Як, мусіць, і чалавек. Адно кепска: што людзі, як і мы, дрэвы, хварэем сёння на адзіноту... паасобку мы... кожны сам па сабе... Вось гэта, чалавеча, страшна... Вельмі... Няма таго, што раньш было... Няма... няма... няма... Дух не той. Ды і які можа быць дух ад лысых-барадатых? Цьфу!

*З'яўляецца Ляснік. Адразу ж звяртае ўвагу на сандалет.*

ЛЯСНІК (*злосна*). Яшчэ не хапала на маім аб'екце гэтага смецця! Гэтага лапця!.. (*Сарваў сандалет, закінуў за Дрэва.*) Паначаплялі рознага друзу тут!.. Сандалеты – для ног, а не каб псаваць знешні выгляд у маім лесе. Звалкі не будзе!

*Бомж знікае.*

(*Услед Бомжу.*) А гэты ўсё яшчэ тут? (*Паглядзеў на Дрэва.*)

ДРЭВА. Няма ўжо. Пайшоў.

ЛЯСНІК. Мог бы і раней гэта зрабіць. Яшчэ мне тут лес не падпаліў. Вунь тайга гарыць... Усцяж!

ДРЭВА. Ён не курыць. І ў яго няма запалак.

ЛЯСНІК (*з недаверам*). Ведаем. Ведаем. А ў нас, каб пажар тушыць, – адно вядро. І тое дзіравае.

ДРЭВА. Ён, паўтараю, не напаскудзіць.

ЛЯСНІК. Ён не напаскудзіць, той не напаскудзіць, а ў нас усё бурыцца, усё гарыць!..

ДРЭВА. Я, між іншым, папярэджваю: калі мяне не спілуеце, таксама буду скардзіцца.

ЛЯСНІК (*здзіўлена*). Скардзіцца? Куды? Каму?

ДРЭВА. Прэзідэнту.

ЛЯСНІК (*спалохана*). Не трэба. Спілуем. Спілуем. Калі ты так дужа хочаш... калі надакучыла жыць... быць. (*З недаверам глядзіць на Дрэва, круціць галавой.*)

ДРЭВА. Давайце. А дурыць мяне хопіць. Не маленькае. Не дзіця. Я маю, як-ніяк , трыста гадоў. Пашкадуйце ўзрост. Уважце. Іначай, калі і надалей вадзіць за нос будзеце, то...

ЛЯСНІК (*нецярпліва*). То... што?

ДРЭВА. Аб'яўлю галадоўку! Сухую і бестэрміновую! Засохну! На корані! Думаеце не ведаю, чым вы, людзі ўлады, бераце?

ЛЯСНІК. Ціха! Валютай... валютай бяром.

ДРЭВА. Я не пра тое... Хацеў сказаць: і ні вам карысці, і капіталістам – дуля.

ЛЯСНІК. Пачакай-пачакай, не рабі глупства. Не рабі. Сам, сам спілую. Верыш?

ДРЭВА. Не. Не веру.

ЛЯСНІК. Мне?

ДРЭВА. Ты такі ж гнілы, як і ўсе.

ЛЯСНІК. Памыляешся, памыляешся, дзядуля. Зраблю, зраблю!.. Толькі калі зноў на сваіх работнічкаў не пакладуся. Сам. Толькі сам! Дзе мая піла? Ага. Я, значыць, за пілой... Здабываць пілу.

БОМЖ (*з'явіўшыся з сандалетам, павесіў яго на Дрэва. Спакойна, упэўнена*). Дрэва спілаваць я вам не дам.

ЛЯСНІК. Дык яно ж само просіць: спілуй мяне, браток. (*Дрэву.*) Скажы яму, скажы!

БОМЖ (*Лесніку.*) Чуў?

ЛЯСНІК. Не глухі – чуў. Але ж... (*Дрэву.*) Закінь слоўца, закінь. Каб потым ніхто не палічыў бандытам.

ДРЭВА (*Бомжу).* Не траць дарэмна энергію, чалавеча. Думаеш, ён, Ляснік, мяне спілуе? (*Смяецца.*) Каб жа не так. Чым ён спілуе?

ЛЯСНІК (*пакрыўджана*). Вы што, мне, гаспадару лесу, не давяраеце? Мне?

*З'яўляецца Насця.*

НАСЦЯ. Табе – тым больш.

ЛЯСНІК. Цябе зусім сюды не звалі. Без баб разбяромся.

НАСЦЯ. А ты — пан хіба? Ці мне падалося? Я ніколі пана не бачыла. (*Аглядае Лесніка – як не абнюхвае.*) Ды які ты пан, Пятровіч? Не пахнеш. У нас жа агароды з табой побач. Пудзіла адно на дваіх.

ЛЯСНІК. Агароды, можа, і побач, а мы – на адлегласці.

ДРЭВА. А хіба я не тое гаварыў? Вы, людзі, як і мы, дрэвы, на адлегласці жывяце, як мага далей адно ад аднаго. Я слухаю радыё тады-сяды... Ёсць у мяне такая штукенцыя... Вучонае Дрэва... Не са столі бяру... Да неба не дастану, хоць яно і над галавой... Бяда ў тым, што вы ніколі – ні пры царах, ні пры генсеках – не жылі багата й вольна... Вы хочаце мяне спілаваць? Не, не баюся я вас. Жыў і буду жыць. Увесь гэты час вамі кіравалі людзі, хворыя на любоў да ўлады. Таму што вы наводдалек адно ад аднаго. Уладалюбцам гэта і трэба. У іх не людзі на першым плане, а асабістыя інтарэсы, інтарэсы сям'і, роду. Яны падманвалі вас, а вы падманвалі іх. Яны камандавалі і дзялілі — а вы кралі, яны багацелі — а вы співаліся. І цяпер барацьба за права камандаваць, размяркоўваць, кантраляваць...

ЛЯСНІК. Ты не лезь, куды цябе не просяць!

НАСЦЯ (*тармаснула Лесніка*). Стой, пан Гапон!

ДРЭВА. Зноў кіруе балем той, хто не сее і не жне, хто не лечыць і не вучыць, а той, хто дазваляе і забараняе.

ЛЯСНІК. Захоўвай, Дрэва, субардынацыю, панімаш! Не сунь нос, куды не просяць! Мы тут самі разбяромся! Без саплівых!

НАСЦЯ (*агрэсіўна*). Што, праўда вочы коле? Тады я цябе зараз так насубардзініручо, што век помніць будзеш. Пасаджу голаю попай у мурашнік, тады пагляджу, як закукарэкаеш, анёл!

ЛЯСНІК. А мурашнік, між іншым...

НАСЦЯ. ...разбураць не трэба.

ЛЯСНІК. Вось-вось! Помніш! Малайчына!

НАСЦЯ. Ды наеў. Тваёй усіх мурашоў патрушчыш, у парахавінне сатрэш. Баюся, зраблю непапраўную шкоду лесу, у якім ты... пан.

ЛЯСНІК. Пакуль так, пакуль так!

НАСЦЯ. Усялякае "пакуль" некалі заканчваецца... дзякаваць Богу.

*Прыбягаюць, нечым прыкметна ўсхваляваныя, Лысы й Барадаты.*

ЛЫСЫ (*радасна).* Нарэшце! Нарэшце дачакаліся!

БАРАДАТЫ. Скачы, Дрэва! Скачы-ы!

ДРЭВА. А калі я не хачу скакаць? Калі не жадаю?

ЛЯСНІК. І мне, можа, загадаеце, маць вашу?!..

ЛЫСЫ (*махае на Лесніка*). А цябе я не бачу. Зусім. Ты нябачны для мяне, як мікроб... як атам. Ты – паветра... ты празрысты, як кішка парсюка, высушаная на сонцы і нацёртая часнаком.

ЛЯСНІК (*шукаючы падтрымкі*). Што ён пляце? Што ён вярзе?

НАСЦЯ. Ён умее. Таму і лысы. Разумныя валасы пакінулі дурную галаву.

ЛЫСЫ. І перабраліся на бараду Барадатага.

БАРАДАТЫ. Паздзекаваўся, таварыш Ляснік, з нас. Хопіць.

ЛЫСЫ. Усё, хана!

ЛЯСНІК. Я? Паздзекаваўся? Ды іншы б вас, п'янтосаў, даўно павыганяў. З трэскам. А я цярпеў. Цярпеў я! Зубы сціскаў, а цярпеў! Дык што мне цяпер за гэта — дулю? Пад нос... дулю... цяпер?

ЛЫСЫ. І ад мяне таксама.

ЛЯСНІК (*у руху*). Цьфу! Даўно, даўно трэба было ад вас пазбавіцца.

ЛЫСЫ. А пазбавіліся ад цябе.

ЛЯСНІК (*не адразу*). Не зразумеў.

БАРАДАТЫ. Растлумач яму, Лысы.

ЛЫСЫ. Ты болей над намі не начальнік.

БАРАДАТЫ. Пакуль ты Дрэва гэтае збіраўся адвезці за мяжу, адтуль прыехалі самі й купілі ўвесь гэты лес.

ЛЫСЫ. З намі.

НАСЦЯ. Во даюць, га! Во калупаюць!.. Колька, а ты чаму маўчыш? Во што рабіць на гэтай грэшнай зямлі трэба, а не насіць у ванючай торбе сандалет з адной нагі.

ЛЯСНІК. Не аддам... не аддам... (*Паказвае дулі.*) Во ім... во ім... пячатку.

*Усе рагочуць.*

ДРЭВА. Навошта каму твая пячатка, калі няма лесу? Навошта?

ЛЫСЫ (*гучна, узнёсла*). Гуляй, Радзіма-а-а! Пакуль ёсць за што! Папіруем!

БАРАДАТЫ. Ура-а! Цяпер капіталістаў за нос вадзіць будзем. А там і пенсія. Ура-а!

*Прыходзіць Жонка Барадатага са скруткам на руках.*

(*Жонцы*). Чула, каханне маё?

ЖОНКА. Э-ге, э-ге.

*З'яўляецца Шугалей.*

ШУГАЛЕЙ. З сённяшняга дня на гэтым Дрэве будзе вісець-красавацца-фанабэрыцца вось гэты сцяг. (*Разгарнуў, паказвае. Сцяг белы, як снег.*)

БАРАДАТЫ. А якой... дзяржавы?

ШУГАЛЕЙ. Нашай. Нашай дзяржавы. Быў бы лес, а дзяржаву прыдумаем!

*Раптам сekануў дождж. Усе хаваюцца пад Дрэва. І пілавальшчыкі, вядома.*

НАСЦЯ. А мне, а мне куды стаць? Колька, можна каля цябе? (*Стала побач з Колькам, прытулілася да яго.*)

*Бомж сарваў сандалет, адышоў, закінуў сандалет у хмызняк, а потым вярнуўся да Насці.*

*Заслона.*

John FOWLES



# Джон Фаўлз

Джон Фаўлз нарадзіўся 31 сакавіка 1926 года ў сям'і святара ў маленькім гарадку Лі-он-Сі ў графстве Эсэкс. Скончыўшы ў час вайны прыватную школу, ён ідзе служыць у марскую пяхоту, але ўдзельнічаць у ваенных дзеях яму не давялося, бо вайна ўжо скончылася. У 1947–1950 гадах Фаўлз вывучае французкую мову і літаратуру ў Оксфардскім універсітэце, а з 1951 па 1963 год выкладае ангельскую мову ў Францыі, Грэцыі і Англіі. Пасля поспеху свайго першага рамана "Калекцыянер" *(The Collector)* у 1963 годзе ён пераязджае ў гарадок Лайм Рэгіс (графства Дорсэт), дзе і жыве дагэтуль. У 1964 годзе друкуецца

 





ягоная кніга афарызмаў "Арыстас: аўтапартрэт у ідэях" *(The Aristos: A Self-Portrait in Ideas)*, прысвечаных літаратуры і пісьменніцкай працы. У 1965 з'яўляецца раман "Маг" *(The Magus)*, які апавядае пра незвычайныя прыгоды і іспыты, што выпала перажыць герою з волі "мага" Кончыса, а ў 1969 годзе выходзіць у свет галоўны і, паводле ацэнкі крытыкі і чытачоў,найлепшы твор Фаўлза — раман "Жанчына французкага лейтэнанта" *(The French Lieutenant's Woman)*.

Экранізацыя трох першых раманаў прынесла Джону Фаўлзу шырокую вядомасць. У 1974—1977 гадах публікуюцца ягоныя "Вершы", зборнік апавяданняў "Вежа з чорнага дрэва" *(The Ebony Tower)* і раман "Даніэль Марцін" *(Daniel Martin)*, што замацавалі ягоную славу і паставілі Фаўлза ўпоравень з найбуйнейшымі літаратурнымі талентамі паваенных дзесяцігоддзяў. Сярод пазнейшых ягоных твораў — невялікі, але мудрагелісты раман "Манціса" (*Mantissa*, 1983), дзе ў свядомасці героя — траўмаванага пісьменніка — цесна пераплятаюцца эротыка і натхненне, і раман "Мэгат" (*The Maggot,* 1985), загаловак якога можна перакласці як "вусень, зародак" альбо "капрыз, фантазія".

У 1998 годзе выйшла кніга "Чарвяточыны (*Wormholes*): эсэ і выпадковыя запісы", у якой сабраныя аўтабіяграфічныя нататкі, інтэрв'ю, раннія дзённікі, разважанні пра класікаў і сучаснікаў. Назву кнігі аўтар тлумачыць так: чарвяточыны — гэта хады, якія дазваляюць свабодна перамяшчацца ў часе і прасторы.

Джон Фаўлз — адзін з самых выдатных пісьменнікаў сучаснай Англіі. Аднойчы ён сказаў, што хацеў бы напісаць па творы ў кожным з вядомых жанраў, і трэба адзначыць, што яму гэта ў значнай ступені ўдалося, бо ягоныя творы зусім розныя паводле тэматыкі, стылю і танальнасці. Фаўлз ёсць адметнаю фігурай ў літаратуры постмадэрна. У ягоных творах спалучаюцца элементы розных жанраў, а героі і калізіі выклікаюць асацыяцыі з творамі ягоных папярэднікаў — Шэкспіра, Дзікенса, Гардзі, Вулф і іншых. Асабліва гэта заўважна ў рамане "Жанчына французкага лейтэнанта", які ўвесь пабудаваны на літаратурных алюзіях, што дае падставы назваць яго раманам-пастычча. Дзея рамана аднесеная ў 1860-я гады, калі ў светапоглядах людзей, асабліва інтэлігенцыі, адбываліся істотныя змены, звязаныя з адкрыццямі ў галіне прыродазнаўчых навук, у першую чаргу з



 

эвалюцыйнай тэорыяй Чарлза Дарвіна. Гэта быў таксама час першых спробаў жанчын адстояць сваё права на роўнасць з мужчынамі. Гэтыя тэндэнцыі знайшлі адлюстраванне ў рамане. Але гэта яшчэ і раман аб літаратуры, бо ў ім Фаўлз эксперыментуе, ладзіць гульню з чытачом і выпрабоўвае мастацкія магчымасці жанру.

У аснове твора — любоўны трохкутнік. Збяднелы арыстакрат Чарлз Сміцсан збіраецца ўзяць шлюб з дачкой багатага купца Эрнэсцінай Фрыман, ды гэтага не адбываецца, бо герой захапіўся Сарай Вудраф, беднай, але прыгожай і адукаванай жанчынай, якую адны называлі "Трагедыяй", другія — "жанчынай французкага лейтэнанта", а трэція ўжывалі больш моцнае слова, таму што, наколькі было вядома, яе пакінуў французкі марак, некалі ўратаваны ёю, што абяцаў з ёю ажаніцца.

Фаўлз дае тры канцоўкі рамана. Першая — шлюб Чарлза з Эрнэсцінай — узнікае толькі ва ўяўленні героя. Гэта так званы шлюб па разліку, грунтоўна асвойтаны літаратурай і выяўленчымі мастацтвамі. Другая — уз'яднанне Чарлза з Сарай, якую ён, пасля разлукі і доўгіх пошукаў, нарэшце знаходзіць, высвятляючы пры гэтым, што ў іх ёсць маленькая дачка. Гэта сентыментальны шчаслівы канец у духу Дзікенса. У адпаведнасці з трэцяй версіяй, героі сустракаюцца, але Сара адмаўляецца звязаць сваё жыццё з Чарлзам, бо яна адчула смак свабоды, знайшла сваё месца, адкрыла магчымасць самарэалізацыі. Яна — новая жанчына і не хоча абмяжоўваць сваё жыццё сямейнымі рамкамі. Разгублены Чарлз апынаецца сам-насам з "бязмежным, халодным, адчужаным морам" — жыццём, якое яму трэба пачынаць наноў. Такая "разамкнёная канцоўка", характэрная для сучаснага постмадэрнавага пісьма, ёсць сугучнаю экзістэнцыялісцкай трактоўцы жыцця як Сізіфавых мук.

Прапанаванае намі апавяданне "Нябога Како", як і іншыя тэксты Фаўлза, — шматузроўневае. Яго можна чытаць як дэтэктыўны твор, бо ў аснове сюжэта — абрабаванне. Але ў ім ёсць і канфлікт пакаленняў, і сутыкненне інтэлектуальнага асяроддзя з невуцтвам і грубай сілай, і, нарэшце, разважанні наконт ролі мовы ў сучасным жыцці. Як і многія творы Фаўлза і іншых сучасных пісьменнікаў, гэтае апавяданне пакідае чытача ў няведанні што да заканчэння сюжэтнай лініі, бо канкрэтныя матывы злачынства так і застаюцца нявысветленымі. Аднак не гэта галоўнае для аўтара і для нас з вамі. Думаць, разважаць — вось чаго чакае ад нас пісьменнік.

**Вольга СУДЛЯНКОВА**

* * *

● Адна з найбольш кідкіх прыкметаў нашай эпохі – паўсюдная маніпуляцыя і ў масавых, і ў больш рафінаваных відовішчах, і ў мастацтве крайнімі праявамі гвалту, жорсткасці, зла, няўстойлівасці, паталогіі, хаосу, двухсэнсоўнасці, бязвер'я і анархіі. Хэпі-энд стаецца "сентыментальным", "адкрытыя" альбо трагічныя фіналы – "рэальнымі". Часта гавораць, што тыя ці іншыя плыні ў мастацтве ёсць не што іншае, як адбітак тых ці іншых плыняў у гісторыі. Нашае стагоддзе, відавочна, шалёнае, жорсткае і гэтак далей; дык якім жа яшчэ, як не чорным, мае быць народжанае гэтым стагоддзем мастацтва?

● Але з гэтага не вынікае, што мастаку не ўласціва натхняцца задачамі больш высокімі, чым задача трымаць люстэрка перад навакольным светам. Не тое каб пераважная частка "чорнага" мастацтва нашага часу не была, на жаль, гістарычна апраўданая; аднак такі ягоны каларыт часцей за ўсё ёсць вынікам неправамернага ціску на мастака з боку грамадства. Мастак творыць у "чорным спектры" таму, што гэтага чакае ад яго грамадства, а зусім не таму, што ён сапраўды аддае гэтаму перавагу.

● Мастацтва вымушанае цяпер прыўносіць у рэчаіснасць тое, што ў мінулым прыўносілася ў яе невуцтвам і сацыяльнымі ды матэрыяльнымі ўмовамі існавання: няўстойлівасць, гвалт і сваволю. Гэта скажэнне ягонага сапраўднага прызначэння.

● Трымацца такога стылю жыцця, насіць такое аблічча мастака прымушае нашае грамадства; гэтае ж грамадства манатоннасцю і канфармізмам свайго бытавання штурхае яго на стварэнне "чорных" твораў і відовішчаў. Мастак, які адчувае на сабе падобны дыктат, з пункту погляду грамадства выконвае карысную функцыю. Аднак я ўпэўнены, што такая функцыя не з'яўляецца функцыяй мастацтва.

● Сапраўдная першапачатковая функцыя мастацтва палягае не ў тым, каб лячыць хваробы грамадскай недасканаласці, а ў тым, каб разам з навукай быць пуцяводнай зоркай у існаванні людзей.

**АРЫСТАС.**
*(Фрагменты)*

Джон Фаўлз

# НЯБОГА КАКО

*Byth dorn re ver dhe'n tavas re hyr,*
*Mes den hep tavas a-golls y dyr.*

Некаторыя меладраматычныя сітуацыі, запазычаныя з дэтэктываў і бульварных апавяданняў, былі так зацяганыя кіно і тэлебачаннем, што, здаецца, утварыўся нейкі недарэчны закон адваротнай імавернасці, – чым часцей адна з такіх сітуацый з'яўляецца на экране, тым меней шанцаў, што яна можа ўзнікнуць у рэальным жыцці. Па іроніі лёсу, толькі месяц ці два да таго, як са мной здарыўся гэты прыкры выпадак, што з'яўляецца сюжэтам гэтага апавядання, я адстойваў такую думку ў спрэчцы з адным бліскучым маладым геніем з Бі-Бі-Сі. Ён быў да смешнага засмучаны маёй цынічнай заявай, што чым жахлівей паведамленне, тым суцяшальней яно для слухача, бо тое, што гэта здарылася недзе, даказвае, што яно не здарылася тут, не здараецца тут і, такім чынам, ніколі тут не здарыцца. Мне давялося, пэўна ж, крыху адступіцца й пагадзіцца, што сучасны Панглос[1], які сядзіць у кожным з нас і ўважае трагедыю за прывілею іншых асобаў, – нядобрае і антысацыяльнае стварэнне.

Тым не менш, калі я першага разу прачнуўся ў тую ноч маёй нягоды, я нейкі час ляжаў, не верачы сваім вушам і пераадольваючы жах. Я казаў сабе, што мне трызнілася, што ўсё, што напалохала мяне, здарылася ў маёй начной свядомасці, а не ў знешняй рэальнасці. Абапершыся на локаць, я агледзеў зацемнены пакой, потым прыслухаўся, напружваючы слых. Розум падказваў мне, што тое, чаго я баяўся, было ў тысячу разоў верагодней у Лондане, чым там, дзе я знаходзіўся тымчасам. Я ўжо збіраўся супакоіцца, тлумачачы сваю дзіцячую рэакцыю тым, што ўпершыню апынуўся адзін уначы ў даволі

незнаёмай хаце. Мне ніколі не падабалася ні маўклівасць у людзях, ні цішыня ў памяшканнях, і тут мне таксама не ставала гукаў, якія звычайна даносіліся да мяне ў маёй лонданскай кватэры.

Але потым знізу пачуўся лёгкі звон ці бразганне, нібы нешта металічнае ўдарылася аб шклянку або кубак. Лёгкі рып або ціхенькі стук дзвярэй, напэўна, праясніў бы мне сёе-тое. Але гэта былі не тыя гукі. Няясная трывога перайшла ў моцны спалох.

Адзін мой сябра аднойчы адстойваў думку, што існуюць такія перажыванні, якія кожны з нас павінен паспытаць перад тым, як смерць напаткае яго, калі ён хоча верыць, што пражыў поўнае жыццё. Прадчуваць, што табе суджана ўтапіцца, – гэта папершае. Вас заспяваюць у пасцелі з чужой жонкай, па-другое (гутарка адбывалася падчас сяброўскай вечарынкі); убачыць здань – па-трэцяе; забіць чалавечую істоту, па-чацвертае. Успамінаю, што, хоць я і дадаў тады да гэтага спісу адну або дзве такія ж бязглуздзіцы, я быў крыху ўшчымлены тым, што, як мне прыйшлося патаемна прызнацца самому сабе, са мной ніколі не здаралася нічога падобнага. У маім жыцці ўзнікалі ўсялякія праблемы, але забойства ніколі не здавалася мне выйсцем са становішча – можа, хіба толькі тады, калі я атрымліваў зусім несправядлівыя рэцэнзіі на свае творы. З-за дрэннага зроку я не быў на абавязковай службе ў час Другой сусветнай вайны. Мне давялося быць у пасцелі з чужой жонкай, – якраз у часе той самай вайны, – але мы былі ў бяспецы, бо яе муж быў у Паўночнай Афрыцы на працягу ўсяго нашага кароткага кахання. Дзякуючы таму, што я не ўмею плаваць, мне не пагражала ўтапіцца, а здані па якойсьці незразумелай адсутнасці інтарэсу да сваёй справы, здаецца, пазбягалі такіх скептыкаў, як я. Але ж зараз, бяспечна пражыўшы на свеце шэсцьдзесят шэсць гадоў, я сутыкнуўся з адным з такіх конавых здарэнняў: я ўсвядоміў, што не адзін у памяшканні, дзе, апроч мяне, нікога не мусіла быць.

Я б дарэмна патраціў сваё жыццё, калі б кнігі не навучылі мяне цаніць праўду і дамагацца яе ў літаратурнай творчасці, таму менш за ўсё ў гэтым апавяданні мне хацелася паказаць сябе не тым, кім я быў насамрэч. Я ніколі не прэтэндаваў на званне чалавека дзеяння, хоць мне і падабаецца думаць, што дзеля майго пачуцця гумару, іроніі мяне не зусім справядліва было б назваць кніжнікам. Я рана, яшчэ ў школе, зразумеў, што нават сціплая рэпутацыя дасціпніка – або, па меншай меры, уменне ўкалоць

ганарліўца – можа адвесці ад цябе прыкрыя мянушкі "кніжнага чарвяка" ці "зубрылкі" ва ўсіх выпадках, апроч тых, дзе маеш справу з самымі тупымі атлётамі. Несумненна, я быў пад прыцэлам той зласлівасці, што выпадае на долю фізічна знявечаных людзей. І таму не буду прыкідвацца, што не смакаваў, а пры нагодзе і сам не распаўсюджваў плёткі, якія дыскрэдытавалі іншых пісьменнікаў. Нельга таксама сказаць, што мая найпаспяховая халтура – "Карузлік у літаратуры" – з'ўлялася тым узорам аб'ектыўнага і разумнага аналізу, на які я прэтэндаваў. Шкада, але я заўсёды знаходзіў мае недахопы цікавейшымі, чым добрыя якасці іншых людзей. Да таго ж прызнаюся, што кнігі – пісаць іх, чытаць, складаць на іх рэцэнзіі, дапамагаць публікаваць іх – былі маім жыццём у большай меры, чым самое жыццё. Не было нічога дзіўнага ў тым, што менавіта дзеля адной з іх я і быў тае начы там, дзе ўсё і здарылася.

Адзін, большы з двух чамаданаў, што я напярэдадні прывёз на таксі са станцыі ў Шэрбурне, быў поўны нататкаў, чарнавікоў і неабходных тэкстаў. Я набліжаўся да канца таго, што вызнаваў справай усяго свайго жыцця: дэталёвай біяграфіі і крытычнага агляду творчасці Томаса Лава Пікака[2]. Я не павінен перабольшваць, бо пачаў працаваць над імі не даўней, чым якіясь чатыры гады таму; але жаданне мець такую кнігу на сваім рахунку было ў мяне яшчэ з тае пары, калі мне было гадоў дваццаць. Заўсёды з нейкіх важкіх прычынаў я ў першую чаргу браўся за тое, чаго вымагаў час; але гэтая задумка была найдаражэйшай для майго сэрца. Калі я належным чынам падрыхтаваўся да штурму апошняй вяршыні, то выявіў, што Лондан, той агідны новы Лондан, які прыпадабняецца да Нью-Йорку, наклаў "вета" на мой сціплы праект, бо раптам насупраць маёй кватэры на Майда Вэй пачаў здзяйсняцца другі праект, нашмат буйнейшы, і пагражаць майму спакою.

Справа была не толькі ў грукаце і пыле, што стаялі, калі зносілі старыя будынкі, і не ва ўсведамленні таго, што злашчасны псеўданебачос, які збіраліся ўзвесці на руінах таго, што калісьці было спакойнай мірнай вуліцай з дамамі, пабудаванымі ў класічным стылі, хутка пазбавіць мяне такога дарагога для мяне краявіду. У гэтым я ўбачыў апафеёз усяго таго, супраць чаго выступаў Пікак, усяго, што было негуманна, неінтэлігентна і негарманічна. Абурэнне гэтым уварваннем у маё жыццё пачало ўплываць на маю працу; часам я проста выкарыстоўваў Пікака як зачэпку для сваіх

недарэчных злосных заўвагаў наконт сучаснасці. Я не маю нічога супраць такіх заўвагаў у адпаведных месцах, але я ведаў, што калі пачну злоўжываць імі зараз, то здраджу і сваёй тэме, і свайму прызначэнню.

Аднаго вечару я доўга з засмучаным выглядам (і не без папярэдняга намеру) гаварыў пра ўсё гэта з двума старымі прыяцелямі ў іхным хэмпстадскім доме. Апошнімі гадамі я правёў нямала прыемных выхадных дзён на дачы Морыса і Джэйн у Паўночным Дорсэце, хоць і павінен прызнацца, што атрымліваў больш задавальнення ад іх кампаніі, чым ад вясковага асяроддзя. Я не аматар да сельскіх краявідаў, і прырода ў творах мастацтва мне падабаецца больш за сапраўдную. Тым не менш, на той час Цярновая Дача ў бязлюднай даліне здавалася мне вельмі жаданай, бо гэта быў выдатны прытулак, пільна мне патрэбны. Я нядоўга аднекваўся, калі мне прапанавалі яго. З усмешкай слухаў я Джэйн, якая пацвельвалася з маёй нечаканай цягі да тых мясцінаў, дзе калісьці жыў яе ўлюбёны геній, да якога я, на яе думку, ставіўся з ганебнай абыякавасцю.Я і сапраўды ніколі надта не захапляўся Томасам Гардзі. Мне адразу далі ключы, Джэйн растлумачыла мне, дзе я змагу рабіць пакупкі, а Морыс пасвяціў у тайны карыстання электрычнай помпай для вады і ацяпляльнай сістэмай. Інструктаваны і ўзброены такім чынам, аднаго вечару я стаўся ўладальнікам сціплага сабінскага маёнтку[3]. Таму я так і перапалохаўся (і засумняваўся ў відавочным), што напярэдадні лёг спаць з прадчуваннем плённага засяроджання, якога мне так бракавала апошнія два тыдні.

Калі я, выпрастаўшыся, сеў на ложку, я зразумеў, што гук, які я намагаўся разабраць, ішоў знізу, не з гасцёўні, а з лесвіцы... Я ўвесь пахаладзеў, а гэта быў недарэчны і, вядома, далёкі ад гераічнага стан. Рэч была не ў тым, што я быў на дачы адзін. Сама дача стаяла наводшыбе. У якіх-небудзь чатырохстах ярдах ад яе была ферма, а за ёю, у паўмілі, – вёска, дзе, без сумневу, спакойна спаў у сваёй пасцелі паліцыянт. Тэлефон быў нанізе, у гасцёўні, а гэта азначала, што ён дапамог бы цяпер не болей, чым калі б я знаходзіўся на другім канцы свету. Вядома, я мог паведаміць аб сваёй прысутнасці якім-небудзь грукам дзеля спадзявання, што няпрошаны госць разумна вырашыць уцячы. Паводле майго ўяўлення, прафесійныя злодзеі пазбягаюць гвалту. Але цвярозы розум падказаў мне, што далёкая мясцовасць у

пустэльным Дорсэце наўрад ці была прыдатным месцам для прафесійных рабаўнікоў. Хутчэй за ўсё, мой візіцёр быў якім-небудзь нервовым сельскім аматарам-пачаткоўцам. На памяць мне прыйшла гутарка, якая адбылася ў мяне аднойчы з Морысам пра тое, што адзінай прычынай малой колькасці злачынстваў у сельскай мясцовасці з'яўляецца яе цесная сацыяльная структура. Там, дзе ўсе добра ведаюць адзін аднаго, злачынства – справа няпростая, калі не зусім безнадзейная.

Мая слабая надзея на тое, што бразганне магло тлумачыцца нейкімі натуральнымі прычынамі, хутка знікла. Нешта зашкрэблася ўнізе, нібы нехта адсунуў зэдлік. Трэба было зірнуць праўдзе ў вочы – Цярновую Дачу збіраліся абрабаваць. Няцяжка было здагадацца, чаму, насуперак Морысавай статыстыцы, абралі якраз яе. Яна стаяла наводшыбе; ва ўсёй акрузе было, мусіць, вядома, што гаспадары жывуць у Лондане і наязджаюць сюды толькі ў выхадныя дні, і то больш летам. А цяпер серада, не, ужо чацвер, бо мой гадзіннік паказваў пачатак другой гадзіны, і быў лістапад. Я не маю машыны, прысутнасць якой у двары магла б папярэдзіць аб тым, што на дачы хтосьці ёсць; і я рана лёг спаць, каб назаўтра бадзёрым узяцца за працу.

Наколькі я ведаў, на дачы не было нічога каштоўнага для шараговага злодзея. Джэйн абставіла пакоі са звычайнымі для яе прастатой і густам. Было тое-сёе з тонкай парцаляны, некалькі карцін дзевятнаццатага стагоддзя ў наіўна-пастаральным стылі, якія з незразумелых для мяне прычынаў сталі дорага каштаваць у наш час. Я не мог прыпомніць нічога з срэбра, і наўрад ці Джэйн магла пакінуць тут нешта са сваіх упрыгожанняў.

Але пачуўся яшчэ адзін гук – мне стала лягчэй ад таго, што данёсся ён знізу. Падобна было на тое, што адчынялі буфет. Я яшчэ недастаткова асвойтаўся з хатнімі гукамі, дзеля гэтага трэба было нейкі час тут пажыць. Нарэшце я патрапіў зрабіць штосьці разумнае: упоцемках намацаў свае акуляры і надзеў іх. Потым я выпрастаў ногі з-пад коўдры і сеў на край ложка. Характэрна, што рабіў усё гэта я вельмі асцярожна, нібыта сам быў злодзеем. Насамрэч я проста быў у роспачы. Зразумела, бойка была не для мяне. Я не мог без сутычкі дабрацца да тэлефона, бо гэты юнак – а я ўжо вырашыў, што гэта быў які-небудзь патлаты вясковы ёлупень з кулакамі памерам з кумпяк і з адпаведным розумам – наўрад ці дазволіў бы мне абысціся з ім без бойкі. Да таго ж я

ўвесь час прыслухоўваўся, спадзеючыся пачуць яшчэ нешта – гук якога-небудзь прыглушанага голасу. Я зусім не быў упэўнены, што мне зараз выпала мець справу з адным чалавекам. Рабаваць з хаўруснікам, вядома ж, смялей.

Цяпер, заднім розумам, я павінен прызнаць, што кіраваўся эгаістычным прынцыпам. Кралі ж не маю маёмасць. Адзіным, што мела для мяне велізарную каштоўнасць, былі мае паперы і ўсё астатняе, звязанае з Пікакам. Напярэдадні я расклаў іх у адным з пакояў на першым паверсе ў супрацьлеглым канцы дома – у гасцёўні. Наўрад ці ім мог пагражаць гэты напаўпісьменны, што лазіў зараз там унізе. Якому-небудзь больш інтэлігентнаму чалавеку яны маглі б падказаць, што на дачы хтосьці ёсць; што ж датычыла больш яўных прыкметаў маёй прысутнасці... Я стаўся ахвяраю як сваёй ляноты, так і сваёй звыклай залішняй ахайнасці, бо прыбраў і вымыў за сабой посуд пасля лёгкай вячэры ўласнага прыгатавання і не патурбаваўся, як раіла Джэйн, “каб стала весялей”, развесці агонь у каміне. Было сыра, але цяплей, чым у Лондане, таму я не стаў важдацца з цэнтральным ацяпленнем, а толькі ўключыў электрычны камін, які, пэўна, ужо астыў. Халадзільнік быў адключаны, бо я яшчэ не закупіў нічога з прадуктаў. Чырвоны агеньчык воданагравальніка свяціўся ў шафе ля майго ложка. Я загадзя рассунуў унізе фіранкі і захапіў другі чамадан з сабой наверх. Калі б я і захацеў, то не змог бы лепей знішчыць сляды сваёй прысутнасці.

Становішча рабілася невыносным. Знізу пачуліся новыя гукі, чалавек адчуваў сябе як дома. Праўда, колькі я ні напружваў слых, не мог пачуць ніякага балбатання другога голасу; але заставалася ўсё менш сумневу, што рана ці позна злодзей вырашыць паспытаць шчасця наверсе. З усіх фізічных практыкаванняў я больш за ўсё ненавідзеў бойкі і ніколі не браў у іх удзелу. Аднойчы настаўнік у пачатковай школе абазваў мяне крыветкай, і гэтую мянушку аднадушна падхапілі мае тагачасныя сябры. Яна здавалася мне не надта ўдалай, бо крыветка мае хаця б нейкую хуткасць руху і жвавасць; я ж пры сваім маленькім росце і абсалютнай адсутнасці “мускулатуры” не мог суцяшацца нават гэтым. Толькі параўнаўча нядаўна мае родзічы перасталі думаць, што паводле стану здароўя я асуджаны на раннюю смерць. Мне падабаецца ставіць сябе – толькі ў фізічным сэнсе, ні ў якім іншым, спяшаюся дадаць, – у адзін шэраг з Попам, Кантам і Вальтэрам. Я спрабую

патлумачыць, чаму я бяздзейнічаў. Не столькі з таго, што баяўся быць параненым ці забітым, колькі з усведамлення марнасці ўсялякіх дзеянняў з майго боку.

Сюды дамешвалася і тое пачуццё плённай засяроджанасці, аб якім я ўжо казаў, – упэўненасць у тым, што наперадзе мяне чакала энергічная інтэлектуальная праца. Мне так карцела давесці да ладу канчатковы чарнавік, так хацелася ўбачыць надрукаваным на бліскучай паперы адмысловы і каштоўны прадмет майго даследавання. Я рэдка калі так верыў у яшчэ не завершаную работу; і таму тады, седзячы на ложку, адчуў вялізную рашучасць зрабіць усё, каб у гэтай недарэчнай сітуацыі нішто не зашкодзіла яе завяршэнню.

Але дылема была вельмі вострай. У любы момант я мог пачуць крокі на лесвіцы. Раптам пачуўся гук, ад якога ў мяне з палёгкай ёкнула сэрца, – я адразу здагадаўся аб яго паходжанні. Уваходныя дзверы зачыняліся на драўляную клямку. Там была і засаўка, але яна адчынялася ціха. А клямка была залішне тугая, таму адчынялася са шчаўчком. Менавіта яго я і пачуў. На маю вялікую радасць, наступны гук пачуўся знадворку. Я пазнаў лёгкі рып веснічак, што вялі з вузкага палісадніка на вуліцу. Здавалася, што, насуперак маім чаканням, няпрошаны госць вырашыў, што ўзяў ужо дастаткова. Не ведаю, што прымусіла мяне ўстаць у гэты момант і асцярожна падысці да вакна ў спальні. Калі я напярэдадні, з тым прыемным пачуццём уладарніцтва, што бывае ў людзей, якім даводзіцца часова наймаць жытло, выходзіў на ганак падыхаць перад сном свежым паветрам, было ўжо цёмна. Але нават пры дзённым святле я з-за сваёй блізарукасці наўрад ці змог бы разгледзець хоць нешта ўнізе. Усё ж мне чамусьці вельмі хацелася ўбачыць цёмную постаць – нават не ведаю чаму. Можа, дзеля таго, каб проста ўпэўніцца, што мяне пакінулі ў спакоі.

І вось я асцярожна выглянуў праз акенца, што выходзіла на вуліцу. Я не спадзяваўся шмат убачыць, але, на маё здзіўленне і жах, мне было вельмі добра відаць – і з вельмі простай прычыны. Святло ў гасцёўні па-ранейшаму гарэла. Я бачыў белыя дошкі брамкі. Што да чалавека, які пайшоў з хаты, то яго не было відно. Некалькі хвілінаў было ціха. Потым я пачуў, як зачыніліся аўтамабільныя дзверцы, – ціхенька, асцярожна, але не з той абсалютнай асцярожнасцю, якой можна было б чакаць ад чалавека, што западозрыў маю прысутнасць. Я рызыкнуў шырэй расхінуць

фіранкі, але машына, ці фургон, ці што там яшчэ, было схавана за вялікай купай цёрну, ад якой і пайшла назва дачы. Дзіўна, я нават не прачнуўся, калі машыну прыгналі і паставілі тут. Але вуліца тут ішла пад ухіл, таму ён, магчыма, ехаў з выключаным рухавіком.

Я не ведаў, што і думаць. Зачыненыя дзверы сведчылі пра намер паехаць. Але ж святло заставалася гарэць – а ніводзін жа злодзей, які б бязглузды ён ні быў, не зробіць такой памылкі, калі ён толькі сапраўды збіраецца пакідаць месца злачынства. Марнавацца гаданнямі мне давялося нядоўга. Раптам каля веснічак узнікла постаць. Яна прайшла праз іх і накіравалася ў хату, знікнуўшы з маіх вачэй амаль раней, чым я паспеў схавацца. Далей падзеі развіваліся з жахлівай хуткасцю. Пачуліся шпаркія крокі на лесвіцы. Мяне ахапіла млосць: я павінен быў нешта рабіць, мне трэба было дзейнічаць. Але я працягваў стаяць ля вакна, як спаралізаваны, няздольны нават варухнуцца. Здаецца, я быў больш напалоханы сваім страхам, чым яго прычынай. Мяне стрымлівала і тое цвярозае ўсведамленне, што я не павінен быў дзейнічаць пад уплывам жаху.

Крокі спыніліся на маленькай лесвічнай пляцоўцы, на якую адны супраць другіх выходзілі дзверы дзвюх спальняў. Не ведаю, што я зрабіў бы, калі б няпрошаны госць павярнуў спачатку не налева, а направа... Дзіўна, што я з нейкай палёгкай пачуў, што павярнулася ручка якраз маіх дзвярэй. У цемры я нічога не бачыў і стаяў знерухомеўшы, нібы ўсё яшчэ спадзеючыся, што незнаёмец нечакана паверне назад. Але раптоўна запаліўся ліхтарык. Ён адразу выхапіў з цемры мой пусты непрыбраны ложак, а праз момант знайшоў і мяне – ва ўсёй маёй роспачы, босага, у піжаме. Памятаю, што я падняў руку, каб схавацца ад сляпучага промня, хоць мой жэст мог падацца жэстам бездапаможнай самаабароны. Наступіла цішыня, у якой стала ясна, што чалавек з ліхтаром не збіраўся ўцякаць. Я зрабіў слабую спробу прасвятліць становішча.

“Хто вы? Што вы тут робіце?”

Пытанні былі бязглуздыя і дарэмныя, вядома, і атрымалі той адказ, або, дакладней, адсутнасць яго, які заслугоўвалі. Я зрабіў яшчэ адну спробу.

“Вы не маеце права быць тут”.

На хвіліну ад мяне адвялі прамень ліхтара. Я пачуў, як адчыніліся дзверы спальні насупраць. Але потым, амаль адразу ж, мяне зноў асляпіла святло.

Настала яшчэ адна паўза, потым пачуўся голас.

"Марш у ложак!"

Тон крыху супакоіў мяне. Я чакаў пачуць дорсэцкі, або, у якім разе, агрэсіўны акцэнт неадукаванага чалавека. Гэты ж гучаў абыякава і спакойна.

"Давай у ложак!"

"Не трэба насільнічаць".

"Ладна. Рабі, як кажу!"

Я крыху павагаўся, потым пайшоў да ложка і нервова сеў на край.

"Накрый ногі!"

Я зноў завагаўся. Але ж выбару ў мяне не было. Прынамсі са мной не расправіліся фізічна. Я сунуў абедзьве нагі пад коўдру і працягваў сядзець. Ліхтар усё яшчэ сляпіў мяне. Зноў наступіла цішыня, як быццам мяне разглядалі і ацэньвалі.

"А цяпер акуляры. Знімі!"

Я зняў акуляры і паклаў іх побач з сабой на стол. На хвіліну ліхтар пакінуў мяне. Злодзей шукаў выключальнік. Пакой напоўніўся святлом. Я распазнаў няясную постаць маладога чалавека сярэдняга росту з дзіўнымі жоўтымі рукамі, потым убачыў, што на ім былі нейкія сiняватыя штаны і кашуля. Я глядзеў на нязграбнага дзецюка гадоў дваццаці. Той невыразны жаўтаваты колер ягонае скуры, які я спачатку аднёс на кошт сваёй блізарукасці, стаўся мне нарэшце зразумелы. Па самыя вочы твар быў зацягнуты жаночай капронавай панчохай. З-пад чырвонай вязанай шапачкі звісалі чорныя валасы, вочы былі шэрыя. Яны доўга вывучалі мяне.

"Што ты так спужаўся, мужык?"

Пытанне было настолькі бязглуздае, што я нават не спрабаваў адказаць на яго. Ён пацягнуўся, дастаў мае акуляры, хутка прымераў іх. Я зразумеў, што недарэчны жоўты колер ягоных рук тлумачыўся тым, што на іх былі кухонныя пальчаткі, – пэўна, дзеля таго, каб не пакінуць адбіткаў пальцаў. Вочы над маскай зноў утаропіліся ў мяне. Гэта былі вочы недаверлівага адзінокага звера.

"Што, ніколі раней так не здаралася?"

"Вядома, не".

"Са мной таксама. Будзем гуляць на слых. Так?"

Я хітнуў галавой, нібыта пагаджаючыся. Ён павярнуўся і

пайшоў туды, дзе раней стаяў я. Адчыніў акно, потым нядбайна шпурнуў мае акуляры ў цемру, – ва ўсякім разе, я ўбачыў рух ягонай рукі, які мог азначаць толькі гэта. Я адчуў злосць, але заадно зразумеў і тое, што было б глупствам паказваць яе. Вось ён зачыніў акно, шчоўкнуў засаўкай і захінуў фіранкі. Пасля падышоў да ложка.

"Ну як?"

Я нічога не адказаў.

"Спакойней!"

"Мяркую, што сітуацыя не для спакою".

Ён склаў рукі і некалькі хвілінаў разглядаў мяне; потым тыцнуў у мяне пальцам, нібыта я прасіў яго вырашыць нейкую праблему.

"Давядзецца цябе звязаць".

"Звязвайце".

"Не маеш нічога супраць?"

"На жаль, у мяне няма выбару".

Зноў маўчанне, потым ён весела хмыкнуў.

"Езус. Колькі разоў я ўяўляў сабе гэта. Тысячы спосабаў, але ж нічога падобнага да гэтага".

"Прабачце, што расчараваў вас".

Зноў шматзначная паўза.

"Думаў, ты бываеш тут толькі па выхадных".

"Я наняў гэтую хату ў гаспадароў".

Ён крыху падумаў, потым зноў тыцнуў у мяне жоўтым пальцам.

"Разумею".

"Што разумееце?"

"Каму хочацца падстаўляць галаву дзеля сяброў? Так?"

"Дарагі малады чалавек, я напалову меншы за вас ростам і ў тры разы старэйшы".

"Ну добра. Я толькі пажартаваў".

Ён павярнуўся і агледзеў пакой. Але я, здаецца, цікавіў яго больш за тое, чым ён мог тут пажывіцца. Ён прыхінуўся да шафы і зноў звярнуўся да мяне.

"Не тое, што ў кніжках. Там які-небудзь старэчына заўсёды сіліцца нешта зрабіць. Кідаецца на цябе з качаргой або са сталовым нажом".

Я ўздыхнуў.

Ён працягваў: "Уласнасць. Што толькі яна ні робіць з людзьмі. Разумееш, што я маю на ўвазе?" Потым дадаў: "Але ж цябе гэта не датычыць. Вось".

Я заўважыў, што старанна разглядаю свае ногі пад коўдрай. Мне ніколі не даводзілася бачыць або чытаць, каб у такой сітуацыі злачынца аналізаваў сваю ахвяру. Ён торкнуў у мяне ліхтарыкам.

"Трэба было даць знак, што ты тут, мужык. Я знік бы, як дым. Бо не ведаў бы, хто ты".

"Дазвольце мне прапанаваць вам заняцца тым, дзеля чаго вы сюды прыйшлі".

Ён зноў хмыкнуў, разглядваючы мяне. Потым паківаў галавою.

"Фантастыка".

Калісьці я ўяўляў сабе розныя дзеянні ў такой сітуацыі, раптоўныя і мэтанакіраваныя, якія адрозніваліся адно ад другога толькі мерай непрыемнасці; усё, толькі не гэткае непрыстойнае падабенства да спакойнай балбатні выпадковых сустрэчных. Напэўна, я павінен быў адчуць палёгку, але я палічыў бы за лепшае мець справу з болей звыклым ці натуральным паводле нашага ўяўлення прадстаўніком ягонага рамяства. Мусіць, ён з выразу майго твару ўцяміў маю думку.

"Я абчышчаю парожнія дамы, мужык. І не такіх маленькіх людзей, як ты".

"Калі ласка, перастаньце пахваляцца гэтым".

Я гаварыў рэзка; сітуацыя рабілася ўсё больш недарэчнай. У ягоным голасе пачуўся амаль што мяккі папрок.

"Гэй. Гэта мне трэба псіхаваць, а не табе".

Ён развёў жоўтымі рукамі.

"Проста я вельмі спужаўся. Ты ж тут мог зараджаць ружжо. Усё магло быць. Выпусціў бы мне кішкі, як толькі я адчыніў дзверы".

Я сабраўся з духам.

"Мала таго, што вы ўварваліся ў дом двух прыстойных, сумленных, не вельмі багатых людзей, каб украсці ў іх рэчы, якія не маюць вялікай каштоўнасці, але яны любімыя і дарагія для гаспадароў, дык..."

Я не дакончыў сказа, таму што не зусім ведаў, што было недарэчным у ягоных паводзінах. Але ,ва ўсякім разе, у маім тоне чулася абурэнне. Ягоны спакойны адказ яшчэ больш абурыў мяне.

“У Лондане маюць таксама добрую хату, не?”

Да таго часу я ўжо скеміў, што сутыкнуўся з асобай, якая належыць да таго незразумелага (для майго пакалення) новага свету брытанскай моладзі, што пазбаўлены ўсялякай класавай прыналежнасці. Няма другога такога чалавека, які б гэтак непрыязна, як я, ставіўся да класавага снабізму, і мяне зусім не хвалюе, што сучасная моладзь адкінула многія са старых умоўнасцяў. Шкада толькі, што яна адхіляе шмат іншага – як, напрыклад, павагу да мовы і інтэлектуальную сумленнасць – таму, што памылкова ўважае іх за ганебна буржуазныя. Я быў знаёмы з падобнымі маладымі людзьмі з калялітаратурнага асяроддзя. Яны таксама не маглі нічога прапанаваць, апроч свайго эмансіпаванага выгляду і ўяўнай бяскласавасці, і з ваяўнічым напорам адстойвалі гэта. З досведу зносінаў з імі я ведаў, што іхнаю адметнаю рысай была абвостраная, нібы іголка, адчувальнасць да ўсяго, што хоць трошкі нагадвала б паблажлівасць; да фразы, якая паказала б, што ў іхных новых ідалаў блытанае мысленне і культурная абмежаванасць. Я разумеў, якую запаведзь я толькі што парушыў: не валодай нічым, апроч бруднай кватэркі на задворках.

“Зразумела. Злачынства як абавязак сапраўднага рэвалюцыянера?”

“Не хлебам адзіным. Калі ты ўжо загаварыў пра гэта”.

Раптам ён схапіў драўлянае крэсла, якое стаяла побач з камодай, павярнуў яго і сеў на яго задам наперад, паклаўшы рукі на спінку, і зноў тыцнуў у мяне сваім жоўтым пальцам.

“На маю думку, маю хату няспынна рабуюць з дня майго нараджэння. Разумееш? Сістэма, так? Ведаеш, што казаў Маркс? Бедныя не могуць красці ў багатых. Гэта багатыя абкрадаюць бедных”.

Я ўзгадаў дзівосна падобную да гэтай – па тоне, калі не па змесце – размову, якую я меў за тыдзень ці два да гэтага з электрыкам, што перарабляў у маёй кватэры праводку. Ён на працягу дваццаці хвілінаў граміў прафсаюзы. І рабіў гэта з такім самым адчуваннем сваёй непагрэшнасці. Лекцыя тымчасам працягвалася.

“Скажу табе яшчэ нешта. Я вяду сумленную гульню. Ніколі не бяру лішняга, так? Не ганяюся за чымсьці вялікім. Толькі хаты накшталт гэтай. У мяне бываюць такія рэчы! Ужо ў руках.

Але я не бяру. А нашыя лягавыя, яны адно ківаюць галовамі ды супакойваюць пацярпелага ўладальніка, што магло быць і горш. Маўляў, толькі дурань мог не ўзяць залаты паднос. Або старадаўні імбрык, або такога кшталту. Так? Толькі сапраўдны дурань не ведае, што багатыя шалеюць, калі чапаеш іхную ўласнасць. Таму кожнага разу, калі ў мяне свярбяць рукі, я думаю пра ўсю сістэму, сячэш? Пра тое, што забівае ўсё. Прагнасць мяне магла б таксама загубіць, калі б я паддаўся ёй. Таму ніколі не прагну. Хапаць лішку – гэта не па мне".

Шмат разоў даводзілася мне чуць, як людзі стараюцца апраўдаць свае прыкрыя ўчынкі, але ніколі ў такіх недарэчных абставінах. Магчыма, найвялікшай недарэчнасцю была гэтая чырвоная ваўняная шапачка. На мой слабы зрок, яна нагадвала шапачку кардынала. Было б занадта сказаць, што я пачаў атрымліваць асалоду ад усёй гэтай сітуацыі. Але я пачаў адчуваць, што са мной адбываецца выпадак, які я потым доўга буду як байку распавядаць за сталом сваім знаёмым.

"І вось яшчэ што. Што я раблю. Так, людзям крыўдна... як ты казаў. Дарагія ім рэчы. Усё такое. Але ж, мабыць, гэта дапамагае ім убачыць, якое гэта дзярмо, уся гэтая маёмасць".

Ён ляпнуў па спінцы крэсла, на якім сядзеў.

"Ты калі-небудзь думаў пра гэта? Гэта ж тухта. Вось гэтае крэсла, яно не тваё і не маё. І не твайго сябра. Яно проста крэсла. Нічыё. Я часта думаю пра гэта. Ведаеш, прынясу рэч дамоў, пагляджу на яе. І не адчуваю, што яна мая. Проста рэч і ўсё, так? Нічога не мяняецца, усё само па сабе".

Ён адхіліўся назад.

"Ну што, няпраўда?"

Я ведаў, што сур'ёзна спрачацца з гэтым маладым блазнам было б усё адно, што абмяркоўваць метафізічныя погляды якога-небудзь сярэднявечнага філосафа з аперэтачным камедыянтам: толькі нарвешся на ягоныя кпіны. Ягоныя пытанні і насмешкі былі няўклюдным запрашэннем да гамонкі, але ў мяне было пачуццё, што я павінен старацца дагаджаць яму.

"Я згодны, што багацце размеркавана несправядліва".

"Таму я спрабую змяніць нешта".

"Грамадства нядоўга пражыло б, калі б усе трымаліся вашых поглядаў".

Ён заёрзаў, заківаў галавою, нібыта я зрабіў памылковы

ход у шахматнай гульні. Нечакана ён устаў, адсунуў крэсла і пачаў адчыняць шуфляды ў камодзе. Агляд ягоны быў даволі павярхоўны. Раней я паклаў зверху некалькі манет разам з ключамі і зараз пачуў, як ён перабіраў іх. Але ж нічога не забраў у кішэню; я тымчасам маліўся пра сябе, каб ён не заўважыў адсутнасці кашалька. Той быў у маёй куртцы на вешаку за дзвярыма, якія цяпер былі адчыненыя да сцяны, таму яе не было відаць. Ён зноў павярнуўся да мяне.

"Гэта тое ж самае, што калі б усе заўтра налажылі на сябе рукі, то знікла б праблема народанасельніцтва".

"Баюся, што я чамусьці не бачу паралелі".

"Гэта ж тухта, мужык".

Ён падсунуўся бліжэй да вакна і пачаў разглядаць сябе ў маленькім старадаўнім люстэрку.

"Калі б усе зрабілі сёе, калі б усе зрабілі тое. Але ж не робяць, так ці не? Можа, пры іншай сістэме я не быў бы тут. Але ж я тут, так?"

Як быццам для таго, каб падкрэсліць сваё знаходжанне тут, ён зняў са сцяны люстэрка; і я больш не пачуваўся Алісаю ў гэтай бязглуздай краіне цудаў. "Я ёсць Існы" гучыць добра ў сваім вядомым кантэксце[4], але гэтыя словы не могуць быць асновай для разумнай размовы. Яму, пэўна, здалося, што мяне прымусіла замаўчаць ягоная катэгарычная заява, і зараз ён падышоў да дзвюх акварэляў, што віселі на задняй сцяне пакоя. Зняў іх і пачаў засяроджана разглядаць, зусім як пакупнік на якім-небудзь вясковым аўкцыёне. Нарэшце ён сунуў іх падпаху.

"А насупраць – ёсць там што-небудзь?"

Я глынуў паветра і адказаў:

"Нічога, наколькі мне вядома".

Але ён знік разам са сваім "таварам" у другім пакоі. Цяпер ён не асцерагаўся шуму. Я пачуў, як ён адчыняе шуфляды шафы. Я нічога не мог зрабіць. Дарэмна было б кідацца наніз да тэлефона, нават калі б у мяне былі акуляры.

Я ўбачыў, як ён выйшаў з пакоя і схіліўся над чымсьці на лесвічнай пляцоўцы, над нейкім мяшком ці саквояжам. Зашамацела папера. Нарэшце ён выпрастаўся і зноў з'явіўся на парозе майго пакоя.

"Няшмат", сказаў ён. "Ну нічога. А цяпер твае грошы, і будзе ўсё. Прабач".

“Мае грошы?”

Ён кіўнуў на камоду.

“Я пакіну табе дробязь”.

“Хіба ж вы недастаткова набралі тут?”

“Прабач”.

“У мяне вельмі мала з сабой”.

“Тым менш іх табе будзе не хапаць, так?”

Ён не зрабіў ніякага пагрозлівага жэста, голас ягоны гучаў спакойна, ён проста стаяў, гледзячы на мяне. Але ўвільваць далей не мела сэнсу.

“За дзвярыма”.

Ён зноў тыцнуў у мяне пальцам, потым павярнуўся і адсунуў дзверы. Аб’явілася на вочы мая спартовая куртка. Смешна, але я адчуў нейкую няёмкасць. Не жадаючы траціць час на пошукі банку ў Дорсэце, я перад выездам з Лондана атрымаў па чэку пяцьдзесят фунтаў. Безумоўна, ён адразу знайшоў мой кашалёк. Я ўбачыў, як ён узяў грошы і хуценька пералічыў іх. Потым, на маё здзіўленне, падышоў бліжэй да мяне і кінуў адну банкноту ў нагах ложка.

“Пятак за твае перажыванні, ідзе?”

Ён засунуў рэшту грошай у заднюю кішэню, потым нетаропка прагледзеў увесь кашалёк. Нарэшце ён дастаў і пачаў вывучаць маю банкаўскую картку.

“Ага. Сыходзіцца. Гэта ты там на стале?”

“На стале?”

“Уся там пісаніна?”

Першыя тры раздзелы былі ўжо надрукаваныя, і ён, мусіць, паглядзеў на тытульны ліст і запомніў маё імя.

“Я прыехаў сюды, каб закончыць кнігу”.

“Ты пішаш кніжкі?”

“Калі мяне не рабуюць”.

Ён працягваў корпацца ў кашальку.

“Якія кніжкі?”

Я не адказаў.

“Ну вось тая, што нанізе, пра што яна?”

“Пра чалавека, аб якім вам было б нецікава слухаць, і, калі ласка, давайце скончым гэтую агідную справу і ўсё”.

Ён зачыніў кашалёк і кінуў яго побач з пяціфунтовай банкнотай.

“Чаму ты так упэўнены, што я нічога не ведаю?”

“Я не меў гэтага на ўвазе”.

“Такія, як ты, памыляюцца наконт нас”.

Я намагаўся схаваць сваё ўзвярэджанае раздражненне.

“Прадмет маёй кнігі – даўно памерлы раманіст на імя Пікак. Цяпер яго мала хто чытае. Гэта ўсё, што я меў на ўвазе”.

Ён паглядзеў на мяне. Я пераступіў яшчэ адну запаведзь. І цяпер разумеў, што мне трэба быць асцярожней.

“Ну добра. А чаму ты пра яго пішаш?”

“Таму, што я захапляюся ягонаю творчасцю”.

“Чаму?”

“Таму, што ў яго ёсць тое, чаго не хапае нашаму часу”.

“Што?”

“Гуманізм. Добрыя норавы. Моцная вера ў...”

Мне карцела сказаць “здаровы сэнс”... “прыстойнасць”.

“А я... мне падабаецца Конрад. Ён найвялікшы”.

“Многія падзяляюць ваш пункт гледжання”.

“А ты не?”

“Ён вельмі добры пісьменнік”.

“Найлепшы”.

“У мяне ёсць ягоная кніжка пра мора. Клас, так?”

Я кіўнуў галавою з, як я спадзяваўся, выглядам ухвалы, але ягоны розум, відаць, быў усё яшчэ заняты маім пагардлівым разважаннем наконт пісьменнікаў, аб якіх ён нічога не чуў.

“Часам я бачу вакол сябе мноства кніг. Раманы. Гістарычныя кнігі. Пра мастацтва. Я бяру іх дамоў. Чытаю. Магу пабіцца аб заклад, што ведаю аб старажытнасці больш, чым большасць антыквараў. Я і ў музеі хаджу. Проста так, паглядзець. У музеях не краду. Мне здаецца, рабаваць музеі – гэта тое ж самае, што рабаваць небаракаў, якія туды ходзяць”.

Ён, здаецца, чакаў нейкага адказу. Я зноў злёгку кіўнуў.У мяне балела спіна, я ж сядзеў так напружана, слухаючы ўсю гэтую лухту. Бянтэжыла не так ягоная манера, як тэмп, што ён задаў: андантэ там, дзе павінна было быць прэстысіма.

“Усё павінна быць як у музеях. Ніякай уласнай маёмасці. Проста музеі. Куды б кожны мог пайсці”.

“Як у Расіі?”

“Так”.

Літаратары заўсёды адчувальныя да ўсяго эксцэнтрычнага.

Наўрад ці можна адчуць любоў да чалавека, які толькі што разлучыў цябе з сарака пяццю фунтамі, якія табе так патрэбныя. Але ж я ўмею пераймаць чужую манеру гаварыць – без гэтага нядобрага ўмення нельга было б распавядаць показкі – і я пачаў смакаваць, нягледзячы на свой жах і злосць, некаторыя з разумовых і лінгвістычных выкрутасаў майго ката. Я злёгку ўсміхнуўся яму.

“Нягледзячы на тое, што яны там робяць са злодзеямі?”

“Мужык, там бы я гэтым не займаўся. Вось так. Для гэтага нянавісць патрэбна. У нас ёсць шмат чаго ненавідзець. Хапае. Яны там нарабілі спраў. Але, прынамсі, яны намагаюцца нешта рабіць. Што не падабаецца тут такім людзям, як я? Ніхто нічога не спрабуе змяніць. Ведаеш, хто ў гэтай краіне спрабуе нешта рабіць? Смярдзючыя торы. Сярод іх ёсць сапраўдныя артысты, я табе скажу. Такія, як я, – нішто ў параўнанні з імі”.

“Мае сябры, якім належыць гэты катэдж, не торы. Па сутнасці, яны далёкія ад гэтага. Я, зразумела, таксама”.

“Шышкі”.

Але ён сказаў гэта лёгка, без пагрозы.

“Наўрад ці мы падыходзім для вашай справы”.

“Гэй, ты што, хочаш, каб я адчуў сябе вінаватым, ці што?”

“Каб вы крыху больш разбіраліся ў складанасцях жыцця”.

Ён доўга стаяў, гледзячы на мяне, і я падумаў, што мне зноў прыйдзецца выслухоўваць ягоныя псеўдамаркузіянскія – калі толькі гэта не таўталогія – наіўныя разважанні. Але раптоўна ён адцягнуў на запясці адну з жоўтых пальчатак і паглядзеў на гадзіннік.

“Шкада. Было цікава. Так. Мне яшчэ трэба далёка-далёка-далёка ехаць, таму я зраблю сабе шклянку кавы. Добра? А ты, ты падымайся, не спяшайся, апранайся. Потым спускайся наніз”.

Мой жах, які ўжо амаль прайшоў быў, заварушыўся зноў.

“Чаму апранацца?”

“Мне прыйдзецца звязаць цябе, мужык. А нам жа зусім не хочацца, каб ты змерз, чакаючы. Ці не так?”

Я кіўнуў галавою.

“Ну вось і добра”.

Ён пайшоў да дзвярэй, але вярнуўся.

“А сэру – таксама кавы?”

“Не, дзякую”.

“Шклянанчку? Я хутка”.

Я адмоўна хітнуў галавою, і ён пайшоў наніз. Я адчуў слабасць, бо быў узрушаны нашмат больш, чым думаў; я зразумеў, што тое, што са мной толькі што адбылося, было яшчэ адносна прыемнай часткай усяго здарэння. Цяпер мне давядзецца гадзінамі сядзець звязаным, і невядома, як я змагу вызваліцца. Паколькі я не хацеў, каб мяне турбавалі, я не зрабіў нічога, каб мне дастаўлялі сюды пошту, таму наўрад ці сюды зазірне паштар. Па малако, як папярэдзіла мяне Джэйн, я павінен быў хадзіць на ферму сам. Я не ўяўляў, хто нават мог бы апынуцца каля катэджа.

Я падняўся і пачаў апранацца, абдумваючы свае ўражанні ад гэтага наваяўленага Рэфлза[5], што быў зараз унізе. Ягоная замілаванасць уласным голасам дала мне, прынамсі, хоць і цьмянае, уяўленне пра ягонае паходжанне. Адкуль бы ён ні быў родам, я быў упэўнены, што цяпер ягоным асяродкам быў Лондан, ва ўсякім разе, які-небудзь вялікі горад. Я не ўлавіў ніякага рэгіянальнага акцэнту. Магчыма, ён і не паходзіў з рабочага класа, хоць так можна было меркаваць з ягонай гратэскнай мовы, але ў цэлым я адчуваў, што ён хутчэй падняўся па сацыяльнай лесвіцы, чым спусціўся па ёй. Яму, пэўна, вельмі хацелася ўразіць мяне сваёй адукаванасцю. Увогуле я мог паверыць, што ён, скажам, здаў выпускныя іспыты і нават правёў год у якім-небудзь правінцыйным універсітэце. Я прыкмеціў у ім нейкі абарончы механізм, што сфармаваўся, мусіць, у адказ на пачуццё крушэння надзеяў, вядомае мне са знаёмства з дзецьмі маіх сяброў.

Малодшы сын Морыса і Джэйн (да вялікай роспачы ягоных бацькоў, якія ў характэрнай для іх манеры хэмпстадскіх ліфералаў даволі талерантна ставіліся да маладзёвай рэвалюцыі) нядаўна пачаў праяўляць некаторыя падобныя сімптомы. Пакінуўшы Кембрыдж з-за "абсалютнай непатрэбнасці" вывучэння юрыспрудэнцыі, – тое, што ягоны бацька быў адвакатам, безумоўна, падштурхнула ягоны намер – ён заявіў, што збіраецца сачыняць поп-музыку. Як я зразумеў з расповедаў бацькоў, пасля некалькіх месяцаў усё мацнейшага раздражнення на тое, што не мог дабіцца імгненнага поспеху ў гэтай сферы, ён рэцыраваўся – калі так можна сказаць – у мааісцкую камуну ў Паўднёвым Кенсінгтоне, якою кіравала збеглая з дому дачка мільянера. Я крыху легкадумна пераказваю цяпер ягоныя прыгоды, але, пэўна ж, назіраць, як перажывалі і Морыс, і Джэйн з-за таго, што Рычард так ламаў сваё жыццё, мне было не да смеху. Яны

распавядалі мне пра той цяжкі вечар, калі ён пакінуў Кембрыдж, калі асудзіў іхны лад жыцця і ўсё, што было з гэтым звязана. Іхныя два жыцці, праведзеныя ў барацьбе за нешта разумнае, пачынаючы з ядзернага раззбраення і канчаючы захаваннем платанавых дрэваў на Фіцджон Авеню, былі абразліва кінутыя ім у твар. Паводле яго, іхным непрабачальным злачынствам было тое, што яны па-ранейшаму жылі ў доме, які купілі, як толькі пабраліся ў 1946 годзе, за некалькі тысяч, і які цяпер каштаваў шэсцьдзесят ці больш. Людзі, падобныя да іх, даўно сталіся аб'ектам кпінаў кожнага сатырыка, і, безумоўна, маюцца разыходжанні паміж іхным прыемным прыватным жыццём і клопатам пра бедных, якія яны праяўляюць публічна. Магчыма, вядомы адвакат і сапраўды не мае права быць заўзятым тэатралам, нават калі ён, саступаючы просьбам, бясплатна выступае ў абарону кожнай групы дзеяння; магчыма, сябра мясцовай рады ад лейбарыстаў (якім на працягу многіх гадоў была Джэйн) і не мае права адчуваць асалоду, гатуючы смачны абед; але ўсё ж найвялікшым іхным злачынствам у вачах Рычарда было тое, што яны лічылі гэтае ўраўнаважанае жыццё інтэлігентна прыстойным, а не слепа-крывадушным.

Хоць я і спачуваў абурэнню Морыса і ягоным абвінавачванням сына ў эгаістычнай безадказнасці, але, мусіць, Джэйн больш дакладна паставіла канчатковы дыягназ. Яна, я думаю, слушна даводзіла, што жаданне выклікаць сямейны скандал хоць і было часткай маральнага падзення хлопца, але ж сапраўднай хваробай яго і яму падобных быў непахісны ідэалізм. Ён быў так адурманены ўяўленнем артыстычнай славы і высакародна рэвалюцыйнага ладу жыцця, што звычайныя перспектывы здаваліся яму безнадзейна агіднымі. Як трапна сказала Джэйн, ён хацеў бы пакарыць Эверэст за адзін дзень, калі ж для гэтага спатрэбілася б два дні, ён страціў бы ўсялякую цікавасць.

Той тып маладога рэвалюцыянера, што быў зараз са мною, вырашаў свае праблемы крыху больш удала, ці, калі зыходзіць з нейкай скажонай логікі, больш пераканаўча за юнага Рычарда. Прынамсі, ён па-свойму ўтрымліваў сябе фінансава. А падабенства марксізму было толькі забавай, проста модным апраўданнем сваіх дзеянняў, як гэта давёў бы сам Маркс, добра знаёмы з сярэднім класам.

Няма патрэбы казаць, што ў той момант я не праводзіў

гэтай разгорнутай паралелі з Рычардам. Аднак я падумаў пра хлопца, пакуль нацягваў на сябе адзежу – не столькі падумаў, колькі проста ўспомніў пра яго. Адкуль гэты малады чалавек, што быў зараз унізе, ведаў пра існаванне Цярновай Дачы? Чым больш я разважаў, тым менш верагодным здавалася тое, што маланка, так бы мовіць, мусіла трапіць якраз у гэтае месца. Значыць, ён ведаў, што гаспадары жылі ў Лондане. Ён мог вызнаць гэта на бліжэйшай ферме або ў мясцовым шынку, але ён здаваўся занадта хітрым, каб ісці на такую непатрэбную рызыку. Чаму б яму было не вызнаць пра Морыса і Джэйн з першых вуснаў, дакладней, з вуснаў бунтоўнага юнака. Вядома, я ніколі не прыкмячаў за Рычардам нічога заганнага або злоснага, і я не мог уявіць сабе, каб ён наўмысна падгаварыў каго-небудзь "управіцца" з маёмасцю сваіх бацькоў – хоць ён і мог крычаць на іх у крытычны момант. Але ж ён мог гаварыць аб гэтым у асяродку маладых рэфарматараў свету... а гэты мой сённяшні жартаўнік, падобна, уяўляў сябе палітычным філосафам таго ж гатунку. Таксама ён толькі што намякаў, што яму трэба ехаць кудысьці далёка. А гэта мог быць Лондан. Такая гіпотэза ўразіла мяне, але яна здалася вельмі праўдападобнай.

Я ўсё яшчэ шукаў іншых доказаў у ягоных словах, калі з нізу лесвіцы пачуўся ягоны голас.

"Спускайся, калі гатовы, бацька".

Мне давялося ісці наніз. Я ліхаманкава стараўся прыдумаць якое-небудзь наіўнае пытанне, якое б канчаткова пацвердзіла маю здагадку. Але нічога не прыходзіла ў галаву, а калі б я меў рацыю, ён адчуў бы небяспеку, як толькі б я паказаў, што сябрую з бацькамі Рычарда.

Я ўбачыў, што ён сядзіць за дыхтоўным старым сталом у цэнтры гасцёўні. Фіранкі былі апушчаныя. У ягонай руцэ быў кубачак з кавай, які ён падняў, як толькі я з'явіўся. Ззаду яго я ўбачыў асветленыя дзверы ў кухню.

"Сапраўды не хочаш кавы?"

"Не".

"Тады глыток брэндзі? У буфеце ёсць крыху".

Ад гэтай ягонай мешаніны нахабства і клопату я зноў ледзь не задыхнуўся.

"Не, дзякую".

Я агледзеўся. Заўважыў, што не хапала дзвюх або трох

карцін, і мне здалося, што на туалетным століку, ля якога я стаяў, было менш парцаляны, чым напярэдадні.

"Лепш прайдзі туды".

Ён кіўнуў назад у напрамку кухні, і я нейкі момант не мог зразумець, што ён меў на ўвазе.

"Покліч прыроды і гэтак далей".

Калісьці Морыс і Джэйн прыбудавалі ззаду катэджа туалет і ванную.

"Колькі часу вы...".

"Хто-небудзь павінен прыехаць раніцай?"

"Ніхто".

"Вось і добра".

Ён прайшоў на другі канец пакоя, і я ўбачыў, што ён узяў тэлефонны даведнік і пачаў перагортваць яго.

"Між іншым, тэлефон адключаны. Прабач".

Ён працягваў гартаць старонкі, потым вырваў з кнігі лісток.

"Так? Я выклічу мясцовых мянтоў каля дзесятай. Калі прачнуся".

Але хутка ён дадаў:

"Гэта жарт, мужык. Не палохайся. Я абяцаю".

Потым сказаў:

"Дык ты ідзеш ці не?"

Я пайшоў на кухню і ўбачыў дзверы, што вялі ў сад. На іхнай раней гладкай шкляной паверхні была чорная дзірка з няроўнымі краямі. І я ўпотайкі насварыўся на сваю адсутную гаспадыню за тое, што яна калісьці ахвяравала гістарычнай дакладнасцю дзеля зручнасці. Мой, наадварот, прысутны тут госць падышоў і стаў у дзвярах ззаду мяне.

"Памылкова не замкніся там. Калі ласка".

Я пайшоў у прыбіральню і зачыніў дзверы; там я ўтаропіўся на засаўку. На невялікі садзік за катэджам выходзіла вузенькае акенца. Думаю, што я мог бы выкарыстаць яго. Але ён пачуў бы, як я яго адчыняю; і вакол саду ішоў густы высокі плот. Каб выбрацца з саду, мне трэба было б ісці да брамы перад домам.

Калі я вярнуўся ў гасцёўню, то ўбачыў, што ён паставіў перад адкрытым камінам крэсла, якое адразу мне і прапанаваў. Я працягваў стаяць у дзвярах, спадзеючыся пазбегчы гэтай апошняй знявагі.

"Я магу паклясціся Вам, што не буду падымаць крыку, пакуль у Вас не будзе дастаткова часу... каб уцячы, ці як там".

“Прабач”.

Ён зноў прапанаваў мне крэсла і ўзяў у рукі нешта круглае; потым уцяміў, што я не разабраў, што гэта.

“Ізастужка. Балюча не будзе”.

Штосьці ўва мне працягвала бунтаваць супраць гэтага апошняга прыніжэння. Я не скрануўся з месца. Ён падышоў да мяне. Ягоны непрыемны пакрыты нейлонам, нібы расплюшчаны, твар змусіў мяне адступіць назад. Але ён не дакрануўся да мяне.

Я прайшоў паўз яго і сеў.

“Малайчына. Цяпер, калі ласка, пакладзі лапкі на поручы”.

Ён узяў дзве паскі каляровай паперы, якія ён, мусіць, загадзя вырваў з нейкага часопіса.

“На твае запясці, так? Тады не будзе чапляцца за валасы, калі будуць здымаць пластыр”.

Я назіраў за тым, як ён абгортвае паперу вакол майго левага запясця. Потым ён пачаў моцна прывязваць маю руку да ручкі крэсла. Нягледзячы на ўсе мае намаганні, рукі мае трымцелі. Я мог бачыць ягоны твар і нават – як мне здалося – нешта накшталт вусаў пад нейлонавай панчохай.

“Я хацеў нешта запытаць у Вас”.

“Давай”.

“Чаму Вы абралі менавіта гэты дом?”

“Хочаш пісаць пра гэта, так?”

Але ён працягваў гаварыць, не даўшы мне часу на адказ.

“Ну дык вось. Фіранкі. Колер малюнку. Для пачатку”.

“Як гэта?”

“А так, што я за мілю чую, які дом наведваюць толькі ў канцы тыдня. Добрая модная тканіна на вокнах. На падваконні газавая лямпа за дваццаць фунтаў. Дзесятак іншых рэчаў. Ну як? Не затуга?”

Было тугавата, але я патрос галавою.

“А чаму менавіта ў гэтых мясцінах?”

Ён узяўся за другое запясце.

“Бязмозглыя дурні, што пакідаюць дамы без нагляду, ёсць усюды”.

“Вы з Лондана?”

“А дзе гэта?”

Было зразумела, што я не выцягну з яго нічога істотнага. Але ж я прыкмеціў пад ягонай жартаўлівасцю нейкую няёмкасць.

Гэта пацвердзілася, калі ён даволі паспешліва перайшоў са свайго жыцця на маё.

"Напісаў многа кніг?"

"З дзесятак".

"Колькі гэта займае?"

"Залежыць ад кнігі".

"А гэтая, што зараз пішаш?"

"Я некалькі гадоў займаўся доследам. На гэта ідзе болей часу, чым на самое пісанне".

Ён памаўчаў крыху, пакуль заканчваў прывязваць другую руку. Потым нахіліўся. Я адчуў, як ён падштурхнуў маю левую нагу бліжэй да ножкі крэсла; потым зноў узяўся за ізастужку.

"Я б хацеў пісаць кніжкі. Можа, калі-небудзь і вазьмуся". Дадаў: "Колькі слоў у кніжцы?"

"Шэсцьдзесят тысяч – гэта нармальны мінімум".

"Шмат".

"Я б не сказаў, што вам не хапае словаў".

Ён на момант адарваўся ад сваёй работы.

"Не чакаў гэтага, так?"

"Не стану адмаўляць, што не чакаў".

"Ага. Ну..."

Але ён зноў замаўчаў, абмотваючы маю нагу. Ён недзе знайшоў нажніцы і зараз адрэзаў канец стужкі каля левай нагі і пасунуўся да другой.

"Я б напісаў усё як ёсць. Не толькі гэта. Усё. Усю сцэну".

"Чаму б вам не паспрабаваць?"

"Жартуеш".

"Нікольки. Злачынства прывабливае людзей".

"Вядома. Цудоўна. А потым глядзі, хто пастукае ў вакенца".

"Вам прыйдзецца ўтоіць сапраўдныя акалічнасці".

"Тады будзе не так, як на самай справе. Так?"

"Няўжо вы думаеце, што Конрад..."

"На тое ён Конрад, ці не так?"

Я пачуў шчоўканне нажніцаў, якое азначала, што ён прывязаў маю апошнюю канечнасць, потым пацягнуў мяне за ногі, каб пераканацца, што стужка не расцягваецца.

"Так ці іначай, некалькі гадоў, не? Гэта доўга".

Ён падняўся і агледзеў вынік сваёй працы. У мяне з'явілася непрыемнае пачуццё, што я зрабіўся пасылкай, якую заставалася

толькі асцярожна запакаваць. Але я адчуў палёгку. Зараз ён ужо не будзе ўжываць гвалт.

Ён сказаў: "Парадак".

Пайшоў на кухню, і зараз вярнуўся з доўгім кавалкам вяроўкі для бялізны і кухонным нажом. Ён устаў перада мной і, адмераўшы метры два, пачаў адразаць яе.

"А можа ты? Напішы пра мяне – ну як?"

"Баюся, што я не змог бы напісаць пра тое, чаго не разумею".

Рэзкім рыўком ён нарэшце адарваў канец, як хацеў. Абышоў крэсла, і я пачуў ягоны голас над сваёй галавой.

"Што ты не разумееш?"

"Чаму чалавек, яўна не дурань, павінен паводзіць сябе так, як вы?"

Ён працягнуў бялізнавую вяроўку праз прарэзы ў спінцы крэсла. Ягоная рука прайшла ў мяне пад плячом і правяла вяроўку вакол грудзей пад другую руку.

"Сядзь роўна, калі ласка!"

Я адчуў, як ён мацней зацягнуў вяроўку. Вольны канец яшчэ раз абкруціўся вакол мяне.

"Я думаў, што ўсё растлумачыў".

"Я магу зразумець маладых людзей, калі яны займаюцца лявацкім гвалтам – нават калі яны парушаюць грамадскае жыццё. Прынамсі, яны выступаюць за нейкую справу. А вы дзейнічаеце дзеля асабістай карысці".

Кажучы гэта, я, вядома, спадзяваўся на якую-небудзь дадатковую звестку, якая пацвердзіла б маю гіпотэзу наконт Рычарда. Але ён не клюнуў на гэтую прынадку. Я адчуў, што ён завязвае вяроўку за крэслам. Потым ён зноў зайшоў наперад і агледзеў мяне.

"Ну як?"

"Вельмі нязручна".

Нейкі момант ён стаяў, гледзячы на мяне. Потым тыцнуў у мяне пальцам.

"Мужык, бяда ў тым, што ты слухаеш не зусім уважліва".

Я нічога не адказаў. Ён яшчэ нейкі момант разглядаў мяне.

"Зараз трэба ўпакоўвацца. Я хутка вярнуся".

З-пад акна, што выходзіла на садовую дарожку, ён узяў вялізны саквояж і пайшоў да ўваходных дзвярэй, якія я толькі часткова мог бачыць праз дзверы гасцёўні. Падпёр іх саквояжам, потым на нейкі момант знік у сталовай. Адтуль ён выйшаў з

чымсьці бледным і квадратным падпахай, думаю, з кардоннай каробкай; падняў саквояж, потым выйшаў у цемру. Уваходныя дзверы лёгка зачыніліся. Хвіліну было ціха. Потым я пачуў лёгкі гук зачыняных аўтамабільных дзверцаў. Рыпнулі веснічкі, але ён не адразу ўвайшоў у хату. Я зразумеў чаму, калі ён з'явіўся зноў. Ён паказаў мне мае акуляры і паклаў іх на стол.

"Твае лінзы", – сказаў ён. "У парадку. Ты сапраўды не хочаш брэндзі?"

"Не, дзякую".

"Уключыць электракамін?"

"Мне не халодна".

"Так. Зараз прыйдзецца ўставіць табе ў рот затычку".

Ён узяў ізастужку і нажніцы.

"Паблізу ж нікога няма. Я магу крычаць хоць усю ноч".

Здаецца, ён нейкі момант вагаўся, потым патрос галавою.

"Прабач, мужык. Вымушаны".

Я назіраў за тым, як ён адкруціў ад стужкі і адрэзаў чатыры ці пяць кавалкаў, якія паклаў на стол побач са мною. Калі ён пацягнуўся да мяне з першым кавалкам, я інстынктыўна адхіліў галаву.

"Гэта зусім не абавязкова".

Ён пачакаў.

"Ну-ну. Давай закончым так, як пачалі".

Пераканаты, што я б пачаў змагацца, калі б ён ужыў сілу. Але ён паводзіў сябе, як стомленая нянька з упартым пацыентам. Нарэшце я заплюшчыў вочы і павярнуўся да яго тварам. Я адчуў, як на мой пануры незадаволены рот наўскасяк легла ліпучка. Пасля яе разгладзілі па шчоках; пасля тое ж было зроблена з астатнімі кавалкамі. Я запанікаваў, думаючы, што не змагу дыхаць толькі праз нос. Магчыма, ён адчуў мой жах, бо нейкі час моўчкі пільна назіраў за мной. Потым узяў ліпучку і нажніцы і пайшоў на кухню. Я чуў, як ён паклаў іх у шуфляду. Выключыў святло на кухні.

Што было далей, распавяду каротка. Але я ніколі не змагу знайсці патрэбных словаў, каб апісаць тое, што мне давялося вытрымаць.

У мяне былі ўсе падставы думаць, што ён ужо збіраўся пакінуць мяне на гэтай няшчаснай варце. Ён пойдзе, і больш я яго не ўбачу. Але, выйшаўшы з кухні, ён нахіліўся каля століка і адчыніў адну з ніжніх шуфлядаў. Потым выпрастаўся, трымаючы

ў руках стос старых газет, што Джэйн трымала для распальвання каміна. Я назіраў, не ведаючы, што ён робіць, – я ж сказаў, што мне не халодна, – а ён стаў на калені каля старога каміна, які займаў усю сцяну побач са мною. Пачаў камечыць і скатваць газету. Робячы гэта, ён ні разу не зірнуў на мяне. Ён паводзіў сябе так, як быццам мяне і не было тут. Калі ён падняўся і знік у другім пакоі, я ўжо ведаў... і не ведаў – ці не мог паверыць. Але мне прыйшлося паверыць, калі ён вярнуўся. Я лёгка пазнаў чырвоную вокладку вялікага сшытка, у якім знаходзіўся мой падрабязны план і напісаныя ад рукі накіды розных асноўных абзацаў, і маленькую карычневую прастакутную скрыначку, у якой была мая каштоўная картатэка з бібліяграфіяй. Я ўвесь напружыўся, паспрабаваў крыкнуць праз ліпучку на роце. Павінен быў пачуцца хоць які-небудзь гук, але ён не звярнуў ніякай увагі.

Жудасна, але мне давялося назіраць, як ён паклаў усё тое, на што мне спатрэбілася чатыры гады хоць і не бесперапыннай, але непаўторнай працы, на камін побач з сабой, потым спакойна нахіліўся, трымаючы ў руках запальніцу, і падпаліў два ці тры канцы газеты. Калі яны загарэліся, ён пачаў няспешна класці стосы надрукаваных аркушаў у агонь. Потым надышла чарга тоўстай папкі фотакопіяў дакументаў – копіяў рукапісных лістоў, сучасных аглядаў раманаў Пікака, якія я так старанна адшукваў, і ўсё іншае. Я больш не падаваў голасу, я не хацеў прыніжацца – які сэнс? Нішто зараз не магло спыніць гэты грубы і беспрычынны акт вандалізму. Бязглузда гаварыць аб годнасці, калі ты звязаны па руках і нагах, і я адчуў, што вось-вось заплачу ў бездапаможнасці, але зрабіў усё магчымае, каб задушыць гэтую слабасць. Нейкі момант я сядзеў, заплюшчыўшы вочы, потым расплюшчыў, калі пачуў, як ён вырывае лісткі са сшытка. З тым самым невыносна метадычным спакоем ён паклаў іх усе ў слуп агню, жар якога я адчуваў зараз праз вопратку і на твары, або на тым, што засталося ад яго. Ён крыху адступіў і пачаў шпурляць новае паліва проста ў камін замест таго, каб павольна, як раней, класці яго ў пахавальны агонь. Ён вытрусіў і высыпаў на спажыву агню бібліяграфічныя карткі. Праз некаторы час пацягнуўся па качаргу, што ляжала ля каміна, і падштурхнуў бліжэй да агню абвугленыя лісткі і картачкі, і яны зараз жа заняліся таксама. Шкада, што гэтая качарга не была зараз у маёй руцэ! З якою радасцю я раскроіў бы ёю ягоны чэрап.

Так і не зірнуўшы на мяне, ён пайшоў назад у пакой. Гэтым

разам ён вярнуўся з дзесяццю тамамі старанна анатаваных мною “Выбраных твораў” і розных раней напісаных біяграфіяў і крытычных матэрыялаў пра Пікака, што я прывёз з сабою і зладаваў на стале. З іх адусюль тырчэлі незлічоныя паскі паперы, падкрэсліваючы іхную важнасць. Яны таксама адзін за адным адправіліся ў агонь. Ён цярпліва чакаў, разгортваючы кнігі качаргой, калі яны не хацелі загарацца. Заўважыўшы, што ў майго асобніка “Жыцця” Ван Дарэна быў пашкоджаны пераплёт, ён належным чынам адарваў яго, каб не замінаў. Я думаў, што ён будзе чакаць, пакуль не згарыць і не ператворыцца ў нішто кожны лісток, кожны радок. Але, кінуўшы зверху на астатнія апошні том, ён выпрастаўся. Магчыма, ён разумеў, што кнігі гараць не так хутка, як асобныя лісткі паперы; ці то ён быў упэўнены, што яны пакрысе згараць за ноч, ці, зрабіўшы галоўную шкоду, яму было цяпер усё роўна. Ён доўга ўглядаўся ў агонь. Потым нарэшце павярнуўся да мяне. Зрабіў такі жэст, што мне здалося, ён збіраецца ўдарыць мяне. Але ўсё, што было ўчынена ў якім паўметры ад мяне, як быццам дзеля пэўнасці, што нават такі сляпы, як я, мог беспамылкова распазнаць жэст, дык гэта паказаная жоўтая рука, сціснутая ў кулак з высока паднятым угору вялікім пальцам. Знак памілавання там, дзе не было ніякай літасці.

Рука ягоная заставалася ў гэтым незразумелым становішчы якія-небудзь пяць секундаў. Потым ён павярнуўся і пайшоў да дзвярэй. Апошні раз агледзеў пакой, відавочна без усялякай злосці, а проста позіркам руплівага працаўніка, які хоча яшчэ раз пераканацца, ці ўсё ў парадку. Мне здалося, што ён нават і не паглядзеў на мяне.

Святло згасла. Я пачуў, як адчыніліся ўваходныя дзверы. Рыпнула, потым таксама зачынілася брамка. Я сядзеў, ашалела гледзячы на агонь і злавесна-рухлівыя цені, удыхаючы едкі пах, самы маркотны пасля паху гарэлага чалавечага цела, пах крэміраваных чалавечых ведаў. Бразнулі дзверцы аўтамабіля, завёўся рухавік; чутно было, як ён вырульвае, пераключае хуткасці, выязджаючы на вуліцу, на фіранках мільганула святло фараў. Потым я пачуў, як машына ўз’ехала на гару за вёскай. У тым напрамку вуліца (я ведаў гэта, таму што напярэдадні прыехаў па ёй на таксі) урэшце выходзіла на галоўную дарогу, што вяла да Шэрбурна, і іншых населеных пунктаў на ёй не было.

Я застаўся сам-насам з цішынёй, сваім горам і згасальным агнём у каміне.

Не буду падрабязна апісваць свае пакуты на працягу наступных дзевяці або дзесяці гадзінаў, як я назіраў згасанне агню, як мне станавілася ўсё больш мулка, як я бушаваў ад злосці на жорсткі ўдар, што выпаў на мой кон. Я намагаўся не думаць пра тое, што попелам ляжала перада мной. Свет звар'яцеў, і я не хацеў болей мець з ім нічога агульнага. Рэшту свайго жыцця я прысвячу помсце, пошукам гэтага жудаснага маладога садыста. Я абыйду ўсе кавярні ў Лондане, я прымушу Морыса і Джэйн даць самае падрабязнае апісанне ўсяго, што было скрадзена. Я руплiва займуся сваімі падазрэннямі наконт Рычарда. Раз ці два я засынаў, каб праз хвіліну-другую прачнуцца ад кашмару і ўцяміць, што кашмар быў рэальнасцю. Я, як мог, рухаў рукамі і нагамі, каб яны не зацяклі. Неаднаразовыя намаганні аслабіць прывязь або затычку нічога не далі; не ўдалася мне і спроба пасунуць крэсла. Я зноў нядобрым словам згадаў Джэйн, ці, дакладней, цыноўку, якую яна паклала на каменную падлогу. Ножкі крэсла ўпарціліся слізгаць па ёй, і ў мяне не было пункту апоры. Спачатку я адчуў, што ў мяне ўсё занямела, потым пачаў мерзнуць – тым болей, што я сам адмовіўся ад ягонай прапановы прадухіліць гэта.

Праз фіранкі марудна ўпаўзаў світанак. Неўзабаве ў напрамку вёскі праехаў нейкі ранні аўтамабіль. Я зрабіў марную спробу закрычаць праз кляп. Машына праехала далей, і хутка яе ўжо не было чуваць. Я яшчэ раз паспрабаваў пасунуць крэсла да вакна, але за чвэрць гадзіны ледзьве пераадолеў адзін ярд. Ад апошняга намагання крэсла ледзь не перакулілася, і я кінуў гэтую задумку. Праз некаторы час я пачуў, што па дарозе, мусіць з фермы, рухаецца трактар. Я зноў паспрабаваў паклікаць на дапамогу. Але ён павольна праехаў міма і ўспоўз на гару. Тады я сур'ёзна спалохаўся. Тымі хвілінамі я канчаткова страціў усялякую веру ў гэтага хлопца. Калі ён мог зрабіць такое, ён мог зрабіць усё. Яму нічога не каштавала парушыць сваё абяцанне наконт выкліку паліцыі.

Нарэшце да мяне дайшло, што я рабіў памылку, пасоўваючыся наперад у напрамку да ўваходу. Ззаду, на кухні, былі нажы, і, як высветлілася, было лягчэй пасоўвацца назад, таму што я мог упірацца падэшвамі. Я пачаў паволі рухацца ў напрамку кухні. Вельмі цяжка было пераадолець край трысняговай цыноўкі. Да адзінаццатай гадзіны я нарэшце прытузаўся ў кухню – і ледзь не заплакаў. Яшчэ раней мне прыйшлося памачыцца ў крэсла, а зараз, колькі ні намагаўся, не мог дакрануцца пальцамі

да шуфляды, у якой ляжалі нажы. Я канчаткова паддаўся немай роспачы.

Нарэшце каля паўдня я пачуў набліжэнне адной машыны – сёмай ці восьмай за ранак. Але гэтая спынілася каля катэджа. У мяне ёкнула сэрца. Праз колькі хвіляў я пачуў стук ля ўваходных дзвярэй. Я праклінаў сябе за тое, што не выканаў свой першапачатковы план руху. Зноў пачуўся стук, потым стала ціха. Глупства вясковага паліцэйскага вывяла мяне з сябе. Але я быў несправядлівы да гэтага чалавека. Хутка скрозь няроўную дзірку ў шкле кухонных дзвярэй на мяне ўтаропіўся заклапочаны твар афіцыйнай асобы. Вось і ўсё.

Мінуў амаль год з моманту майго вызвалення, і я каротка паведамлю пра ўсё, што адбылося далей.

Канстэбль, які вызваліў мяне, аказаўся добрым і ўмелым; па сутнасці, усе ў той дзень ставіліся да мяне ласкава і рабілі ўсё хутка і спраўна. Як толькі ён абрэзаў вяроўкі, ён прымусіў мяне зрабіць тое, што робіць кожны ангелец у крызіснай сітуацыі. Толькі пасля таго як ён пераканаўся, што я праглынуў дзве шклянкі моцнай гарбаты, ён вярнуўся ў машыну, каб паведаміць пра здарэнне. Не паспеў я памяняць вопратку, як прыехаў доктар, а за ім два пераапранутыя дэтэктывы. Доктар сказаў, што ў мяне ўсё ў парадку, і тады мяне пачаў доўга распытваць сяржант вышуку. Тым часам канстэбль з'ездзіў на ферму, каб патэлефанаваць Морысу і Джэйн.

Я зразумеў, што не памыляўся, калі думаў, што мне будзе аб чым распавядаць за абедам. "Нахабны д'ябал" і іншыя падобныя каментары неаднаразова перарывалі мой пераказ. Тое, што згарэла мая кніга, канчаткова збянтэжыла сяржанта – можа, у мяне былі ворагі? Мне давялося расчараваць яго наконт таго, ці могуць літаратурныя мафіёзі ў Лондане заходзіць так далёка, каб дасягнуць сваёй бруднай мэты. Тое ж, што якраз гэты катэдж быў абраны дзеля рабунку, уразіла яго значна менш. Такія злачынствы і злачынцы сустракаліся ўсё часцей. У ягоным голасе я нават заўважыў нейкае зайздроснае замілаванне. Здаецца, гэтыя "выпадковыя адзіночкі" былі спрытнымі кліентамі, ніколі не "працавалі" паблізу таго месца, дзе жылі, атабарваліся ў якім-небудзь вялікім горадзе і выкарыстоўвалі нядаўна ўзніклую ў людзей манію мець загарадныя дамы. Сяржант прызнаўся, што цяжка вызначыць, дзе шукаць злодзея. Можа, у Лондане ці ў Брыстале, ці ў Бірмінгеме, ці яшчэ дзе. Ён усё валіў на

аўтамабільныя дарогі і новыя сродкі перамяшчэння, якія былі на руку "паганцам".

Падумаўшы, я не стаў нічога казаць пра Рычарда. Я адчуваў, што павінен спачатку пагаварыць пра гэта з Морысам і Джэйн, – канстэбль ужо паведаміў Джэйн у Хэмпстад, і яна перадала мне свае спачуванні, запэўніўшы, што яны зараз жа прыедуць. Потым з'явіліся фермер з жонкай і прасілі прабачэння за тое, што нічога не чулі; потым прыйшоў тэлефонны майстра. Я быў вельмі ўдзячны за ўсе гэтыя візіты, якія, прынамсі, адцягвалі маю ўвагу ад перанесенага ўдару.

Морыс і Джэйн прыехалі на машыне хутка пасля сёмай. І мне давялося зноў распавядаць усё спачатку. Яны не ведалі, пакуль не прыехалі, пра мае асабістыя страты і велікадушна ўспрынялі сваё няшчасце як нішто ў параўнанні з маім. Я як мага асцярожней намякнуў на свае падазрэнні наконт Рычарда, але вельмі падрабязна пераказаў ім палітычна-філасофскую дактрыну, якую быў змушаны выслухаць. Нарэшце я заўважыў, як Джэйн паглядзела на Морыса, і зразумеў, што мэта дасягнутая. Праз некалькі хвілінаў Морыс узяў быка за рогі і пазваніў сыну ў Лондан. Ён дыпламатычна – без абвінавачвання ў свядомым пасобніцтве, – але цвёрда, як належыць добраму юрысту, правёў дазнанне. Скончыўшы тэлефонную гутарку, ён сказаў, што Рычард кляўся, што ніколі нават не згадваў пра дачу, і што ён (Морыс) верыў яму. Але я бачыў, што ён заклапочаны. Калі зноў з'явіўся сяржант, каб запісаць усё, што было скрадзена, я пачуў, як Морыс выклаў яму ўсё. Як я ведаю, пазней на "камуну" зрабілі налёт, але не знайшлі нічога больш злачыннага за непазбежныя ў такіх выпадках наркотыкі. Усе юнакі, што хоць крыху адпавядалі маім апісанням, мелі добрыя алібі, так што з гэтага напрамку расследу нічога не выйшла.

Нічога не высветлілася і ў наступныя тыдні і месяцы, і ў іншых напрамках; справа заставалася, гаворачы афіцыйнай мовай, нязначным нераскрытым злачынствам. Я нават не магу сказаць, што яно вельмі адбілася на маім пісьменніцтве. Месяц я правёў, перажываючы сваё няшчасце і адчуваючы нешта кшталту глыбокай крыўды, і не дазваляў нікому, хто ведаў, што для мяне значыла гэтая кніга, хоць бы намагацца як-небудзь тую крыўду змякчыць. Але я тады захапіў з сабой у Дорсэт не ўсё, што мела дачыненне да работы. Адна копія першых трох надрукаваных раздзелаў засталася ў Лондане, і, як высветлілася, памяць у мяне была нашмат лепшая, чым я меркаваў. Тут яшчэ дамяшалася нешта

накшталт выкліку. Аднойчы я вырашыў, што мае сябры мелі рацыю, і працу над Пікакам можна ўзнавіць; і зараз я ўжо зрабіў больш за палову работы.

Такі канец маёй прыгоды можа падацца зусім банальным. Але ж я яшчэ не ўсё сказаў. У нейкім сэнсе тое, што я дагэтуль напісаў, ёсць не што іншае, як прэамбула.

Гэтаксама ж як мой адноўлены Пікак не зусім падобны да таго, што быў, так бы мовіць, вырваны з чэрава, так і тут я не магу быць упэўнены, што пераказаў падзеі той ночы з абсалютнай дакладнасцю. Я намагаўся з усяе сілы, але, можа, і перабольшыў, асабліва калі спрабаваў перадаць мову майго гвалтаўніка. Магчыма, ён і не ўжываў так часта, як я напісаў, гэты ідыёцкі арго экстрэмістаў (ці, можа, чый-небудзь яшчэ); таксама я мог няправільна зразумець некаторыя з ягоных пачуццяў.

Што датычыць мяне, то некаторыя недакладнасці памяці або няправільныя трактоўкі турбуюць мяне менш, чым тое, што я ніяк не магу дацяміць сэнсу ўсяго, што адбылося. У асноўным я напісаў усё гэта, каб прыйсці да нейкай разумнай высновы. Мне не даюць спакою два пытанні: чаму гэта здарылася? Чаму гэта здарылася менавіта са мною? Па сутнасці: што такое ёсць ува мне, што прымусіла гэтага маладога паганца паводзіць сябе такім чынам?

Я не схільны бачыць у гэтым выпадку адно праяву барацьбы двух пакаленняў. Я нават не магу назваць сябе тыповым прадстаўніком свайго пакалення (нягледзячы на ўсё тое, што я мог сказаць у тыя першыя нервовыя тыдні). Я таксама не магу лічыць яго тыповым для свайго, – або, калі быць дакладным, я не думаю, што ягоны апошні недаравальны ўчынак з'яўляецца тыповым для ягонага пакалення. Яны могуць пагарджаць намі; але моладзь у цэлым, здаецца, адчувае большую агіду да нянавісці, чым мы ў свой час. Кожны ведае іхнае стаўленне да любові, усе прыкрасці грамадства ўседазволенасці і гэтак далей, але мала хто заўважыў, што, абясцэньваючы любоў, яны таксама, на шчасце, абясцэнілі нянавісць. Спаленне маёй кнігі было ў нейкай меры звязанае з патрэбай – магчыма, з абодвух бакоў – у анафеме. У гэтым, я думаю, ён быў далёка не тыповы.

І вось што загадкава: чаму ягонаму недаравальнаму акту папярэднічалі наўздзіў мяккія, амаль ласкавыя паводзіны. Калі ён сказаў, што не хоча прычыняць мне фізічнага болю, я паверыў яму. У ягоных словах не было двухсэнсоўнасці, яны не гучалі як

нейкая затоеная пагроза. Ён меў на ўвазе, і я цалкам упэўнены ў гэтым, якраз тое, што казаў. Аднак гэта не стасуецца з тою лютай жорсткасцю (да старога чалавека), якую ўчыніў ён пасля. Перш я быў настроены бачыць у ягоных паводзінах халодны разлік: бы ад самага пачатку ён напушчаў на сябе падманную ласкавасць – ва ўсякім разе ад моманту, калі звязаў мяне з кнігай, што ляжала на першым паверсе. Але зараз я проста не ведаю. Я шмат бы даў, – нават, думаю, прабачыў бы яму, калі б ён паставіў такую ўмову, – каб даведацца, калі менавіта вырашыў ён гэта ўчыніць. Той недарэчны момант у спальні, калі я праявіў паблажлівасць, раззлаваў яго, а мае роспыты аб ягоных матывах і параўнанне з матывамі сапраўдных маладых рэвалюцыянераў, несумненна, укалолі яго. Але ні тое, ні другое не здавалася і не здаецца мне вартым гэткай дзікай адплаты.

Далей ёсць яшчэ адна загадка – ягоны яўны папрок за мае паводзіны ў самым пачатку. Тут мяне грызе сумленне, што я толькі зараз кажу пра гэта. Паліцыі, а таксама Морысу і Джэйн я сказаў, што мяне знянацку засталі ў ложку. Ніхто не папракаў мяне за тое, што я не спрабаваў супраціўляцца, – колькасна мы ж былі ў роўным становішчы. Я ўсё яшчэ не ўпэўнены, ці я павінен вінаваціць сябе. Калі я шкадую аб нечым, дык хіба аб тым, што ён і сам сказаў, – калі б я толькі даў знак сваёй прысутнасці тады, то ён бы ўцёк. Ва ўсякім разе, няма сэнсу думаць, нібы ён спаліў маю кнігу таму, што я не накінуўся на яго. Чаму ён меў караць мяне за тое, што я стараўся змякчыць усё?.. А ці магло б нешта ў ягоных паводзінах запэўніць мяне, што калі б я вёў сябе смялей, то не здарылася б таго, што здарылася? Уявім, што я гаварыў бы з ім насмешліва і зняважліва, – было б тады лепш?

Я перабраў у памяці ўсё, што магло абгрунтавана альбо неабгрунтавана выклікаць у яго нянавісць да мяне: мой узрост, кволасць, блізарукасць, усё. Я, вядома, здаваўся яму манерным, старамодным, педантычным і гэтак далей, але ж з усяго гэтага складалася постаць нікчэмнага старога чалавека, не болей. Я наўрад ці мог сысці за тое, што ён называў “сістэмай”, “капіталізмам”. Я належаў да прафесіі, якую ён, здаецца, паважаў, – яму ж падабаўся Конрад. Чаму тады я не падабаўся яму, ці, дакладней, чаму ён мусіў ненавідзець мяне? Калі б ён разглядаў маю кнігу пра Пікака з таго пурытанскага пункту гледжання, характэрнага для часопіса “Нью Лэфт Рыв’ю”, – як паразітызм на састарэлым буржуазным

мастацтве, ён бы, вядома, сказаў мне гэта. Але ж ён ніяк не нагадваў марксіста-інтэлігента.

Для Морыса і Джэйн гэтая псеўдапалітычнасць з'яўляецца самым пераканаўчым тлумачэннем. Але я бяру пад увагу ўплыў на іхнае меркаванне той сямейнай траўмы, якую нанёс Рычард. Я зусім не бачу тут аналогіі з маім юнаком. Ён ні ў якім разе не звязваў мяне з "імі". Ён не цікавіўся маімі палітычнымі поглядамі. Ён атакаваў тое, што зусім не мела дачынення да палітыкі,. – маю кнігу.

У мяне засталося ўражанне, што я меў справу з больш развітым інтэлектам, чым магло падацца, калі меркаваць з ягонай мовы; ён нібыта ведаў, што гаварыў бязглуздзіцу, і часткова рабіў гэта, каб выпрабаваць мяне: калі я дазваляю яму дурыцца, значыць, я сам заслугоўваю, каб з мяне рабілі дурня. Але, магчыма, гэта надзвычай складанае разважанне. Праўду кажучы, ні ягоныя словы, ні мая рэакцыя на іх не мелі вялікага значэння. Можна ўявіць сабе іншыя напрамкі нашай гутаркі, але вынік быў бы гэтаксама змрочны.

Я павінен прыгадаць яшчэ адну тэорыю Морыса: юнак быў у пэўным сэнсе шызафрэнікам, і тое, што ён апынуўся сам-насам са мною, было для яго такім напружаннем, што не праявіўся другі, больш агрэсіўны бок ягонае натуры. Аднак пасля таго як ён, відавочна, вырашыў, як будзе дзейнічаць далей, ён зноў прапанаваў мне выпіць брэндзі і хацеў запаліць камін, каб мне было цяплей. Такія паводзіны здаюцца занадта разумнымі для шызафрэніка. Да таго ж ён ні разу не ўжыў фізічнага насілля, ні разу не падкрэсліў, што быў дужэйшы за мяне. Я сядзеў звязаны, з залепленым ротам. Ён мог збіць мяне, ударыць у твар, зрабіць усё, што хацеў. Тым не менш, я ўвесь час быў пэўны, што целу майму нішто не пагражае. Яму патрэбна было насілле над чымсьці іншым.

Думаю, што важная разгадка тоілася ў ягоным апошнім жэсце, калі ён агрэсіўна ўзняў угору перад маім тварам вялікі палец. Відавочна, ён не меў класічнага значэння, бо гэты чалавек не зрабіў ніякай літасці. Было таксама зразумела, што ён не нёс і больш распаўсюджанага сучаснага сэнсу: "Усё ў парадку!" Калі я вярнуўся ў Лондан, то часта бачыў, як яго ўжывалі рабочыя, што зносілі будынак насупраць маёй кватэры, – відовішча, якое мела для мяне якуюсь нездаровую прывабнасць, таму што розум мой быў заняты пытаннямі смерці і разбурэння. І мяне ўразіла

тое багацце значэнняў, што яны перадавалі пры дапамозе ўзнятага ўгору пальца. Ён проста азначаў "Так", калі не мела сэнсу крычаць у такім шуме, або "Добра, я зраблю так, як ты хочаш"; ён мог значыць, як ні парадаксальна, загад працягваць далей (калі яго, напрыклад, паказвалі шафёру грузавіка, што рухаўся назад) або "Стоп, даволі!", калі ў тых самых абставінах палец раптоўна ўзнімалі ўверх. Але ва ўсіх гэтых выпадках у ім не было ніякай агрэсіўнасці. Толькі праз некалькі месяцаў для мяне пралілося нейкае святло.

У мяне ёсць маленькая слабасць. Я люблю сачыць па тэлевізары за футбольнымі матчамі. Не магу сказаць пэўна, што я атрымліваю ад гэтага пустога занятку, апроч пачуцця перавагі, калі бачу, як шмат энергіі бяздумна трацiцца на сучасны эквівалент рымскага цырку. Але што прыцягнула маю ўвагу аднога вечару, дык гэта як адзін малады гулец, выбягаючы з тунэля на арэну, паказаў гэтаксама ж агрэсіўна ўзняты ўгору вялікі палец натоўпу равучых заўзятараў на бліжэйшых трыбунах, і сёй-той з іх нават адказалі падобным жэстам. Сэнс (ігра яшчэ не пачалася) быў відавочны: "Мы поўныя адвагі, мы паб'ём праціўніка, мы пераможам". Я быў уражаны, бо раптоўна ўбачыў у тым жэсце майго злодзея папярэджанне: вось-вось пачнецца вялікі матч, і каманда суперніка, якую ён прадстаўляў, была поўная рашучасці перамагчы. Ён красамоўна гаварыў: "Не думайце, што будзе лёгка адкараскацца". Магло падацца, што ў мяне было больш падставаў паказаць яму гэты знак. Але ж я так не думаю. Спаленне маіх папераў было яшчэ адным доказам сэнсу ўзнятага ўгору пальца, і ў аснове таго і другога ляжаў страх або яўная нянавісць, таму што ў тым матчы я выйшаў на поле са значнаю перавагай ачкоў. Як ні цяжка было паверыць у гэта ў тых акалічнасцях, але нейкім чынам я заставаўся ў ягоных вачах гаспадаром становішча.

Усё гэта наводзіць на сякую-такую выснову. У мяне для яе мала доказаў, а тыя, што ёсць, я абясцэніў, прызнаўшыся, што не магу пакляcціся ў іхнай поўнай праўдзівасці. Але мне здаецца, што некаторыя з ягоных словаўжыванняў (хоць, магчыма, яны паўтараліся і не так часта, як я паказаў) вельмі значныя. Адным з іх было ўжыванне слова "мужык". Наколькі я ведаю, яно вельмі характэрна для моладзі. Але ўжыванне яго ў дачыненні да мяне здавалася вельмі наўмысным. Хоць часткова яно несла знявагу, але таксама хавала адчайны намер зраўняцца са мною. Яно нібы намагалася падкрэсліць, што, нягледзячы на няроўнасць ва ўзросце,

адукацыі, паходжанні і гэтак далей, паміж намі не было ніякай розніцы; насамрэч яно азначала свайго роду прызнанне, нават страх усяго, што нас раздзяляла. Я нават думаю, што ў фразе “Мужык, бяда ў тым, што ты не хочаш слухаць” быў крык аб дапамозе, які я тады не здолеў пачуць.

Другім злоўжываннем было гэтае “так”, якое ён дадаваў да ўсіх выказванняў там, дзе яно і не было патрэбна. Я ведаю, што яно таксама распаўсюджанае сярод моладзі і было б недарэчна бачыць у гэтым нешта большае, чым бяздумнае папугайства. І ўсё ж я падазраю, што гэта адзін з самых паказальных выразаў нашага стагоддзя. З граматычнага пункту гледжання яно хутчэй з’яўляецца эліпсам ад “Так гэта?”, чым азначае “Я маю рацыю?”, але я перакананы, што псіхалагічна яно азначае апошняе. Па сутнасці, яно значыць “Я зусім не ўпэўнены, што маю рацыю”. Вядома, гэтае слова можна вымавіць і з выклікам: “Паспрабуй толькі сказаць, што гэта не так!” Але чаго яно ніяк не можа мець на ўвазе, дык гэта самаўпэўненасці.

Наадварот, яно выражае сумнеў, боязь, яно свайго роду безнадзейны пароль у пошуках страчанай *мовы*. У аснове гэтага ляжыць самая мова. Рэч не ў тым, што такія людзі сумняюцца ў сваіх думках і вераваннях, а ў тым, што яны дужа сумняюцца ў сваёй здольнасці выказаць іх. Гэтая манера з’яўляецца сімптомам заняпаду культуры. Яна азначае: “Я не магу, або, напэўна, не магу мець зносінаў з вамі”. Іменна ў гэтым, а не ў сацыяльным ці эканамічным становішчы праяўляецца сапраўдная ўшчымленасць.

Вельмі важна, наколькі я ведаю з кніг, пры сустрэчы з першабытнымі плямёнамі памятаць, які сэнс яны надаюць тым ці іншым выразам твару. Многія дастойныя місіянеры загінулі праз тое, што шчырай усмешкай віталіся з людзьмі, для якіх агаленыя зубы азначалі праяўленне варожасці. Думаю, нешта падобнае адбываецца і тады, калі тыя, хто ўжывае “так”, сутыкаюцца з тымі, хто абыходзіцца без гэтага недарэчнага слова. Не будзе поўнай бязглуздзіцай дапусціць, што калі б я раз-пораз аздабляў свае заўвагі гэтымі “мужык” і “так”, то ўсё ў тую ноч пайшло б па-іншаму. І я ўпэўнены, што нашая фатальная сутычка была сутычкай паміж тым, хто давярае мове і паважае яе, і тым, хто ставіцца да яе з недаверам і крыўдуе на яе. Мой грэх быў не столькі ў тым, што я адношуся да сярэдняга класа і з’яўляюся інтэлігентам, што маю выгляд заможнейшага чалавека, чым я ёсць у сапраўднасці, колькі тое, што я жыву за кошт мовы.

Мусіць, гэтаму хлопцу я падаўся чалавекам, які пазбавіў яго тайны – такое тайны, якою ён міжволі хацеў бы валодаць. Ягоная знарочыстая дэманстрацыя павагі да кніг, ягонае вялікае жаданне самому напісаць кнігу (расказаць "усё як ёсць" – як быццам беднасцю гэтай фразы не спустошвалася адпачатку тое жаданне!); парадаксальная супярэчнасць паміж словамі і ўчынкамі; ягоная прыязная балбатня, пакуль ён рабаваў пакой; пэўна, не зусім несвядомая непаслядоўнасць ягоных поглядаў; ягоная нязмога слухаць і, здаецца, нават разумець мяне, калі я мякка пярэчыў яму; пераскокванне з аднаго на другое – у святле ўсяго гэтага спаленне маёй кнігі мела для яго сімвалічны сэнс. Што сапраўды падлягала спаленню, дык гэта "адмова" майго пакалення перадаць ім нешта накшталт магіі.

Хутчэй за ўсё, мой лёс быў вырашаны з таго моманту, калі я адмовіўся напісаць пра яго. Тады я прыняў ягонае жаданне за нейкі форс, нарцысізм, або назавіце гэта як хочаце, – жаданне пакрасавацца ў друкаваных радках. Але цяпер я думаю, што насамрэч ён дамагаўся, мо нават несвядома, нічога іншага, як хоць бы часткова завалодаць гэтай магічнай сілай... і, магчыма, усё дзеля таго, што не верыў у яе існаванне, пакуль не адчуў яе ўладу над сабой. У нейкім сэнсе ён паклаў сваё жаданне на шалю супраць таго, каго я назваў даўно памерлым раманістам. І абурэнне ягонае было выкліканае тым, што гэтая дарагая і недаступная для яго магія слова мелася выдаткавацца не на каго іншага, як на другога, прытым не вельмі вядомага, чарадзея слова. У ягоным уяўленні я быў прадстаўніком нейкага закрытага цэха, клуба для абраных, таямнічага грамадства; і ён вырашыў, што павінен знішчыць усё гэта.

Я не хачу сказаць, што ўсё было дакладна так, але перакананы, што сутнасць была менавіта ў гэтым. Такое абвінавачанне супраць нас усіх, старых і маладых – усіх, хто цэніць мову і яе сілу, занадта цяжкое. Большасць з нас робіць усё ад нас залежнае, каб слова – ягоная тайнасць і чарадзейнасць, ягоная навука і майстэрства – жыло. Але сапраўдныя галоўныя злодзеі не паддаюцца кантролю: трыумф відэа і тэлебачання, усталяванне для ўсіх аднолькавай адукацыі, якая не вытрымлівае крытыкі, сацыяльная і палітычная гісторыя нашага бязладнага стагоддзя і Бог ведае якія яшчэ фактары. Але ж я не хачу прадстаўляць сябе гэткім бязвінным казлом адпушчэння. Думаю, што мой малады дэман меў рацыю ў адным.

Маёй сапраўднай віной было тое, што я быў глухі.

Я свядома даў гэтаму апавяданню цьмяны загаловак і незразумелы эпіграф. Першы я абраў, выпрабаваўшы яго на розных паддоследных марскіх свінках. Агульнае ўражанне, як выявілася, было такое: "Како" павінен азначаць нешта звязанае з традыцыйным сэнсам гэтага слова, і ўся фраза гучыць прыблізна як "недарэчны блазан". Гэтае тлумачэнне падыдзе для першага ўзроўню сэнсу, але я не хацеў бы, каб яно датычылася толькі аднаго з двух удзельнікаў здарэння. Како, па сутнасці, не мае нічога агульнага з блазнам у рыжым парыку і з вялізным чырвоным носам. Гэта слова японскае, і азначае яно "правільныя сыноўскія паводзіны, належнае стаўленне сына да бацькі".

Мой незразумелы эпіграф паставіць апошнюю кропку і будзе вырокам як бацьку, так і сыну. Гэтае сумнае выказванне паходзіць са старакорнуэльскай мовы, што была калісьці распаўсюджаная на нашых выспах.

*Мовы мовіць – не поле араці,*
*Ды адзін бязмоўны зямлю сваю страціў.*[7]

**Пераклад з ангельскай і каментар**
**Вольгі СУДЛЯНКОВАЙ.**

John Fowles. Poor Koko. In: The Ebony Tower. Bungay, Suffolk, The Chaucer Press, 1981, pp.145–187.

---

[1] **Панглос** – персанаж рамана Вальтэра "Кандыд", які паўтараў: "Усё добра ў гэтым найлепшым з сусветаў".

[2] **Т.Л. Пікак** (1785–1866) – ангельскі пісьменнік, аўтар шэрагу сатырычных раманаў, паэм і эсэ, у якіх высмейваў многія бакі тагачаснага жыцця.

[3] Маёнтак, які Мецэнат падараваў Гарацыю.

[4] Словы, сказаныя Майсею Богам, Які з'явіўся яму ў полымі цярновага куста (Зыход; 3:14).

[5] **Рэфлз** – персанаж рамана Э.У. Хорнунга (1866–1921) "Рабаўнік-аматар" (1899) – джэнтльмен, гулец у крыкет, выпускнік адной з прывілеяваных прыватных школ.

[6] **Како** – сярод значэнняў ангельскага слова *coco*, запазычанага з партугальскай мовы, – "пудзіла; ухмылка на твары".

[7] Тут у Фаўлза:
*Too long a tongue, too short a hand,*
*But tongueless man has lost his land.*



# Алан Кіт Грант

Алан Кіт Грант (1941–2000) – новазеландскі сатырык, парадыст, журналіст, паэт і сцэнарыст. Жыў у горадзе Крайстчэрч на Паўднёвым востраве. Па заканчэнні універсітэта працаваў юрыстам у Лондане, пасля вярнуўся ў Новую Зеландыю. Ад 1980 года – прафесійны пісьменнік і рэдактар тэлевізійных праграм. Яшчэ ў 1971 годзе выйшла ягоная кніжка "Зямля з вырванымі каранямі" (*"Land Uprooted High"*) з парадаксальным падзагалоўкам "Уздым Новай Зеландыі да міжнароднай нязначнасці" (*"New Zealand's Rise to*

*International Insignificance")* – сатырычная гісторыя Новай Зеландыі, якая адразу сталася камедыйнай класікай. У 1982-м ён надрукаваў абноўлены варыянт гэтага твора пад назвай "Паўа і слава" *("The Paua and the Glory")*, а ў 1996 годзе яго працяг – "Калідоры паўа" *("The Corridors of Paua")*, у якім выкладзены крытычны погляд аўтара на сучасны стан рэчаў у краіне. (У дзвюх апошніх назвах пісьменнік абыгрывае загалоўкі добра вядомых раманаў ангельскіх пісьменнікаў – Грэма Грына *"The Power and the Glory"* (1940) і Чарльза Сноў *"The Corridors of Power"* (1964), уводзячы ў іх цалкам сугучнае з *power*, "моц, улада", слова "паўа", што на мове маоры – мясцовых жыхароў – азначае перламутравую ракавіну, з якой у Новай Зеландыі вырабляюць упрыгожанні і якая ёсць адным з сімвалаў гэтай краіны.) "Калідоры паўа" таксама маюць сатырычны падзагаловак "Аповед пра падзенне Новай Зеландыі да становішча сусветнага лідэра".

На працягу пятнаццаці гадоў Грант вёў штотыднёвую сатырычную рубрыку ў часопісе *"The Listener"* ("Слухач"). Сярод ягоных твораў "Настольны Грант" *("The Bedside Grant"*, 1985), "Слоўнік слабакоў" *("The Dictionary of Wimps"*, 1989), "Я рады, што спытаў Вас пра гэта: Эксклюзіўныя інтэрв'ю з харызматычнымі ківійцамі" – ківійцамі называюць сябе жыхары Новай Зеландыі – *("I'm Glad I Asked You That: Exclusive Interviews with Charismatic Kiwis"*, 1989), а таксама гумарыстычны верш "Людзям Новай Зеландыі" *("To the People of New Zealand")*, свайго кшталту пародыя на вершы ангельскіх паэтаў дзевятнаццатага стагоддзя. Яму належаць і сцэнары шэрагу мюзіклаў і тэлевізійных спектакляў.

Вось два тыпова грантаўскіх "слоўных артыкула" са "Слоўніка слабака": "*Кесарава сячэнне* – тыпова слабацкі спосаб нараджэння. Сапраўдныя мужчыны з боем прабіваюцца праз радзільны канал і выходзяць гатовыя да кухля піва. Слабакі ж хаваюцца ў вантробе да самай апошняй хвіліны і, як правіла, пакідаюць доктару ўсю гэтую цяжкую працу. *Ложак* – для слабака – месца для чытання і сну (і абсалютна для нічога іншага). Для ягонае жонкі – гэта мэбля, у якой слабак ні на што не здатны".

Ніжэй друкуем адно з "Эксклюзіўных інтэрв'ю з харызматычнымі ківійцамі".

**Падрыхтавала**

**Вольга СУДЛЯНКОВА.**

# *АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА*

Алан Кіт ГРАНТ

*Ангельскі культуразнаўца і крытык Уолтар Пэйтар у XIX стагоддзі напісаў славутыя радкі: "Заўсёды гарэць гэтым глыбокім каштоўным агнём, захоўваць гэты экстаз і ёсць жыццёвы поспех". Ніхто не гарыць агнём глыбейшым і каштоўнейшым, ніхто не захоўвае экстаз гэтак жарсна, як Акторка-феміністка. Па яе найдакладны партрэт я зноў мушу звярнуцца да Уолтара Пэйтара: "Яна старэйшая за скалы, сярод якіх сядзіць; нібы вампіру, ёй неаднойчы адкрываліся смерць і тайны магілы; ёй выпадала нырцаваць у марскія прадонні і вызнаць іх сакрэты; і змаўляцца з усходнімі купцамі пра дзівосныя тканіны; і быць Ледай, маці Алены Траянскай, і быць Ганнай, маці Марыі; і ўсё гэта сталася для яе хіба водгуллем лераў ды флейтаў, і жыве адно ў далікатнасці рысаў зменлівага аблічча ды плыўкіх светлаценях на павеках і руках".*

*Я б ніколі не змог сказаць лепей.*

*Мы праводзілі нашае інтэрв'ю, яна і я, перад прадстаўленнем "Пара канчаць з гегемоніяй", феміністкай п'есы, напісанай калектывам, рухавіком якога з'яўляецца Акторка-феміністка. У п'есе гаварылася пра жанчын як ахвяраў парнаграфіі, хірургіі, шлюбу, патрыярхату, законнасці, псіхіятрыі, грамадскасці і кулінарыі. Я сядзеў у партэры і задаваў свае пытанні Акторцы, якая пахаджала па сцэне, як тыгрыца, асветленая промнем пражэктара ды суправаджаная граннем сяброў калектыву на флейце, арфе, ангельскім ражку і*

*сінтэзатары. Вынік можна азначыць як спалучэнне інтымнасці з дыялектыкай.*

***ГРАНТ:*** Калі фемінізм упершыню стаўся ў Вашым жыцці дзейснаю сілай?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА:*** Ну, не тады, як з'явілася Жэрмэна Грыр*. У 1972 годзе мне было толькі адзінаццаць гадоў. Не, я не займалася гэтым, пакуль не паступіла ва універсітэт. Я пачала чытаць, і пачала размаўляць са сваімі сяброўкамі і раптам зразумела, што мой бацька рабіў з маёй маці.

***ГРАНТ:*** І што Ваш бацька рабіў з маці?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА:*** Тое, што звычайна робяць. Стараўся зрабіць яе жыццё камфортным, таму яна ніколі не разумела, наколькі яна была заціснутая паміж домам і намі, дзецьмі. Вазіў яе ў вандроўкі, абнаўляў ёй машыну кожныя два гады – усё тое, што робяць мужчыны, каб усталяваць сваю ўладу над жанчынамі.

***ГРАНТ***: Ваша маці пакутавала праз гэта?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Страшэнна. Яна не разумела гэтага, але яна была страшэнна няшчасная, таму што тата ніколі не даваў ёй магчымасці праявіць сваю сілу, калі б яе, да прыкладу, заваліла ў шахце альбо пры якіх-небудзь іншых абставінах.

***ГРАНТ***: Чым займаецца Ваш бацька?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Ён хірург.

***ГРАНТ***: Вашы бацькі ўсё яшчэ разам?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Днямі яны адзначылі сваю трыццатую гадавіну. Божа, гэта так трагічна!

***ГРАНТ***: А Вашая маці падзяляе Вашыя погляды?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Як яна можа падзяляць іх? Ёй усё жыццё прамывалі мазгі. Я намагаюся зрабіць яе няшчаснай, бо толькі так можна набрацца мужнасці, але ж я не магу дастукацца да яе.

***ГРАНТ***: А калі Вы зацікавіліся тэатрам?

---

* **Жэрмэна Грыр** *(Germaine Greer)* – ваяўнічая феміністка, нарадзілася ў Аўстраліі ў 1936 г. *(В.С.)*

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Ва універсітэце. Я пайшла глядзець п'есу, якая ставілася падчас студэнцкага фестывалю мастацтваў. У ёй гаворка ішла пра тое, як мужчыны страшэнна зайздросцяць таму, што ў жанчын ёсць менструацыя. Аўтар Хэйзал. Божа, гэта было шыкоўна!

***ГРАНТ:*** А як прозвішча гэтай Хэйзал?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Проста Хэйзал. Яна адмаўляе прозвішчы, бо мяркуе, і слушна, што яны з'яўляюцца сродкам, з дапамогай якога мужчыны ўсталёўваюць свае маёмасныя і інтэлектуальныя правы над жанчынамі. Майце на ўвазе, гэта было ў 1980-м. Яна на гады апярэдзіла свой час.

***ГРАНТ***: І тады Вы адчулі, што гэта Вашае, – тэатр, я маю на ўвазе?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Несумненна. Усе афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі знаходзяцца ў руках мужчын – тэлебачанне, прэса. Тэатр таксама, у значнай ступені, але яго структура больш свабодная, і многія з мужчын, занятыя у ім, не ўспрымаюць жанчыну як пагрозу. Вядома, тут таксама ёсць кансерватары, але ж паставіць ідэалагічна чыстую і моцную п'есу лягчэй. І нашмат лягчэй зняць з пастаноўкі тое, што табе не падабаецца. Мне з сяброўкамі ўдалося зняць п'есы, якія б нам не хацелася бачыць на сцэне, і мы пікетавалі і адварочвалі публіку ад тых, хто нейкім чынам пратачыўся праз нашую сетку.

***ГРАНТ***: А хіба публіка не мае права сама меркаваць пра п'есы?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Не, калі яны напісаныя людзьмі, якія нам не падабаюцца.

***ГРАНТ***: Але ж гэта цэнзура!

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Цэнзура! Божа, як я ненавіджу гэтае слова!

***ГРАНТ***: Навошта ж тады звяртацца да яе?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Я не звяртаюся. Мы не звяртаемся. Мы цалкам за самы багаты і самы неабмежаваны тэатр, які Вы толькі можаце ўявіць, пры ўмове, што гэтыя багацце і неабмежаванасць – дзеля жанчын і пра жанчын, і на іх карысць, і на іх падтрымку, і дзеля іх разумення, і без ніякіх сексуальных абразаў з боку аўтараў-мужчын, якія жанчын ненавідзяць.

***ГРАНТ***: Можа, некаторыя з гэтых аўтараў-мужчын ненавідзяць жанчын за тое, што яны забараняюць іх п'есы?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Гэта тыпова мужчынская адгаворка. Вы ў палоне старых ідэалагічных структураў: логікі, прычыны і выніку. Чыстага рацыяналізму. Усё гэта цацкі для мужчын. *Lego* для розуму. Пачуцці, вось што істотна, падзяляць пачуцці і граць на пачуццях... Усё тое, што недаступна мужчынам. І п'есы павінны быць пра пачуцці. Вось дзе маё месца.

***ГРАНТ***: Але ж Вы не толькі граеце, ці не так? Вы пісалі п'есы?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Чатыры. "Крывавы вясельны душ", гэта была першая, "Даўнстэйдж" паставіў яе. Потым "Шчаўкунчык, міленькі", гэтая ішла ў "Цырку". Потым, калі я стажыравалася як феміністка, напісала "Печаную", яе ставілі ў "Меркурыі". А апошнюю, "Мае вочы бачылі слаўны прыход серады", зараз рыхтуюцца рэпеціраваць.

***ГРАНТ***: Я добра ведаю аб Вашых здольнасцях як актрысы, безумоўна, але Вашае імя як драматурга мне, здаецца, невядомае. Чаму так?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Таму што я падпісвала кожную п'есу іншым імем. Я не падзяляю заклапочанасці Хэйзал праблемай прозвішчаў, але мяркую, што калі пішаш п'есу, дык трэба прыдумляць сабе імя, каб падкрэсліць, што кожная п'еса не толькі распавядае пра новых, іншых людзей; яна напісаная новым, іншым чалавекам. У кожнай новай п'есе я не тая, якая была, калі пісала папярэднюю. Так, у "Крыві" я падпісалася як Вірджынія Старгэйзер, у "Шчаўкунчыку" – як Аўрора Рэйнбоў, у "Печанай" – як Розмары Арэгана, а "Вочы" надрукую пад імем Стробэры Шорткэйк.

***ГРАНТ***: Гэта, мусіць, крыху ўскладняе ўзаеміны з падатковым аддзелам.

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Я не плачу падаткаў. Да падаткаабкладання я стаўлюся гэтаксама ж, як і да сексуальных дамаганняў.

***ГРАНТ***: Што Вам больш падабаецца: граць ці пісаць?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: О, граць. Трэба граць. Граючы, атрымліваеш цудоўнае пачуццё еднасці з п'есай. І цудоўнае

пачуццё, што ты ў цэнтры ўвагі. Калі пішаш, не можаш адчуваць сябе ў цэнтры ўвагі. Гэта вельмі самотны занятак. Асабліва для жанчыны.

***ГРАНТ***: Чаму асабліва для жанчыны?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Таму, што друкарскія машынкі і іншыя прылады – усё гэта мужчынскія штучкі, прыдуманыя мужчынамі дзеля ўласнага ўжытку. Склалася так, што жанчына вымушаная імі карыстацца, але Вы мяне не прымусіце любіць іх. Я з большаю ахвотай была б матрыярхіняй плямені, распавядала б казкі каля агню, да якога б туліліся дзеці, у той час як мужчыны недзе змагаліся б з дзікімі звярамі. Але ж грамадства так арганізавана, што гэткі лад нельга пабудаваць тут.

***ГРАНТ***: А якія ў Вас планы як у актрысы і аўтара?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Ну, ёсць два шляхі. Адзін – заняць высокую пасаду на тэлебачанні, вельмі высокую пасаду, але перамовы на гэты конт зараз у вельмі далікатным стане, і я не хачу больш нічога казаць пра гэта, апроч хіба таго, што калі гэта адбудзецца, то ўсе ў Новай Зеландыі будуць глядзець тэлебачанне новымі вачамі. Усё застанецца тым самым, той самы тэлік, але вочы будуць новыя.

***ГРАНТ***: А Вы не маглі б дакладней распавесці пра гэта?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Ведаеце, я магла б пералічыць Вам імёны тых, з кім мне давялося размаўляць, і месцы, дзе мне давялося пабываць, бо ўсё ўрэшце зводзіцца да людзей, ці не так? Неверагодныя людзі. Вы б не паверылі, калі б я назвала гэтыя імёны.

***ГРАНТ***: А якая другая магчымасць?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Ёсць некаторыя праекты, якія можна было б ажыццявіць з Міністэрствам па справах жанчын – з патрэбнымі людзьмі наверсе.

***ГРАНТ***: Вы думаеце, што маглі б быць адной з тых людзей?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Я ніколі не думаю пра сябе. Мяне нясе плынь таго, што іншыя людзі – неверагодныя людзі – думаюць пра мяне.

***ГРАНТ***: А як Вашая сям'я?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Я прынесла свету два падарункі: Гавэйна і Ізольду.

***ГРАНТ***: А яны не замінаюць Вашай кар'еры?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: Як яны могуць замінаць? Удзень іх цудоўна даглядаюць у садку, а Бэн, мой сябра, мой каханы, мая апорная вежа, ён укладае іх у пасцельку і чытае ім казку нанач.

***ГРАНТ***: А Вы іх калі-небудзь самі бачыце?

***АКТОРКА-ФЕМІНІСТКА***: А як жа? І Бэн, і ў садку робяць выдатныя фотакарткі маіх дзяцей – а я пішу ім штодня маленькія вершыкі, якія чапляю на халадзільнік.

*У гэты момант пражэктар перастаў асвятляць Акторку-феміністку, а крыкі і галёканне далі зразумець, што нешта здарылася з асвятляльнай сістэмай і спатрэбіцца нейкі час, каб адрамантаваць яе, і што я адрываю час ад рэпетыцыі п'есы "Пара канчаць з гегемоніяй". Калі я выйшаў на залітую сонцам вуліцу, я не мог забыцца на Гавэйна і Ізольду і вершыкі на халадзільніку. Якія шчаслівыя дзеці, калі маюць такі адчувальны доказ мацярынскай увагі і любові да іх! Можа, яе ніколі няма дома, каб выслухаць іхныя расповеды пра падзеі дня. Але ў яе заўсёды ёсць магчымасць распавесці ім пра свае – наколькі гэта дазваляюць памеры вершыка.*

*Прыклад Акторкі-феміністкі паказвае, што калі самааддана ўзяцца за справу, то можа збалансаваць патрэбы біялогіі з жаданнем самарэалізацыі.*

**Пераклала з ангельскай мовы**
**Вольга СУДЛЯНКОВА.**

Alan Keith Grant. The Feminist Actress. In: I'm Glad I Asked You That: Exclusive Interviews with Charismatic Kiwis. Dunedin, N.Z., 1989

*Шаноўны чытач і падпісчык!*

**"Крыніца" – твой часопіс.**

**Будзьма разам у плыні літаратурнага і культурнага жыцця Беларусі! Шчыра дзякуем за разуменне і падтрымку.**

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на ~~газету~~ часопіс **74824** індэкс выдання

**КРЫНІЦА**

(назва выдання) Колькасць камплектаў

На 2001 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | X | X | X | X | X |

Куды ____________ ____________

(паштовы індэкс) (адрас)

Каму ____________

(прозвішча, ініцыялы)

---

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| | | |
|---|---|---|
| | | |
| ПВ | месца | літар |

на ~~газету~~ часопіс **74824** індэкс выдання

**КРЫНІЦА**

(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | руб.___кап. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб.___кап. | | |

На 2001 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | X | X | X | X | X |

Куды ____________ ____________

(паштовы індэкс) (адрас)

Каму ____________

(прозвішча, ініцыялы)

*Шаноўны чытач і падпісчык!*

**"Крыніца" – твой часопіс.**

**Будзьма разам у плыні літаратурнага
і культурнага жыцця Беларусі!
Шчыра дзякуем за разуменне і падтрымку.**

# ДА ЎВАГІ ПАДПІСЧЫКА!

**Адпаведна дагаворам, заключаным з рэдакцыямі (выдавецтвамі), пры афармленні падпіскі прадпрыемствы сувязі ажыццяўляюць пасрэдніцкія паслугі па распаўсюджванню і дастаўцы, таму за невыхад, несвоечасовы выхад з друку газет і часопісаў адказнасць перад падпісчыкам нясе рэдакцыя (выдавецтва).**

**Праверце правільнасць афармлення абанемента, на абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны. Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце ставіцца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

---

Для афармлення падпіскі на газету ці часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з картачкай дастаўкі запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, у адпаведнасці з умовамі каталога.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасоўцы выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" выконваецца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.